# БЕЛАРУСКАЯ МОВА

Вучэбны дапаможнік для 11 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай і рускай мовамі
навучання

*Дапушчана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

2-е выданне, перапрацаванае і дапоўненае



МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2016

УДК 811.161.3(075.3=161.3=161.1)
ББК 81.2Беи-922
Б43

А ў т а р ы:

**Г. М. Валочка** (§ 1, «Падагульненне і сістэматызацыя вывучанага»);
**Л. С. Васюковіч** (§ 2, 3, 9—11, 20);
**Л. С. Васюковіч, С. С. Міхнёнак** (§ 12—19, 21);
**У. П. Саўко** (§ 4—8)

Р э ц э н з е н т ы:

кафедра сучаснай беларускай мовы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (кандыдат педагагічных навук, дацэнт *С. М. Якуба*); намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце, настаўнік беларускай мовы і літаратуры вышэйшай катэгорыі дзяржаўнай установы адукацыі «Гімназія № 1 імя Ф. Скарыны г. Мінска» *Н. У. Целяпун*

На вокладцы помнік Сімяону Полацкаму
(скульптар А. Фінскі, г. Полацк, 2003)

**Умоўныя абазначэнні:**

 — тэарэтычны матэрыял;

 — тэарэтычны матэрыял у практыкаванні;

 — дадатковыя заданні;

 — лексічнае значэнне слова тлумачыцца ў слоўніку;

*ясны*ф — фанетычны разбор слова;

*высока*сл — словаўтваральны разбор;

*льецца*с — разбор слова па саставе;

*пайшоў*м — марфалагічны разбор слова;

*энцыклапедыя*л — лексічны разбор слова;

*Дзень цёплы.*сн — сінтаксічны разбор сказа.

ISBN 978-985-559-635-7

## § 1. Агульныя звесткі аб мове

**1.** Прачытайце тэкст. Раскажыце пра ролю мовы ў жыцці чалавека, грамадства.

Людзі не могуць існаваць без мовы. Няма ні аднаго віду дзейнасці чалавека, дзе б ні выкарыстоўвалася мова. З дапамогай мовы людзі пазнаюць навакольны свет, выказваюць свае думкі, пачуцці, перажыванні, дзеляцца вопытам працоўнай дзейнасці. Ні авалодваць ведамі, ні нават думаць нельга без мовы. Яна дазваляе нам чытаць і разумець кнігі, слухаць і засвойваць тое, што гавораць іншыя, размаўляць і абменьвацца думкамі з сябрамі, бацькамі, настаўнікамі, знаёмымі і незнаёмымі. Усё гэта адбываецца ў людской супольнасці — грамадстве — у працэсе маўленчай дзейнасці чалавека, якая ўключае ў сябе гаварэнне, успрыманне і разуменне прачытанага (чытанне) ці пачутага (аўдзіраванне), а таксама пісьмо. Іншымі словамі, мова — гэта сістэма адзінак (словы, граматычныя формы і інш.), з дапамогай якіх людзі ўступаюць у суразмоўніцтва паміж сабой, г. зн. уключаюцца ў працэс маўленчай дзейнасці.

Агульнавядома, што мова з’яўляецца найважнейшым і асноўным сродкам зносін паміж людзьмі. З дапамогай мовы чалавецтвам фіксуюцца, назапашваюцца, класіфікуюцца, абагульняюцца веды. Засваенне гэтых ведаў, усе працэсы навучання людзей звязаны з шырокім выкарыстаннем мовы, якая служыць галоўным сродкам атрымання ведаў, перадачы духоўнай і матэрыяльнай культуры чалавецтва. Мова адыгрывае галоўную ролю і ў фарміраванні светапогляду і інтэлекту чалавека.

Дасягненні народа, нацыі ў развіцці навукі, мастацкай літаратуры і іншых галін духоўнай культуры ажыццяўля-

юцца пры дапамозе роднай мовы. Вось чаму кожны народ імкнецца, развіваючы сваю нацыянальную культуру, падтрымліваць і ўдасканальваць сваю нацыянальную мову. Добра, калі чалавек ведае некалькі моў, але найперш трэба ведаць мову таго народа, на зямлі якога жывеш. Гэта дапаможа далучыцца да багатага жыццёвага вопыту беларусаў, да багатай духоўнай і матэрыяльнай культуры гэтага працавітага і мудрага народа.

Назавіце асноўныя функцыі, якія выконвае мова ў грамадстве. Якая роля роднай мовы ў жыцці чалавека?

**2.** Прачытайце верш С. Дзяргая «Словы». Якія функцыі, паводле зместу верша, выконвае мова?

СЛОВЫ

Паўзіце, словы, ад мяне:
Агідныя,
Халодныя,
Ілжывыя,
Атрутныя;
Паўзіце, слізкія,
Ліхія, як гадзюкі.
Вы не патрэбны!
Не патрэбны!
На лес сухі,
На гразкае балота
Прэч ад мяне на чэраве паўзіце:
Вы — пустата з прэтэнзіяй на праўду.
Вы — фальш, прыкрытая бліскучай
амальгамай*.
Вы — з торбы жабрака, а мы прасіць
не ўмеем.
Вы — сцерліся,
Да вас прывыклі,
Вас не прыкмячаюць.
Ператварыцеся ж у мёртвае каменне.

Прыйдзіце, словы, да мяне:
Трывалыя,
Прачулыя,
Разумныя,
Ласкавыя,
Прыйдзіце, шчырыя,
Як сэрца, трапяткія;
Вы так патрэбны!
Так патрэбны!

**3.** Прачытайце тэкст. Дакажыце, што мова — грамадская з'ява.

Роля мовы ў жыцці грамадства ўвесь час узрастае, становіцца ўсё больш прыкметнай. Мы ўжо ведаем, што мова ўзнікла з патрэбы чалавека што-небудзь сказаць адно аднаму. Але з развіццём грамадства гэтае «што-небудзь» увесь час узрастае, а мова і ёсць тая форма, у якой захоўваецца запас інфармацыі, атрымліваюцца і перадаюцца веды, назапашаны вопыт духоўнай і матэрыяльнай культуры.

З развіццём грамадства развіваецца і мова, яна прыстасоўваецца да патрэб грамадства. Напрыклад, з'яўляюцца новыя прадметы, з'явы, паняцці — і мова дае ім назвы. Гэты працэс мы назіраем амаль штодзень. Не так даўно і мы не ведалі ні лазераў, ні лаўсану, ні касмадрома, а цяпер гэтыя словы актыўна ўжываюцца ў нашай мове. Нядаўна з'явіліся словы *дысплей, маркетынг**, *брыфінг, менеджмент**, *брокер, дылер* і шмат іншых. Усё меней гучаць раней актыўныя словы *камсамолец, піянер, піянерважаты, гаркам.* Затое вярнуліся ў актыўнае ўжыванне словы *спадар, спадарства, гасцёўня, кавярня, мытня, наступствы.* А зусім нядаўна новае слова *пэйджар* ужо стала архаізмам.

Але справа не толькі ў тым, што ў сучаснай мове больш слоў, чым было раней. З часам змяняецца і сама мова.

Адрозненні паміж мовай бацькоў і дзяцей, дзядоў і ўнукаў яшчэ не вельмі прыкметныя. Але за некалькі пакаленняў збіраецца столькі змен, што пісьмовыя помнікі старажытнай мовы даводзіцца перакладаць на сучасную мову, як, напрыклад, «Слова пра паход Ігаравы»:

«Не лѣпо ли ны бяшетъ, братие, начяти старыми словесы трудныхъ повѣстий о пълку Игоревѣ, Игоря Святъславлича! Начати же ся тъй пѣсни по былинамъ сего времени, а не по замышлению Бояню». —

А ці не лепей, братове,
пачаць у спрадвечным слове
мужны спеў пра паход Ігара,
Святаслававa сына?
І пачаць спеў гэты
па былях дня нашага,
а не па надуме Баяна!
*Пераклад Р. Барадуліна.*

Як мова рэагуе на змены ў грамадскім жыцці? Пакажыце на двух-трох прыкладах.

**4.** Прачытайце ўважліва ўрывак з першай публікацыі паэмы Якуба Коласа «Новая зямля» ў «Нашай ніве» (1912 г.). Параўнайце правапіс, граматычныя формы і асаблівасці словаўжывання з правіламі сучаснай беларускай мовы.

Каля пасады лясьніковай
Цягнуўся зграбнаю падковай
Стары высокі лес цяністы.
Тут верх асіны круглалісты
Сплетаўся з хвоямі, з дубамі,
А ёлкі хмурнымі крыжамі
Высока ў небі выдзялялісь
І сумна з хвоямі шэпталісь.
Заўсёды смутные, як удовы,
Яны найбольш адны стаялі,
І так маркотна пазіралі
Іх задуменныя галовы.
Лес наступаў і разступаўся,
Лужком зялёным разрываўся
А дзе прыгожые загібы

Так міла шлі каля сядзібы,
Што проста б імі любаваўся.

Назавіце словы, правапіс і граматычныя формы якіх не адпавядаюць дзеючым нормам літаратурнай беларускай мовы. Растлумачце адрозненні (вусна). Запішыце па ўзоры.

У з о р: *Лясьніковай — лесніковай* (у сучаснай беларускай мове захоўваецца ***е*** ў другім пераднаціскным складзе, не перадаецца на пісьме памякчэнне ***с*** перад мяккім [н']).

**5.** Прачытайце выразна верш Максіма Танка. Як змены ў грамадстве адбіваюцца на геаграфічных назвах?

БЫЛА КАЛІСЬЦІ...

Была калісьці вуліца Зарэчная,
Ацененая ліпамі духмянымі.
Здаецца, на ёй жыў і жыў бы вечна я
З сябрамі, спевакамі, закаханымі.

Але галовы адміністрацыйныя
Штогод так перахрышчваюць вуліцу,
Такія падбіраюць назвы дзіўныя —
Язык, іх вымаўляючы, намуліцца.

І так яна зрабілася Арктычнаю,
А потым стала вуліцай Белвузаў,
Акакія Цытатадыхавічнага,
А сёння — Аблрэмбазы прамсаюзаў.

Здаецца, тая ж вуліца Зарэчная,
Але так ахрысцілі, што, прызнацца,
Лістоў сюды не шлюць сябры сардэчныя,
Не ходзяць закаханыя страчацца.

Пакажыце на прыкладах (з верша, вашай мясцовасці або агульнавядомых), як змяняюцца назвы вёсак, гарадоў, вуліц, плошчаў і інш. у сувязі са зменамі ў грамадстве. Запішыце некалькі такіх назваў.

Назавіце ўласныя назоўнікі (з верша), растлумачце спосаб утварэння складанаскарочаных слоў.

**6.** Прачытайце. Дакажыце, што нашы продкі разумелі значэнне слова (мовы) у жыцці грамадства. Якія функцыі мовы перададзены ў творах вуснай народнай творчасці?

Узнікшы разам з грамадствам, мова нястомна служыць чалавеку ў розных яго занятках і патрэбах. У штодзённай моўнай практыцы людзі ўдасканальвалі гэты сродак зносін, імкнуліся спазнаць яго прыроду. І тое, што нашы продкі пакінулі нам узоры выкарыстання слова, сведчыць, што яны мелі добры моўны густ, разумелі значэнне мовы ў жыцці грамадства.

Народ даўно заўважыў, што мова — найважнейшы сродак зносін, і выказаў гэтую думку вобразна і даступна ўсім: *Язык да Кіева давядзе. Няведамая дарога на канцы языка.*

Разумелі людзі і такую функцыю мовы, як уздзеянне, здольнасць слова выклікаць у слухача пэўныя эмоцыі. Добрае, шчырае слова высока цэніцца ў народзе. Яно ўздымае настрой, надае сілы, дапамагае жыць. Невыпадкова яго параўноўваюць з прадметамі і з'явамі, якія маюць вялікае значэнне ў жыцці чалавека: *Добрае слова далёка чуваць. Ласкавае слоўка, як сонейка, грэе. Ласкавае слова — што дзень ясны. Скажа — як мёдам паможа. Слова даражэйшае за золата.*

Але слова можа і балюча параніць. Такое слова асуджаецца ў народзе як найбольшае зло: *Рана гоіцца, злое слова ніколі. Слова як соль. Сказаў, як цвік у сэрца ўбіў. Язык як перац.*

Слова збліжае, аб'ядноўвае людзей, яно і раз'ядноўвае іх. Таму народная мудрасць гаворыць: *Ліхое слова пракаўтні. Як брыдкае слова сказаць, лепш язык выплюнуць. Перакусі, што маеш сказаць (А. Каўрус).*

**7.** Прачытайце выразна выказванні беларускіх паэтаў пра родную мову. Якое значэнне роднага слова, роднай мовы падкрэсліваецца ў іх?

Мова продкаў нашых і нашчадкаў —
Шэпт дубровы і пчаліны звон, —
Нам цябе ласкава і ашчадна
Спазнаваць ажно да скону дзён,

Па чужых краях не пабірацца,
Не аддаць цябе на забыццё,
Наша невычэрпнае багацце,
Наша несмяротнае жыццё.

*Г. Бураўкін.*

Табе складаю шчыры свой санет,
Прапрадзедаў маіх жывая мова, —
Майго народа першая аснова,
Душы яго шырокі, чысты свет!

*Е. Лось.*

Над намі словы ўладараць.
Мы чуем і гаворым іх.
Яны то здружаць, то пасвараць
Сяброў і ворагаў маіх.

*С. Грахоўскі.*

О матчына мова!
Маленства вясна!
Ніхто і ніколі цябе не заменіць,
Бо ты, як і маці, на свеце адна.

*А. Бачыла.*

# МАЎЛЕННЕ

## § 2. Асноўныя якасці культуры маўлення

**Культура маўлення** — гэта:

1) навука аб правільным (нарматыўным і дасканалым) маўленні;

2) раздзел лінгвістыкі, у якім вызначаюцца літаратурныя нормы на кожным моўным узроўні (арфаэпічным, акцэнталагічным, арфаграфічным, лексічным, фразеалагічным, граматычным, пунктуацыйным, стылістычным);

3) узорнае валоданне мовай, уменне карыстацца мовай у адпаведнасці з агульнапрынятымі нормамі.

Асноўныя якасці культуры маўлення:

- **правільнасць** — адпаведнасць нормам літаратурнай мовы;
- **дакладнасць** — выкарыстанне слоў, фразеалагізмаў з уласцівым значэннем, адпаведнасць выказвання мэце і сітуацыі ўжывання;
- **лагічнасць** як сэнсавая несупярэчлівасць паміж ужытымі моўнымі адзінкамі і законамі логікі;
- **чысціня** — адсутнасць у маўленні нелітаратурных слоў і выразаў (жарганізмаў, слоў-паразітаў, беспадстаўна ўжытых дыялектных і запазычаных слоў);
- **дарэчнасць** — ужытыя моўныя сродкі адпавядаюць стылю, жанру, мэтам і ўмовам зносін;
- **багацце** — выкарыстанне разнастайных сінанімічных моўных сродкаў;
- **выразнасць** як эмацыянальнае ўздзеянне выказвання, развіццё ўвагі, цікавасці чытачоў (слухачоў) праз фанетычныя, сінтаксічныя сродкі, праз мастацкія тропы (параўнанне, метафара, эпітэт і інш.).

Культура маўлення падразумявае веданне мовы, валоданне нормамі і стылямі літаратурнай мовы ў адпаведнасці з мэтай і задачамі зносін. Тэрмін уключае ў сябе

і захаванне асноўных якасцей культуры маўлення, і маўленчае майстэрства, і ўменне выбраць з некалькіх магчымых найбольш дакладны, дарэчны, дасканалы варыянт.

**8.** Прачытайце выказванні айчынных вучоных. Пісьмова адкажыце на пытанне «Чаму правільнасць маўлення выступае асновай маўленчай культуры?».

**Маўленне правільнае**, калі ў ім няма парушэння арфаэпічных, акцэнталагічных, словаўтваральных, марфалагічных, сінтаксічных, лексічных, фразеалагічных, прыказкавых норм. Асноўная ўмова правільнасці маўлення — добрае веданне названых[сл] норм літаратурнай мовы, а значыць, і ўмелае валоданне імі *(І. Лепешаў)*.

Унармаванасць — сінонім **правільнасці** — найважнейшая[м] ўласцівасць літаратурнай мовы *(А. Міхневіч)*.

Менавіта **правільнасць маўлення** забяспечвае яго адзінства, «ахоўвае» адназначнасць, агульназразумеласць інфармацыі, якая[ф] перадаецца і ўспрымаецца. Правільнасць маўлення, такім чынам, заключаецца ў адпаведнасці моўнай структуры тым законам і правілам, якія дзейнічаюць у мове *(Т. Тамашэвіч)*.

**Правільнасць маўлення** — аснова, якая дае магчымасць асобе пастаянна ўдасканальваць сваё маўленчае майстэрства.[сн] Галоўная ўмова дасягнення суадносін паміж зместам і яго маўленчай формай — строгае захаванне літаратурных норм, мэтазгоднасць[сл] выкарыстання тых або іншых моўных адзінак у працэсе зносін *(І. Навасельцава)*.

● Запішыце выказванне, якое, на вашу думку, найбольш дакладна, поўна акрэслівае правільнасць як асноўную якасць культуры маўлення. Падкрэсліце граматычныя асновы, дайце агульную характарыстыку сказам.

● Растлумачце пастаноўку працяжніка ў прыведзеных выказваннях.

**9.** Прачытайце. Растлумачце значэнне выдзеленых слоў. Запішыце азначэнне тэрмінаў *культура мовы* і *культура маўлення*.

**Арталогія** — навука аб правільным маўленні — служыць адной мэце: дапамагчы асэнсаваць факты **мовы**, падкрэсліць

ролю **моўцы**, навучыць свядома ставіцца да ўласнага **маўлення**. Тры гэтыя **аспекты** аналізу ўтвараюць паняцце **культура мовы**.

Пэўны час выраз «культура мовы» перадаваў і значэнне ‘культура мовы як **грамадская** з’ява’, і значэнне культура мовы асобнага чалавека — з’ява **індывідуальная**. Аднак паняцці **мова** і **маўленне** размяжоўваюцца. Параўн.: ням. *Sprache* і *Rede*, англ. *language* і *speech*, франц. *language* і *parole*, укр. *мова* і *мовлення*, рус. *язык* і *речь*, польск. *mowa* і *mówienie* і г. д.

Сёння культура беларускай мовы як **сацыяльная з’ява** не выклікае тэрміновай патрэбы ў яе ўдасканальванні, бо калі на той ці іншай мове створана высокамастацкая літаратура і існуе яе літаратурная форма, то відавочна, што такая мова дасягнула высокай ступені развіцця[ф] і можна гаварыць пра яе як пра частку жывой нацыянальнай культуры.

Культура маўлення — гэта неабсяжная[м] стыхія бытавання нацыянальнай мовы ў вуснах людзей, і тут, бясспрэчна[сл], узнікае шмат праблем, звязаных[сл] з якасцю індывідуальнага валодання сістэмай нацыянальнай мовы, з уменнем асобы выбіраць з гэтай сістэмы тыя сродкі, якія зробяць уласнае маўленне з’явай[ф] высокай культуры[сн] *(А. Міхневіч)*.

● Растлумачце ўмовы пастаноўкі коскі або яе адсутнасці перад злучнікам ***і***.

● Запішыце прыклады да пунктаграмы «Працяжнік паміж дзейнікам і выказнікам».

**10.** Прачытайце. Запішыце прозвішчы навукоўцаў, назвы прац, прысвечаных пытанням культуры маўлення.

Пытанням культуры беларускай мовы і маўленчага майстэрства прысвечаны шматлікія артыкулы Якуба Коласа, Янкі Купалы, Кузьмы Чорнага, Уладзіміра Дубоўкі, Кандрата Крапівы, Янкі Брыля, Ніла Гілевіча і іншых дзеячаў беларускай культуры. Увага да культуры роднай мовы асабліва праявілася пасля выдання Інстытутам мовазнаўства АН БССР у 1957, 1959 і 1961 гадах распрацовак курсаў беларускай літаратурнай мовы. Працягам курсаў з’явілі-

ся працы Фёдара Янкоўскага «Пытанні культуры мовы» (1961 г.), «Вусная мова і выразнае чытанне» (1962 г., суаўтар — Уладзімір Калеснік), Міколы Цікоцкага «Практычная стылістыка беларускай мовы» (1962—1965 гг.), якія заклалі асновы тэорыі і практыкі новай для беларускага мовазнаўства галіны — культуры беларускай літаратурнай мовы. У сучасным мовазнаўстве пытанні культуры мовы і маўлення разглядаюцца ў працах Міколы Абабуркі, Галіны Арашонкавай, Алеся Каўруса, Валянціны Лемцюговай, Івана Лепешава, Аляксандра Лукашанца, Арнольда Міхневіча, Паўла Сцяцко, Міхаіла Цікоцкага, Льва Шакуна і іншых навукоўцаў.

● Пісьмова праскланяйце адзін лічэбнік з тэксту (на выбар). Раскажыце пра асаблівасці скланення колькасных і парадкавых лічэбнікаў.

● Перагледзьце часопісы «Беларуская мова і літаратура», «Роднае слова», «Маладосць», «Полымя» за апошнія гады. Раскажыце пра змест публікацый, прысвечаных культуры беларускага слова, маўлення. Складзіце тэзісы па матэрыялах адной з публікацый.

**11.** Прачытайце. Запішыце азначэнні асноўных якасцей культуры маўлення па-беларуску.

Культура речи предполагает овладение всеми качествами хорошей речи: правильностью, чистотой, богатством, точностью, логичностью, выразительностью и уместностью.

**Правильность речи** — это её соответствие нормам литературного языка. Правильность речи — это основное условие для овладения всеми остальными качествами хорошей речи. Что, например, можно сказать о культуре речи человека, который допускает следующую фразу: *Я обычно ложу свои доку́менты в по́ртфель* (безусловно, правильно: *кладу докуме́нты в портфе́ль*). Ясно, что в данном случае культура речи просто отсутствует, поскольку нарушены нормы литературного языка. Поэтому правильность речи — это фундамент для хорошей речи, которая отличается богатством, точностью, логичностью, выразительностью.

**Чистая речь** — это речь, в которой отсутствует любая нелитературная лексика: слова-паразиты, грубые, жаргонные, просторечные слова, нецензурные выражения и т. д. Эти

слова засоряют речь, их чрезмерное употребление говорит о низкой речевой культуре.

**Богатство речи** связано со словарным запасом человека, с использованием всевозможных языковых средств. Чем разнообразнее речь, тем она богаче. Богатая речь отличается многообразием на всех уровнях языка, она подразумевает и лексическое богатство, и синтаксическое, и интонационное.

**Логичность речи** предполагает умение владеть логикой рассуждения, логично мыслить, знать и уметь применять языковые средства, способствующие смысловой организации высказывания.

**Выразительной** называется та речь, которая способна не только поддерживать внимание или интерес читателя, но и усиливать эффективность воздействия речи на адресата. В устной речи значительную роль играют интонационная выразительность, манера говорить, дикция, голос. В письменной речи выразительность складывается из всех качеств хорошей речи в зависимости от задач стиля.

**Уместность речи** — это соответствие высказывания конкретной ситуации. Уместная речь — это такая речь, в которой учитывается, что говорит автор, кому он это говорит, где, когда и как долго *(Н. Кузнецова)*.

● З дапамогай тэксту падрыхтуйце пісьмовае выказванне на тэму «Асноўныя камунікатыўныя якасці маўлення».

**12.** Прачытайце. Растлумачце значэнне прыведзеных паронімаў, запішыце словазлучэнні (сказы) з імі. Як звязана паранімія з дакладнасцю маўлення? Карыстайцеся «Тлумачальным слоўнікам беларускай мовы», «Слоўнікам паронімаў беларускай мовы» або «Комплексным лексічным слоўнікам беларускай мовы».

Абагуліць — абагульніць, адрасат — адрасант, публічны — публіцыстычны, дваісты — двайны, падаўжэнне — падваенне, спецыяльнасць — спецыялізацыя, чалавечы — чалавечны, частотны — часты, экскурс — экскурсія, эфектны — эфектыўны, уласны — уласніцкі, выхаванец — выхавальнік, моўны — маўленчы, абанент — абанемент.

## § 3. Маўленчы этыкет

**Маўленчы этыкет** — сістэма ўстойлівых формул зносін, прынятых у грамадстве, якія выкарыстоўваюцца ў тыповых камунікатыўных сітуацыях. Маўленчы этыкет выступае як форма выражэння ветлівасці, паважлівых, добразычлівых адносін да субяседніка. Правілы маўленчага этыкету маюць нацыянальны, адметны характар.

У беларускай мове гістарычна склаліся наступныя ф о р м у л ы  м а ў л е н ч а г а  э т ы к е т у:

- **зварот:** *панове, спадар, спадарыня, спадарства, сябра, дружа, калегі, каляжанкі, шаноўная грамада, таварышы, паважаны, шаноўныя, цётка, цётачка, дзядзька, дзядзечка, сястрыца мая, таечка мая (да асобы жаночага полу)*;
- **прабачэнне:** *Прабачце! Прашу прабачыць! Даруйце, калі ласка! Выбачайце! Не крыўдуйце (не злуйцеся, не сярдуйце)! Даруйце (выбачайце), калі што не так!* і інш.;
- **згода:** *Так. Але. Вядома! Зразумела! Пэўна ж! Добра! Згода! Няма сумнення! Не сумнявайцеся! Дамовіліся! Вельмі слушна! Слушная прапанова! Не магу не пагадзіцца! Ваша праўда!* і інш.;
- **ветлівасць:** *Дазвольце спытаць/запытацца! Праходзьце, калі ласка! Запрашаем Вас! Прашу Вас! Не турбуйцеся! Не клапаціцеся! Як жыццё? Як працуецца? Як здароўе? Як маецеся? Што новага?* і інш.

Веданне і дарэчнае выкарыстанне правіл маўленчага этыкету выяўляе ўзровень агульнай культуры асобы, яе інтэлігентнасць, выхаванасць.

**13.** Прачытайце тэкст. Пісьмова тэзісна перадайце яго змест, выкарыстоўваючы беларускія маўленчыя формулы этыкету.

Маўленчы этыкет — з’ява ўніверсальная, аднак у той жа час кожны народ склаў сваю, адмысловую сістэму правіл маўленчых паводзін.[сн]

У нашай краіне, у сітуацыі руска-беларускага двухмоўя, трэба ў аднолькавай ступені валодаць як беларускімі, так і рускімі этыкетнымі маўленчымі нормамі. Пры гэтым не-

абходна ўлічваць, што аднолькавыя камунікатыўныя намеры ў рускай і беларускай мовах могуць выражацца па-рознаму. Напрыклад, бел. *Дазвольце пазнаёміць Вас з...* і рус. *Позвольте представить Вам...* (знаёмства); бел. *Зрабіце ласку* і рус. *Сделайте одолжение* (як спроба звярнуць увагу); бел. *Сардэчна запрашаем* і рус. *Добро пожаловать* (прывітанне-запрашэнне); бел. *Так, безумоўна* і рус. *Да, конечно* (згода); бел. *Вельмі ўдзячны, шчыра дзякую Вам* і рус. *Большое спасибо, искренне благодарю Вас* (падзяка); бел. *На жаль, Вы памыляецеся (Вы не маеце рацыі)* і рус. *К сожалению, Вы ошибаетесь (Вы не правы)* (нязгода) *(І. Навасельцава)*.

● Чаму, на вашу думку, на пытанне «Як справы?» звычайна адказваюць «Добра» або «Нармальна»?

● Падбярыце і запішыце сінонімы да прыметнікаў першага сказа з тэксту.

● Выпішыце з тэксту прыклады, што ілюструюць арфаграму «Правапіс суфіксаў дзеясловаў».

**14.** Прачытайце. Раскажыце пра структуру віншавальнага тэксту. Ці варта, на вашу думку, адступаць ад прапанаванай структуры віншавання? Ці перашкаджае аўтару ўстойлівасць формул выявіць сваю арыгінальнасць, творчасць?

Віншаванне складаецца з некалькіх абавязковых частак: (1) прывітальная формула, (2) віншавальная частка, (3) пажадальная частка, (4) подпіс.

**Віншавальная частка**, як правіла, утрымлівае тры кампаненты: *адрасант — адрасат — падстава (матыў віншавання)*. Кожны з кампанентаў мадэлі можа апускацца ў канкрэтнай сітуацыі маўленчых зносін. Параўнаем: *Віншую Вас (цябе) з Новым годам (са святам(і), з блізкімі святамі)!; Віншую Вас (цябе)! Віншую са святам! Віншую! Мае віншаванні! Дасылаю (шлю) Вам свае шчырыя віншаванні з нагоды прыемных і чаканых свят! Са святам Вас (цябе)! Са Святам!*

**Пажадальная частка** віншавання таксама складаецца з трох кампанентаў: *адрасант — адрасат — змест пажадання*, якія пры пэўных камунікатыўных умовах могуць адсутнічаць. Найбольш прадуктыўныя ў сучаснай маўленчай практыцы наступныя пажадальныя формулы:

*Найлепшыя святочныя пажаданні! Самыя лепшыя пажаданні здароўя, настрою, плёну! Шчаслівага свята! Вясёлых, здаровых і шчаслівых свят і ўсяго новага года! Усяго самага добрага, радаснага і светлага! Поспехаў ва ўсіх справах! Добрага здароўя! Шчасця! Удачы! Сямейнага дабрабыту! Здзяйснення ўсіх жаданняў, мар, спадзяванняў, планаў! Спакою! Дабра! Кветак! Кахання! Радасці! Усмешак! Ласкі Бога! Узаемаразумення! Новых здзяйсненняў і здабыткаў! Шмат нагоды для радасці!*

*Хай шчасціць у Новым годзе! Хай Новы год будзе лепшы, прынясе шмат радасці! Хай Новы год прынясе Вам новыя надзеі і спаўненне ўсіх мар! Няхай Вас заўсёды акружаюць блізкія і любімыя людзі! Няхай Новы год стане годам новых магчымасцей і здзяйсненняў, годам рэалізацыі новых прафесійных і асабістых дасягненняў! Хай Новы год прынясе ў Ваш дом шмат новага, добрага, прыемнага!*

Падстаў для віншаванняў у нас шмат. Гэта розныя сямейныя і рэлігійныя святы, а таксама важныя, радасныя і прыемныя падзеі[ф] ў жыцці[с] кожнага з нас у асабістым плане або ў прафесійнай сферы: дзень нараджэння, імяніны, юбілеі, уступленне ў шлюб, нараджэнне[сл] дзіцяці[м], прафесійныя поспехі і г. д. А значыць, ёсць падстава штодня віншаваць добрых людзей з самымі рознымі святамі (чытай: святымі для нас днямі) *(Паводле С. Важніка).*

● Запішыце маўленчыя формулы, якія хацелася б скарыстаць вам у віншавальнай і пажадальнай частках.

● Складзіце тэкст віншавальнай паштоўкі родным (блізкім, знаёмым) да свята, якое набліжаецца.

● Выпішыце з тэксту складаны сказ, зрабіце яго сінтаксічны разбор.

● Выпішыце прыклады (5-6), якія ілюструюць арфаграму «Правапіс канчаткаў назоўнікаў 1-га і 2-га скланенняў».

**15.** Прачытайце. Выпішыце сказ, які перадае асноўную думку твора. Растлумачце дарэчнасць ужывання займенніка ***ты*** ў вершы з вялікай літары. Раскажыце пра асаблівасці выкарыстання зваротаў ***ты — вы (Вы)*** у сістэме маўленчага этыкету.

Настаўнік, Ты — як Бог:
Сляпых відушчыш,
Даючы ім вочы.[сн]

З калень
Падняцца многім дапамог,
Хто да навукі змалку быў ахвочы.
Кароткі Твой засвоіў я ўрок, —
У даўгу перад Табою неаплатным,
Што Ты і мой
Азорыў словам зрок,
Даў зразумець у час — на што я здатны.
Я помню сёння цесны Твой пакой...
Як там збіраўся шалапаяў рой
І кожны рады быў тваім парадам.
У невялікім[м] нашым гарадку,
Дзе ўсе і ўсё — заўжды навідавоку[м],
Табе
З паклонам[сл] я падам руку
І ціха выслухаю[ф],
Быццам на ўроку!

*Паводле М. Курылы.*

● Складзіце тэкст віншавальнай паштоўкі з нагоды прафесійнага свята свайму першаму школьнаму настаўніку.

● Растлумачце ўмовы пастаноўкі знакаў прыпынку ў апошнім сказе.

● Вызначце від даданых частак у складаназалежных сказах.

**16.** Прачытайце. Выпішыце маўленчыя формулы, якія выкарыстоўваюцца ў этыкетнай сітуацыі «абяцанне» (уласна абяцанне, зарок, парука, запэўніванне, бажба, кляцьба). Чым, на вашу думку, вытлумачваецца багацце падобных этыкетных формул?

1. Калі будзе дужа цяжка[ф], напішы. Дапамагу, чым змагу *(Т. Бондар)*. 2. Слухай лепш мяне[м], усё добра будзе! *(Ядвігін Ш.)*. 3. Справы затрымалі[с]. Але мы затое пазней пазаймаемся *(Я. Купала)*. 4. Чаго зажурыліся, хлопцы? Будзе жыць лепей, кіньце сум ды развагу *(Х. Шынклер)*. 5. Зрабіце ласку, не кажыце нікому аб маёй з вамі размове. — Не палохайся! Ніхто аб гэтым ведаць не будзе *(Я. Нёманскі)*. 6. Абяцаю! Дакляруем! Даю слова! 7. Я абяцаю! Маё

слова непарушнае! 8. Я буду чакаць цябе, Пеця! Я буду чакаць... Ты верыш мне? *(А. Макаёнак)*. 9. Абяцай мне, што ты ніколі не здымеш са сценкі майго падарунка[сн] *(У. Караткевіч)*. 10. Ты слова дай цяпер... *(П. Галавач)*. 11. Я добрай буду да цябе. Я ўсё-ўсё зраблю *(У. Караткевіч)*. 12. Гэта ў маёй сіле. І табе цвёрда[ф] абяцаю[с] *(А. Асіпенка)*.

*З матэрыялаў Тамары Піваварчык.*

● Прадумайце і разыграйце маўленчую сітуацыю «Провады ў армію» з выкарыстаннем нацыянальна адметных формул абяцання.

● Выпішыце сказы са звароткам. Зрабіце іх сінтаксічны разбор.

**17.** Прачытайце віншаванні з нагоды юбілею часопіса «Роднае слова». Прасачыце, як праз віншавальны тэкст выяўляецца моўная асоба, яе творчасць, далікатнасць, арыгінальнасць, духоўнасць.

Віншуем Вас, шаноўныя калегі, з юбілеем[л].[сн] Няхай і наступныя гады будуць светлымі, творчымі, плённымі. Будзьма разам!

* * *

Дарагія сябры! Шчыра, па-сяброўску зычым Вам натхнення і радасці, светлай любові, плённай працы і вернай службы на карысць[ф] Беларусі, роднай зямлі. Няхай і наступныя гады прынясуць нам усім[м] жаданае ўзаемаразуменне і азораць ім далейшы шлях да міру і згоды.[сн]

* * *

Да такой прыгожай даты хочацца знайсці незвычайныя словы. Дзякуй за тое, што побач з Вамі зноў і зноў зачароўваешся[ф] родным словам. Спадзяёмся[с], што яшчэ доўгія гады мы будзем мець магчымасць[с] вучыцца ў Вас любові да роднага[м] слова.

● Падрыхтуйце тэкст віншавальнай паштоўкі з нагоды Дня нараджэння маці (бацькі, бабулі, дзядулі, сястрычкі, брацікa). Знайдзіце шчырыя, кранальныя словы, пастарайцеся выказаць сваю любоў і пяшчоту да родных людзей.

# СТЫЛІСТЫКА

**Стылістыка** (ад лац. *stylus* — завостраная палачка для пісьма) — раздзел мовазнаўства, у якім вывучаюцца функцыянальныя стылі маўлення і асаблівасці ўжывання ў іх моўных сродкаў.

Стылістыка цесна звязана з іншымі лінгвістычнымі дысцыплінамі, таму што даследуе ў сукупнасці ўсе адзінкі моўнай сістэмы: гукі, словы і іх формы, словазлучэнні, сказы. Аднак у адрозненне ад фанетыкі, лексікалогіі і граматыкі, якія аналізуюць лад мовы, будову яе структурных элементаў, стылістыка вывучае асаблівасці функцыянавання, ужывання гэтых элементаў у маўленні, іх адпаведнасць пэўным сітуацыям зносін.

Асноўным паняццем стылістыкі з'яўляецца стыль. **Функцыянальны стыль** — гэта разнавіднасць маўлення, якая адрозніваецца сістэмай моўных сродкаў і абслугоўвае пэўную сферу дзейнасці чалавека: навуковую, адміністрацыйна-дзелавую, грамадска-палітычную, мастацкую, бытавую.

У залежнасці ад сферы выкарыстання мовы, тэматыкі, зместу і мэты выказвання выдзяляюць наступныя стылі маўлення: навуковы, афіцыйны, публіцыстычны, мастацкі і гутарковы. Усе стылі, акрамя гутарковага, кніжныя. Гутарковы стыль выкарыстоўваецца звычайна ў вуснай форме.

У кожным стылі маўлення існуюць свае жанры. **Жанр маўлення** (ад фр. *genre* — род, від) — гэта разнавіднасць тэксту, якая абумоўлена маўленчай сітуацыяй і характарызуецца комплексам адносна ўстойлівых зместавых, кампазіцыйных і моўных прымет. Напрыклад, ***жанрамі навуковага стылю*** з'яўляюцца навуковы даклад, артыкул, рэферат, рэцэнзія, дысертацыя і інш., ***афіцыйнага*** — указ, пагадненне, заява, пратакол, даведка, справа-

здача і інш., ***публіцыстычнага*** — нататка, інтэрв'ю, артыкул, фельетон і інш., ***мастацкага*** — апавяданне, раман, паэма, камедыя і інш., ***гутарковага*** — гутарка, запіска, асабісты дзённік і інш.

## § 4. Навуковы стыль

**Навуковы стыль** — функцыянальная разнавіднасць маўлення, якая выкарыстоўваецца ў сферы навукі і адукацыі, тэхнікі і вытворчасці. Гэта стыль навуковых артыкулаў, дысертацый, энцыклапедый, слоўнікаў, падручнікаў, навукова-тэхнічнай літаратуры, дакладаў і выступленняў на навуковыя тэмы.

Асноўнай формай рэалізацыі навуковага стылю з'яўляецца пісьмовае маўленне, хаця з развіццём сродкаў масавай камунікацыі, пашырэннем навуковых кантактаў павялічваецца роля вуснай формы зносін.

Г а л о ў н а я ф у н к ц ы я навуковага стылю — перадача навуковай інфармацыі, доказнасць яе сапраўднасці, нярэдка — навізны і каштоўнасці, дакладнае і строга лагічнае выказванне думкі. Доказнасць у тэкстах навуковага стылю праяўляецца па-рознаму: з дапамогай тэкставых ілюстрацый, формул, графікаў, схем, цытавання, спасылак на выказванні вядомых вучоных і інш.

В ы з н а ч а л ь н ы м і р ы с а м і навуковага стылю з'яўляюцца лагічнасць выкладу, дакладнасць і аб'ектыўнасць, абагульненасць і абстрагаванасць.

Падкрэсленая **лагічнасць** — тыповая рыса навуковага тэксту. Усе часткі ў ім цесна звязаны сэнсам і размяшчаюцца ў строга вызначанай паслядоўнасці. Найбольш пашыраным сродкам сувязі сказаў у навуковым маўленні з'яўляецца паўтор назоўнікаў, часта ў спалучэнні з указальнымі займеннікамі *гэты, той, такі*. Паслядоўнасць развіцця думкі дасягаецца таксама з дапамогай прыслоўяў: *спачатку, затым, далей*; пабочных слоў: *па-першае, па-другое, значыць, нарэшце*; злучнікаў: *таму што, таму*; канструкцый з прыназоўнікамі: *у выніку, у сувязі, з прычыны*. Лагічнасці навуковых тэкстаў садзейнічае і

частае ўжыванне складаназалежных сказаў, сказаў з прамым парадкам слоў.

Наступная рыса навуковага стылю — **аб'ектыўнасць** і **дакладнасць** выкладу. Сэнсавая дакладнасць (адназначнасць) абумоўлівае ўжыванне слоў з прамым значэннем, шырокае выкарыстанне тэрмінаў. Паўтор ключавых слоў у навуковым маўленні лічыцца нормай. Дакладнасцю тлумачыцца і выкарыстанне ў навуковым тэксце сказаў з дзеепрыметнікавымі і дзеепрыслоўнымі зваротамі, з аднароднымі членамі сказа і абагульняльнымі словамі.

**Абагульненасць** і **абстрагаванасць** уласцівыя кожнаму навуковаму тэксту. Таму тут шырока выкарыстоўваецца абстрактная лексіка: *маўленне, адналінейнасць, ціск, бязважкасць, культура* і інш. Для абазначэння агульных паняццяў ужываюцца словы з канкрэтным значэннем. Напрыклад, у сказе *Елка — вечназялёнае дрэва сямейства хваёвых з конусападобнай кронай і доўгімі лускаватымі шышкамі* (ТСБМ) слова *елка* абазначае не канкрэтны прадмет (дрэва), а клас аднародных прадметаў (пароду дрэў), г. зн. выражае агульнае паняцце.

Адметнасць навуковага маўлення праяўляецца і ў частотнасці выкарыстання пэўных часцін мовы, іх форм, асаблівасцях іх функцыянавання. Для навуковага стылю характэрная перавага ва ўжыванні назоўнікаў і прыметнікаў над дзеясловамі. Шырока выкарыстоўваюцца назоўнікі ніякага роду з абстрактным значэннем (*мысленне, выпраменьванне, падаўжэнне, адлюстраванне* і інш.), формы роднага склону назоўнікаў у ролі азначэнняў (*нормы літаратурнай мовы, тэмпература кіпення, закон Ома, тэарэма Піфагора* і інш.), аддзеяслоўныя назоўнікі *(рабіць уплыў)*. У навуковым маўленні не прынята выкарыстоўваць займеннік ***я*** і дзеясловы ў форме 1-й асобы адзіночнага ліку. Дзеясловы-выказнікі ўжываюцца звычайна ў форме 3-й асобы цяперашняга часу. Інфармацыйны характар навуковага тэксту абумоўлівае тое, што ў ім амаль не сустракаюцца клічныя і пытальныя сказы, а таксама іншыя сродкі выражэння эмацыянальнасці і экспрэсіўнасці.

**ПЛАН СТЫЛІСТЫЧНАГА АНАЛІЗУ ТЭКСТУ**

1. Ахарактарызаваць маўленчую сітуацыю і задачы маўлення.

2. Пералічыць асноўныя стылёвыя рысы.

3. Назваць моўныя сродкі, з дапамогай якіх асноўныя стылёвыя рысы рэалізуюцца ў тэксце.

4. Вызначыць стыль тэксту.

**18.** Прачытайце тэкст. Пры якой форме зносін і з якой мэтай ён можа быць выкарыстаны? Вызначце стыль тэксту, пералічыце яго асноўныя стылёвыя рысы. Назавіце моўныя сродкі, з дапамогай якіх гэтыя рысы рэалізуюцца ў тэксце.

СЛУЖБОВЫЯ СЛОВЫ

Службовыя словы (прыназоўнікі, злучнікі, часціцы) — у традыцыйнай граматыцы непаўназначныя словы, якія не маюць яскрава выражанага лексічнага значэння і ўжываюцца ў мове толькі пры паўназначных словах, спалучэннях і інш. Іх несамастойнасць у тым, што яны звычайна не маюць уласнага націску і аб’ядноўваюцца ў адну акцэнталагічную адзінку з суседнім словам. Акрамя таго, службовыя словы асобна не бываюць членамі сказа (за выключэннем выпадкаў іх субстантывацыі — пераходу ў разрад паўназначных, ці самастойных).

Усе службовыя словы нязменныя. Яны складаюцца звычайна з адной каранёвай марфемы.

Службовыя словы характарызуюцца высокай частотнасцю ўжывання ў маўленчай плыні. Калі за адзінку падліку прыняць слова, то прыблізна 10 % любога тэксту складаюць прыназоўнікі, амаль столькі ж — злучнікі, ад 4—5 да 12—14 % — часціцы (у залежнасці ад стылю тэксту). Усе класы службовых слоў нешматлікія, таму адразу відаць іх частотная паўтаральнасць, асабліва прыназоўнікаў і злучнікаў *(Паводле П. Шубы)*.

**19.** Прачытайце тэкст. Ці можна лічыць яго стыль навуковым? Абгрунтуйце свой адказ.

Бабіна лета — цудоўная пара на стыку верасня і кастрычніка. Зноў цеплыня, нібы лета вярнулася. Нават ночы робяцца цёплыя. Ад рання і да заходу пяшчотна грэе сонца.

У бабінага лета ёсць і рысы вясны. Нешта веснавое адчуваюць нават птушкі. Вярнуліся да сваіх домікаў шпакі і ўсю раніцу меладычна спяваюць каля шпакоўняў. Як увесну, балбоча пры дарозе цецярук. Раніцай і пад вечар кружыць ён на рудаватай палеглай траве, расставіўшы крылы, распусціўшы веер хваста на белай падкладцы. Але няма ўжо, як увесну, зборышчаў, няма тых зухаватых боек. Усё мірна *(Паводле В. Ціхановіча)*.

● Знайдзіце ў спецыяльнай літаратуры ці складзіце самастойна тэкст, у якім восень (ці іншая пара года) апісвалася б у навуковым стылі. Запішыце.

**20.** Прачытайце тэкст (адказ вучня). Якія парушэнні навуковага стылю маўлення вы заўважылі?

Складаны — гэта ў якім некалькі простых. Вось такіх, напрыклад: *Наступіла вясна, і на вуліцы стала цёпла.* Гэтыя простыя сказы вельмі цесна звязаны, як бы зліваюцца і складаюць адно цэлае. Часткі складанага сказа могуць звязвацца злучнікамі. Тады гэта злучнікавыя складаныя сказы. Калі такіх злучнікаў няма, то гэта бяззлучнікавыя сказы.

Ну, яшчэ яны бываюць складаназлучаныя і складаназалежныя. Напрыклад, складаназлучаны: *Хутка наступяць канікулы і мы будзем адпачываць.* Калі ж слова *хутка* замяніць на *калі,* то сказ ужо будзе складаназалежным. І яшчэ складаныя сказы бываюць камбінаваныя.

Запішыце тэкст у адпаведнасці з нормамі навуковага стылю.

**21.** Прачытайце тэкст, вызначце яго стыль. Прасачыце, як звязаны паміж сабой: 1) сказы ў саставе абзацаў; 2) абзацы ў саставе тэксту. Ці можна лічыць структуру тэксту лагічнай? Абгрунтуйце сваё меркаванне.

ПУНКТУАЦЫЯ

Пунктуацыя (*punctuation*, ад лац. *punctum* — кропка) мае два асноўныя значэнні: 1) сукупнасць знакаў прыпынку і правілы іх выкарыстання ў пісьмовым тэксце; 2) раздзел мовазнаўства*, у якім вывучаецца пунктуацыйная сістэма і заканамернасці яе станаўлення і функцыянавання[сл].

Сучасная пунктуацыя гістарычна склалася ў дастаткова зладжаную[ф] сістэму графічных знакаў, якая з поспехам абслугоўвае патрэбы пісьмовых зносін у грамадстве. Самым старажытным знакам прыпынку з'яўляецца кропка, якая ўжываецца ў пісьмовай практыцы з II ст. да н. э. (упершыню яна была выкарыстана ў грэчаскіх і лацінскіх тэкстах). У XIV ст. з'явілася коска, у XV ст. — двукроп'е і кропка з коскай, у XVI ст. — пытальнік і дужкі, у XVII ст. — клічнік і двукоссе, у XVIII ст. — працяжнік і шматкроп'е. Да пачатку XIX ст. у пунктуацыйнай сістэме ўжо былі ўсе знакі прыпынку, якімі карыстаюцца ў наш час.

Аднак сістэмнасць пунктуацыі выяўляецца[с] не толькі ў наяўнасці пунктуацыйных знакаў і сукупнасці іх суадносін, але і ў адзінстве і ўзаемадзеянні тых прынцыпаў, якія ляжаць у аснове пунктуацыі. Сярод гэтых прынцыпаў звычайна вылучаюць граматычны, сэнсавы і інтанацыйны.

Паводле граматычнага прынцыпу (Л. Зізаній, М. Грэч, Я. Грот, С. Буліч і інш.) знакі прыпынку абумоўлены структурнай будовай сказа, бо выдзяляюць сказы і часткі сказа з тым, каб лепш арганізаваць і аформіць пісьмовы тэкст.

Паводле сэнсавага прынцыпу (М. Ламаносаў, Ф. Буслаеў, С. Абакумаў, А. Шапіра і інш.) пастаноўка знакаў прыпынку абапіраецца на сэнс выказвання, якое перадаецца ў сказе, паколькі знакі прыпынку ажыццяўляюць падзел тэксту на часткі, якія маюць значэнне для выражэння думкі на пісьме.

Паводле інтанацыйнага прынцыпу (М. Сматрыцкі, В. Вастокаў, А. Пяшкоўскі, Л. Шчэрба, Л. Булахоўскі і інш.) знакі

прыпынку абумоўлены інтанацыйным афармленнем сказа, бо служаць для абазначэння **рытмікі** і **меладыкі** мовы, яе **тэмпу** і паўз паміж сказамі і часткамі сказаў.

Як бачым, кожны з гэтых прынцыпаў грунтуецца на адной з дыферэнцыяльных адзнак сказа — сэнсавым змесце, граматычнай будове або інтанацыйным афармленні. Вядома, што ні граматычная будова сказаў, ні іх змест і інтанацыя не існуюць ізалявана, яны ўзаемадзейнічаюць[с] паміж сабой і сумесна характарызуюць кожны сказ як асноўную камунікатыўную адзінку мовы. У кожным канкрэтным выпадку граматычная будова сказа, яго змест і інтанацыя рэалізуюцца па-рознаму і адыгрываюць розную (большую ці меншую) ролю ў выбары пэўнага знака прыпынку на пісьме. Але ва ўсіх выпадках гэтыя адзнакі сказа абавязкова[сл] ўлічваюцца, бо толькі ў сваёй сукупнасці яны з'яўляюцца той асновай, на якой грунтуецца сучасная пунктуацыя *(Л. Бурак)*.

● Растлумачце лексічнае значэнне выдзеленых слоў. Адназначныя ці мнагазначныя гэтыя словы?

● Выпішыце з тэксту: а) пяць слоў, якія ўжываюцца ў прамым значэнні; б) пяць слоў абмежаванага ўжытку (тэрміны).

**22.** Карыстаючыся тэкстам папярэдняга практыкавання, вусна перадайце меркаванне Л. Бурака пра сістэмнасць пунктуацыі. Выкарыстайце, па магчымасці, наступныя спалучэнні слоў: *спачатку аўтар зазначае, навуковец лічыць, вучоны сцвярджае, моваевед прытрымліваецца думкі, аўтар робіць вывады.*

**23.** Напішыце рэцэнзію на адзін з навуковых артыкулаў. Выкарыстайце, па магчымасці, наступныя маўленчыя формулы, уласцівыя гэтаму жанру навуковага стылю.

Артыкул прысвечаны...; спачатку аўтар адзначае, што...; у працы даецца агляд...; у першай частцы многа ўвагі надаецца...; асноўная частка прысвечана...; аўтар правільна адзначае, што...; багаты фактычны матэрыял, змешчаны ў працы, удала ілюструе...; нельга не сказаць і пра...; такім чынам, можна....

**24.** Прачытайце тэкст, узяты са «Слоўніка літаратуразнаўчых тэрмінаў» М. А. Лазарука, А. Я. Ленсу (Мінск, 1983). Каму адрасаваны гэты тэкст?

Назавіце моўныя асаблівасці навуковага стылю, якія праявіліся ў гэтым тэксце. Вызначце (прыблізна) суадносіны ва ўжыванні назоўнікаў, прыметнікаў і дзеясловаў. Палічыце колькасць простых ускладненых і складаных сказаў.

**Троп** (ад грэч. *tropos* — зварот) — адзін з найважнейшых прыёмаў стварэння мастацкага вобраза ў літаратуры, пры якім слова набывае вельмі актыўны выяўленчы характар, выражае пэўнае пачуццё, эстэтычную ацэнку жыццёвай з'явы. Мастацкія тропы ўзнікаюць на аснове выкарыстання мнагазначнасці слова. Многія словы маюць, акрамя асноўнага, іншыя значэнні і адценні значэнняў. Напрыклад, слова «сонечны» мае значэнне 'асветлены сонцам' — *сонечны дзень.* Але ж яно можа быць ужыта і ў іншых значэннях: *сонечнае жыццё, сонечны настрой* і г. д. У гэтых прыкладах мы маем справу не з асноўным, а з другасным значэннем гэтага слова.

Тропы ў мастацкай літаратуры адыгрываюць вельмі важную ролю. Яны пашыраюць магчымасці пазнання і адлюстравання жыцця, павялічваюць сэнсавую ёмістасць слова, узбагачаюць мову новымі адценнямі слоў, дапамагаюць пісьменніку стварыць яркія вобразы і праз іх выявіць сваю ацэнку жыццёвых з'яў, свае адносіны да іх. Да ліку тропаў адносяцца **эпітэт**, параўнанне, **метафара**, увасабленне, **алегорыя**, сімвал, метанімія, сінекдаха, **гіпербала**, іронія і інш.

● Растлумачце, якое лексічнае значэнне маюць выдзеленыя словы. Вызначце, якія гэта словы паводле паходжання.

**25.** Прааналізуйце невялікі тэкст са школьнага падручніка, вучэбнага дапаможніка (па літаратуры, гісторыі, хіміі або іншым прадмеце). Якія стылёвыя рысы навуковага маўлення яму ўласцівыя?

**26.** Выкарыстоўваючы матэрыялы вучэбнага дапаможніка і дадатковую літаратуру, падрыхтуйце (пісьмова) навуковае паведамленне на тэму «Навуковы стыль маўлення».

## § 5. Афіцыйны стыль

**Афіцыйны стыль** — гэта такая функцыянальная разнавіднасць маўлення, якая выкарыстоўваецца ў сферы афіцыйных, дзелавых адносін, г. зн. адносін, што ўзнікаюць паміж дзяржаўнымі органамі, паміж арганізацыямі ці ўнутры іх, паміж арганізацыямі і прыватнымі асобамі ў працэсе вытворчай, гаспадарчай, юрыдычнай дзейнасці.

Афіцыйны стыль належыць да кніжных стыляў і таму функцыянуе пераважна ў форме пісьмовага маўлення. Гэта стыль дзяржаўных законаў, указаў, афіцыйных паведамленняў, дагавораў і пагадненняў, канцылярскай дакументацыі і інш.

Афіцыйны стыль можа праяўляцца і ў вуснай форме. Гэта адбываецца, напрыклад, на нарадах, сходах, пасяджэннях, калі некаторыя віды дакументацыі (загады, распараджэнні і інш.) даводзяцца да ведама прысутных (зачытваюцца).

Асноўнымі прыметамі афіцыйнага стылю з'яўляюцца канстатацыйна-прадпісальны характар дакументаў, неасабовасць выкладу, дакладнасць, высокая ступень стандартызацыі.

Афіцыйныя дакументы маюць ярка выражаны канстатацыйна-сцвярджальны і прадпісальны характар. Змешчаную ў іх інфармацыю прымаюць да ведама, а прадпісанне — да абавязковага выканання.

Прадпісальны характар дакументаў дастаткова часта перадаецца з дапамогай дзеясловаў у неазначальнай форме, часта ў спалучэнні са словамі *неабходна, трэба, забараняецца, абавязаны, павінен, мець права* і іншымі, якія ўзмацняюць катэгарычнасць выказвання: *Кожны чалавек мае права свободна перамяшчацца і выбіраць сабе месца пражывання ў межах кожнай дзяржавы* (Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека).

Прадпісальнае значэнне заканадаўчых тэкстаў часта перадаецца дзеясловамі цяперашняга часу: *Мясцовыя Саветы дэпутатаў, выканаўчыя і распарадчыя органы*

*рэгулярна аналізуюць стан пажарнай бяспекі, прымаюць па гэтых пытаннях рашэнні, распрацоўваюць планы і ажыццяўляюць мерапрыемствы па забеспячэнні пажарнай бяспекі на адпаведнай тэрыторыі* (Закон Рэспублікі Беларусь «Аб пажарнай бяспецы»). Тут дзеясловы «аналізуюць», «прымаюць», «распрацоўваюць», «ажыццяўляюць» абазначаюць не тыя дзеянні, што адбываюцца ў момант гутаркі, а тыя, якія павінны выконвацца пастаянна.

Афіцыйнаму маўленню ўласцівы неасабовы характар, таму ў ім амаль поўнасцю адсутнічаюць формы 1-й і 2-й асобы займеннікаў і дзеясловаў (выключэнне: заява, загад, дакладная і інш.).

Дакумент адпавядае свайму прызначэнню, калі ён дакладны. Дакладнасць заканадаўчых тэкстаў дасягаецца з дапамогай ужывання спецыяльнай тэрміналогіі (*арандатар, спажывец, кватэранаймальнік, заказчык* і інш.), адназначнай нетэрміналагічнай лексікі.

Адметнай рысай афіцыйнага стылю з'яўляецца шырокае выкарыстанне стандартных сродкаў (так званых канцылярскіх штампаў): *за справаздачны перыяд, прымаючы пад увагу, дагаворныя бакі, прыцягнуць да адказнасці* і інш.

М о в а  а ф і ц ы й н а г а  с т ы л ю мае пэўныя асаблівасці. На ўзроўні лексікі гэта шырокае ўжыванне спецыяльнай тэрміналогіі, стандартных сродкаў, а таксама складанаскарочаных слоў, пераважна назваў арганізацый і ўстаноў, амаль поўная адсутнасць эмацыянальна-экспрэсіўнай лексікі. У тэкстах афіцыйнага стылю часта выкарыстоўваюцца аддзеяслоўныя назоўнікі (*пагадненне, невяртанне, выкарыстанне* і інш.), адносныя прыметнікі, дзеясловы залежнага стану. Як бачым, афіцыйнаму стылю ўласцівы іменны характар.

Для сінтаксісу афіцыйнага маўлення характэрныя складаныя сказы, дзеепрыметнікавыя і дзеепрыслоўныя звароты, канструкцыі са складанымі злучнікамі і адыменнымі прыназоўнікамі (*у выніку таго што, нягледзячы на тое што, з мэтай, згодна з* і інш.).

**27.** Прачытайце ўрывак з Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Якія прыметы афіцыйнага стылю ён мае? Прааналізуйце мову тэксту. Назавіце яго лексічныя, марфалагічныя, сінтаксічныя асаблівасці.

...Генеральная Асамблея абвяшчае гэтую Усеагульную дэкларацыю* правоў чалавека ў якасці задачы, да выканання якой павінны імкнуцца ўсе народы і ўсе дзяржавы з тым, каб кожны чалавек і кожны орган грамадства, увесь час маючы на ўвазе гэтую Дэкларацыю, імкнуліся шляхам асветы і адукацыі садзейнічаць павазе гэтых правоў і свабод і забеспячэнню шляхам нацыянальных і міжнародных мерапрыемстваў усеагульнага і эфектыўнага прызнання і ажыццяўлення іх як сярод дзяржаў — членаў Арганізацыі, так і сярод народаў тэрыторый, што знаходзяцца пад іх юрысдыкцыяй*.

Артыкул 1. Усе людзі нараджаюцца свабоднымі і роўнымі ў сваёй годнасці і правах. Яны надзелены розумам і сумленнем і павінны ставіцца адзін да аднаго ў духу братэрства.

Артыкул 2. Кожны чалавек павінен валодаць усімі правамі і ўсімі свабодамі, што абвешчаны гэтай Дэкларацыяй, без якога б там ні было адрознення, як, напрыклад, у адносінах расы, колеру скуры, полу, мовы, рэлігіі, палітычных або іншых перакананняў, нацыянальнага або сацыяльнага паходжання, маёмаснага, саслоўнага або іншага становішча.

Апрача таго, не павінна рабіцца ніякага адрознення на аснове палітычнага, прававога або міжнароднага статусу* краіны або тэрыторыі, да якой чалавек належыць, незалежна ад таго, ці з'яўляецца гэтая тэрыторыя незалежнай, падапечнай, несамакіравальнай або як-небудзь інакш абмежаванай у сваім суверэнітэце*.

Артыкул 3. Кожны чалавек мае права на жыццё, на свабоду і на асабістую недатыкальнасць.

Артыкул 4. Ніхто не павінен утрымлівацца ў рабстве або ў паднявольным стане; рабства і гандаль рабамі забараняюцца ва ўсіх выглядах.

**28.** Да слоў і словазлучэнняў падбярыце блізкія па сэнсе словы ці словазлучэнні, якія выкарыстоўваюцца ў афіцыйным стылі. Запішыце.

Удзельнічаць, падзякаваць, даць службовую кватэру, дапамагчы, вырашылі на сходзе, паведаміць.

**29.** Растлумачце значэнне наступных слоў і словазлучэнняў (пры неабходнасці карыстайцеся слоўнікам). З двума-трыма словамі складзіце і запішыце сказы.

Нота, мемарандум, камюніке, канвенцыя, аташэ, даверчая грамата, віза, вотум, дэмарш, консул, кааліцыя, пагадненне, петыцыя, ратыфікацыя, статус.

У сферы вытворчасці, адукацыі, навукі нярэдка выкарыстоўваецца **характарыстыка** — афіцыйны дакумент, у якім даецца ацэнка працоўнай ці грамадскай дзейнасці, якасцей пэўнай асобы.

Характарыстыка падпісваецца кіраўніком установы (арганізацыі, прадпрыемства), завяраецца пячаткай, указваецца дата.

**30.** Напішыце характарыстыку аднаго з вучняў вашага класа, прытрымліваючыся наступнага прыкладнага плана.

1. Агульныя звесткі (прозвішча, імя, імя па бацьку, год і месца нараджэння).
2. Звесткі пра вучэбную дзейнасць (паспяховасць, якія адзнакі пераважаюць, да якіх прадметаў праяўляе асаблівую цікавасць, ці сістэматычна рыхтуецца да ўрокаў, актыўны ці пасіўны на ўроках).
3. Чым цікавіцца, захапляецца, да чаго мае здольнасці?
4. Ці ўдзельнічае ў грамадскім жыцці класа, школы? Якія даручэнні мае, як іх выконвае? Калі не мае, то чаму?
5. Узаемаадносіны з класным калектывам (з кім сябруе, ці мае аўтарытэт у класе і інш.).
6. З якой мэтай напісана характарыстыка?

У штодзённым жыцці нярэдка прыходзіцца пісаць заяву, аўтабіяграфію, даверанасць (даручэнне) і іншыя дзелавыя паперы. Пры іх састаўленні неабходна ўлічваць тыя патрабаванні, якія прад'яўляюцца да дзелавога пісьма: дакладнасць, лагічнасць, зразумеласць зместу, юрыдычная абгрунтаванасць, адзіная знешняя форма, агульнапрынятае (стандартнае) размяшчэнне частак тэксту, ці рэквізітаў (аўтар, адрасат, подпіс, дата і г. д.).

| Беларуская мова | | Руская мова | |
|---|---|---|---|
| *выбачаць*<br>*дараваць*<br>*прабачаць*<br>*(па)дзякаваць* | **Д. скл.**<br>каму | простить<br><br><br>(по)благода-<br>рить | **Р. п.**<br>кого |
| п р ы н а з о ў н і к а в а е | | | |
| *падобны* | **Р. скл.**<br>*да* каго/чаго | похожий | **В. п.**<br>*на* кого/что |
| *глуміцца*<br>*жартаваць*<br>*здзекавацца*<br>*злараднічаць*<br>*кпіць* | *з* каго/чаго | глумиться<br>шутить<br>издеваться<br>злорадствовать | **Т. п.**<br>*над* кем/чем |
| *насміхацца*<br>*пакеплівацъ*<br>*смяяцца*<br>*цешыцца*<br>*дзівіцца* | *з* каго/чаго | насмехаться<br>подтрунивать<br>смеяться<br>радоваться<br>удивляться | **Т. п.**<br>*над* кем/чем<br><br>**Д. п.**<br>кому/чему |
| *заляцацца* | *да* каго | ухаживать | **Т. п.**<br>*за* кем |
| *(за)хварэць*<br>*хворы* | **В. скл.**<br>*на* што | (за)болеть<br>болен | **Т. п.**<br>чем |
| *гаварыць*<br>*ведаць*<br>*дбаць*<br>*думаць*<br>*казаць*<br>*клапаціцца*<br>*успамінаць*<br>*нагадаць* | *пра* каго/<br>што | говорить<br>знать<br>беспокоиться<br>думать<br>говорить<br>заботиться<br>вспоминать<br>напоминать | **П. п.**<br>*о* ком/чем |
| **В. скл.**<br>*звярнуцца* ***на*** *адрас*<br><br>*гаварыць* ***на*** *карысць* | | **Д. п.**<br>обратиться ***по*** адресу<br>**В. п.**<br>говорить ***в*** пользу | |

<table>
<tr><th colspan="2">Беларуская мова</th><th colspan="2">Руская мова</th></tr>
<tr><td colspan="2"><br>*некалькі разоў **на** тыдзень*<br><br>спатыкацца ***на*** камень</td><td colspan="2">**В. п.**<br>несколько раз ***в*** неделю<br>**В. п.**<br>споткнуться ***о*** камень</td></tr>
<tr><td><br>*(а)жаніцца*<br><br>*(с)пазнацца*</td><td>**Т. скл.**<br>з кім<br><br>з чым</td><td><br>жениться<br><br>испытать</td><td>**П. п.**<br>*на* ком<br>**В. п.**<br>что</td></tr>
<tr><td colspan="2">*Загадчык лабараторыі*</td><td colspan="2">Заведующий лабораторией</td></tr>
</table>

**71.** Запішыце сказы па-беларуску, захаваўшы спецыфіку кіравання ў беларускай мове.

1. Мы хотим, чтобы дети были счастливее нас. 2. О чём попросил руководитель лаборатории своих сотрудников? 3. Федеральное собрание Российской Федерации состоит из двух палат: Совета Федерации и Государственной думы. 4. Имя Виктор происходит от латинского слова, означающего «победитель». 5. Девочка доверяет матери все свои секреты. 6. Вам нужно уделять больше внимания работе над произношением. 7. Зависит ли здоровье человека от условий жизни? 8. Научные исследования делятся на фундаментальные и прикладные. 9. У него есть способности к музыке. 10. Профессия актера похожа на профессию врача. 12. Дети смотрели мультфильм и весело смеялись над приключениями волка и зайца.

**Правілы дапасавання** ў беларускай мове заключаюцца ў наступным:

1. Лічэбнікі ***два, дзве, тры, чатыры, абодва, абедзве*** ў назоўным склоне дапасуюцца да назоўніка ў форме назоўнага склону множнага ліку *(дзве вёскі, тры дрэвы, чатыры дамы, абодва браты, абедзве хаты)*.

З а ў в а г а. У спалучэннях з назоўнікамі з націскам на канчатку і рухомым націскам форма ліку і склону назоўнікаў можа змяняцца: *тры сястры́, чатыры акны́, дваццаць дзве сасны́* (кіраванне).

2. Колькасныя састаўныя лічэбнікі, якія заканчваюцца на ***адзін***, ***два***, дапасуюцца да назоўнікаў у склоне і родзе: *на сямідзесяці дзвюх плошчах, у сямідзесяці двух скверах*. Лічэбнікі, якія заканчваюцца на ***тры***, ***чатыры***, дапасуюцца да назоўнікаў у склоне: *дваццаці трох старонак*.

3. Усе парадкавыя лічэбнікі дапасуюцца да назоўнікаў у родзе, ліку, склоне: *трэцяга сябра, з трэцім сябрам*.

**Правілы кіравання** выяўляюць спецыфіку сінтаксісу беларускай мовы ў параўнанні з рускамоўнымі канструкцыямі:

1. Дзеясловы ветлівасці *дзякаваць, выбачаць, дараваць* утвараюць словазлучэнні з назоўнікам ці займеннікам у форме давальнага склону: *дзякаваць настаўніку, выбачаць суседцы* (у рускай мове ў падобных словазлучэннях ужываецца форма вінавальнага склону: *благодарить учителя, извинять соседку*).

2. Дзеясловы руху *(пайсці, паехаць, накіравацца)* і волевыяўлення *(паслаць, выправіць)* пры абазначэнні мэты дзеяння ўтвараюць сінтаксічныя канструкцыі з прыназоўнікам ***па*** і назоўнікам ці займеннікам у форме вінавальнага склону: *пайсці па дровы, паслаць па дапамогу* (у рускай мове — прыназоўнік ***за*** і форма творнага склону: *пойти за дровами, послать за помощью*). А таксама: *пайсці ў грыбы, у ягады, у арэхі* (у рускай мове — *пойти за ягодами, за грибами, за орехами*).

3. Дзеясловы *жартаваць, смяяцца, кпіць, цешыцца, дзівіцца, здзекавацца* і г. д. утвараюць словазлучэнні з прыназоўнікам ***з*** і назоўнікам ці займеннікам у форме роднага склону: *жартаваць з сябра, смяяцца з сястры, здзекавацца з іншых* (у рускай мове — прыназоўнік ***над*** і форма творнага склону: *шутить над другом, смеяться над сестрой, издеваться над другими*).

4. Дзеясловы *жаніцца, ажаніцца* ўтвараюць сінтаксічныя канструкцыі з прыназоўнікам ***з*** і назоўнікам ці займеннікам у форме творнага склону: *жаніцца з Ганнай, ажаніцца з ёй* (у рускай мове — прыназоўнік ***на*** і форма меснага склону: *жениться на Анне, жениться на ней*).

5. Дзеяслоў *хварэць* і прыметнік *хворы* ўтвараюць словазлучэнні з прыназоўнікам ***на*** і назоўнікам у форме вінавальнага склону: *хварэць на сухоты, хворы на грып* (у рускай мове — форма творнага склону назоўніка без прыназоўніка: *болеть туберкулёзом, больной гриппом*).

6. Пры форме вышэйшай ступені параўнання прыметніка ці прыслоўя абавязковая сінтаксічная канструкцыя з прыназоўнікам ***за*** і злучнікамі ***як, чым***: *старэйшы за мяне (як я, чым я), прыйшоў хутчэй за цябе* (у рускай мове нарматыўная беспрыназоўнікавая канструкцыя: *старше меня, пришёл быстрее тебя*).

7. Пры абазначэнні адлегласці ўжываецца сінтаксічная канструкцыя з прыназоўнікам ***за*** і формай вінавальнага склону колькасна-іменнага спалучэння: *за пяць крокаў ад прыпынку, за дваццаць метраў ад дома, за дзвесце кіламетраў ад Віцебска* (у рускай мове прыназоўнік ***в*** у згаданых словазлучэннях нарматыўны: *в двух шагах от остановки, в двадцати метрах от дома, в двухстах километрах от Витебска*).

**72.** Запішыце па-беларуску.

Две деревни, два больших задания, три задания, оба брата, обе сестры, полтора столетия, полторы тонны, тридцать два студента, двадцать две ученицы, четвёртым понедельником.

**73.** Запішыце правільна словазлучэнні, у якіх парушаны сінтаксічныя нормы дапасавання і кіравання.

Тры стала, дзве высокіх сасны, чатыры дзявочых пастаці, дзякуем вас, пайсці за вадой, падобны маці, загадчык кафедрай, вышэй бацькі, жаніцца на прыгажуні, пісаць па адрасе, прабачце мяне, гуляць па гарадскім вуліцам.

**74.** Прачытайце сказы. Выпішыце адметныя беларускія сінтаксічныя канструкцыі.

1. Я з маленства табе абавязан сэрцам чыстым і светлай душой *(А. Астрэйка)*. 2. Хіба ў такіх справах слова да чаго-небудзь не абавязвае? *(К. Чорны)*. 3. Птушка салдатам абвясціла пра вясну *(М. Аўрамчык)*. 4. Ва ўсякім разе, я падобнай абяцанкай шчэ нікога не абразіў *(П. Панчанка)*. 5. У кожнай хаце са сваім старэйшым другам адведаў я смажаных грыбоў, суніц, малін *(А. Бялевіч)*. 6. У Міцкевіча нашы пісьменнікі вучацца майстэрству *(А. Лойка)*. 7. Вера расла марудна, хадзіла ў чацвёрты клас, а выглядала на другакласніцу *(А. Кудравец)*. 8. Колькі ўдоў і сірот засталося пасля вайны, але ніхто не выракаўся дзяцей *(А. Пальчэўскі)*. 9. Я чуў на Замкавай гары, як хлопец незнаёмы сябрам натхнёна гаварыў пра Гродна і пра Нёман *(Ю. Свірка)*. 10. Пазіралі, гаварылі нівы, сенажаці... Так гаруе хіба сэрца па сваёй утраце *(Я. Колас)*. 11. «На ўсё трэба здатнасць», — гавораць мудрыя людзі *(А. Кулакоўскі)*.

● Складзіце і запішыце 5-6 сказаў з выпісанымі сінтаксічнымі канструкцыямі.

**75.** Прачытайце. Раскажыце пра віды сінтаксічных памылак. Прыведзеныя прыклады запішыце, выправіўшы памылкі.

СІНТАКСІЧНЫЯ ПАМЫЛКІ

1. Парушэнне парадку слоў у сказе: *Яны хадзілі ў абдымку з транзістарам па праспекце, які грымеў на ўсю моц.*

2. Парушэнне форм дапасавання: *Дзеці ішлі сцежкай, атуленым лесам.*

3. Памылкі ў кіраванні: *Яна любіла і захаплялася спортам.*

4. Паўтарэнне займенніка пры дзейніку: *Купала, ён нарадзіўся ў 1882 годзе.*

5. Няправільнае спалучэнне аднародных членаў сказа: *Яна любіла танцаваць і песні.*

6. Няправільная пабудова сказаў з дзеепрыметнікавымі словазлучэннямі: *Паступіла шмат прапаноў рабочых, накіраваных на ўдасканаленне працы*.

7. Няправільная пабудова сказаў з дзеепрыслоўнымі словазлучэннямі: *Пад'ехаўшы да вёскі, пайшоў дождж*.

8. Пропуск патрэбнага слова: *Рашылі вызваліць Пятрову ад займаемай пасады дагледчыцы цялят да здачы на мяса*.

9. Нанізванне аднолькавых склонаў: *Ход выканання плана падрыхтоўкі мінеральных угнаенняў калгаса імя Тэльмана*.

*Н. Гілевіч.*

**76.** Падбярыце і запішыце беларускамоўныя адпаведнікі. Пры неабходнасці звяртайцеся да перакладнога слоўніка або да слоўніка-даведніка Г. Арашонкавай і В. Лемцюговай «Кіраванне ў беларускай і рускай мовах».

Справочник по высшей математике, выучиться на слесаря, освободить от занимаемой должности, загадать какое-либо число, привык к участию в соревновании, тосковать по друзьям, согласно с требованиями морали, привычный к холоду, судья решил дело в пользу истца, принять меры против распространения гриппа, ехала в надежде на короткую встречу, наблюдать за ребенком, недосмотреть многих описок, неуверенность в себе, скорбеть по погибшим, мать тревожится о сыне, воздействовать на слушателя посредством живого слова, уклоняться от ответа, условиться о сроке отъезда, воздержаться от дискуссии, эпилог к опере, в надежде на скорую встречу, характеристика на ученика, соревноваться в ловкости и смелости, унаследовать характер у матери.

● З 4-5 сінтаксічнымі канструкцыямі складзіце і запішыце сказы.



**77.** Прачытайце разважанні вучонага пра спалучальнасць лічэбнікаў з назоўнікамі. Запішыце змест правіла з дапамогай тэзісаў.

Амаль ва ўсіх падручніках і дапаможніках па беларускай мове (у тым ліку і для вышэйшай школы), калі гаворка заходзіць пра спалучальнасць лічэбнікаў з назоўнікамі, сцвяр-

джаецца, што пры лічэбніках *два (дзве), абодва (абедзве), тры, чатыры* назоўнік ужываецца ў форме назоўнага склону множнага ліку. Правіла звычайна ілюструецца прыкладамі, якія не выклікаюць сумнення: *два сыны, тры крыніцы, чатыры вучні*.

Аднак названае правіла патрабуе ўдакладнення, неабходна назваць[с] выключэнні з гэтага правіла.

Па-першае, усе назоўнікі жаночага роду з націскным канчаткам у назоўным склоне адзіночнага ліку і рухомым націскам пры спалучэнні з лічэбнікамі *два, тры, чатыры* супадаюць[м] і па канчатку, і па націску не з назоўным склонам множнага ліку, а з родным адзіночнага: *рака — ракі — чатыры ракі (а не рэкі), сястра — сястры — дзве сястры (а не сёстры)*. Вось толькі некаторыя з гэтых назоўнікаў: *сцяна, дуга, канапа, пара, каса, каза, страха, вайна, сірата, галава, сава, стапа, ступня, пятля, страфа, старана, пята, барада, труба, жняя, душа, зіма, вясна, мяжа, рака, сляза, мятла, нара, гара*.

Па-другое, многія назоўнікі ніякага роду з націскным канчаткам у назоўным склоне адзіночнага ліку і рухомым націскам пры спалучэнні з лічэбнікамі *два, тры, чатыры* супадаюць па канчатку з назоўным склонам множнага ліку, а па націску — з родным адзіночнага: *гняздо — гнязда* (Р. скл. адз. л.) — *гнёзды* (мн. л.) — *два гнязды; акно — акна — вокны — два акны*. Яшчэ прыклады такіх назоўнікаў: *сяло, вясло, пісьмо, гумно, сядло, палатно, пяро, сцягно, сцябло, вядро, бервяно*.

Па-трэцяе, своеасабліва спалучаюцца з лічэбнікамі *два, тры, чатыры* і некаторыя назоўнікі мужчынскага роду. Напрыклад: *два кані, тры зубы* (параўн. у родным склоне адзіночнага ліку і назоўным склоне множнага ліку: *каня — коні, зуба — зубы*). Або: *чалавек — чалавека* (Р. скл. адз. л.) — *людзі* (мн. л.), але *два чалавекі (І. Лепешаў)*.

● Вызначце і абгрунтуйце стыль і тып тэксту.

● Складзіце план тэксту, з яго дапамогай вусна перакажыце тэкст.

● Выпішыце з тэксту асабовыя формы дзеяслова, растлумачце правапіс канчаткаў.

**78.** Прачытайце. На аснове табліцы раскажыце, у якіх выпадках выказнік ужываецца ў адзіночным, у якіх — у множным ліку. Запішыце ўласныя прыклады сказаў на складаныя, на вашу думку, выпадкі дапасавання выказніка да дзейніка.

| **Выказнік ужываецца** | |
|---|---|
| **у адзіночным ліку** | **у множным ліку** |
| 1) калі дзейнік выражаны колькасна-іменным спалучэннем (ужываюцца **назвы нежывых прадметаў** або ўвага звяртаецца на **агульную, прыблізную колькасць, сукупнасць**): *Сабралася чалавек дваццаць*; | 1) калі дзейнік выражаны колькасна-іменным спалучэннем (ужываюцца **назвы адушаўлёных прадметаў, жывых істот**): *Сабраліся дваццаць чалавек. Прамільгнулі дзве постаці*; |
| 2) дзейнік выражаны колькасна-іменным спалучэннем, якое ўключае словы ***ўсяго, толькі***: *Прысутнічала ўсяго восем слухачоў. У зімовую сесію было толькі тры экзамены*; | 2) дзейнік выражаны спалучэннем колькаснага лічэбніка і неадушаўлёнага назоўніка і стаіць перад выказнікам: *Тры бярозкі прыветліва схіліліся ў паклоне*; |
| 3) у саставе дзейніка ёсць словы ***багата, шмат, мала, многа, некалькі, няшмат*** і інш.: *Багата людзей сабралася на галоўнай плошчы горада*; | 3) колькасна-іменнае спалучэнне ўключае **азначэнне** або словы ***ўсе, гэтыя***: *Нясцерпныя, поўныя болю, доўжыліся гады вайны. Усе дні вясны радавалі сонейкам*; |
| 4) у састаў дзейніка, які абазначае прадмет, уваходзяць словы ***большасць, большая (меншая) частка***: *Большасць кніг здадзена ў бібліятэку*; | 4) дзейнік выражаны спалучэннем колькаснага лічэбніка і назоўніка са значэннем асобы: *Два чалавекі задавалі тон сходу*; |
| 5) колькасна-іменнае спалучэнне абазначае пэўны адрэзак | 5) у састаў дзейніка, які абазначае **асоб**, уваходзяць словы |

| **Выказнік ужываецца** | |
|---|---|
| **у адзіночным ліку** | **у множным ліку** |
| часу (спалучэнне лічэбнікаў з назоўнікамі ***гады, месяцы, гадзіны, хвіліны*** і інш.): *Два месяцы мінула з таго часу*; | ***большасць, большая (меншая) частка***: *Большасць выпускнікоў збіраліся працягваць вучобу*; |
| 6) у састаў дзейніка ўваходзяць назоўнікі са значэннем пэўнай (***дзясятак, сотня, пара, тройка*** і інш.) або няпэўнай колькасці (***маса, процьма, група, безліч*** і інш.): *У вагон зайшла група мужчын*; | 6) дзейнік выражаны спалучэннем назоўніка ў форме назоўнага склону з назоўнікам творнага склону: *Бацька з маці пайшлі ў тэатр*; |
| 7) дзейнік выражаны спалучэннем слоў, у саставе якога ёсць **зборныя лічэбнікі**, а таксама словы ***тысяча, мільён, мільярд***: *Тысяча чалавек сабралася на плошчы*; | 7) пры аднародных дзейніках, калі знаходзіцца пасля іх: *Вопыт і мудрасць вызначаюць узрост.* А л е: Калі выказнік стаіць перад аднароднымі дзейнікамі, ён можа дапасоўвацца ў ліку да першага з іх: *З-за ўзгорка паказаўся горад і чыгунка*; |
| 8) калі ў ролі дзейніка выступае абрэвіятура (складанаскарочанае слова), то форма выказніка залежыць ад апорнага слова: *НАН (Нацыянальная* ***акадэмія*** *навук) Беларусі* ***аб'явіла*** *конкурс на лепшую манаграфію сярод маладых даследчыкаў.* | 8) пры падкрэсліванні **актыўнасці асобы:** *Пяцёра студэнтаў здалі сесію на «выдатна».* |

**79.** Спішыце, выбіраючы адпаведную форму выказніка. Патлумачце свой выбар.

1. Нямала іх *(хадзіць)* па свеце *(П. Глебка)*. 2. У вялікім пакоі *(сабрацца)* шмат людзей. 3. Большасць людзей, без шапак, у падраных кашулях і фрэнчах, *(ісці)* **нехаця** і панура *(С. Грахоўскі)*. 4. Група партызан *(ехаць)* у вёску памагчы заараць **зямлю** пад жыта *(П. Пестрак)*. 5. Гэтая ўзброеная сотня людзей *(прынесці)* з сабою і безліч[ф] сваіх партызанскіх навін, разнастайных, цікавых *(М. Ткачоў)*. 6. Абодва *(прасіцца)* у атрад і *(расказваць)* пра сябе — як на духу *(Ф. Янкоўскі)*. 7. Чатыры лодкі *(прыйсці)* да берага амаль праз гадзіну *(Я. Брыль)*. 8. Чацвёра хлопцаў *(не зводзіць)* ліхтарыкаў з лодак, лодачнікаў *(Ф. Янкоўскі)*. 9. *(Сабрацца)* багата людзей *(М. Лынькоў)*. 10. Перад Новым годам БелТА *(перадаць)* радасную **навіну**.

● Пастаўце націскі ў выдзеленых словах.

● Да ўжытага ў сказе ўстойлівага выразу запішыце фразеалагізмы-сінонімы.

**80.** З наступнымі словазлучэннямі складзіце сказы, каб гэтыя словазлучэнні выступалі ў ролі дзейніка, а дзеяслоў у форме прошлага часу — у ролі выказніка. Растлумачце выбар формы ліку выказніка.

Пяць дзён, тры гады, тысяча вяскоўцаў, пяцёра студэнтаў, безліч дзівосаў, процьма ягад, тройка коней, усе хлопцы, усяго сем выпускнікоў, шмат дзяўчат, багата чарніц, каля дзесяці кніг, звыш ста супрацоўнікаў, некалькі вучняў, колькі шчасця, каля палавіны з іх, чалавек да дзесяці.

**81.** Прачытайце. Знайдзіце сказы з памылкамі ў формах дапасавання выказніка да дзейніка. Выпраўце памылкі, запішыце правільны варыянт. Падкрэсліце граматычную аснову ў запісаных двухсастаўных сказах.

1. Больш за шэсць тысяч помнікаў на зямлі Беларусі ўслаўляюць подзвіг народа ў Вялікай Айчыннай вайне. 2. Ніхто з хлопцаў слова не вымавілі. 3. Нямала сватоў прыязджалі здалёк. 4. Каля школы стаялі некалькі мужчын. 5. Ча-

лавек з дваццаць сядзела ў сталовай. 6. Многа аднавяскоўцаў прыехалі ў раённы горад на «Дажынкі». 7. Абодва пасажыры некаторы час сядзела моўчкі. 8. Група коннікаў аддзяліліся[с] і накіраваліся[сл] ў напрамку да станцыі. 9. Міколу споўніліся дваццаць гадоў. 10. У той дзень ляцелі над зямлёй многа жураваў. 11. Тры чалавекі схавалася ад дажджу пад разгалістым дрэвам.

**Сэнсава-стылістычная роля словазлучэнняў** заключаецца ў тым, што яны канкрэтызуюць ці характарызуюць прадмет (асобу, з'яву, факт), функцыянуюць у структуры сказа, параўн.: *мова — мілагучная мова, царкоўнаславянская мова, мова старадрукаў, мова народа. Мова народа — вялікі духоўны скарб.*

Групы словазлучэнняў прадстаўлены ва ўсіх стылях маўлення. Ужывальнасць словазлучэнняў залежыць ад ролі пэўнай часціны мовы ў моўнай сістэме. Найбольш частотныя паводле ўжывання — назоўнікавыя (родная *мова*) і дзеяслоўныя (*шанаваць* мову) тыпы словазлучэнняў.

**Тэкстаўтваральная роля словазлучэнняў** заключаецца ў фарміраванні простых і складаных сказаў. Словазлучэнне, як і слова, выступае матэрыялам для разгортвання выказвання. Тэкстаўтваральную ролю словазлучэнне выконвае і тады, калі афармляецца як самастойны сказ. У такім выпадку яму ўласцівы функцыя паведамлення і інтанацыя закончанасці: *Мова мілагучная.*

Увядзенне словазлучэнняў у сказ раскрывае сінтаксічную функцыю галоўных і залежных слоў. Разгортванне словазлучэнняў, уключэнне іх у сказ дае магчымасць выяўляць і канкрэтызаваць разнастайныя сэнсавыя і граматычныя сувязі слоў у пэўным кантэксце: *пісаць* (ш т о?) *ліст, пісаць* (я к?) *прыгожа, пісаць* (д з е?) *на дошцы, пісаць* (ч ы м?) *алоўкам* і інш.

Выяўленне ролі словазлучэнняў у тэксце дапамагае размежаваць стылі маўлення. Так, у навуковых тэкстах словазлучэнні выконваюць намінатыўную функцыю, называюць навуковыя паняцці. У мастацкіх тэкстах слова-

злучэнні маюць эмацыянальна-экспрэсіўную функцыю — раскрываюць аўтарскія адносіны да асоб, прадметаў, з'яў.

Тэкстаўтваральная роля словазлучэнняў залежыць ад семантыкі галоўнага і залежнага слова, ад іх ужывання ў той ці іншай сферы чалавечай дзейнасці: *родная мова, класічныя мовы, канцылярская мова, дзіцячая мова, мова лічбаў, ускосная мова, мёртвая мова, інфармацыйная мова, літаратурная мова.*

**82.** Прачытайце. На аснове тэксту падрыхтуйце паведамленне на тэму «Роля словазлучэнняў у маўленні».

Паразважаем пра тое, якую ролю выконвае ў маўленні[с] маленькае словазлучэнне, мінімальная адзінка сінтаксісу. Здавалася б, дзе яму раўняцца[м] з такімі веліканамі, як, напрыклад, складаназлучаны і складаназалежны сказы. Аднак... Менавіта ў словазлучэнні[сл] рэалізуецца спалучальнасць слоў. Ад таго, як мы будуем словазлучэнні, залежыць правільнасць, дакладнасць, чысціня нашага маўлення. Але і[м] гэта не ўсё. Падумайце, што ўспамінаем мы, напрыклад, калі гаворым пра лірыку М. Багдановіча. Магчыма, гэта цудоўны вобраз **шпаркага, лёгкага, сінякрылага матылька**. У сінтаксічным плане гэта і ёсць[ф] словазлучэнні.

Маленькае словазлучэнне заключае, факусіруе ў сабе багацце, вобразнасць маўлення, яго мастацкую выразнасць. Інакш кажучы, ужыванне словазлучэнняў убірае ў сябе ўсё, што ўваходзіць у паняцце «культура маўлення» *(І. Саматыя).*

● Выпішыце апорныя словазлучэнні з тэксту. Якую ролю выпісаныя словазлучэнні выконваюць у тэксце? Ці можна пагадзіцца з тым, што яны: а) дазваляюць пазбегнуць паўтору адных і тых жа слоў; б) служаць для сувязі сказаў у тэксце; в) дапамагаюць дакладна акрэсліць ролю «мінімальных адзінак сінтакісу» ў маўленні?

**83.** Прачытайце разважанні мастака М. Купавы пра ролю мовы ў грамадстве. Наколькі блізкія вам гэтыя разважанні? Выпішыце з тэксту словазлучэнні са словам *мова*.

Афарміце пісьмова свае разважанні на тэму «Роля мовы ў жыцці грамадства». Раскажыце пра сэнсава-стылістычную ролю і тэкстаўтва-

ральныя магчымасці выпісаных словазлучэнняў пры разгортванні тэмы, афармленні звязнага выказвання.

Родная мова — гэта яшчэ і сродак культуры.[сн] На роднай мове павінны працаваць школа, універсітэт.[сн] Гэта элементарная ўмова развіцця народа.[сн]

У маёй творчасці мова займае важнае месца, бо ўжо склалася пэўнае разуменне ролі і месца мовы ў нацыянальнай культуры, у нашым мастацтве, што і прымусіла мяне актыўна сцвярджаць гэту ўзаемасувязь сродкамі выяўленчага мастацтва.

Праблему мовы як асноўную ў сістэме дзяржаўнага будаўніцтва я вылучаю ў асобную, прынамсі, для сябе. Мова ў побыце, у культуры, у мастацтве, у школе бачыцца як адзіная жыццядзейная сістэма, як адзіны арганізм, як мацярык беларускасці. Я не магу падзяліць гэтыя сферы функцыянавання мовы або аддаць перавагу нейкай адной. Толькі паўнакроўнае бытаванне мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця надае моцы і велічы народнаму духу, стварае гістарычную перспектыву народа, з'яўляецца гарантам яго жыццяздольнасці і вечнасці.

- Выпішыце з тэксту складаныя словы, растлумачце іх правапіс.
- Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў тэксце.

**84.** Складзіце 10-15 словазлучэнняў з прапанаванымі дзеясловамі і назоўнікамі ў ролі галоўнага слова, арыентуючыся на навуковы стыль маўлення.

Абгрунтаваць *(што, чым)*, у адносінах *(да каго/чаго)*, акцэнтаваць *(што, на чым)*, аперыраваць *(чым)*, аргументаваць *(што, чым)*, водзыў *(на што)*, характарыстыка *(каго)*, характэрны *(для каго/чаго)*, глыбокі *(па чым)*, канферэнцыя *(па чым)*, канцэнтраваць *(што, на кім/чым)*, меркаваць *(пра што/каго)*, нязгода *(у чым, з кім/чым)*, параўнаць *(каго/што, з кім/чым)*, садзейнічаць *(каму/чаму)*, укараніць *(куды/дзе)*, разважаць *(пра каго/што)*, характэрны *(для каго/чаго)*, увасобіць *(што, у кім/чым)*.

**85.** Прачытайце фрагмент артыкула «Дзяржаўная мова» з энцыклапедыі «Беларуская мова». Выпішыце з тэксту словазлучэнні, у якіх галоўным або залежным з'яўляецца слова *мова*. Вызначце характар словазлучэнняў у навуковым тэксце.

Кожная мова ўжываецца ў розных сферах жыцця грамадства. Гэтыя сферы найперш падзяляюцца[с] на дзве групы — афіцыйную і побытавую. Афіцыйнай (ад лац. *officialis* — звязаны з урадам, з пасадай) называюць мову, на якой працуюць дзяржаўныя і адміністрацыйна-гаспадарчыя органы, грамадскія арганізацыі, установы навукі, культуры, службы быту, гандлю. На афіцыйнай мове вядзецца[с] навучанне і выхаванне ў сістэме адукацыі. Калі ж статус афіцыйнай мовы захоўваецца і адлюстроўваецца ў спецыяльных заканадаўчых актах, яна[ф] становіцца мовай дзяржаўнай. Дзяржаўнасць мовы — гэта юрыдычна замацаваны і рэгламентаваны парадак яе выкарыстання ва ўсіх або ў большасці разгалінаванняў афіцыйнай сферы грамадскіх зносін. Што да прыватных моўных кантактаў людзей, выбару імі мовы зносін з дзяржаўнымі органамі і ўстановамі, з рознымі грамадскімі арганізацыямі, то гэта было, ёсць і застаецца асабістай справай грамадзян.

Такім чынам, паняцце «дзяржаўная мова» звязана з мэтанакіраванай палітыкай дзяржавы, а паняцце «афіцыйная мова» — з практыкай, з традыцыямі выкарыстання моў у пэўным грамадстве[ф]. Наданне[сл] пэўнай мове статусу дзяржаўнай — акт выключнай нацыянальна-гістарычнай і нацыянальна-культурнай значнасці *(Я. Цумараў)*.

- Складзіце план тэксту. Да кожнага пункта плана выпішыце апорныя словазлучэнні. З іх дапамогай перадайце змест тэксту.
- Выпішыце просты сказ, зрабіце яго сінтаксічны разбор.
- Назавіце займеннікі ў тэксце. Вызначце іх разрады.

Словазлучэнні могуць уступаць у **сінанімічныя адносіны**. Сінанімічныя канструкцыі пры агульным блізкім значэнні маюць, як правіла, сэнсавыя і стылістычныя асаблівасці. Напрыклад, канструкцыі з прыназоўнікамі ***між, паміж*** з родным (радзей з творным) склонам слу-

жаць для абазначэння месца дзеяння або знаходжання каго- / чаго-небудзь у прасторы, абмежаванай з розных бакоў прадметамі: *праехаць **між** поля і лугу, сядзець **паміж** акном і сталом, стаяць **між** дрэў, знікнуць **між** дубоў, хадзіць **паміж** бяроз і кустоў.*

Канструкцыі з прыназоўнікам ***сярод*** у спалучэнні з родным склонам назоўніка служаць для абазначэння месца пасярэдзіне чаго-небудзь або ў акружэнні многіх прадметаў: *стаяць **сярод** плошчы, спыніцца **сярод** лесу, убачыць **сярод** хлопцаў.*

**86.** Падбярыце і запішыце да прыведзеных словазлучэнняў сінанімічныя.

Знікнуць **у тумане**, жыць у згодзе, вярнуцца **па вясне**, пачацца а трэцяй гадзіне, стаяць **пры дарозе**, разважаць **аб жыцці**, працаваць цэлыя дні, сустрэць месяц таму назад, **міласэрны** да хворых, чорны **ад дыму**, **адкрыты** з сябрамі, слізкі **пры ўваходзе**, розныя па адценнях, аднолькавыя па маштабах, ісці **да возера**, выбірацца **праз балота**, плакаць **з гора**, марыць **аб вясне**, парашкі **ад кашлю**, човен брата, жыць **у суседстве**, зрабіць **пад прымусам**.

● Растлумачце арфаграмы ў выдзеленых словах.



**87.** Прачытайце тэкст пра сінаніміку словаспалучэнняў з прыназоўнікамі ***ў*** і ***на***. Складзіце і запішыце сказы, у якіх раскрываецца спецыфіка ўжывання прыназоўнікаў.

Ёсць сэнсавая розніца паміж канструкцыямі з прыназоўнікамі ***ў*** і ***на***, якія ўжываюцца для ўказання на месца дзеяння. Калі трэба абазначыць месца ўнутры чаго-небудзь, то ўжываецца прыназоўнік ***у***, калі маецца на ўвазе месца на паверхні чаго-небудзь — прыназоўнік ***на***. Звычайна прыназоўнік ***на*** ўжываецца і ў тых выпадках, калі гутарка ідзе пра тое, што адбываецца ў тым ці іншым месцы: *быў **на** вечары, **на** нарадзе, **на** лекцыі, **на** семінары.*

Часта ўжыванне прыназоўнікаў ***у*** і ***на*** тлумачыцца толькі традыцыяй або захоўваецца па аналогіі. Правільна будзе

сказаць: *вучыцца* ***на*** *5-м курсе,* ***на*** *філалагічным факультэце, працаваць* ***на*** *заводзе, вучыцца* ***ў*** *5-м класе,* ***ва*** *ўніверсітэце, працаваць* ***у*** *рэдакцыі, прыехаць* ***у*** *Беларусь* (у паэтычнай мове ўжываецца таксама ***на*** *Беларусь*). Пры назоўніках — назвах дзяржаў, абласцей, гарадоў, сёл — ужываецца прыназоўнік ***у***: ***у*** *Германіі,* ***у*** *Кітаі,* ***у*** *Мінску,* ***у*** *Сібіры,* ***у*** *Гомельскай вобласці* (а л е: ***на*** *Гомельшчыне*), ***у*** *Данбасе* (а л е: ***на*** *Палессі*) і г. д. Пры назвах горнай мясцовасці ўжываецца прыназоўнік ***на***: ***на*** *Каўказе,* ***на*** *Урале,* ***на*** *Паміры.* Аднак пры тых назвах, якія маюць формы множнага ліку, выкарыстоўваецца прыназоўнік ***у***: ***у*** *Альпах,* ***у*** *Гімалаях,* ***у*** *Татрах* (параўн. таксама: ***у*** *гарах Паміра,* ***у*** *гарах Цянь-Шаня*).

Назвы ўстаноў і аддзелаў часцей спалучаюцца з прыназоўнікам ***у***: *іду* ***ў*** *міністэрства,* ***у*** *касу,* ***у*** *аддзел навукі.* Назвы прадпрыемстваў ужываюцца з прыназоўнікам *на*: ***на*** *фабрыцы,* ***на*** *заводзе,* ***на*** *шахце,* а л е: ***у*** *майстэрні,* ***у*** *цэху.* Некаторыя спалучэнні з прыназоўнікам ***на*** характэрны для гутаркова-прафесійнага ўжывання: *служу* ***на*** *флоце, працуе* ***на*** *радыё,* ***на*** *кінастудыі (М. Цікоцкі).*

## § 10. Сказ, асноўныя функцыі сказа

**Сказ** — сінтаксічная адзінка, арганізаваная сэнсава, інтанацыйна і граматычна, якая дапамагае аформіць і выказаць пэўную думку. Сказ адрозніваецца ад слова, словазлучэння функцыямі — прызначэннем, роляй у мове.

А с н о ў н ы я  п р ы м е т ы  с к а з а:

- сэнсавая завершанасць;
- інтанацыйная завершанасць;
- граматычная аформленасць;
- мадальнасць — адносіны зместу выказвання да рэчаіснасці. Гэта азначае, што падзеі, факты, пра якія паведамляецца, існуюць (існавалі, будуць існаваць) як рэальныя, магчымыя або пажаданыя. Напрыклад: *Мы жывём у Рэспубліцы Беларусь. Паэт яшчэ напіша цудоўныя вершы пра родную зямлю. Схадзіў бы ты, сынку, да бабулі, праведаў бы яе.*

Сказу ўласцівыя наступныя ф у н к ц ы і:

1) **камунікатыўная** — галоўная функцыя сказа, якая рэалізуецца ў зносінах паміж людзьмі ў працэсе абмену думкамі;

2) **інфармацыйная** функцыя азначае, што ў працэсе зносін перадаецца пэўная інфармацыя;

3) функцыя **ўздзеяння** рэалізуецца праз выражэнне волевыяўлення, пачуццяў, эмоцый таго, хто гаворыць: *Ну і характар!*

4) **назыўная** функцыя заключаецца ў тым, што сказ, у адрозненне ад слова і словазлучэння, называе не асобны прадмет ці з'яву, а падзею, сітуацыю, факт;

5) **тэкстаўтваральная** функцыя заключаецца ў здольнасці сказа ўдзельнічаць у арганізацыі тэксту, яго структурна-сэнсавых частак. Сказ выступае камунікатыўным цэнтрам, вакол якога разгортваецца выказванне.

**88.** Прачытайце прыказкі. Пра якія функцыі сказа, мовы ідзе гаворка ў народных выслоўях? Запішыце прыказкі, у якіх найбольш выразна, на вашу думку, народны вопыт адлюстраваў асноўныя функцыі мовы.

1. Язык і да Кіева давядзе. 2. Невядомая дарога на канцы языка. 3. Добрае слова далёка чуваць. 4. Ласкавае слоўка, як сонейка, грэе. 5. Ласкавае слова што дзень ясны. 6. Словы — гужы, за сэрца цягнуць. 7. Рана загоіцца[с], злое слова — ніколі. 8. Хто болей знае, той болей пытае. 9. За папы́т не будзеш біт. 10. Пустая гаворка не пагаворка. 11. Што аб тым гаварыць, чаго не[ф] мае быць. 12. Які розум, такая і[м] гаворка. 13. Якое пытанне, такі і адказ. 14. Яна загаворыць, як у званок зазвоніць, яна заспявае[ф], як на скрыпцы зайграе[с] *(З запісаў А. Каўруса).*

● Зрабіце поўны сінтаксічны разбор двух простых сказаў.

**89.** Прачытайце ўрывак з артыкула В. Віткі. У якой ступені, на вашу думку, аўтар справядлівы ў сваіх разважаннях? Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў тэксце.

Разбурэнне сям'і — адно з самых вялікіх няшчасцяў для нас, славян. Цынічнае развянчанне самой[м] ідэі святасці

сям'і — бяда ў сто разоў, у тысячу разоў горшая, чым некаторыя думаюць[с]. Без стабільнай сям'і не можа быць стабільнага грамадства. За развалам сям'і стаіць развал яго сацыяльных і маральных асноў, развал будучыні, бо гэта — катастрафічны ўдар па дзецях, па іх[ф] кволых душах і сэрцах. «Ой, як ён перабольшвае, як празмерна абагульняе!» — прадбачу я пярэчанні[сл] і нязгоду. Быў бы шчаслівы, каб мае трывогі аказаліся перабольшанымі. Але — на жаль, на жаль! Рэальнасць гаворыць, што трывогу трэба біць яшчэ мацней.

● Выпішыце з тэксту словы, якія адпавядаюць наступным арфаграфічным правілам беларускай мовы: «Правапіс падоўжаных зычных», «Правапіс ***е***, ***ё***, ***я***», «Правапіс спалучэнняў галосных у запазычаных словах», «Правапіс суфіксаў дзеясловаў», «Правапіс спалучэнняў зычных». Запішыце па 3-4 уласныя прыклады на кожнае правіла. Вусна ўзнавіце змест правіл.

У з о р: *перабольшвае, сям'я; зеленаваты, лесавік, ляснік, лесьнічоўка, зацвярдзенне* (правапіс галосных ***е***, ***ё***, ***я***).

**90.** Прачытайце тэкст, вызначце яго тэму і асноўную думку. Выпішыце апорныя словазлучэнні. На іх аснове сцісла перадайце змест тэксту з дапамогай простых сказаў.

Знакамітыя людзі заўсёды бачылі прызначэнне мовы і культуры ў тым, каб гуманізаваць свет і адносіны людзей у ім. Гэта магчыма тады, калі ўсё грамадства, кожны чалавек павернецца да вопыту продкаў, навучыцца ўспрымаць, асэнсоўваць, ацэньваць і ўжываць роднае слова, усведамляць яго спрадвечнае прызначэнне — узвышаць чалавека, яго думкі, пачуцці і ўчынкі.

П. А. Вяземскі пісаў: «Слова дадзена ад Бога чалавеку на дабро, дзеля таго, каб людзі разумелі адзін аднаго, спачувалі і дапамагалі бліжнім». Словам нашы продкі лячылі хваробы, бараніліся ад лютага звера, благіх людзей і ліхога вока, дамаўляліся з непрыяцелем. Наша пакаленне занядбала роднае слова, прынізіла яго аўтарытэт у грамадстве, навуцы, педагогіцы, палітыцы і гаспадарчым жыцці, абме-

жавала сферу ўжывання вёскай і сялянскай хатай, зрабіла прадметам спекулятыўных групавых спрэчак. Прыйшоў час накіраваць сілу роднага слова на службу згодзе і братэрству, дружалюбнасці паміж людзьмі і народамі, нацыямі і дзяржавамі.

Добра, калі ў калектыве і краіне кожны грамадзянін пастаянна адчувае прыхільныя адносіны з боку сваіх суайчыннікаў, калі ён выхаваў патрэбу і звычку выкарыстоўваць роднае слова з мэтай узвышанага, высакароднага і прыгожага *(В. Протчанка)*.

● Выпішыце з тэксту назоўнікі ў форме меснага склону. Растлумачце правапіс канчаткаў назоўнікаў.

● Выпішыце слова, што ілюструе правіла «Правапіс галосных у складаных словах». Запішыце ўласныя прыклады на правапіс галосных ***а, о, е, я*** ў складаных словах.

**91.** Прачытайце. Прааналізуйце паслядоўнасць разбору простага сказа. Дайце азначэнне выдзеленым лінгвістычным тэрмінам.

### ПАРАДАК СІНТАКСІЧНАГА РАЗБОРУ ПРОСТАГА СКАЗА

1. Від сказа паводле будовы.
2. Від сказа паводле мэты выказвання: *апавядальны, пытальны, пабуджальны*.
3. Від сказа паводле эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўкі: *клічны, няклічны*.
4. Від сказа паводле характару адносін да рэчаіснасці: *сцвярджальны, адмоўны*.
5. Від сказа паводле структурнай абавязковасці членаў сказа: *поўны, няпоўны*.
6. Від сказа паводле наяўнасці галоўных членаў: *аднаса́стаўны, двухса́стаўны*.
7. Від сказа паводле наяўнасці даданых членаў сказа: *разві́ты, неразві́ты*.
8. Від сказа паводле ўскладненасці/няўскладненасці: *ускладнены* (аднароднымі членамі, адасобленымі членамі,

зваротkам, пабочнымі канструкцыямі, параўнальнымі зваротамі), *няўскладнены*.

9. Характарыстыка граматычнай асновы.

10. Характарыстыка дададзеных членаў сказа саставу дзейніка і выказніка.

11. Графічны разбор сказа.

Узор. *Адшумелі свой час неспакойныя, трывожныя вятры.*

*Сказ просты, апавядальны, няклічны, сцвярджальны, поўны, двухсастаўны, развіты, ускладнены аднароднымі азначэннямі.*

*Граматычная аснова: дзейнік* ***вятры*** *выражаны назоўнікам у форме Н. скл., мн. л.; выказнік* ***адшумелі*** *просты, дзеяслоўны, выражаны дзеясловам у форме абв. л., мн. л., пр. ч.; дададзеныя члены сказа саставу дзейніка:* ***неспакойныя, трывожныя*** *(вятры) — дапасаваныя аднародныя азначэнні, выражаныя прыметнікамі ў форме Н. скл., мн. л.; дададзеныя члены сказа саставу выказніка: (адшумелі) час — дапаўненне, выражанае назоўнікам у форме В. скл., адз. л.; свой (час) — дапасаванае азначэнне, выражанае прыналежным займеннікам у форме В. скл., адз. л.*

**92.** З прапанаваных тэкстаў (на выбар) выпішыце просты сказ, зрабіце яго пісьмовы сінтаксічны разбор. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў тэкстах.

**I.** З глыбіні лесу яркімі чырвонымі ягадамі зырка свяціла[ф] каліна. Над дарогай звісалі тонкія, пазгіналыя[м] зімою ад снегу, што ўжо і раслі гэтак, не ўстаючы, маладыя дубкі. Чорная, з вострым вяршком яблыня густа наслала пад сабою лісце, хаваючы[с] дробныя пахучыя яблыкі, што асыпаліся ў першыя замаразкі *(В. Адамчык)*.

**II.** Зіма была побач, і аднойчы яна навалілася на зямлю снегавым покрывам. Раніцаю зацярушанае[с] снегам ласяня стрэсла яго з хрыбта і лёгкім крокам падалося карміцца. Снежны дыван быў быццам вытканы[м] ўзорамі-слядамі рознай лясной жыўнасці: дробная мышыная вязь перапляталася з адбіткамі задніх заечых[ф] ног, кіпцюрыстымі ямачкамі ад ласкі *(Д. Нічыпаровіч)*.

## § 11. Сінтаксічныя прыметы двухсастаўных і аднасастаўных сказаў, няпоўных сказаў

Простыя сказы паводле наяўнасці аднаго ці двух галоўных членаў сказа падзяляюцца на двухсастаўныя і аднасастаўныя.

**Двухсастаўны сказ** — гэта сказ, граматычная аснова якога прадстаўлена саставам дзейніка і выказніка: *Няхай у ясным небе цішыня заўсёды застаецца!* (С. Грахоўскі).

Дзейнік і выказнік у беларускай мове маюць розныя спосабы выражэння. Традыцыйна адрозніваюць наступныя тыпы выказнікаў:

1) **просты дзеяслоўны** выражаецца словам або спалучэннем слоў, што ўтвараюць адну граматычную форму. Як правіла, такі выказнік выражаны дзеясловам у форме абвеснага, умоўнага, загаднага ладу або інфінітывам: *Зорка Венера ўзышла над зямлёю* (М. Багдановіч). *Аддаў бы я край самы райскі і дзіўны за цень ад сасны на далёкай Радзіме* (П. Панчанка). *Хай зайздрасць душу не шкрабе* (Р. Шкраба). *Жыццё пражыць — не поле перайсці* (Прыказка). Просты дзеяслоўны выказнік можа быць выражаны ўстойлівым спалучэннем слоў: *Зіма ўбіралася ў сілу*.

Просты дзеяслоўны выказнік можа быць ускладнены — выражаны двума аднолькавымі або сінанімічнымі дзеясловамі: *Жылі-былі дзед ды баба. Зязюля ўсё лічыць і лічыць гады*;

2) **састаўны дзеяслоўны** складаецца з дзеяслова-звязкі (*пачаць, стаць, заканчвацца, хацець, жадаць, магчы, умець* і інш.) і неазначальнай формы дзеяслова, што выражае асноўнае лексічнае значэнне выказніка: *Я мару наведаць Парыж*. У ролі звязкі могуць выступаць прыметнікі *гатоў, рад, павінен, абавязаны*: *Чалавек павінен імкнуцца да ідэалу*;

3) **састаўны іменны** складаецца з дзеяслова-звязкі (*быць, называцца, стаць, з'яўляцца, рабіць, працаваць, ляжаць* і інш.) і іменнай часткі, якая выражае асноўнае лексічнае значэнне. У ролі іменнай часткі выступаюць назоўнікі, прыметнікі, лічэбнікі, займенннікі, прыслоўі, дзеепрыметнікі: *Яна была разумная і прыгожая*. Дзеяслоў-звязка можа адсутнічаць, у такім выпадку гаворка ідзе пра *нулявую звязку*: *Яна (ёсць) прыгожая і разумная*. Нулявая звязка выражае граматычнае значэнне цяперашняга часу абвеснага ладу. Форма цяперашняга часу дзеяслова *ёсць* ужываецца ў навуковым і публіцыстычным стылях, зрэдку — у мове мастацкай літаратуры: *Жыццё ёсць радасць, вялікае шчасце, бясцэнны дар* (Я. Колас).

● Сфармулюйце і запішыце 4-5 пытанняў да вучэбнага тэксту. Вусна адкажыце на іх, запісаўшы адпаведныя прыклады.



**93.** Прачытайце тэкст. Раскажыце, якія прыёмы трэба ведаць, каб правільна вызначыць галоўныя члены ў двухсастаўным сказе.

Цяжкасці выклікае аналіз сказаў, у якіх не толькі дзейнік, але і выказнік выражаны назоўнікам у назоўным склоне: *Агінскія — стары апалячаны беларускі род* (У. Караткевіч). Для размежавання дзейніка і выказніка ў такіх сказах можна выкарыстоўваць прыём замены аднаго з назоўнікаў у форме назоўнага склону назоўнікам у форме творнага склону ў спалучэнні з дзеясловамі *з'яўляцца, станавіцца, лічыцца* і інш. Назоўнік, форму якога можна замяніць формай творнага склону, выконвае ў сказе функцыю выказніка: *Агінскія з'яўляюцца беларускім родам*. Аналагічна галоўныя члены сказа размяжоўваюцца таксама ў выпадках, калі яны выражаны іншымі іменнымі часцінамі мовы або адзін выражаны іменем, а другі — інфінітывам. Параўн.: *Не ўсё тое мёд, што салодка* (Прыказка). — *Не ўсё тое з'яўляецца мёдам, што бывае салодкім. Маё вялікае і даўняе*

*жаданне — ва ўсім будзённым бачыць урачыстасць* (Я. Сіпакоў). — *Маім вялікім і даўнім жаданнем з'яўляецца ва ўсім будзённым бачыць урачыстасць.*

На сінтаксічную функцыю інфінітыва можа ўплываць яго месца ў сказе. Калі інфінітыў займае пазіцыю пасля безасабова-прэдыкатыўнага слова, іх спалучэнне выступае як галоўны член аднасастаўнага безасабовага сказа: *Радасна чуць голас роднай зямлі* (К. Кірэенка).

Інфінітыў на першым месцы ў двухсастаўным сказе выступае дзейнікам: *Чуць голас роднай зямлі радасна* (Н. Даўбешка).

● Складзіце (падбярыце) і запішыце сказы, у якіх дзейнік і выказнік выражаны назоўнікам у форме назоўнага склону. Падкрэсліце граматычныя асновы.

**Аднасастаўнымі** называюцца сказы з адным галоўным членам, які суадносіцца з дзейнікам або выказнікам двухсастаўнага сказа. Другі галоўны член у аднасастаўным сказе не падразумяваецца. Яго адсутнасць нельга лічыць паказчыкам непаўнаты сказа: *Кнігі палілі, супраць іх выдавалі ўказы* (У. Караткевіч).

У залежнасці ад спосабу выражэння галоўнага члена аднасастаўныя сказы падзяляюцца на дзве групы:

1) з галоўным членам, суадносным з выказнікам (пэўна-асабовыя, няпэўна-асабовыя, абагульнена-асабовыя, безасабовыя);

2) з галоўным членам, суадносным з дзейнікам (назыўныя).

**Пэўна-асабовыя** — аднасастаўныя сказы, у якіх утваральнікам дзеяння з'яўляецца пэўная асоба. Галоўны член пэўна-асабовых сказаў выражаецца дзеяслоўнымі формамі 1-й і 2-й асобы адзіночнага і множнага ліку цяперашняга або будучага часу абвеснага ладу, а таксама формай 2-й асобы адзіночнага і множнага ліку загаднага ладу: *Люблю зямлю, што пахне лесам* (С. Грахоўскі). *Звіні ж вякамі, мова, на-пад краем* (В. Гардзей).

**Няпэўна-асабовымі** называюцца сказы, у якіх дзеянне выконваецца няпэўнымі або невядомымі асобамі. Галоўны член выражаны дзеясловам у форме 3-й асобы множнага ліку і ўказвае на дзеянне, якое выконваецца няпэўнымі асобамі *(нехта, хтосьці)*. Напрыклад: *У нашым свеце так цалуюць рукі толькі маці* (Я. Брыль). Выказнік у няпэўна-асабовых сказах можа быць выражаны дзеясловам у форме прошлага часу множнага ліку: *Студэнцкія білеты ўрачыста ўручалі а 13-й гадзіне*.

**Абагульнена-асабовыя** — аднасастаўныя сказы, у якіх названае дзеянне можа адносіцца да любой асобы, да кожнага. Выказнік выражаецца формамі дзеясловаў 2-й асобы абвеснага або загаднага ладу: *Не лічыце кветачкі ўвесну, а палічыце ягадкі ўвосень* (Прыказка). Галоўны член сказа можа быць выражаны дзеясловамі ў форме 3-й і 1-й асобы множнага ліку: *Навуку за плячыма не носяць* (Прыказка). *Увосень за стол просім* (Прыказка).

**Безасабовымі** называюцца сказы, у якіх дзеянне (стан, прымета) адбываецца само па сабе, безадносна да яго ўтваральніка. Галоўны член сказа можа быць выражаны безасабовым дзеясловам, асабовым дзеясловам у безасабовым значэнні, дзеепрыметнікам залежнага стану, прыслоўем са значэннем стану, адмоўным словам *няма* і дзеясловам *не было*, інфінітывам у спалучэнні з іншым дзеясловам. Напрыклад: *Не спалася. Веяла холадам. У пакоі прыбрана. Яму стала спакойна. Няма больш халадоў. На сустрэчы яго не было. Хацелася спаць*.

**Назыўныя сказы** — аднасастаўныя сказы, у якіх сцвярджаюцца наяўнасць, існаванне прадметаў, з'яў. Галоўны член назыўнога сказа — назоўнік у назоўным склоне: *Шляхі-дарогі. Куды яны вядуць? Дзве дзяўчыны*. Назыўныя сказы, як і іншыя аднасастаўныя, бываюць развітыя і неразвітыя: *Туманнае ранне. Узлессе* (Я. Брыль).

**94.** Разгледзьце схему. З апорай на яе ўзнавіце азначэнне пэўна-асабовага, няпэўна-асабовага, абагульнена-асабовага, безасабовага, назыўнога сказаў. Запішыце ўласныя прыклады на ўсе віды аднасастаўных сказаў.

| **Віды аднасастаўных сказаў** | **Спосаб выражэння галоўнага члена сказа** | **Прыклады** |
| --- | --- | --- |
| Пэўна-асабовыя | Выказнік выражаны дзеясловам у форме 1-й ці 2-й асобы адз. або мн. л. | *Люблю цябе, мой край зеленавокі.* |
| Няпэўна-асабовыя | Выказнік выражаны дзеясловам у форме 3-й асобы мн. л. цяп. або буд. ч., дзеясловам пр. ч. мн. л. | *Яго называлі надзеяй маці.* |
| Абагульнена-асабовыя | Выказнік выражаны дзеясловам у форме 2-й асобы цяп. або буд. ч., 2-й асобы заг. ладу | *Не шукай ветру ў полі* (Я. Колас). |
| Безасабовыя | Выказнік выражаны безасабовым дзеясловам | *Цямнела. Змяркалася.* |
| Назыўныя | Ёсць адзін галоўны член сказа — дзейнік, выражаны назоўнікам у форме назоўнага склону | *Позняя ноч. Цішыня.* |

**95.** Перабудуйце двухсастаўныя сказы ў безасабовыя. Як змяняюцца сэнс і структура сказаў?

1. Мы адпачываем весела. 2. Андрэй не спіць. 3. Міхась **нездаровы.** 4. Алеся хоча стаць **балерынай.** 5. Моладзь ве-

рыць у будучыню. 6. Антон спадзяецца заняць першае месца па валейболе.

● Запішыце перабудаваныя сказы. Падкрэсліце галоўны член сказа, растлумачце спосаб яго выражэння.

● Растлумачце правапіс выдзеленых слоў. Сфармулюйце правілы, запішыце па 5-7 прыкладаў на адпаведныя арфаграмы.

**96.** Прачытайце. Выпішыце прыклады аднасастаўных сказаў на розныя спосабы выражэння галоўнага члена сказа. Пры неабходнасці запішыце ўласныя прыклады.

1. Як дбаеш, то й павагу маеш *(Прыказка)*. 2. На вуліцы стаяў гоман. 3. Верасень. Дажджы. Сонца грэе слаба *(І. Шамякін)*. 4. Дзень пачынаю думкаю пра цябе *(Р. Барадулін)*. 5. Да чаго не дойдзеш, тое ў кніжцы знойдзеш *(Прыказка)*. 6. Каціўся верасамі вясельны каравай: — Ой, дзеўка, абрусамі застолле накрывай! *(Р. Барадулін)*. 7. Не сядзіцца ў хаце хлопчыку маломү *(Я. Купала)*. 8. Жыві і цэльнасці шукай, аб шыраце духоўнай дбай *(М. Багдановіч)*. 9. Кідаю самыя неадкладныя справы і нібы без дай прычыны еду ў свой любы палескі край *(С. Грахоўскі)*. 10. З набліжэннем вечара мароз узмацніўся. У такі час імкнёмся хутчэй дахаты, бо там утульна і цёпла *(«Родная прырода»)*. 11. І гэтай песні нельга стрымаць *(П. Панчанка)*. 12. Звечара зорна, месячна *(К. Чорны)*. 13. Кранеш адно — усплывае другое *(Я. Колас)*.

● Ці заўсёды аднасастаўныя сказы можна перабудаваць у двухсастаўныя? Чаму?

**97.** Прачытайце. Выпішыце 6-7 прыказак у форме аднасастаўных сказаў. Падкрэсліце галоўны член сказа ў выпісаных прыкладах. Як народная мудрасць вучыць адносіцца да мовы, да сказанага слова?

1. Ад праўды нікуды не дзенешся[ф]. 2. Без'языкага[сл] за адваката не бяруць. 3. Губа ні ў кога не замкнёна[м]. 4. Доб-

рае слаўцо лепш, чым піўцо. 5. За доўгі язык не пахваляць. 6. З добрай песняй[ф] жыць весялей. 7. З мора вады не выліць, з песні слова не выкінуць. 8. Конь вырвецца[с] — дагоніш і зловіш, а слова вырвецца — не зловіш. 9. Людскога[ф] языка не завяжаш. 10. На праўдзе свет стаіць. 11. На чужы рот гузіка не нашыеш. 12. Не[ф] той багата ведае, хто багата гаворыць. 13. Не ўсякаму слову вер. 14. Няма тае хусты, каб завязаць людзям вусны. 15. Раз не было песень, то не было і[м] вяселля. 16. Усё казаць — ворагаў нажываць[с]. 17. Язык і Кіева дапытаецца[с].

**Поўнымі** называюцца сказы, у саставе якіх ёсць неабходныя для іх структуры члены сказа: *Мне сняцца сны аб Беларусі* (Я. Купала).

**Няпоўныя** — сказы, у якіх прапушчаны пэўныя галоўныя або даданыя члены сказа, якія ўзнаўляюцца з кантэксту: *Раны гояцца часам, а дружбаю — гора* (А. Куляшоў). Складаназлучаны сказ, першая частка якога ўяўляе сабой просты поўны сказ, другая частка — просты няпоўны сказ, у якім адсутнічае выказнік *гоіцца*. Прапушчаныя члены сказа лёгка ўзнаўляюцца на аснове кантэксту папярэдніх сказаў, абставін маўленчай сітуацыі. На месцы пропуску члена сказа звычайна робіцца інтанацыйная паўза, а на пісьме ставіцца працяжнік.

У няпоўным двухсастаўным сказе дзейнік або/і выказнік могуць адсутнічаць, але пры гэтым лёгка падказваюцца кантэкстам або маўленчай сітуацыяй. Напрыклад: *Ранні пар любіць пшанічку, а позні — мятлічку* (Прыказка). — *Ранні пар любіць пшанічку, а позні (пар любіць) — мятлічку.*

Няпоўныя сказы надаюць тэксту дынамізм, эмацыянальнасць. Яны актыўна выкарыстоўваюцца ў гутарковым і мастацкім стылях маўлення: *Трэба вучыцца жыць у дзяцей. І яшчэ — у выдатных людзей* (А. Вярцінскі).

**ЗАПОМНІЦЕ!**

Трэба размяжоўваць *назыўныя сказы* і *няпоўныя двухсастаўныя*, у якіх прапушчаны выказнік, але ёсць дадзеныя члены сказа з саставу выказніка. Параўнайце: *Прыгожыя зоркі* (назыўны сказ). *У цёмным небе — прыгожыя зоркі* (няпоўны двухсастаўны сказ, бо ў ім ёсць акалічнасць месца з саставу выказніка, які лёгка ўзнаўляецца з кантэксту (*свецяцца* д з е? *у небе*)).

**98.** Прачытайце сказы. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку. Выпішыце няпоўныя сказы. Якія члены сказа ў іх прапушчаны?

1. Яшчэ ляжаў снег, і дні былі пахмурныя. 2. Вакол хаты — прыгожая агароджа, пад акном — града кветак. 3. Блізка зарыпеў снег — на вузкай сцежцы Андрэй заўважыў[с] аленя *(У. Карпаў)*. 4. Спрэчка не была скончана — гэта разумеў кожны *(Т. Хадкевіч)*. 5. Гусь уранні[м] выйшла з хаты, важна тупае[с] лужком. А за ёю — гусяняты, дзе падскокам, дзе трушком *(А. Вольскі)*. 6. Пасееш учынак — пажнеш прывычку *(Прыказка)*. 7. Спелі[ф] ягады. За суніцамі — чарніцы.

## § 12. Сінтаксічныя прыметы сказаў з аднароднымі членамі, ужыванне, знакі прыпынку

Члены сказаў, якія адказваюць на адно і тое ж пытанне, адносяцца да аднаго і таго ж слова, вымаўляюцца з інтанацыяй пералічэння, называюцца **аднароднымі**. Напрыклад: *Агністае, чырвонае* ***сонца*** *паціху хавалася за лес.*

Н е з'я ў л я ю ц ц а а д н а р о д н ы м і:

1) кампаненты выказнікаў *(пайду пашукаю)*;

2) фразеалагічныя спалучэнні *(і смех і грэх)*;

3) члены сказа, выражаныя паўторам слоў: *Срэбны званочак падымаў сваю песню вышэй і вышэй* (І. Грамовіч).



**99.** З апорай на табліцу назавіце прыметы аднароднасці-неаднароднасці азначэнняў.

| Аднародныя азначэнні | Неаднародныя азначэнні |
|---|---|
| ● характарызуюць прадмет паводле агульнай прыметы, паводле аднатыпных, сінанімічных уласцівасцей: *Лес заселены добрымі, спагадлівымі звярамі і птушкамі* (У. Мяжэвіч); | ● характарызуюць прадмет з розных бакоў: *Па асеннім небе плылі чорныя кудлатыя хмары*; |
| ● выражаныя прыметнікамі аднаго разраду (толькі якаснымі або толькі адноснымі): *Цёпламу, яснаму дню радуецца кожная жывая істота* (І. Навуменка); | ● адно з іх выражана якасным прыметнікам, а другое — адносным: *Шчодра ліло цяпло яскравае красавіцкае сонца* (І. Шамякін); |
| ● адно з азначэнняў выражана прыметнікам, другое — дзеепрыметнікам: *Не ные толькі сэрца бессардэчнае, счарсцвелае...* (Н. Гілевіч); | ● калі дзеепрыметнік (дзеепрыметнікавы зварот) папярэднічае прыметніку: *За ноч патаўсцелі ўсланыя лёгкім пухам тонкія стрэхі хат* (В. Адамчык); |
| ● адно з азначэнняў дапасаванае, а другое — недапасаванае: *Здалёк даносіўся моцны, з перакатамі гул* (М. Лынькоў); | |
| ● азначэнні, якія стаяць пасля паяснёнага назоўніка: *Хлопец, высокі, з разумнымі вачыма, падабаўся мне дайно.* | З а ў в а г а. Не могуць звязвацца паміж сабой злучнікамі: *Паабапал дарогі пацягнуўся бор з высокімі старымі соснамі* (І. Шамякін). |



**100.** Прачытайце схему. Раскажыце з апорай на яе пра пастаноўку знакаў прыпынку ў сказах з абагульняльнымі словамі пры аднародных членах. Прывядзіце адпаведныя прыклады.

**АБАГУЛЬНЯЛЬНЫЯ СЛОВЫ ПРЫ АДНАРОДНЫХ ЧЛЕНАХ СКАЗА**

| Лексіка-семантычная роля ў сказе | Месца ў сказе | Знакі прыпынку |
|---|---|---|
| Называюць родавае, больш шырокае паняцце | Перад аднароднымі членамі і пасля іх | Перад аднароднымі членамі — двукроп'е, пасля — працяжнік |
| *Каля школы раслі пайднёвыя* ***дрэвы:*** *акацыя, каштан, грэцкі арэх.* | Перад аднароднымі членамі | Двукроп'е |
| *І мастакі, і авіямадэлісты, і фатографы, і турысты —* ***усе*** *знойдуць у нашай школе занятак па душы.* | Пасля аднародных членаў | Працяжнік |
| ***Усё:*** *і хмурнае неба, і мёрзлая зямля — было ахоплена нечым сумным, халодным і грозным.* | Перад аднароднымі членамі, але сказ імі не заканчваецца | Двукроп'е — пасля абагульняльнага слова, працяжнік — пасля аднародных членаў |

**ЗАПОМНІЦЕ!**

1) Аднародныя члены сказа і абагульняльныя словы пры іх з'яўляюцца адным і тым жа членам сказа;

2) калі пасля абагульняльнага слова перад аднароднымі членамі сказа ёсць пабочныя словы *напрыклад, а іменна, а менавіта*, то двукроп'е ставіцца пасля яго: *У кнігарні прадавалі і канцылярскія тавары,* ***а іменна:*** *сшыткі, ручкі, алоўкі, сціркі і інш.*

**101.** Прачытайце сказы. Назавіце аднародныя члены сказа і абагульняльныя словы пры іх. Вызначце іх сінтаксічную ролю. Спішыце, расстаўце знакі прыпынку, абгрунтуйце іх пастаноўку.

1. Стэп і неба ўсё ў змроку шэрым *(М. Танк)*. 2. Белыя вышываныя сарочкі вянкі ўсё стракатае каляровае рухаецца вакол нечага, што цяжка разгледзець[с] здалёку *(В. Іпатава)*. 3. Шчыра сказаць тут духмянае ўсё наваколле вада паветра неба зоркі расліны *(В. Казько)*. 4. І дзе б ён ні знаходзіўся што б ні рабіў араў зямлю сеяў касіў усюды спяваў. 5. Наогул яе [настаўніцу] любілі ўсе вучні настаўнікі калгаснікі *(І. Шамякін)*. 6. На ўроках мовы праводзяцца[с] розныя віды работ напрыклад дыктанты сачыненні пераказы. 7. Вялася звычайная размова знаёмых людзей у першыя[м] хвіліны сустрэчы пра надвор'е пра здароўе пра навіны. 8. Рыбацкая снасць сетка нераты вуды была адмысловая ў дзядзькі[ф] Марціна *(Я. Колас)*.

**102.** Спішыце, расстаўце знакі прыпынку і растлумачце іх пастаноўку ў сказах з аднароднымі членамі. Назавіце ўмовы аднароднасці і неаднароднасці азначэнняў.

1. А потым спадарожнікамі сталі пагоркі нарачанскія і далі і прыдарожныя бярозы хвоі і птушкі і аблокі нада мною *(М. Танк)*. 2. Калі пакідаеш Радзіму, становяцца снамі і людзі і сосны *(М. Танк)*. 3. Цяпер, калі б я ні прыязджаў, сустракае то нясмелай яшчэ травою то спасаўскім яблыкам то здрыжэлым апошнім лістом то ганарыстым снегам вечная маміна хата. А мама сама не выйдзе *(Р. Барадулін)*. 4. Той дзень, лічы, завянуў пустацветам, калі ты пяць хвілін

пашкадаваў[с], каб дзецям паказаць куточак свету і хараство людзей і дрэў і траў *(П. Панчанка)*. 5. Нашы дзяды і бацькі бабулі і матулі ўмелі шанаваць хлеб *(М. Чарняўскі)*. 6. Мала знойдзецца на зямлі такіх месцаў дзе б так прыгожа спалучаліся і балоты і горы і лес. 7. Буслы збіраліся ў чароды і доўга стаялі на грудах або лянiва аглядалі лагчыны *(Я. Колас)*. 8. Ляснік — першы ў наваколлі паляўнічы і рыбак найлепшы і грыбнік *(В. Вольскі)*. 9. Успомняцца стэпы пушчы і бор і горы і мора і зорны прастор *(П. Броўка)*.

● Выпішыце дзеясловы ў форме 3-й асобы адзіночнага і множнага ліку, абазначце канчаткі, растлумачце іх правапіс.

**103.** Прачытайце тэкст. Выпішыце сказы з аднароднымі членамі, расстаўце знакі прыпынку, абгрунтуйце іх пастаноўку.

У цэнтры горада-героя Мінска, паміж галоўнай магістраллю сталіцы і нетаропкай Свіслаччу, раскінуўся адзін з найбольш маляўнічых паркаў — Купалаўскі.

У глыбіні цэнтральнай алеі сустракае гасцей велічны выліты з бронзы помнік Янку Купалу. Фігура паэта размешчана на нізкім гранітным пастаменце, які паўтарае прыродныя формы. Гэта груба абчасаная скала з натуральнымі выемкамі і выступамі.

Скульптары стварылі магутную бронзавую фігуру ў руху. Паэт ідзе, абапіраючыся на кій, у накінутым на плечы паліто. Імкненне наперад перадаюць і пастава і погляд паэта, скіраваныя ўдалячынь. Любога ўразіць вялікі высакародны лоб песняра выразныя крыху сумныя вочы з цяжкімі павекамі тонкі з лёгкай гарбінкай нос і ў той жа час мужны валявы падбародак. Выразны акрэслены сілуэт помніка добра глядзіцца на фоне неба і дрэў. Ствараецца ўражанне, што паэт ідзе па роднай зямлі насустрач свайму народу, якому прысвяціў вечную неўміручую ліру *(Паводле М. Чырскага)*.

● Выпішыце словы, якія ілюструюць правілы «Правапіс ***о, э, а***», «Правапіс ***е, ё, я***», «Правапіс галосных у складаных словах». Вусна ўзнавіце гэтыя правілы.

● Складзіце і запішыце невялікі тэкст (7-8 сказаў) на тэму «Творчасць Янкі Купалы». Скарыстайце сказы з аднароднымі членамі.



**104.** Дапоўніце табліцу ўласнымі прыкладамі (2-3 сказы на кожны пункт правіла).

**Коска паміж аднароднымі членамі сказа**
**н е  с т а в і ц ц а:**

| | |
|---|---|
| 1. Паміж аднароднымі членамі з адзіночнымі злучнікамі ***і, ды (=і), ці, або***<br>◯ *і* ◯; ◯ *ці* ◯ | *З цяністых груш **і** яблынь маладых сарваў лісты гаручыя віхор* (М. Танк). |
| 2. Перад злучнікам ***і***, які паўтараецца, але звязвае розныя рады аднародных членаў<br>◯ *і* ◯ ◯ *і* ◯ | *Тысячу гадоў назад большую частку цэнтральнай **і** ўсходняй Еўропы пакрываў дзікі **і** цёмны першабытны лес* (Каляндар «Родны край»). |
| 3. Паміж аднароднымі членамі сказа, звязанымі неаднолькавымі злучнікамі<br>◯ *і* ◯ *ды* ◯ | *Грузды **і** махавікі **ды** лісічкі хутка напоўнілі нашы кошыкі* (З. Бядуля). |
| 4. Перад першым паўторным злучнікам, калі з яго пачынаецца пералічэнне<br>*і* ◯, *і* ◯, *і* ◯ | *На стале **і** вінаград, **і** яблыкі, **і** слівы.* |
| 5. Паміж аднароднымі членамі сказа, якія ўтвараюць цэласнае сэнсавае адзінства і вымаўляюцца без інтанацыі пералічэння<br>*і* ◯ *і* ◯ | *Рух узняўся за лесам **і** лязгат **і** гром немалы* (А. Куляшоў). |

**105.** Прачытайце сказы. Спішыце, раскрываючы дужкі. Пастаўце, дзе неабходна, знакі прыпынку і абгрунтуйце іх пастаноўку.

1. І дома і на людзях я не крывіў душой *(І. Капыловіч)*. 2. На прыёме сядзела сарака*(гадовая)* светла*(валосая)* жан-

чына *(В. Гігевіч)*. 3. Шум дажджу раскаты грому бліскаўкі маланак скрыгат і трэск усё змяшалася *(Г. Пярун)*. 4. Але дажджавыя хмары ці то засердавалі ці то недзе заблудзілі... *(А. Камароўскі)*. 5. Юрый прынёс свежую па ўсіх правілах завараную гарбату пачаў разліваць па кубках *(Г. Васілеўская)*. 6. Час не мяняе людзей але ў паводзінах іх заўсёды нешта зыначвае[с] дадае ці выкрэслівае *(К. Камейша)*. 7. Ты не падманеш і не здрадзіш і не схітрыш ні ў чым ніколі *(А. Зэкаў)*. 8. Пра сваё здароўе трэба клапаціцца што*(міг)* што*(дня)* ў любое надвор'е *(У. Ліпскі)*. 9. У акварыуме ў дзівосна*(загадкавым)* ззянні сярод раслін плавалі не менш дзівосныя рыбы і трох*(кутнічкі)* з чорнымі доўгімі плаўнікамі і блакітнавата*(рубінавыя)* рыбкі*(агеньчыкі)* і лянівыя аксамітна*(чорныя)* таўстуны і залаціста*(ружовыя)* з вялікімі нібы марлевымі хвастамі *(П. Місько)*. 10. Смех жарты галасістыя дзявочыя песні разносіліся над пацямнелай прырэчнай нізінай *(Т. Хадкевіч)*.

**106.** Спішыце сказы, афармляючы іх у адпаведнасці з пунктуацыйнымі нормамі. Раскрыйце дужкі і ўстаўце прапушчаныя літары. Пракаменціруйце пунктуацыйнае афармленне сказаў.

1. Ра..пусціць сонца вогне..ыя косы ды кіне *(н..)*спадзеўкі ў ваду... *(М. Ждановіч)*. 2. Лес карміў і паіў грэў і лячыў *(А. Камароўскі)*. 3. Сонца вецер л..сы прасторы ўся прыгажосць з..млі з яе раніцамі і вечарамі росамі і дажджамі скрозь на тваім воку *(Я. Скрыган)*. 4. Віктар паказваў на тонкую жоўтую расліну... *(Я. Коней)*. 5. Да Яўгеніі яна [маці] наведвалася то зранку то *(пад)*вечар *(М. Даніленка)*. 6. На крылах вясны вярталіся ў родныя з..млі гракі шпакі буслы жураўвы жаўрукі *(У. Ліпскі)*. 7. Любяць сваю пару сонца і дождж[ф] і вецер *(М. Кандратаў)*. 8. Антось сядзеў *(н..)*жывы *(н..)*мёртвы і *(н..)*зводзіў вачэй з Антаніны *(А. Козел)*. 9. *(Н..)*шырокая асфальтавая дарога вілася каля самага берага *(А. Вольскі)*. 10. Я мілейшых *(н..)*знаю *(н..)*песень *(н..)*мовы *(н..)*кветак... *(А. Клемянок)*. 11. Вясёлы радасны ўзбуджаны Лабановіч злучыўся з натоўпам і згубіўся ў ім *(Я. Колас)*.

**107.** Прачытайце тэкст. Якую параду дае Я. Скрыган літаратарам? Чаму і літаратараў, і тых, хто не займаецца літаратурнай творчасцю, ён заклікае звяртацца да фальклору?

Спішыце, расстаўляючы знакі прыпынку адпаведна пунктуацыйным нормам і ўстаўляючы патрэбныя літары на месцы пропускаў. Патлумачце ўмовы пастаноўкі знакаў прыпынку.

Мы ж зарана адрываемся ад народнага творчага асяро..я і, не паспеўшы прычас..іцца яго народнаму бага..ю, адразу пападаем на работу ў кабінет. Праз с..ены кабінета да нас ужо з цяжкасцю даход..іць і бляск народнай думкі і гнуткасць фразы і стройная прастата мовы і трапнасць прыказкі і мудрасць нагляда..я.[сн] Усё гэта мы ўжо чэрпаем толькі з газет ды з чужых кні.. . Ад гэтага часам і наша сухасць і беднасць і канцылярыт і аднастайнасць.

Не малая бяда і ў тым, што мы рэ..ка калі звяртаемся да фальклору. Кні.. Сержпутоўскага Раманава Шэйна багата хто з нас нават не трымаў у руках. Мы не ведаем, якія былі абрады на ра..інах хрэсьбінах* шлюбе ды пахава..і не ведаем загавораў казак прыказак песень. А гэта ж духоўная гісторыя народа яго побыту ўкладу жы..я культуры і не ведаць яе літаратару проста грэшна. Тым больш што в..лікія пісьме..ікі ніколі не пераставалі настаўляць, каб на фальклоры мы вучыліся мове — самай простай дасціпнай невычэрпна багатай і вобразнай *(Я. Скрыган)*.

**108.** Запішыце сказы, прадоўжыўшы іх аднароднымі членамі.

1. Школа знаходзілася каля невялікага сквера, які быў засаджаны ліпамі, ..., ... і ... . 2. У скверы заўсёды бавілі час як ..., так і ... . 3. У гэты дзень свяціла ..., але ... майскае сонца, а ў яго промнях дрэвы іскрыліся рознымі колерамі: і ..., і ..., і ... . 4. Пахла маладой лістотай; пералівіста і ... пелі птушкі: ..., ..., ... — песні на розныя галасы. 5. Ні ..., ні ... не маглі парушыць мелодыі вясновага дня. 6. Са школы высыпалі вясёлыя, ... і ... вучні. 7. Яны не ..., а ... у сквер, каб хутчэй апынуцца ў яго казачнай прыгажосці.

● Вызначце тып запісанага тэксту.

**109.** Прачытайце аналіз тыповых памылак на цэнтралізаваным тэсціраванні за мінулыя гады.

Больш за 40 % удзельнікаў тэсціравання з нізкім і здавальняючым узроўнямі падрыхтоўкі памылкова паставілі коску паміж азначэннямі, якія не з'яўляюцца аднароднымі, бо характарызуюць прадмет ці з'яву з розных бакоў: *Павольна цякла рака сярод шырокай лугавой поймы. Ішоў дзень за днём, і Раман паступова прывыкаў да новай адказнай пасады.* Коску паміж неаднароднымі азначэннямі ў падобных сказах паставілі многія абітурыенты з добрай у цэлым падрыхтоўкай па прадмеце.

Адной з распаўсюджаных памылак на ЦТ была пастаноўка коскі паміж аднароднымі членамі сказа, звязанымі адзіночным размеркавальным злучнікам ***ці***: *Для Алеся Пальчэўскага важна было ўлавіць самабытнасць у чалавеку **ці** з'яве.*

● Перачытайце правіла (с. 95) і запішыце адпаведныя прыклады на кожны пункт.



**110.** Прачытайце. Падрыхтуйце паведамленне на тэму «Правілы спалучэння аднародных членаў сказа».

1. Спалучэнне аднародных і адасобленых членаў сказа лічыцца правільным, калі аднародныя члены сказа ўжываюцца ў аднолькавых граматычных формах і адказваюць на адно і тое ж пытанне: *Парадак дня сходу вызначаў пытанні працоўнай дысцыпліны і якасці прадукцыі.* Няправільна: *Парадак дня сходу **вызначаў пытанні аб** працоўнай дысцыпліне **і пра** якасць прадукцыі.*

2. Нельга спалучаць у якасці аднародных члены сказа, якія выражаны даданай часткай складанага сказа і ўскосным склонам назоўніка: *Гледачы былі **ўражаны ігрой** акцёраў і **якія дэкарацыі знаходзіліся** на сцэне.* Правільна: *Гледачы былі ўражаны ігрой акцёраў і дэкарацыямі на сцэне.*

3. Нельга злучаць у якасці аднародных дзеепрыметнікавыя, дзеепрыслоўныя словазлучэнні і даданыя часткі скла-

даных сказаў: *Гаспадыня, **рыхтуючыся** да свята **і калі чакала** гасцей, была ўсхваляванай.* П р а в і л ь н а: *Гаспадыня была ўсхваляванай, калі рыхтавалася да свята і чакала гасцей.*

4. Не спалучаюцца як аднародныя члены сказа інфінітыў і назоўнік: *Алесь любіў рыбалку і збіраць грыбы.* П р а в і л ь н а: *Алесь любіў лавіць рыбу і збіраць грыбы.*

5. Не ўсе словы, ужытыя як аднародныя члены сказа, могуць спалучацца з адным і тым словам: *Шмат клопату і ўвагі ўдзяляюць члены бацькоўскага камітэта арганізацыі школьных свят.* Н е л ь г а сказаць: ***удзяляць клопат.***

6. Першая частка парных злучнікаў *не толькі — але і; як — так і* і іншых павінна ўжывацца непасрэдна перад аднароднымі членамі сказа: *Дзяўчынка была не толькі прыгожай, але і таленавітай актрысай.* Н я п р а в і л ь н а: *Дзяўчынка **не толькі была** прыгожай, але і таленавітай актрысай.*

7. Нельга замяняць другую частку парнага злучніка: *Для новай школы закуплены **не толькі** шафы, парты і дошкі, **а таксама** канцылярскія прылады.* П р а в і л ь н а: *Для новай школы закуплены не толькі шафы, парты і дошкі, але і канцылярскія прылады.*



**111.** Прачытайце. Запішыце правілы на беларускай мове.

ФОРМА ЧИСЛА СКАЗУЕМОГО
ПРИ ОДНОРОДНЫХ ПОДЛЕЖАЩИХ

1. При однородных подлежащих, находящихся в форме единственного числа, сказуемое ставится в форме **единственного числа:**

● если подлежащие связаны разделительными союзами и находятся после сказуемого: а) *Сегодня будет лекция или семинар?* б) *Каждую минуту к остановке подъезжал то троллейбус, то автобус.*

И с к л ю ч е н и е: если подлежащие являются словами разного рода, сказуемое употребляется в форме множественного числа: *Каждую минуту к остановке подъезжали то автобус, то маршрутное такси.*

● Если подлежащие связаны противительным союзом ***а*** либо союзами ***не только... но и, не столько... сколько*** и другими, имеющими оттенок противопоставления: а) *Не лечение, а отдых необходим ему*; б) *Нужна не только копия диплома, но и сам диплом.*

2. В остальных случаях предпочтительна либо необходима форма **множественного числа** сказуемого:

● *То троллейбус, то автобус подъезжали каждую минуту к остановке* (предпочтительна форма множественного числа).

Н о: *Не то троллейбус, не то автобус подъехал к остановке* (действие совершают не два предмета, а один).

● *Жажда действия, бесстрашие и решительность толкают на поиски опасных приключений* (необходима форма множественного числа);

● *Ребёнок или родители должны отвечать на вопросы анкеты?* (Необходима форма множественного числа. В подобных конструкциях с разделительным союзом ближе к сказуемому располагается то подлежащее, которое находится в форме множественного числа).

Н о: а) *Заявление должен написать абитуриент, а не его родители*; б) *Заявление должны писать родители, а не ребёнок.* В конструкциях с противительным союзом форма числа сказуемого координируется с формой числа ближайшего подлежащего, которое должно обозначать утверждаемый, а не отрицаемый предмет.

*И. Савко.*

**112.** Прачытайце тэкст, вызначце яго стыль. Чаму пунктуацыя тэкстаў розных функцыянальных стыляў мае свае асаблівасці? Якія асаблівасці пунктуацыі характэрны для навуковага, публіцыстычнага, афіцыйнага, мастацкага стыляў? У тэкстах якіх стыляў могуць ужывацца пунктуацыйныя варыянты? Чаму?

Вусна перакажыце змест тэксту па-беларуску.

Основные правила пунктуации имеют нормативный характер, относительно устойчивы в практике печати и одинаковы для разного вида письменной речи. Однако сама письменная речь неоднородна.

В синтаксическом отношении каждая из разновидностей письменной речи обладает более или менее ярко выраженными особенностями. А поскольку пунктуация прежде всего фиксирует синтаксическое членение речи, то она различается в разных по функционально-стилевой принадлежности текстах.

Синтаксис научной литературы отличается последовательной связностью отдельных предложений, их завершённостью и полнотой. Пунктуация этого вида литературы стандартизована и лишена индивидуальной осмысленности.

В публицистических произведениях, в соответствии со своеобразием синтаксического строя, пунктуация менее стандартна, допускает некоторые вольности, идущие от разговорной интонации и художественных средств выразительности.

В официальных документах (приказах, протоколах, инструкциях, заявлениях и т. п.) синтаксическая структура более стандартна, чем в научных текстах. Общепринятые формы изложения и расположения материала приводят к сравнительной лёгкости пользования знаками препинания, их однообразию: знаки здесь ставятся в соответствии с грамматическим членением речи.

В художественной литературе широко используются такие знаки препинания, которые выражают эмоционально-экспрессивные качества письменной речи и разнообразные оттенки смысла. Вся пунктуационная система служит в художественном тексте одним из существенных и ярких средств передачи не только логического, но и эмоционального содержания *(По Н. Валгиной)*.

**113.** Прачытайце тэкст. Што вывучае анамастыка? Патлумачце пастаноўку знакаў прыпынку пры аднародных членах сказа.

За апошні час у беларускім мовазнаўстве з'явілася нямала арыгінальных прац, прысвечаных даследаванню спецыфікі ўласных імёнаў, тапанімічных назваў, выдзелілася нават новая галіна мовазнаўства — анамастыка (ад грэчаскага *onomastike* — майстэрства даваць імёны), якая вывучае функцыянальныя і моўныя асаблівасці ўласных імёнаў[м].

Колькасць анамастычных назваў не паддаецца ўліку. Толькі на Беларусі больш за трыццаць тысяч афіцыйных назваў. Многа неафіцыйных. Гэта назвы праспектаў, вуліц і завулкаў, паркаў, стадыёнаў, а таксама незлічонага мноства рэчак, ручаёў, вадасховішчаў, каналаў, крыніц, гаёў, пушчаў, бароў, балот, астравоў на лугах, сярод рэчак і азёраў, палёў, пералескаў. А колькі ўласных імёнаў, іх варыянтаў, прозвішчаў, імёнаў па бацьку, разнастайных мянушак, клічак людзей! Свае ўласныя імёны маюць і міфалагічныя істоты, планеты, сузор'і, існуюць[м] клічкі жывёл і г. д. *(Паводле В. Шура)*.

**114.** Складзіце і запішыце паводле схем сказы з аднароднымі членамі, ужываючы анамастычныя назвы.

1. ◯, ◯; ◯ ***і*** ◯.
2. ◉: ***і*** ◯, ***і*** ◯, ***і*** ◯.
3. ◯ ***і*** ◯, ◯ ***і*** ◯.
4. ◯, ***ды ('але')*** ◯.

● Напішыце сачыненне-мініяцюру пра гісторыю паходжання назвы свайго горада, вёскі, мясцовасці і г. д. на тэму «Гісторыя майго горада (вёскі)» («Па вуліцах любімага горада», «Паданне пра стварэнне возера (рэчкі)»), ужываючы сказы з аднароднымі членамі. Тэкст якога тыпу павінен атрымацца? Чаму?

## § 13. Сінтаксічныя прыметы сказаў з адасобленымі членамі, ужыванне, знакі прыпынку

**Адасабленне** — сэнсавае і інтанацыйнае выдзяленне даданых членаў сказа з мэтай узмацніць іх значэнне, надаць пэўную самастойнасць і стылістычную выразнасць. Умовамі адасаблення з'яўляюцца:

● **інтанацыя.** Адасобленыя члены сказа звычайна выдзяляюцца адпаведнай паўзай, лагічным націскам;

● **парадак слоў.** Як правіла, адасабляюцца члены сказа, калі стаяць пасля паяснёнага слова;

● марфалагічны **характар паяснёнага слова**. Заўсёды адасабляюцца дапасаваныя азначэнні, якія адносяцца да асабовых займеннікаў;

● умовай адасаблення выступае **пазіцыя слоў у сказе**. Так, адасабляюцца дапасаваныя азначэнні, якія адносяцца да дзейніка, але аддзеленыя ад яго выказнікам або іншымі членамі сказа: *Алень замёр, прыслухаўся і, **перакананы**, што яго ніхто не бачыць, прыняўся старанна пілаваць рогам белы ствол* (В. Карамазаў).

**Дапасаваныя азначэнні** адасабляюцца:

1) адзіночныя і развітыя азначэнні, выражаныя прыметнікамі і дзеепрыметнікамі, якія стаяць пасля паяснёнага слова: *Аднекуль апусціўся кляновы **ліст, чырвоны,** як гусіная лапка* (Я. Пархута). ***Голас, высокі, звонкі,** запомніўся надоўга. Пад нагамі хораша шапацела золата **лістоты, яшчэ не звялай, не прытаптанай дажджамі*** (Я. Брыль);

2) азначэнні, якія паясняюць член сказа, выражаны асабовым займеннікам: *Радасная здагадка пранізвае мяне, і, **здзіўлены, я** паволі ўстаю* (В. Быкаў);

3) азначэнні, аддаленыя ад паяснёнага слова: ***Магутныя ў сваёй велічы**, стаялі старыя **дубы*** (І. Навуменка);

4) азначэнні, якія стаяць перад паяснёным словам і маюць дадатковае значэнне прычыны, уступкі, умовы, часу: ***Звыклыя да кветак, вяскоўцы** не часта любаваліся імі* (Л. Леванoвіч).

Звярніце ўвагу! Нельга блытаць азначэнне з іменным выказнікам: *А **лес**, як добры той знаёмы, **стаіць збялелы, нерухомы*** (Я. Колас).

**Недапасаваныя азначэнні** адасабляюцца:

1) азначэнні, якія стаяць пасля паяснёнага слова ў адным радзе з дапасаванымі азначэннямі: ***Дзяўчына, маладая, прыгожая, з адкрытым тварам,** адразу кідалася ў вочы*;

2) азначэнні, якія паясняюць член сказа, выражаны агульным/уласным назоўнікам і выдзяляюцца сэнсава і інтанацыйна: *Дубовы* ***ліст, у жылках і расе****, мне нагадаў абрысы Беларусі* (С. Грахоўскі). ***Без шапкі, у адной гімнасцёрцы, Васіль*** *з усяе сілы працаваў вёсламі* (І. Шамякін);

3) азначэнні, якія паясняюць член сказа, выражаны асабовым займеннікам: ***У чыстым палатняным касцюме, у просценькай кашулі, ён*** *выглядае значна маладзейшым за свае гады* (І. Шамякін).

**115.** Прачытайце сказы. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку пры недапасаваных азначэннях.

1. Да Аляксандра падышла прыгожая дзяўчына, з блакітнымі вачамі, з доўгай русай касой, і запыталася пра білеты. 2. З кветкамі і шарыкамі, у святочным адзенні, мы ішлі на апошнюю ў сваім жыцці школьную лінейку. 3. На каток, дзе збіраліся аднакласнікі, завітаў і Косця, без лішніх рэчаў, з канькамі і клюшкай. 4. Усіх нас непакоіла адна думка — выстаяць *(М. Лынькоў)*.

**116.** Прачытайце. Спішыце сказы, афармляючы іх паводле пунктуацыйных норм і раскрываючы дужкі. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

1. Яловы лес і яліны раслі і ра*(с/з)*кашавалі вакол нашай вёскі. Ахута*(н/нн)*ыя лапнікам яны як усё роўна былі зашнурава*(н/нн)*ы і зашпіле*(н/нн)*ы на ўсе гузікі і хавалі за пазухай нейкую таямніцу *(В. Макарэвіч)*. 2. Алёна асветле*(н/нн)*ая вечаровым сонцам сядзіць пад яблыняй з яблыкам у руках *(У. Сцяпан)*. 3. Над ім ра*(с/з)*пасціралася блакітнае бя*(с/з)*до*(н/нн)*ае неба светлае і чыстае без адзінай хмаркі *(Г. Пярун)*. 4. Дзядзька[ф] Мікола худы жылісты насаты з кучомкай пасівелых валасоў хітравата з прыжмурам утаропіўся ў таўсматага брыгадзіра *(А. Камароўскі)*. 5. Падора*(н/нн)*ыя нябёсамі жнівен*(?)*скія дзянькі тояць у сабе шмат асалоды *(Н. Навіцкая)*. 6. Голас маці лагодны і клапатлівы даляцеў аднекуль здалёк з пакінутай

зямлі... *(І. Клімянкоў)*. 7. Яна ўвайшла порстка паружавелая свежая... *(Я. Скрыган)*. 8. Мала хто з іх тады маладых вясёлых застаўся жыць у гэтым доме *(Г. Васілеўская)*. 9. Валасы яе колеру саломы былі мокрыя *(Ю. Станкевіч)*.

**117.** Дапоўніце і запішыце сказы, развіўшы ў кожным выдзеленае слова адасобленым азначэннем. Растлумачце ўмовы адасаблення.

1. Вузкая **сцяжынка** бегла лесам. 2. **Дождж** лінуў раптоўна. 3. Густа высіліся **сосны**. 4. **Яны** не маглі прадбачыць будучыні. 5. **Школа** даўно чакала іх. 6. **Будучыня** малявалася радаснай, бязвоблачнай.

**Прыдаткі,** выражаныя адзіночнымі назоўнікамі або назоўнікамі з паясняльнымі словамі, а д а с а б л я ю ц ц а ў наступных выпадках:

1) незалежна ад месца ў сказе, калі адносяцца да асабовых займеннікаў: ***Сын лесніка, я*** *з маленства любіў паліць касцёр, пасядзець ля вогнішча* (І. Шамякін);

2) калі адносяцца да ўласнага ці агульнага назоўніка і стаяць пасля яго: *Шырокай светлай паласою нясе свае воды* ***Дняпро — любімая рака ўсходніх славян*** (В. Вольскі). *Скардзіцца зямля на свайго* ***сына — чалавека*** (М. Танк);

3) калі стаяць перад уласным назоўнікам, з'яўляюцца развітымі і маюць дадатковае акалічнаснае значэнне: ***Таленавіты палкаводзец, барацьбіт за свабоду, працiўнік прыгнёту, Тадэвуш Касцюшка*** *добраахвотна ўдзельнічаў у вайне за незалежнасць Злучаных Штатаў Амерыкі* (Я. Пархута);

4) прыдаткі — уласныя імёны, калі стаяць пасля агульнага назоўніка і маюць удакладняльнае значэнне: *Гэта быў наш* ***сусед, Іван Бразоўскі*** (Я. Брыль);

5) калі выражаны ўласнымі назоўнікамі са словамі ***па прозвішчы, па мянушцы, па клічцы*** і інш.: *Запомніўся жартаўлівы сусед,* ***па прозвішчы Аўласенка***;

6) калі звязваюцца з паясненым словам (назоўнікам) злучнікамі ***ці, або, як***: *Шыпшына,* ***або*** *дзікая ружа, належыць да сямейства ружакветкавых* (У. Корсун).

**ЗАПОМНІЦЕ!**

Калі слова (ці некалькі слоў) са злучнікам ***як*** мае значэнне ***‘ў якасці’***, яно не з’яўляецца прыдаткам і не адасабляецца: *Максім Танк захапляе чытачоў цэльнасцю сваіх поглядаў на жыццё* ***як на*** *чалавечую* ***каштоўнасць*** (У. Калеснік).

**118.** Прачытайце інфармацыю. На яе аснове складзіце і запішыце сказы з прыдаткамі. Падкрэсліце прыдаткі, растлумачце ўмовы іх адасаблення.

1. Максім Багдановіч (1891—1917). Беларускі паэт, перакладчык, літаратуразнавец. Аўтар вершаў «Слуцкія ткачыхі», «Па-над белым пухам вішняў», «Маладыя гады», «Беларусь, твой народ дачакаецца», «Пагоня» і інш. Адзіны прыжыццёвы зборнік вершаў — «Вянок» (Вільня, 1913).

2. Язэп Драздовіч. Беларускі мастак, этнограф, пісьменнік (1888—1954). Прадстаўнік рамантычнага напрамку ў беларускім мастацтве. Стварыў графічныя серыі, прысвечаныя старажытнай замкавай архітэктуры Беларусі («Мір», «Крэва», «Ліда»). Шэраг работ прысвечаны Францыску Скарыне. Маляваў насценныя дываны.

3. Язэп Лёсік (1883—1940). Беларускі мовазнавец, пісьменнік, педагог. Пісаў нарысы па гісторыі Беларусі. Аўтар прац па беларускай мове «Беларуская мова. Пачатковая граматыка» (1924), «Беларуская мова. Правапіс» (1924), «Сінтаксіс беларускае мовы» (1925), «Граматыка беларускае мовы» (1926).

4. Браніслаў Тарашкевіч (1892—1938). Беларускі мовазнавец, перакладчык, літаратуразнавец. Аўтар «Беларускай граматыкі для школ» (1918). У 20-я гады XX стагоддзя — дырэктар Віленскай беларускай гімназіі, адзін з кіраўнікоў і заснавальнікаў Таварыства беларускай школы.

5. Цётка (Алаіза Пашкевіч) (1876—1916). Беларуская паэтка-рэвалюцыянерка. Настаўнічала ў вёсцы. У 1906 г. надрукавала зборнікі вершаў «Хрэст на свабоду» і «Скрыпка беларуская». Адна з пачынальніц беларускай прозы. Яе апавяданні прасякнуты гуманізмам, павагай да чалавека працы.

**119.** Спішыце сказы, расстаўляючы, дзе патрэбна, знакі прыпынку. Растлумачце іх пастаноўку.

1. Нeяк да нас у двор зайшла суседка цётка Адарка *(Н. Касцючэнка)*. 2. Першапачаткова ў праграму Алімпійскіх гульняў уваходзіў толькі адзін від спаборніцтваў стадыядром або бег на дыстанцыю роўную аднаму стадыю *(А. Ванковіч)*. 3. З ёй іх прасторнай хатай звязана гэтулькі ўспамінаў *(У. Гаўрыловіч)*. 4. А ён падлетак бег насустрач каб хутчэй атрымаць доўгачаканы[сл] падарунак *(Т. Купрэвіч)*. 5. Было ў яго некалькі сяброў маладых настаўнікаў...[сн] *(А. Козел)*. 6. Ранняй вясной зацвітае яшчэ адна расліна сон-трава *(Г. Мятліцкая)*.

**120.** Запішыце тэкст, пашыраючы сказы словамі з дужак. Пракаменціруйце пунктуацыйнае афармленне ўтвораных сказаў. Якая роля адасобленых членаў сказа ў тэксце?

На грыбы трэба цёплае, нават гарачае, але з частымі дажджамі лета. Тады яшчэ ў чэрвені — ліпені, у ягадную пару, шаўковымі прожылкамі белай цвілі ўкрываюцца чорныя лапікі лясной зямлі. **Цвіль-грыбніца** паказваецца і на сцежках[ф], і па езджанай дарозе (першая адмеціна грыбнога лета).

У кожнай[м] мясцовасці ёсць свае прымхі наконт таго, якi грыб прыгодны, а якi — не. У нас не бяруць ваўнушак, таўстух, сінюх (грыбоў вельмі смачных і карысных). Не бяруць і пахучага **грыба-караняплода** труфеля, які вырастае, не бачачы святла, у лясных шэразёмах...

У сухое лета першы баравік пракідаецца ў бярэзніках з травяным долам, на мясцінах ніжэйшых, макрэйшых. Калі лета, наадварот, мокрае, баравіка шукай па сасняках, па пясчаных[ф] узгорках *(Паводле І. Навуменкі)*.

Растлумачце напісанне выдзеленых слоў.

**121.** Прачытайце тэкст, вызначце яго асноўную думку. Як возера Свіцязь паўплывала на творчасць Я. Чачота і А. Міцкевіча?

Спішыце, раскрываючы дужкі. Пастаўце, дзе трэба, знакі прыпынку і патлумачце іх пастаноўку.

*(Не)*надта вялікае і *(не)*надта глыбокае яно [возера Свіцязь] даўно быццам *(не)*адольны магніт прыцягвае да сябе

падарожнікаў з усяго свету.[сн] Дзвесце гадоў таму на берагах Свіцязі часта бывалі два школьныя сябры Ян Чачот і Адам Міцкевіч. Абодва — нашы землякі выдатныя польскія паэты. Да таго*(ж)* Ян Чачот руплівы збіральнік беларускага фальклору сам пісаў *(па)*беларуску вершы. Зачараваныя харастам Свіцязі і пачутымі на яго берагах народнымі легендамі аб прыгажунях*(свіцязянках)* паэты стварылі *(не)*калькі балад сапраўдных шэдэўраў польскай літаратуры *(Паводле У. Ягоўдзіка)*.

А д а с а б л я ю ц ц а **дапаўненні**, выражаныя назоўнікамі або займеннікамі з прыназоўнікамі ***акрамя, апрача, замест, за выключэннем, уключаючы*** і інш.: *Гэта ідэя спадабалася ўсім*, ***за выключэннем хлопцаў.*** *На зямлі*, ***замест*** *карычневай, сухой і слізкай* ***ігліцы,*** *слаліся дываны з сухіх імхоў* (І. Гурскі). Усе, ***апрача нас,*** *запісаліся на экскурсію.*

Н е а д а с а б л я ю ц ц а:

1) дапаўненні з прыназоўнікам ***замест***, калі прыназоўнік мае значэнне **‘*за*’**: *Алена* ***замест*** *маці навяла парадак у пакоі*;

2) дапаўненні, выражаныя назоўнікамі з прыназоўнікамі ***акрамя, апрача, замест, за выключэннем, уключаючы***, калі перад імі знаходзіцца ўзмацняльная часціца ***і***: *Нешта было ў вачах дзяўчыны* ***і акрамя*** *прыгажосці* (А. Чарнышэвіч).

**122.** Прачытайце. Спішыце сказы, расстаўляючы, дзе патрэбна, знакі прыпынку. Растлумачце іх пастаноўку.

1. Моцна спалі ўсе акрамя Брагінскага *(І. Шамякін)*. 2. І апроч аднаго стала́ нічога больш не было *(К. Чорны)*. 3. Акрамя вахценнага[м] на судне не было відаць нікога… *(У. Краўчанка)*. 4. Але нікога акрамя Надзі я не бачыў *(З. Прыгодзіч)*. 5. Так атрымалася што з Беларусі нікога не было акрамя нас з мужам *(Л. Арабей)*. 6. Але акрамя рыпу соснаў пад слабым ветрам і далёкага шуму машын ён нічога не пачуў… *(Ю. Станкевіч)*. 7. Гэтай вадзе не

відаць было канца-краю апрача той палоскі лесу на даляглядзе[сл] *(Я. Маўр)*. 8. Начаваў я не ставячы палаткі пад дубам у спальніку. Карэнне яго было мне замест падушкі *(В. Казько)*. 9. Ён помніў што ў групе ніхто ў пілотцы апрача Валодзі не хадзіў *(У. Федасеенка)*. 10. Яна замест адказу ткнула пальцам у паперу на дрэве *(К. Чорны)*.

- Падкрэсліце займеннікі, вызначце іх разрад.
- Растлумачце напісанне ***не, ні*** са словамі.

**123.** Спішыце сказы, устаўляючы прапушчаныя літары і расстаўляючы знакі прыпынку. Падкрэсліце адасобленыя дапаўненні.

1. Думка спадабалася ўсім с..мейнікам асабліва бабул.. . 2. Алесь з маленства працаваў на пол.. замест бацькі. 3. Усё лета за выключэннем аднаго-дв..х тydняў дзеці працавалі на калгасных палях. 4. Акрамя карасёў у рэ..цы багата ракаў. 5. Усе птушкі і асабліва шумныя в..раб..і схаваліся а.. навальніцы. 6. Замест радас*(?)*ці ў вачах з..явілася н..задавальне*(н/нн)*е. 7. Усе дрэвы за выключэннем старога дуб.. *(у)*пачатку мая выпусцілі першыя лісточкі. 8. Хадзіў тут нехта і акрамя нас. 9. Рэкі за выключэ(*н/нн*)ем некаторых плывуць па раўнінах і таму павольныя *(У. Караткевіч)*.

А д а с а б л я ю ц ц а **акалічнасці:**

1) выражаныя дзеепрыслоўнымі словазлучэннямі: *Бацька стараўся з усіх сіл,* ***імкнучыся даць дачцэ адукацыю.*** *З раніцы было ядрана, і,* ***адчуўшы спінаю холад,*** *гаспадар з надзеяй паглядзеў на неба*;

2) выражаныя адзіночнымі дзеепрыслоўямі, размешчанымі перад выказнікамі: ***Накупаўшыся,*** *хлопцы бавяць час на беразе. Паляўнічы выбраў самую ўтаптаную сцежку і,* ***не спяшаючыся***, *пайшоў па ёй*;

3) выражаныя назоўнікам з прыназоўнікам ***нягледзячы на***: ***Нягледзячы на*** *позні час, у доме не спалі.*

З а ў в а г а. Паміж дзвюма аднароднымі акалічнасцямі, звязанымі злучнікамі ***і (ды), або, ці***, коска н е с т а в і ц ц а: *Паміж лясамі, узбягаючы на ўзгоркі* ***або*** *знікаючы ў нізінах, ляжалі нівы* (І. Шамякін).

Н е   а д а с а б л я ю ц ц а **акалічнасці:**

1) выражаныя адзіночнымі дзеепрыслоўямі, якія размяшчаюцца пасля дзеяслова-выказніка (часта ў канцы сказа) і выконваюць ролю прыслоўя спосабу дзеяння (адказваюць на пытаннні я к?  я к і м  ч ы н а м?): *Дзіця сядзела* ***надзьмуўшыся***. *Дадому Алесь ішоў* ***не спяшаючыся***;

2) выражаныя ўстойлівым спалучэннем слоў (фразеалагізмамі): *Маці працуе* ***не разгінаючы спіны***. *Бегчы* ***як жару ўхапіўшы***;

3) дзеепрыслоўі і дзеепрыслоўныя звароты, якія размяшчаюцца пасля прыслоўя і звязваюцца з ім злучнікам ***і***: *Спорна* ***і не спыняючыся*** *ліў дождж*. *Выразна* ***і ні разу не збіўшыся*** *вучань прачытаў верш на памяць*;

4) выражаныя дзеепрыслоўным зваротам, што ўключае адносны займеннік ***які*** ў ролі злучальнага слова пры дaданай азначальнай частцы: *Дзе той чароўны ключык,* ***авалодаўшы якім*** *можна было б лёгка адчыніць любую таямніцу чалавечай душы?* (М. Лобан).

**124.** Прачытайце тэкст. Выпішыце, расстаўляючы знакі прыпынку, сказы з адасобленымі членамі.

Лебедзь ляціць выцягнуўшы наперад сваю гнуткую шыю рассякаючы[c] паветра магутнымі ўзмахамі вялікіх крылаў. І вецер свішча і спявае ў яго крылах. Ён ляціць беласнежнабелы на фоне блакітнага неба з белымі кучаравымі воблачкамі якія адлюстроўваюцца[c] ў блакітнай вадзе. Абагнаўшы лебядзіцу з малымі ён апусціўся на ваду нібы ахоўвае[c] сям'ю з боку адкрытага возера...

Адкуль з'явілася гэта шчаслівая пара? Відаць, прыляцелі яны з суседняй Літвы, з запаведніка на возеры Жувінтэс. На гэтым возеры асвоіўшыся і прывыкшы да асяроддзя дзікія лебедзі прыжыліся даўно *(Паводле В. Вольскага).*

● Зрабіце сінтаксічны разбор аднаго сказа з адасобленымі членамі.

**125.** Прачытайце аналіз верша М. Багдановіча «Пагоня». Што дазваляе даследчыку не парушыць глыбіні Багдановічавай думкі, узняць чытача да ўсведамлення твора, адэкватнага аўтарскай задуме?

У гэтым вершы пра Бацькаўшчыну — самае запаветнае. Тут з гісторыі — самае неабходнае. Як у голад жменя насення, **адкладзенага на ўраджай.**

Пройдземся радкамі гэтага твора, **яшчэ раз далучаючыся да яго жыццядайнай сілы.**

Твор пачынаецца апавядальна шырока. Праз усю страфу праходзіць складаны разгорнуты сказ. Гэта згадка-ўспамін пра вялікую мінуўшчыну імгненна ўзрывае размераную апавядальнасць верша. **Разгарачаная, усхваляваная** ўява паэта выбухае яскравым малюнкам.

І ўжо не ў гістарычным далёкім, а перад табою, **на момант займаючы дыханне і ў тваіх грудзях,** «У белай пене праносяцца коні, / Рвуцца, мкнуцца і цяжка хрыпяць...».

Магутна, парывіста, ва ўсёй пластычна-адчувальнай красе ўрываюцца гэтыя коні: зрокава — у белай пене, дынамічна — дзеясловы *(рвуцца, мкнуцца),* як тупат капыт, цоканне падкоў, разрываюць радок... І адначасова працуе наш слых: мы чуем, як коні на поўныя грудзі цяжка хрыпяць.

І вось ужо — на ўсю шырыню радка — выносіцца, як сцяг, непамерклая, вечная слава беларускай дзяржаўнасці: «Старадаўняй Літоўскай Пагоні / Не разбіць, не спыніць, не стрымаць» *(Паводле А. Клышкі).*

● Растлумачце ўмовы адасаблення або неадасаблення выдзеленых членаў сказа. Перабудуйце сказы так, каб неадасобленыя члены сталі адасобленымі, адасобленыя — неадасобленымі. Перабудаваныя сказы запішыце, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку.

**126.** Прачытайце тэкст. Дайце яму назву. Якія фарбы вы скарысталі б, каб малявалі ілюстрацыю да тэксту? Назавіце сказы з адасобленымі членамі, растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку пры адасобленых членах.

Першая яшчэ з сярэдзіны лета скідала ліст бяроза. Тое, што яна тут, паблізу[м], можна было заўважыць, нават не ўзнімаючы галавы, па залатой замеці лісцяў паміж верасу і травы. Па такой прыкмеце пазнаваўся і дуб, толькі па леташнім лісці, яно, нягледзячы на дажджы, слоту, доўга

ляжала. Асіна, апрануўшыся ў вогненныя барвы, пад восень рабілася прыгажэйшай за ўсе дрэвы.

Гаспадары восеньскага лесу — дзяцел і наіўна-вясёлыя, бесклапотныя сініцы. Астатняе шэрае птаства, збіраючыся ў вырай, змаўкае. У ядлоўцавых зарасніках можна падняць соннага днём цецерука, і ён гучна залапоча крыллем, віруючы між соснаў, ніколі не падымаючыся над купамі дрэў.

Цікаўная вавёрка, не баючыся грыбнікоў, спусціцца на ніжні сук, падзівіцца вокам-шрацінкай і шугане рыжай маланкай між зялёнай навісі. Збіраючы грыбы, я некалькі разоў бачыў вогненна-чырвоных[сл] ліс, яны перабягалі дарогу... *(Паводле І. Навуменкі).*

А д а с а б л я ю ц ц а на пісьме **ўдакладняльныя члены сказа**, якія ўдакладняюць, канкрэтызуюць, узмацняюць сэнс папярэдніх слоў, звужаючы або абмяжоўваючы іх значэнне.

Удакладняльнымі членамі сказа часцей бываюць акалічнасці месца і часу: *А **там, далей**, лесу кудзерка** відна* (Я. Колас). *Не выцер ён [салдат] **тады, у сорак пятым,** слязу скупую на сваёй шчацэ, не змыў зямлю акопную ў рацэ* (М. Маляўка).

Радзей удакладняльнымі бываюць іншыя члены сказа: *У пачатку **апошняй, чацвёртай,** чвэрці ў нашай школе адбыліся перамены* (І. Навуменка).

Удакладняльныя члены сказа могуць размяшчацца адзін за адным: ***Там, недзе далёка, за вялікімі абшарамі палёў,** цяпер вось, светлаю раніцою, грэюцца на сонцы нізкія хаты* (К. Чорны).

К о с к а м і а д а с а б л я ю ц ц а ўдакладняльныя спалучэнні, якія пачынаюцца словамі ***асабліва, нават, пераважна, у тым ліку, у прыватнасці, напрыклад*** і інш., што надаюць удакладненню сэнсавае адценне выдзяляльнасці, узмацняльнасці: *Мірскі замак — прыгожы палацава-паркавы ансамбль з каменным абнясеннем і пяцццю вежамі, **у тым ліку адной уязной*** («Беларусь»).

Коска не ставіцца перад спалучэннямі са словамі ***асабліва, нават, пераважна***, калі яны не маюць удакладняльнага значэння (выконваюць ролю часціц): *Не было чутна* ***нават ні гуку***.

**127.** Прачытайце. Спішыце сказы, расстаўляючы знакі прыпынку ў адпаведнасці з пунктуацыйнымі нормамі. Патлумачце пунктуацыйнае афармленне сказаў.

1. З Жукаўшчыны з горкі па пяску было лёгка і мякка ступаць і я не агледзеўся як ужо быў у Бярэзаўцы ля моста праз крыніцу *(І. Пташнікаў)*. 2. На кірмашы заўсёды было шмат людзей асабліва ў нядзелю *(К. Стаселька)*. 3. Цяпер Анэта стаяла ўжо на сваім двары пры плоце *(А. Жук)*. 4. Перада мною вышынёй у некалькі метраў высіцца збудаванне пераважна з асін і альхоўніку *(М. Бусько)*. 5. Малады высокі дуб з густою шапкай галля і лісця стаяў на беразе Дняпра на невялікім лугавым узгорку *(І. Шамякін)*. 6. Пад вечар таго ж дня ўжо на змярканні стаў пашумліваць вецер *(Я. Колас)*. 7. Вясною палескія рэкі выходзяць з берагоў а некаторыя асабліва маленькія нават мяняюць сваю плынь і цякуць не ўніз а ўверх назад да сваіх вытокаў *(Б. Сачанка)*.

**128.** Прачытайце сказы. Спішыце, расстаўляючы прапушчаныя знакі прыпынку. Растлумачце іх пастаноўку.

1. Там на Палессі карані і таленту і лёсу... *(І. Капыловіч)*. 2. Побач[м] ляжаў яго Віцеў гармонік *(Т. Купрэвіч)*. 3. Таня патэлефанавала праз некалькі дзён у суботу... *(Д. Пятровіч)*. 4. У самай вышыні над галавою самотна кружыла невядомая птушка *(Г. Пярун)*. 5. Я даўно з юнацтва пішу *(Н. Касцючэнка)*. 6. А той другі нічога не адказаў яму... *(М. Стральцоў)*. 7. Вярба асабліва яе вецце шырока выкарыстоўвалася ў народным побыце *(І. Швед)*. 8. Вельмі цяжка аддзяліць[с] беларускую кулінарыю ад польскай літоўскай ці ўкраінскай. Нашы народы доўгі час жылі ў адной дзяржаве і большасць адрозненняў[с] у культуры ў тым ліку і ў кухні сцерлася *(«Маладосць»)*. 9. Я нават[м] адрас яе помню... *(І. Пташнікаў)*.

**129.** Спішыце сказы, афармляючы іх паводле пунктуацыйных норм і ўстаўляючы прапушчаныя літары. Пракаменціруйце пунктуацыйнае афармленне сказаў і напісанне прапушчаных літар.

1. На бера..е сярод зрыжэлай травы разваліўся ружовы ад сонечных промняў валун *(М. Бусько)*. 2. Там за туманамі лета маё дагарае *(А. Клемянок)*. 3. Я слухаў[м] іх як кажуць з разяўле..ым ротам запамінаў кожнае слова асабліва Нёманскага *(В. Хомчанка)*. 4. Трымае тут на спа..чы..ай сядзібе да каранёў сваіх любоў *(М. Маляўка)*. 5. Вось яе іс..іну я і шукаю *(Л. Арабей)*. 6. Гас..ей сабралася чалавек пятнаццаць пераважна саслужыўцы гаспадара *(В. Хомчанка)*. 7. Любіў Мар'ян паха..іць па са..е і ў будні ..ень асабліва позняй восе..ю... *(В. Казько)*. 8. Але ён разумеў і іншае: ніхто з іх у тым ліку і капітан не даруе сабе, калі не даведаецца, што здарылася з таварышамі *(У. Шыцік)*.

**130.** Складзіце і запішыце паводле схем сказы з адасобленымі членамі пра ролю нацыянальнай мовы ў жыцці народа.

1. ——— , ~~~~~ , ... .
2. ——— ═══ – – – – , ~~~~~ , ... .
3. –·–·– , ——— ═══ ... .
4. ——— ═══ , –·–·– , ... .
5. –·–·– , –·–·– , ——— ═══ ... .
6. ——— , – – – – , ═══ ... .

**131.** Прачытайце выказванне. Вызначце стыль тэксту. Паводле якіх пунктуацыйных норм пастаўлены знакі прыпынку ў другім сказе?

Любая натуральная нацыянальная мова адыгрывае выключна важную ролю ў духоўным жыцці народа, камунікатыўныя патрэбы якога яна абслугоўвае. Не з'яўляецца выключэннем у гэтых адносінах і беларуская мова — нацыянальная мова беларускага народа, дзяржаўная мова нашай краіны.

Беларуская мова прайшла працяглы і складаны шлях развіцця і заняла належнае месца сярод славянскіх моў на лінгвістычнай карце Еўропы.[сн] Сёння гэта высокаразвітая[сл] літаратурная мова з багатым слоўнікавым складам і распрацаванай сістэмай норм, якая можа паспяхова абслугоўваць усе камунікатыўныя патрэбы сучаснага грамадства[ф]. Яна па-ранейшаму застаецца найважнейшым элементам беларускай культуры, сімвалам нацыянальнай свядомасці народа, фактарам нацыянальнай адметнасці і ідэнтыфікацыі* *(Паводле А. Лукашанца)*.

● Напішыце сачыненне-разважанне на тэму «Роля мовы ў жыцці грамадства» («Гукі роднай мовы»), ужываючы сказы з адасобленымі членамі.

Пры ўжыванні дзеепрыслоўных зваротаў варта кіравацца наступным:

1) асноўнае дзеянне, абазначанае дзеясловам, і дадатковае, названае дзеепрыслоўным зваротам, павінны мець аднаго ўтваральніка дзеяння: *Падыходзячы да школы, **мы** часцей **сустракалі** вучняў* (адзін утваральнік дзеяння: *мы падыходзілі, мы сустракалі*). Н я п р а в і л ь н а: *Падыходзячы да школы, нам часцей сустракаліся вучні* (розныя ўтваральнікі дзеяння: *мы падыходзілі, вучні сустракаліся*);

2) дзеепрыслоўі незакончанага трывання абазначаюць дадатковае дзеянне, якое адбывалася ці адбываецца адначасова з асноўным дзеяннем, выражаным дзеясловам-выказнікам: *Вучні беглі, **трымаючы кветкі**.* (Вучні беглі і трымалі кветкі.) Н я п р а в і л ь н а: *Вучні беглі, трымаўшы кветкі*;

3) дзеепрыслоўі закончанага трывання пераважна абазначаюць закончанае дадатковае дзеянне, якое адбылося раней за асноўнае дзеянне, выражанае дзеясловам-выказнікам: ***Добра адпачыўшы**, вучні працавалі старанна.* Н я п р а в і л ь н а: *Добра адпачываючы, вучні працавалі старанна.*

**132.** Запішыце тэкст па-беларуску, выпраўляючы парушэнні сінтаксічных норм у сказах-прыкладах.

ПОСТРОЕНИЕ ОБОСОБЛЕННЫХ КОНСТРУКЦИЙ

1. Недопустимо включать в состав причастного или деепричастного оборота определяемые слова: *Висящие* ***шторы*** *на окне не затемняли комнату.*

2. Недопустимо включать в состав безличных предложений деепричастный оборот, так как разрушается семантика обозначения действия, совершающегося в отсутствие его производителя: *Придя домой, уже стемнело.*

3. Недопустимо создавать так называемый независимый деепричастный оборот: *Подъезжая к станции, с меня слетела шляпа* (Т. Печенева).

**ЯК ПРАВЕРЫЦЬ, ЦІ ПРАВІЛЬНА ЎЖЫТА ДЗЕЕПРЫСЛОЎЕ?**

**Першы прыём** — перабудова сказа. Замяняем дзеепрыслоўе дзеясловам і злучаем аднародныя выказнікі злучнікам ***і***: *Дрэвы скрыпелі,* ***пагойдваючыся*** *ад ветру.* — *Дрэвы пагойдваліся ад ветру і скрыпелі.* У няправільна пабудаваным сказе такой замены нельга зрабіць: *З лётчыкам Куніцыным, лятаючы на ваенным самалёце, здарылася аварыя.*

**Другі прыём.** Паколькі дзеепрыслоўе мае адносна свабоднае размяшчэнне ў сказе і сэнсава звязваецца з дзейнікам, магчыма перастаноўка дзеепрыслоўнага словазлучэння бліжэй да дзейніка: *Дрэвы,* ***пагойдваючыся*** *ад ветру, скрыпелі.* Зрабіўшы такую перастаноўку ў няправільна пабудаваным сказе, лёгка выявіць бяссэнсіцу[с]: *Аварыя, лятаючы на самалёце...*

Дзеепрыслоўі ўжываюцца і ў **абагульнена-асабовых сказах**, у якіх, як вядома, няма дзейніка, а дзеянне, выражанае дзеясловам і дзеепрыслоўем, адносіцца да кожнага, да любой асобы: ***Напрацаваўшыся*** *за дзень, пад вечар ледзь ногі цягнеш.*

**У безасабовых сказах** дзеепрыслоўе ўжываецца толькі тады, калі яно адносіцца да неазначальнай формы дзеяслова, г. зн. калі галоўны член безасабовага сказа выражаецца спалучэннем дзеяслова ці безасабова-прэдыкатыўнага слова (*трэба, неабходна, нельга, можна, варта* і інш.) з інфінітывам: *На чужы лоб* ***сягаючы***, ***трэба*** *і свой* ***падставіць*** (Прыказка).

Калі ж у безасабовым сказе няма інфінітыва, дзеепрыслоўе ўжываць нельга: 1) *Адчувалася, слухаючы Казлову: тое, што яна гаварыла, ніколі не забудзе*; 2) *Там, у кіно, гледзячы на яе, мне падумалася, што Таня прыгажэйшая за Аню* (І. Лепешаў).

● Няправільна пабудаваныя сказы-прыклады запішыце, выправіўшы памылкі.

**133.** Знайдзіце памылкі ва ўтварэнні і ўжыванні дзеепрыслоўяў. Растлумачце, у чым заключаецца кожная памылка. Запішыце выпраўленыя сказы.

1. Гледзячы на вясёлыя твары сяброў, сэрца напаўняецца радасцю. 2. Восенню, пасля дажджу, ідучы дадому, на мне не было сухой ніткі. 3. Застаючыся адна, жанчына сабралася з думкамі. 4. Ад'ехаўшы кіламетраў дзесяць ад горада, можна пабачыць велічныя дубы. 5. Сады стаяць, набракшы ад расы. 6. П'ючы чай, іх гаворка часта пераходзіла з тэмы на тэму. 7. Не спяшаўшыся, жанчына ішла ў задумлівым роздуме. 8. Над ракою, тушачы маланкі ў вадзе, нізка праплываюць хмары. 9. Агонь весела патрэскваў, асвятляя блізкія дрэвы. 10. Налюбаваўшыся баравікамі, грыбнік, не спяшаючы, прыступіў да збору. 11. Горкі боль апаноўвае душу, чытаючы аповесці Васіля Быкава. 12. Наведаўшы Ляўкі, паэтам быў напісаны цыкл вершаў. 13. Агледзеўшыся ў лесе, бабулі кінулася ў вочы мноства чарніц. 14. Нёсшы пакупкі, бацька стаміўся. 15. Пісаўшы ліст дзецям, маці растрывожылася і расплакалася.

## § 14. Сінтаксічныя прыметы сказаў са звароткамі, пабочнымі і ўстаўнымі канструкцыямі, ужыванне, знакі прыпынку

**Зваротак** — слова або спалучэнне слоў, што называюць асобу ці прадмет, да якіх звяртаецца той, хто гаворыць: *Спі, **мой хлопчык**, спі, **мой слаўны**, спі, **мой залаты**. У шчаслівы час, **мой сыне**, нарадзіўся ты* (П. Глебка).

Асноўная сінтаксічная прымета зваротка: ён не з'яўляецца членам сказа, хаця мае цесную сэнсавую і інтанацыйную сувязь са зместам сказа. Граматычную незалежнасць зваротка пацвярджае тое, што ён можа выносіцца за межы сказа: ***Мілы браце!*** *У чужой хаце не нажыць табе багацця* (Я. Колас).

У беларускай мове зваротак выражаецца не толькі назоўнікам у назоўным склоне (субстантываванымі часцінамі мовы), але і формай старажытнага клічнага склону (пераважна ў мастацкім і гутарковым стылях): *Дзякуй, **хлопча**, за ўвагу, надта рады, **мой каток!*** (Я. Колас). *Шумі, шумі, **зялёны гаю,** хоць трошкі сэрца супакой* (М. Зарэцкі). Развітая або неразвітая структура зваротка залежыць ад мэты, зместу паведамлення.

На пісьме **зваротак** з а ў с ё д ы  а д а с а б л я е ц ц а:

1) у пачатку, у канцы сказа зваротак аддзяляецца коскай, у сярэдзіне сказа выдзяляецца коскамі з абодвух бакоў: *Шмат хто табе, **Радзіма,** прызнаваўся ў любві* (М. Танк);

2) калі зваротак стаіць у пачатку сказа і вымаўляецца з клічнай інтанацыяй, то пасля яго ставіцца клічнік: ***Мова!*** *Як сонца маё беларускае, ты свецішся словам кожным* (Я. Янішчыц);

3) калі перад звароткам стаіць выклічнік і займеннік ***ты*** або ***вы***, то выдзяляецца коскамі толькі зваротак: *Ой ты, **маё сонца**, як жа свеціш ясна!* (Я. Купала);

4) часціца ***о*** ад зваротка коскай не аддзяляецца: ***О Радзіма****, табою напоўнена сэрца да краю* (П. Панчанка).

**134.** Прачытайце схему. На яе аснове падрыхтуйце паведамленне на тэму «Зваротак і знакі прыпынку пры ім» па прапанаваным плане.

План

1. Лексіка-семантычная роля зваротка ў сказе.
2. Структура і спосаб выражэння зваротка.
3. Месца зваротка ў сказе.




● Складзіце і запішыце сказы, у якіх зваротак знаходзіцца ў пачатку, у сярэдзіне і ў канцы сказа.

● Зрабіце сінтаксічны разбор аднаго сказа са звароткам.

**135.** Спішыце сказы, расстаўце, дзе неабходна, знакі прыпынку і растлумачце іх, звароткі падкрэсліце. Раскажыце: а) якой часцінай мовы выражаны зваротак; б) развіты ён ці неразвіты; в) згодна з якім правілам зваротак выдзяляецца менавіта гэтымі знакамі прыпынку.

1. Жывеш не вечна чалавек перажыві ж у момант век *(М. Багдановіч)*. 2. Хмаркі залатыя Вы — прастору дзеці, ходзіце вы вечна па ўсім белым свеце *(Я. Колас)*. 3. Вы шуміце, шуміце нада мною бярозы калышыце люляйце свой напеў векавы *(Н. Гілевіч)*. 4. Вітаю вас як блізкіх родных старыя хвоі на палях *(Я. Колас)*. 5. Прырода-маці мы твая часцінка *(П. Панчанка)*. 6. Дыміся бульбай край маленства... *(Р. Барадулін)*. 7. Ты чуеш дружа мой як плачуць журавы над зарывам асенніх журавін? *(П. Панчанка)*. 8. Цябе не пакіну я вёска расстацца з табой не магу *(М. Машара)*. 9. Гэй ты братка Новы годзе што з сабою нам нясеш? *(Цётка)*. 10. Не тужы ты Нёман адзінока па красуні Прыпяці шырокай *(А. Русак)*. 11. Я з Мінска паклон перадаць табе рад і народу твайму горад-сад горад-брат *(П. Панчанка)*.

**136.** З прапанаванымі словамі, словазлучэннямі складзіце і запішыце сказы, каб у адных прапанаваныя словы былі дзейнікам, а ў другіх — звароткам.

Родная Беларусь, беларуская зямля, дарагія вучні, слаўныя дзеці, шаноўныя настаўнікі, дарагі сябра, мілы дружа, паважаны чытач (глядач), Радзіма, настаўнік.

**137.** Прачытайце ўрывак з верша Я. Коласа «Мая зямля» (1943 г.). Як звароткі дапамагаюць выяўленню асноўнай думкі? Спішыце, расстаўляючы знакі прыпынку ў адпаведнасці з пунктуацыйнымі нормамі. Пракаменціруйце пунктуацыйнае афармленне сказаў са звароткамі.

Зямля мая Разлучаны з табою
Табой дышу табою я жыву.
Прад вамі ж воіны байцы-героі
Я ў радасці схіляю галаву.

Зямля мая краіна непакоры
Ты голас мой пачуй у шуме гроз:
З табою я дзялю пакуты гора —
З дзяцінства я з тваім злучыў свой лёс.

Дык вер жа вер зямля мая матуля
Наш ясны дзень не змеркнуў не пагас
І далі сінь зноў ласкай нас атуліць
І прыйдзе нам збавення светлы час.

Зямля мая Прызнаюся я шчыра
Малю свой лёс я толькі аб адным —
Сабрацца зноў у радасны свой вырай
Каб слодыч мар адчуць нутром зямным

Злучыцца зноў з табой мая матуля
Абняць цябе шчакой прыльнуць да ран
Да свежых ран што свет ускалыхнулі
І сведкай стаць як прошласці курган.

**138.** Складзіце сказы са зваროткамі па схемах на тэмы «Беражыце прыроду», «Захоўвайце правілы дарожнага руху», «Захоўвайце правілы паводзін на вадзе» (на выбар):

1. З! ... !
2. ... , з, ... !
3. ... , з!

● Напішыце сачыненне на тэму «Мой запавет нашчадкам», скарыстайце сказы са зваროткамі.

**139.** Прачытайце тэкст, вызначце і абгрунтуйце яго стыль. Складзіце план, перакажыце тэкст паводле плана. Сказы-прыклады, якія ілюструюць розніцу паміж зваროткам і іншымі сінтаксічнымі з’явамі, запішыце. Зрабіце іх сінтаксічны разбор.

Для таго каб адрозніць зваротак і адасоблены прыдатак, трэба ўлічваць наступнае.[сн] Па-першае, зваротак, у адрозненне ад адасобленага прыдатка, не выконвае ацэначнай функцыі, а толькі называе[с] асобу ці прадмет, да якіх звяртаюцца. Па-другое, прыдатак звычайна мае аднолькавую

граматычную форму з паяснёным словам. Зваротак, наадварот, выражаецца назоўнікам у назоўным склоне (ці клічнай формай). Напрыклад: *Гуслям, **княжа*** (зваротак), *не пішуць законаў* (Я. Купала). *Ах, **сны**, **лятуценні**[ф] **мае залатыя*** (прыдатак), *якія ж вы саткалі ўзор!* (П. Глебка).

Зваротак трэба таксама адрозніваць ад назоўніка ў назоўным склоне (ці іменнага словазлучэння), які не выражае звароту, а акрэслівае тэму паведамлення[м], што раскрываецца ў наступным кантэксце (сказе). Напрыклад: *«**Пакуты** слова»... У паняцце гэтае трэба ўключыць іменна тыя пакуты, калі мне хочацца працаваць[сл], а я не магу* (Я. Брыль).

*Паводле В. Рагаўцова.*

**Пабочнымі канструкцыямі** называюцца словы, словазлучэнні і сказы, якія выражаюць суб'ектыўна-ацэначныя адносіны таго, хто гаворыць, да зместу выказвання. Такія канструкцыі на пісьме заўсёды вылучаюцца знакамі прыпынку: *Бег свой, **здавалася**, час замарудзіў* (М. Калачынскі). *Сарамлівасць, **на маю думку**, сведчыць пра ціплasць* (А. Асіпенка). ***Скажу вам шчыра**, педагогіка — складаная справа.*

Пабочныя канструкцыі не з'яўляюцца членамі сказа, аднак яны звязаны са зместам сказа. Пропуск або замена пабочных канструкцый вядзе да змены сэнсу сказа. *Выпускнікі, **бясспрэчна**, здадуць экзамены добра (выражаецца ўпэўненасць).* ***На маю думку**, выпускнікі здадуць экзамены добра* (указваецца крыніца паведамлення). *Некаторыя выпускнікі, **на жаль**, атрымалі невысокія адзнакі* (выражаецца засмучэнне, шкадаванне). ***Па-першае**, выпускнікі здадуць экзамены добра. **Па-другое**, яны знойдуць сваё месца ў жыцці* (падкрэсліваецца паслядоўнасць думак).

Некаторыя словы могуць выступаць і як пабочныя словы, і як члены сказа: ***Сапраўды*** (пабочнае слова), *навокал было цёмна. Цягнік сапраўды* (акалічнасць, выражаная прыслоўем) *набраў хуткасць.*

**140.** Прачытайце табліцу. На яе аснове са словамі *аднак, бадай, відаць, вядома* складзіце па два сказы, каб у адным выпадку моўныя адзінкі выступалі як пабочныя словы, у другім — з'яўляліся членамі сказа (або злучнікам, часціцай).

| Слова | Роля ў сказе |
|---|---|
| ***аднак*** | **Супраціўны злучнік** *(= але)* пры аднародных членах сказа або ў складаназлучаным сказе: *Вучоба — цяжкая, **аднак** пачэсная справа. Кожны праўду знае, **аднак** не кожны яе любіць* (Прыказка).<br>**Пабочнае слова** з узмацняльным значэннем *(= усё-такі)*, калі стаіць у сярэдзіне або ў канцы сказа: *Доўга, **аднак**, цягнуўся дзень.* |
| ***бадай*** | **Часціца** са значэннем меры і ступені *(= амаль)*: *Гэта была **бадай** што праўда.*<br>**Пабочнае слова** са значэннем 'магчыма': ***Бадай**, гэта быў першы чалавек, які гаварыў са мной так шчыра.* |
| ***відаць*** | **Галоўны член** безасабовага сказа (выказнік): *За акном **было відаць**, як згіналіся ад ветру верхавіны дрэў.*<br>**Пабочнае слова** са значэннем 'напэўна': *Валасы пышныя, вельмі светлыя і, **відаць**, мяккія, як кужаль* (Я. Скрыган). |
| ***вядома*** | **Галоўны член** безасабовага сказа (выказнік): ***Вядома**, што з гадамі чалавек пераацэньвае пражытае.*<br>**Пабочнае слова**: ***Вядома**, чалавеку хочацца дабрыні.* |
| Узмацняльная часціца ***нават*** у ролі пабочнага слова не выступае і коскамі не выдзяляецца. | |

**141.** Прачытайце тэкст. Выпішыце сказы з пабочнымі канструкцыямі. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

На жаль, частка сучасных працэсаў у галіне лексікі — адкрытае і яўнае сведчанне зніжэння агульнай культуры грамадства, узмацнення яго варварызацыі[л]. Такім, на нашу думку, з'яўляецца ўжыванне нецэнзурнай лексікі. Яе выка-

рыстанне ў публічным маўленні аб'ектыўна падмацоўвае пазіцыі вульгарызмаў. Шматкроп'е, якое ўводзіць журналіст з тым, каб чытач сам узнаўляў у памяці нецэнзурны выраз, шумавыя накладкі на нецэнзурныя словы або празрыстыя намёкі на лаянкавую лексіку — усё гэта спробы «эмансіпацыі мата», парушэнне табу.

Вядома, што забарона на ўжыванне пэўных слоў абумоўлена не толькі сацыяльна-палітычнымі, але і гістарычнымі, культурнымі і этычнымі фактарамі, якія дзейнічаюць на працягу доўгага часу. Варта падкрэсліць, што адмаўленне ад табу небяспечна па многіх прычынах. Як вядома, лаянкавыя словы вызначаюцца моцным уздзеяннем, мат — гэта форма вербальнай агрэсіі, зневажальных адносін не толькі да непасрэдных удзельнікаў размовы, але і да ўсіх, хто яе чуе *(Л. Выгонная)*.

● Зрабіце сінтаксічны разбор аднаго сказа з пабочнымі канструкцыямі.

● Сфармулюйце і запішыце асноўную думку тэксту. Выкажыце сваё меркаванне адносна ўжывання ненарматыўнай лексікі.

● Выпішыце запазычаныя словы, вусна растлумачце іх значэнне.

**Устаўныя канструкцыі** — сінтаксічныя адзінкі, якія дапаўняюць, паясняюць, удакладняюць інфармацыйны змест сказа ці яго асобных членаў. Такія канструкцыі звязаны са сказам сэнсава і інтанацыйна: вымаўляюцца паніжаным тонам і паскораным тэмпам. На пісьме ўстаўныя канструкцыі афармляюцца дужкамі або працяжнікамі.

Паводле структуры ўстаўныя канструкцыі падзяляюцца:

● на ўстаўныя словы: *Яблык апісаў над Кастусём дугу* ***(пералёт!)*** *і мякка ўпаў на пясок* (Ф. Янкоўскі);

● устаўныя спалучэнні слоў: *Янка Купала* ***(Іван Дамінікавіч Луцэвіч)*** *нарадзіўся ў 1882 годзе;*

● устаўныя сказы: *Прыснілася, што сею жыта* ***(чамусьці часта сны такія сняцца)*** (М. Танк).

**142.** Прачытайце тэкст. Якія факты сведчаць пра ўмовы вучобы ў пасляваенныя гады? Чаму настрой тэксту светлы, урачысты, а тэкст не пакідае змрочнага, сумнага ўражання, хаця гаворка ў ім ідзе пра вучобу ў цяжкія пасляваенныя гады?

Выпішыце сказы з устаўнымі канструкцыямі, растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў іх.

З якою ахвотаю садзіліся рабіць урокі! Раскладаеш на акне — шырокі падаконнік[сл] доўга быў для мяне пісьмовым сталом — новыя кнігі, новыя сшыткі (усё новае!) і садзішся[ф] на лаўку. Радуешся цеплыні падаконніка — ласкавае сонца на пачатку[м] восені добра грэе.[сн]

Новыя кнігі і сшыткі прыходзілі да нас, праўда, потым, ужо ў старэйшых класах.[сн] А спачатку — адзін буквар на тры вёскі. І мы, не ведаючы[м] яшчэ ўсіх літар і не ўмеючы пісаць, мусілі кожны дзень перапісваць урокі, каб потым ужо вучыцца[с] чытаць. А які экзатычны выгляд[сл] мелі нашы сшыткі[ф]! Мы самі рабілі[с] іх са старых газет, са шпалераў, з рознакаляровых[сл] кавалкаў абгортачнай паперы... Рэзкі пах мелу і наша бурае, падобнае на зямлю, чарніла, якое мы самі варылі з воўчых ягад, крушынніку...

І для нас не было тут нічога дзіўнага. Тады, у цяжкія пасляваенныя гады, не было дзіўна, што настаўніца (а гэта званне ў вёсках заўсёды ставілася высока) хадзіла ў бурках, а не ў модных чаравічках. У той час, калі ўсе хадзілі босыя, гэта было нават нейкім шыкам *(Паводле Я. Сіпакова)*.

Коскамі выдзяляюцца пабочныя словы, спалучэнні слоў, сказы, якія стаяць у сярэдзіне ці ў пачатку сказа і перадаюць эмацыянальную ацэнку фактаў рэчаіснасці, пачуццёвую рэакцыю на факты, пра якія гаворыцца ў сказе, паказваюць на крыніцу паведамлення, прыналежнасць выказанай думкі, выражаюць адносіны гаворачай асобы да слухача і да т. п.: ***Паводле славянскіх павер'яў***, *з'яўленне вясёлкі прадказвае моцны дождж, лівень* (У. Коваль). *Я, **скажу шчыра**, спалохаўся* (А. Асіпенка).

З а ў в а г а. Ад пабочных слоў неабходна адрозніваць словы, якія ўжываюцца ў ролі часціцы або прыслоўя. Яны коскамі не выдзяляюцца: ***Можа*** *пайсці на секцыю па валейболе? Усталявалася цёплае надвор'е, ужо* ***напэўна*** *прыляцяць буслы.* Параўн.: ***Ці*** *пайсці на секцыю па валейболе? Усталявалася цёплае надвор'е, ужо* ***дакладна*** *прыляцяць буслы.*

К о с к а й р а з д з я л я ю ц ц а пабочныя словы, спалучэнні слоў і сказы, калі яны ідуць адно за адным: ***Само сабой, канечне****, паставілі мы хату* (Б. Сачанка). ***Адным словам, на нашу агульную думку****, усе мы ўчатырох былі добрымі хлопцамі* (І. Навуменка).

Н е а д д з я л я е ц ц а к о с к а й пабочнае слова ад адасобленых членаў сказа, пабочных сказаў або ўдакладняльных канструкцый, перад якімі стаіць: *З магазіна выйшла бабуля з трыма пакункамі,* ***мабыць падрыхтаваўшыся да прыезду ўнукаў****.*

Пабочныя словы, спалучэнні слоў і сказы а д д з я л я ю ц ц а к о с к а м і ад папярэдніх злучнікаў, якія звязваюць члены сказа або часткі складанага сказа: *Сосны вымкнуць угару, як свечкі, сонца вершаліны ім прыпаліць,* ***і, здаецца****, так стаяць ім вечнасць — толькі б перад бураю ўстаялі!* (А. Зэкаў).

Калі злучнік ***а*** ўтварае адно цэлае з наступнай пабочнай канструкцыяй (словам, спалучэннем слоў, сказам), то ён н е а д д з я л я е ц ц а ад гэтай канструкцыі коскай: ***а можа, а магчыма, а значыцца, а між іншым, а па-другое***: *Іншыя гарады складваліся, раслі дзясяткамі,* ***а можа****, і сотнямі год* (Т. Хадкевіч). *Па-першае, трэба забяспечыць людзей усім неабходным інвентаром,* ***а па-другое****, арганізаваць дастаўку ў поле гарачай ежы.*

К о с к а й н е а д д з я л я е ц ц а ад пабочных канструкцый узмацняльная часціца ***і***: ***І сапраўды****, гэта някепская справа!*

В ы д з я л я ю ц ц а п р а ц я ж н і к а м і або б я р у ц ц а ў д у ж к і ўстаўныя канструкцыі, якія служаць у якасці тлумачэнняў, заўваг, дадатковых звестак, удакладненняў да асноўнага сказа: *Я першы раз быў у горадзе,*

*і Мазыр* — ***хоць гэта горад і не надта вялікі*** — *зрабіў на мяне надзвычайнае ўражанне* (І. Навуменка). *Асвейскае возера* ***(пасля Нарачы яно — другое па велічыні)*** *кожнаму вандроўніку запомніцца самым буйным востравам Беларусі* (У. Ягоўдзік).

З а ў в а г а. Перад закрывальнай дужкай пасля ўстаўной канструкцыі ставяцца знакі прыпынку, якія патрабуюцца кантэкстам (клічнік, пытальнік або шматкроп'е): *Ніколі не спадзявайся, што мае ногі яшчэ здольны на такі марафон* ***(з Гродна да Мастоў — 63 км!)*** (А. Карпюк). *Прыемнае адчуванне з'яўляецца* ***(ці няпраўда?)****, калі закончыш усе справы своечасова.*

Калі ўстаўная канструкцыя, якая выдзяляецца працяжнікамі, знаходзіцца паміж часткамі, дзе павінна ставіцца коска, або калі ў канцы ўстаўной канструкцыі ёсць гэты знак прыпынку, то коска спалучаецца з працяжнікам і ставіцца перад другім працяжнікам: *У кнігах, што прынёс бібліятэкар* ***— іх было дзесяць****, — мы спадзяваліся знайсці патрэбную для даклада інфармацыю.*

**143.** Прачытайце сказы, запішыце іх, захоўваючы пунктуацыйныя нормы. Раскрыйце дужкі і ўстаўце прапушчаныя літары. Пракаменціруйце пастаноўку знакаў прыпынку.

1. Па тэорыі Дарвіна праца зрабіла з малпы чалавека. А па маёй тэорыі чалавек прыдумаў літаратуру музыку жывапіс каб зноў *(н..)*ператварыцца ў малпу *(Л. Арабей)*. 2. Ды *(н..)*калі смутак мой згубіцца ў змроку канец мае ўсё ў гэтым грэшным жыцці *(В. Дэбіш)*. 3. Неба прыціхла а значыць забыцца можна *(Я. Галубовіч)*. 4. Назва Міёры ці гістарычны варыянт Мёры *(н..)*звычайная і нават экзатычная для Беларусі *(А. Яфімаў)*. 5. Калі забрала сястра да сябе маці гэта здарылася амаль адразу пасля таго як ён паступіў ва ўніверсітэт у Ленінградзе бываць у вёсцы яму *(н..)*выпадала *(У. Гаўрыловіч)*. 6. Мо размыла вада якую граду насунутую ў далёкія часы ледніком? *(А. Камароўскі)*. 7. «Шэрым» ён называў Свідэрскага *(па)*першае за тое

што той звычайна апранаўся *(н..)*ярка *(па)*другое паўсюль імкнуўся трымацца *(н..)*прыкметна *(па)*трэцяе *(н..)*колі *(н..)*чога пра сябе *(н..)*распавядаў і *(па)*чацвёртае па аналогіі з імем Сяргей *(Я. Конеў)*. 8. Лес атрасаў з сябе счарнеласць[ф] святлееў і здаецца на вачах дужэў харашэў напаўняўся галасамі сваіх насельнікаў *(У. Ліпскі)*. 9. Размова аднак *(н..)*клеілася *(З. Прыгодзіч)*.

**144.** Прачытайце тэкст. Чаму *свята апошняга званка* чакаюць не толькі выпускнікі? Што выражаюць пабочныя словы ў тэксце? Спішыце, раскрываючы дужкі. Пастаўце, дзе трэба, знакі прыпынку і растлумачце іх.

СВЯТА АПОШНЯГА ЗВАНКА

Кожны навучальны год у школе завяршаецца гэтым традыцыйным урачыстым мерапрыемствам. І хоць «званок» гэты *(па)*сапраўднаму апошні толькі для выпускнікоў з *(не)*цярпеннем чакаюць свята апошняга званка ўсе вучні.[сн] Наперадзе ў іх вясёлае лета і самыя доўгія школьныя канікулы.

Праўда саміх выпускнікоў чакаюць ужо *(не)*канікулы а першыя ў жыцці экзамены...

На святе апошняга званка заўжды шмат кветак. І вельмі шмат гасцей.

І канечне самы кранальны момант свята — гэта калі для выпускнікоў гучыць іх самы апошні школьны званок. А адбываецца гэта такім чынам: самы рослы вучань выпускнога класа садзіць сабе на плячо каго*(сьці)* з *(перша)*класнікаў і так яны разам праходзяць уздоўж шарэнгі вучняў. А *(перша)*класнік у гэты час з усяе сілы трасе над галавой маленькім званочкам...

Праўда бываюць гады калі сярод выпускнога класа няма больш*(менш)* рослых вучняў. І тады маленькага *(перша)*класніка са званочкам проста вядуць за руку...

Але званочак усё роўна звініць. І гэтак жа весела і звонка ён будзе звінець праз тры месяцы першага верасня...

А значыцца школьнае жыццё будзе працягвацца далей *(Паводле Г. Аўласенкі)*.

**145.** Прачытайце верш, вызначце яго асноўную думку. Якія моўныя сродкі дапамагаюць яе выяўленню? Спішыце, расстаўляючы знакі прыпынку ў адпаведнасці з пунктуацыйнымі нормамі, і патлумачце іх пастаноўку. Назавіце словы, ужытыя ў ненарматыўным варыянце. Парушэннем якіх норм яны з'яўляюцца? З якой мэтай аўтар іх выкарыстаў?

Дзень добры свята вабнасці самой
Калі ўсяго сямнаццаць за спіною!
На жаль сягоння гэты парк не мой
Як не мае і лета выпускное.

І можа быць нібы на дзівака
Ў мой бок глядзяць гарэзлівыя феі
І думаюць чаго я заблукаў
На маладой бярозавай алеі

І ў свой нататнік чыркаю радкі
Акідваючы позіркам зайздросна
Ўвесь гэты парк святочна-гаманкі
Нібы свае прыгадваючы вёсны...

Ну што ж, пара ўжо мусібыць дамоў.
Што любавацца не сваёй вясною?!
На жаль сягоння гэты парк не мой
Як не мае і лета выпускное...

*М. Шабовіч.*

**146.** Напішыце замалёўку пра святы ў вашай школе на тэму «Традыцыі нашай школы» («Свята, якое мне запомнілася», «Памятная дата»), ужываючы сказы з аднароднымі членамі, пабочнымі і ўстаўнымі канструкцыямі.

**147.** Прачытайце ўспаміны І. Шамякіна пра І. Мележа. Якім уяўляецца вам І. Мележ? Спішыце тэкст, устаўляючы на месцы пропускаў пабочныя або ўстаўныя канструкцыі з дужак. Што перадаюць пабочныя і ўстаўныя канструкцыі ў тэксце? Пракаменціруйце пунктуацыйнае афармленне ўтвораных сказаў.

У рабоце ... у нас з Мележам часам узнікалі канфлікты, большасць з якіх мы вырашалі самі ці з дапамогай калег

(і я лічу гэта зусім натуральна). Мы па-рознаму ставіліся да тых ці іншых праблем, твораў, людзей. Здаралася, што тое, што я лічыў сур'ёзным, Іван Паўлавіч такім не лічыў, ці наадварот. ... ён больш скептычна ставіўся да нашага кіраўнічага тлуму, да шматлікіх пасяджэнняў, пастаноў, якія наўрад ці памагалі творчасці (увогуле). І ён ... ... меў рацыю (як я пераконваюся цяпер; можа позна).

**КАБ АДРОЗНІЦЬ ПАБОЧНЫ СКАЗ АД УСТАЎНОГА, ТРЭБА ПАМЯТАЦЬ:**

1) **пабочныя сказы** часта называюць крыніцу паведамлення *(як кажуць, думалася мне, як мы спадзяваліся)* або ўводзяць дадатковую заўвагу, прыклад для падмацавання выказанай думкі *(галоўнае, самае галоўнае, напрыклад, скажам)*, для ўздзеяння на слухача *(спадзяюся, калі помніш)*. **Устаўныя сказы** выражаюць дадатковую заўвагу, удакладняюць выказванне, тлумачаць яго;

2) **пабочныя сказы** маюць цесную сэнсавую сувязь з асноўным сказам. Інфармацыя **ўстаўнога сказа** «ўплятаецца» ў структуру асноўнага сказа.

**148.** Прачытайце, захоўваючы правільную інтанацыю. Выпішыце асобна сказы з пабочнымі і ўстаўнымі канструкцыямі. Расстаўце знакі прыпынку і растлумачце іх пастаноўку.

1. І Костусь мушу я прызнацца ўжо ўмеў на дошцы распісацца *(Я. Колас)*. 2. Добра знаёмая мне настаўніца не ведаю дзе яна і што з ёю расказвала пра былую суседку. 3. Шумнаю, гаманліваю грамадою а было іх чалавек пятнаццаць накіраваліся яны ў бок возера *(Я. Колас)*. 4. Спрадвеку як людзі сцвярджаюць[с] праз бор наш гасцінец ляжаў *(М. Калачынскі)*. 5. Настаўнік убачыўшы панну Марыну а гэта была яна мімаволі спыніўся *(Я. Колас)*. 6. Трапіўшы ў даволі сталым узросце на Палессе Якуб Колас тады настаўнік Кастусь Міцкевіч палюбіў гэты край назаўсёды. 7. Праўду кажуць што касіць справа не абы якая, мужчынская справа *(І. Мележ)*.

## § 15. Сінтаксічныя прыметы сказаў з параўнальнымі зваротамі, ужыванне, знакі прыпынку

**Параўнальныя звароты** — гэта словы і словазлучэнні, якія шляхам параўнання раскрываюць і ўдакладняюць змест іншых слоў у сказе: *Гарыць у кветках луг, **нібы міраж**. Спяклася ў поўдзень шапка, **як аладка**. Лес, **нібыта з рукава**, птушак высыпаў стазвоны* (Я. Янішчыц).

Параўнальныя звароты ўводзяцца ў сказ пры дапамозе злучнікаў ***бы, быццам, нібы, нібыта, чым, што, як, як бы, быццам, як быццам*** і могуць паясняць і ўдакладняць любы член сказа (галоўны або даданы): *Плывуць аблокі, **быццам карасі**, раняючы імжу на верасы* (параўнальны зварот паясняе дзейнік). *Вецер на полі гуляе, вые, **як звер*** (параўнальны зварот паясняе выказнік). *Амілія зноў выразна ўбачыла яго доўгі, **як старая лыжка**, учарнелы твар* (параўнальны зварот паясняе азначэнне). *Дождж прайшоў асцярожна, **як дым*** (параўнальны зварот паясняе акалічнасць). Але найбольш пашыраныя ў мове параўнальныя звароты, якія паясняюць дзеяслоў-выказнік: *Стажар* на лузе тырчаў, **як кассё*** (В. Макарэвіч).

**149.** Прачытайце верш. Да якога віду лірыкі ён адносіцца? Якія моўныя сродкі дапамагаюць перадаць пачуццё пяшчоты? Назавіце адасобленыя члены сказа і параўнальныя звароты, растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку пры іх.

У электрычцы люднай, пры акне,
З дзяўчынай ехаў ён — і тым уразіў,
Што сон яе ў руках трымаў, як вазу,
Не бачыў ні суседзяў, ні мяне.
У вокны барабаніў дождж мацней,
Вагон рыпеў, падрыгваў час ад часу,

А хлопец не аслабіў рук ні разу,
Замёр і сам, як у чароўным сне.

На ўвесь састаў, відаць, вагон адзіны
Ускалыхнуў пяшчотныя ўспаміны.
Глядзелі мы на шчасце маладых,
Пра свой узрост забыўшы на хвілінку, —
І ціха, каб не патрывожыць іх,
Сыходзіў кожны на сваім прыпынку.

*М. Маляўка.*

Выдзяляюцца коскамі параўнальныя звароты, якія пачынаюцца злучнікамі ***як, бы, як бы, нібы, нібыта, быццам, як быццам, што, як і, чым***: *Ад шчасця сэрца скача, **як дзіця**, ад бед яно, **як млын**, шуміць начамі, варочае цяжкімі камянямі, падлічваючы горычы жыцця* (А. Куляшоў). *Перад вачыма падлеткаў, **нібы невядомы**, уставаў іх родны край* (У. Караткевіч). *У песень, **як і ў людзей**, свая доля і свой лёс* (А. Бачыла).

Коска не ставіцца пры параўнальных зваротах перад злучнікамі ***як*** і ***чым*** у спалучэннях ***больш як (не больш як), больш чым (не больш чым), менш як (не менш як), менш чым (не менш чым), не бліжэй як, не далей як, не часцей як, не радзей як, не іначай як, усё роўна як*** і іншых, якія выражаюць абмежаванне ў прасторы, часе, колькасці, калі яны сэнсава і інтанацыйна не выдзяляюцца: ***Больш як паўстагоддзя** нястомна мысліў, тварыў неспакойны, мудры, здавалася, невычэрпны талент паэта...* (І. Мележ). ***Менш як два тыдні** заставалася да выпускных экзаменаў.*

Не выдзяляюцца коскамі:

- устойлівыя выразы: ***як мага, як след, відна як днём, гол як сакол, маўчаць як рыба, ведаць як свае пяць пальцаў*** і інш.;
- параўнальныя звароты, якія з'яўляюцца іменнай часткай выказніка: *Святло гэтых зор **нібы тайны*** (Л. Галубовіч);

● параўнальныя звароты, перад якімі ёсць часціца ***не*** або прыслоўі ***зусім, амаль***: *Да дырэктара прадпрыемства Васіля Пятровіча адносіліся з павагай: ён быў чалавекам патрабавальным, але заўсёды размаўляў з рабочымі* ***не як з падначаленымі****. На свяце гумару ўсе дарослыя паводзілі сябе* ***зусім як дзеці***;

● звароты з ***як***, калі яны ўжываюцца са значэннем ‘у якасці’ або са значэннем тоеснасці: *Усе ведалі Алега* ***як добрага чалавека****. Быў дзень* ***як дзень.***

**150.** Прачытайце верш. Што вы ведаеце пра Рагнеду? Праз якія вобразныя сродкі выяўляецца стаўленне аўтара да Рагнеды? Спішыце верш, расстаўляючы прапушчаныя знакі прыпынку. Патлумачце іх пастаноўку.

РАГНЕДА

Ты прыходзіш з мінулых вякоў
Як багіня
зямная кабета.
Я імя тваё звонам падкоў
Высякаю
што іскры
Рагнеда.
Вобраз твой
як абраз
намалю,
Што,
здаецца,
падораны Богам.
Ты сышла на святую зямлю
Нашай памяці
зорнай дарогай.
Толькі ўбачу пагляд твой здалёк,
Як адразу знікае туга ўся.
Мо ў цябе я,
нібы матылёк
У сінечу нябёс,
закахаўся.

Зноўку іскры з-пад конскіх падкоў
Нібы знічкі
ляцяць над планетай,
Каб прыйшла ты з мінулых вякоў
Як маё ратаванне
Рагнеда.
*У. Мазго.*

**151.** Прачытайце сказы. Спішыце, захоўваючы пунктуацыйныя і арфаграфічныя нормы. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку і напісанне ўстаўленых літар.

1. Прырода прыбралася як мала..іца *(С. Давідовіч)*. 2. Аказа..ся ў да..гах як у ша..ках *(І. Капыловіч)*. 3. Здавалася адбываецца ўсё нібыта ў сне *(Г. Пярун)*. 4. Мінула здаецца больш як па..года пасля гэтага выпа..ку пад старою бярозай *(М. Паслядовіч)*. 5. Там сяро.. лясной драбязы стаяла і цешылася сабой як княгіня а..сыпаная[с] брыльянтамі ці караламі зала..істымі шышкамі высозная разлапістая яліна *(В. Макарэвіч)*. 6. Як на драж..ах раслі на агаро..е кабачкі і гарбузы... *(А. Камароўскі)*. 7. Беларусь ведаюць у све..е і як краіну высокага тэатральнага мастацтва *(В. Корбут)*. 8. Вада ў Кругане нібы тонкае шкло... *(Л. Валасюк)*. 9. Пачалі лю..і жыць як лю..і *(А. Козел)*. 10. Лета маё праля..ела нібыта страла *(Н. Маеўская)*. 11. Менш чым за хвіліну яны пашпурлялі ў выкапаны дол мяхі ды рыштунак... *(Я. Конеў)*. 12. Цягнецца дзі..я да кветкі шыпшыны прыгожай і яснай нібы тое сонца *(Г. Навасельцава)*. 13. І тут быццам кіпнем абдало! *(А. Наварыч)*. 14. Больш як дваццаць пар дапытлівых вачэй гля..ела на птушку *(А. Вольскі)*.

**152.** Прачытайце, звярніце ўвагу на выдзеленыя словы. Якой формай назоўнікаў (назоўнікаў і прыметнікаў) могуць выражацца параўнанні? Перабудуйце прапанаваныя сказы ў сказы з параўнальнымі зваротамі. Запішыце. Якія з варыянтаў параўнання больш паэтычны?

Паміж алешніку **змяёю**[ф]
Крыніца чорнай паласою

На свет зірнула, лёд прабіла,
Ў старых карчах загаманіла.
*Я. Колас.*

Зялёны луг як скінуць вокам
**Абрусам пышным** і **шырокім**
Абапал Нёмна рассцілаўся[с].
*Я. Колас.*

Здалёк відна
Зямля бацькоў,
Матуль,
Дзе песня б'ецца
**Перапёлкай шэрай.**
*Р. Барадулін.*

## § 16. Сінтаксічныя прыметы складаназлучаных сказаў, ужыванне, знакі прыпынку

**Складаназлучаныя сказы** — складаныя сказы, у якіх сэнсава-граматычныя часткі раўнапраўныя, адносна самастойныя паводле сэнсу і звязаны **злучальнымі злучнікамі**: *Сады, нівы хлебныя ў сілу бяруцца, **і**, стому адчуўшы, усе з сонцам смяюцца* (М. Танк). Часткі ў складаназлучаным сказе звязваюцца спалучальнымі, супастаўляльнымі, размеркавальнымі і далучальнымі злучнікамі. Адпаведна паміж часткамі выражаюцца:

1) **спалучальныя адносіны.** У сказах са спалучальнымі злучнікамі ***і, ды*** (у значэнні ***'і'***), ***ні — ні***, злучальнымі словамі ***потым, затым*** дзеянні адбываюцца адначасова ці паслядоўна: *Дождж скончыўся, **і** чыстае сонейка выглянула з-за хмар. Гара крута абрывалася, **затым** абрыў пераходзіў у пакаты спуск* (Т. Хадкевіч). У сказах з прычынна-выніковымі адносінамі ў першай частцы называецца прычына, у другой — вынік: *У светла-шэрым небе з'явілася сонца, **і** птахі заспявалі зладжана, дружна*;

2) **супастаўляльныя адносіны.** У сказах з супастаўляльнымі злучнікамі ***а, але, затое, аднак, ды*** (у значэнні ***'але'***), ***толькі, ж (жа), аж*** выражаюцца адносіны супастаўлення ці супрацьпастаўлення: *Імя паэта забылася, **а** верш помніцца* (А. Кудравец). *У лесе было цёпла, **аднак** лёгкі дотык восені ўжо адчуваўся ў прыродзе. Спіць у зялёным бары цішыня, **толькі** закаханым не спіцца* (А. Бачыла). *Ліха знойдзе ўсюды, шчасце **ж** уцякае* (Я. Колас);

3) **размеркавальныя адносіны.** У складаназлучаных сказах з размеркавальнымі злучнікамі ***то — то, ці — ці, не то — не то, або, ці*** выражаюцца адносіны пералічэння, чаргавання або ўзаемавыключэння: ***Ці** там ветры халодныя дзьмуць, **ці** зямелька спавіта цяплом* (Ц. Гартны). *Не то птушкі змоўклі, **не то** вецер пацішэў*;

4) **далучальныя адносіны.** Пры далучальных адносінах пры дапамозе злучнікаў ***ды, ды і, а то, а, і то, тым больш што, і таму*** ў другой частцы заключана дадатковае паведамленне, тлумачэнне, заўвага: *Бацька адпачываў, **ды і** пара была адпачыць.* З дапамогай злучніка ***ды і*** другая частка з'яўляецца падагульненнем таго, пра што гаворыцца ў папярэдняй частцы.

Такім чынам, складаныя сказы ў залежнасці ад сэнсавых адносін паміж часткамі падзяляюцца:

1) на складаназлучаныя сказы са **спалучальнымі** адносінамі;

2) складаназлучаныя сказы з **супастаўляльнымі** адносінамі;

3) складаназлучаныя сказы з **размеркавальнымі** адносінамі;

4) складаназлучаныя сказы з **далучальнымі** адносінамі.

**153.** Запішыце сказы, размеркаваўшы іх паводле сэнсавых адносін паміж часткамі складаназлучаных сказаў (спалучальныя, супраціўныя,

размеркавальныя, далучальныя). Пастаўце патрэбныя знакі прыпынку. Падкрэсліце граматычныя асновы. Пабудуйце схемы сказаў.

1. Вецер дзьмуў і шумеў па-над Нёманам бор *(М. Танк)*. 2. Маўчала возера ў тумане ды вербы плакалі ў цішы *(П. Трус)*. 3. У жнівеньскі дзень зранку вуліца дрэмле затое поле поўніцца жыццём *(І. Мележ)*. 4. Ці абзавуцца ў небе гусі ці дзяцел грукне па сасне *(Г. Бураўкін)*. 5. Ці то сонца свеціць ці то месяц ясны вам смяецца[с] з неба весела і шчасна *(Я. Купала)*. 6. Памалу[м] гутарку мы распачалі а шмат аб чым пагутарыць было *(Я. Купала)*. 7. Прарваўся аглушальны гром і лівень хлынуў на лес *(П. Пестрак)*. 8. Сяло спала і толькі ў некалькіх хатах гарэла святло *(А. Кудравец)*. 9. Дзень толькі пачынаўся і спяшацца не было куды *(В. Карамазаў)*. 10. Выжыць — гэта любой цаною а жыць — гэта ўсё-такі менш ці больш сумленна *(Я. Брыль)*. 11. Формы жыцця абмежаваны само ж жыццё не мае граніц *(Я. Колас)*. 12. Дарога была пустэльная і ціхая затое лес поўніўся птушыным рознагалоссем *(Т. Хадкевіч)*. 13. Дзеці ў гэта верылі[с] шчыра і таму свята набывала ўжо асаблівую таямнічую прыгажосць *(С. Давідовіч)*. 14. Жаўранкаў не відаць у цьмяным небе а толькі песня звініць[ф] цярушыцца на траву на кветкі *(Я. Брыль)*. 15. Я хлеба ў багатых прасіў і маліў яны ж мне каменне давалі *(М. Багдановіч)*.

**154.** Прааналізуйце паслядоўнасць разбору складаназлучанага сказа.

Узор. [1] *У лесе было ціха і маркотна, а* [2] *ўгары стаяў шум старых ялін.*

Сказ складаны, злучнікавы, складаназлучаны. Складаецца з дзвюх сэнсава-граматычных частак, якія звязаны паміж сабой злучальнай сувяззю пры дапамозе супраціўнага злучніка ***а***. Паміж часткамі выражаюцца супраціўныя адносіны. На мяжы частак перад злучнікам ***а*** ставіцца коска.

Першая частка пабудавана як просты, апавядальны, сцвярджальны, аднасастаўны (безасабовы), развіты, поўны, ускладнены аднароднымі выказнікамі сказ.

Выказнік састаўны іменны, выражаны дзеясловам-звязкай *быць* у форме прошлага часу адзіночнага ліку і прэдыкатыўнымі прыслоўямі *ціха* і *маркотна*.

Другая частка пабудавана як просты, апавядальны, сцвярджальны, двухсастаўны, развіты, поўны, няўскладнены сказ. Дзейнік выражаны назоўнікам у форме назоўнага склону. Выказнік просты дзеяслоўны, выражаны дзеясловам у форме прошлага часу адзіночнага ліку мужчынскага роду.

Схема сказа: **[ 1 ], *а* [ 2 ].**

● Складзіце і запішыце два-тры складаназлучаныя сказы. Зрабіце іх сінтаксічны разбор.

**155.** Прачытайце. Да якога стылю належыць тэкст? Абгрунтуйце сваю думку. Выпішыце складаназлучаныя сказы, зрабіце іх сінтаксічны разбор, пабудуйце схемы.

**Універсальная** Беларуская **энцыклапедыя** (БелЭн) выдавалася ў адпаведнасці з Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 23 жніўня 1993 года. Першая ўніверсальная Беларуская энцыклапедыя (БелСЭ) у 12 тамах выйшла ў 1969—1975 гадах, і гэта выданне[ф] ўключала каля 35 тысяч **тэрмінаў**.

Творча выкарыстаўшы вопыт папярэдніх беларускіх энцыклапедычных выданняў, лепшых замежных энцыклапедый і **даведнікаў**, а таксама метадычныя прынцыпы адбору, апрацоўкі і сістэматызацыі інфармацыі, стваральнікі новай Беларускай энцыклапедыі паставілі за мэту зрабіць яе вартай свайго народа, яго багатай і славутай гісторыі, яго дасягненняў і **перспектыў** развіцця.

Энцыклапедыя выдадзена ў 18 тамах, і ў ёй змешчана каля 80 тысяч тэрмінаў *(З газеты)*.

● Растлумачце значэнне выдзеленых слоў.

● Выпішыце словазлучэнні з лічэбнікамі. Лікі запісвайце словамі.

● Выпішыце словы, якія адпавядаюць правілу «Ужыванне вялікай літары».

Часткі складаназлучаных сказаў аддзяляюцца коскай, кропкай з коскай, працяжнікам.

Коска ставіцца паміж часткамі складаназлучаных сказаў, якія аб'яднаны адзіночнымі злучнікамі:

- спалучальнымі ***і, ды*** (у значэнні ***'і'***), ***дый (ды і)***: *Чалавек — складаная істота, **і** яго нялёгка зразумець* (Л. Галубовіч). [ ], [і] [ ]. *У камінку гудзе вятрыска, **і** бор за вокнамі шуміць* (Р. Баравікова). [ ], [і] [ ];
- супраціўнымі ***а, але, ды*** (у значэнні ***'але'***), ***ж (жа), аж, аднак, затое, толькі***: *Чорны яшчэ толькі пачынаў, **а** крытыка ўжо ахрысціла яго «беларускім Дастаеўскім»* (М. Тычына). [ ], [а] [ ]. *У печцы трашчалі дровы, **але** настылы за зіму пакоік награвайся марудна* (І. Навуменка). [ ], [але] [ ];
- размеркавальнымі ***або (альбо), ці***: *Бягуць дні, **або** ляцяць гады.* [ ], [або] [ ].

Заўвага. Коска не ставіцца паміж часткамі складаназлучанага сказа, якія звязаны адзіночнымі злучнікамі ***і, ды*** (у значэнні ***'і'***), ***або, ці***, калі:

- у сказе ёсць агульны член, агульная часціца ці пабочнае слова, якія адносяцца як да першай, так і да другой часткі: ***Вясной*** *светлы сок прарывае бярösту **і** рэкі сплаўляюць у мора свой панцыр* (П. Панчанка). [ ] [і] [ ]. ***Толькі*** *вецер гудзеў **і** гнуліся дрэвы да долу.* [ ] [і] [ ];
- часткі з'яўляюцца безасабовымі, няпэўна-асабовымі або назыўнымі сказамі: *Светла **і** марозна.* [ ] [і] [ ]. *Яркае сонца **і** снег.* [ ] [і] [ ];
- часткі маюць форму пытальных, пабуджальных або клічных сказаў: *Колькі прыгажосці **і** колькі экспрэсіі!* [ ] [і] [ ]!

Коска ставіцца паміж часткамі складаназлучаных сказаў, якія аб'яднаны паўторнымі злучнікамі

***і — і, ні — ні, то — то, не то — не то, або (альбо) — або (альбо), ці — ці, ці то — ці то***: ***І*** *лугавая птушка кліча,* ***і*** *ад травы салодкі пах змывае горкі пыл з аблічча і застывае на губах* (Р. Баравікова). [*І*] [ ], [*і*] [ ]. ***І*** *звоны гучаць,* ***і*** *гром шырыцца,* ***і*** *цішыня ляжыць* (К. Чорны). [*І*] [ ], [*і*] [ ], [*і*] [ ].

Кропка з коскай ставіцца паміж часткамі складаназлучанага сказа, якія звязваюцца паміж сабой:

- злучнікамі ***але, толькі, аднак*** і іншымі, калі гэтыя часткі разгорнутыя і (або) маюць свае знакі прыпынку: *Вада ў крыніцы пульсавала, званіла, як званочак;* ***аднак*** *людзі не заўважалі яе.* [ ]; [*аднак*] [ ];
- злучнікам ***а***, калі састаўныя часткі разгорнутыя і маюць свае знакі прыпынку: *Вясна пачалася рана;* ***а*** *пад канец мая ўжо красавалі, пераліваючыся рознымі фарбамі, кветкі позняга лета.* [ ]; [*а*] [ ];
- злучнікамі ***і, ды*** (у значэнні ***'і'***), калі яны аб'ядноўваюць дзве састаўныя часткі, якія без гэтых злучнікаў былі б самастойнымі сказамі, раздзеленымі кропкай: *Неўпрыкмет распусціліся коцікі, збіраючы вакол сябе пчол;* ***і*** *навокал стаяў прыемны водар.* [ ]; [*і*] [ ]. *Захоўваючы векавы спакой, паважна гаманілі дубы;* ***ды*** *толькі спевы птушак парушалі лясную цішыню.* [ ]; [*ды*] [ ].

Паміж часткамі складаназлучанага сказа ставіцца працяжнік, калі:

- у другой частцы падкрэсліваецца вынік у адносінах да першай: *А будзе хлеб —* ***і*** *будуць песні* (Л. Галубовіч). [ ] — [*і*] [ ]. *Сонца шчыруе —* ***і*** *лета цвіце* (В. Ярац). [ ] — [*і*] [ ];
- у сказе перадаецца нечаканасць, хуткая змена з'яў ці падзей: *Адна хвіліна —* ***і*** *машына чакала ля пад'езда.*

[ ] — [і] [ ]. *Момант — і Сцёпкава постаць знікае з Аленчыных вачэй* (Я. Колас). [ ] — [і] [ ];

- у сказе перадаецца супрацьпастаўленне: *Я запытаўся пра Жэню — і сябар не адказаў*. [ ] — [і] [ ].

**156.** Разгледзьце табліцу 1 у дадатку. Зрабіце вывад аб інтанацыйным афармленні складаназлучаных сказаў, паміж часткамі якіх ставіцца коска, кропка з коскай, працяжнік. Звярніце ўвагу на сэнсавыя адносіны паміж часткамі.

**157.** Прачытайце складаназлучаныя сказы. Спішыце, ставячы знакі прыпынку і ўстаўляючы прапушчаныя літары. Якія сказы могуць мець варыянты пунктуацыйнага афармлення? Чаму?

1. Згасае светлы дзень няўхільна і ноч сплывае ў іншы свет *(В. Вабішчэвіч)*. 2. Перад ім праплывалі далёкія макаўкі лес.. а бліжнія травы ды кусты каціліся насустрач зялёнымі хвалямі *(М. Бусько)*. 3. Пастаяла хмара над галавою і раптам шугануў магутны лівень *(Г. Васілеўская)*. 4. І не трывожыў потым шолах лісця і не палохаў ветр.. стук *(М. Маляўка)*. 5. Месячык то выныраў з-за лё..кіх аблокаў то хаваўся за іх і тады лё..кая смуга ахутвала навако..е *(М. Даніленка)*. 6. Тут над вёскай яшчэ панавала цемра а над лесам неба паступова святлела набывала блакітны колер *(В. Саковіч)*. 7. Уздоўж разбуранага ганк.. вакол сцен вясёла цвілі сінія і жоўтыя касачы і ў горад мы а..праўляліся з шыкоўным букетам лета *(К. Камейша)*. 8. Яшчэ з вясны на дрэве ён [лісток] засох ды вецер не занёс яго ў пясок... *(У. Карызна)*. 9. У кустах спявалі пераклікаліся[с] птушкі а ў возер.. яно цьмяна блішчала ў цемр.. гуляючы плёскала рыба *(А. Якімовіч)*. 10. Шукаеш хараства і яго няма... *(М. Зарэцкі)*. 11. Рэ..кі моцны ўзмах рукі і мяч гулка ўзрываецца па той бок сеткі *(З. Прыгодзіч)*. 12. Быў ужо позні час абед.. але за сталом яшчэ сядзелі двое знаёмых перакла..чыку афіцэраў *(У. Федасеенка)*.

13. На двар.. неўпрыкмет пачало вечарэць а хутка і ў пакой упаўзла цемра *(Я. Галубовіч)*.

У адпаведнасці з якімі нормамі ўстаўлены прапушчаныя літары?

**158.** Спішыце, расстаўляючы знакі прыпынку. У частках складаназлучаных сказаў падкрэсліце граматычныя асновы.

Быў красавік і вясна ішла ў сваю апошнюю пераможную атаку. Цёплы вецер смела і весела шугаў над палямі разносячы вакол пахі жывой зямлі. На дарогах на разорах палеткаў тысячы ручаінак вызвоньвалі[с] вясёлую песню вясны змываючы[м] на сваім[ф] шляху апошнія лапінкі снегу[ф].

Але нам было не да весялосці[сл]. «Газік» вурчаў як злоўлены[м] ў пастку разлютаваны звер. Часамі ён да знямогі на ўсе свае сорак конскіх сіл тузаўся па гразі не ў сілах скрануцца з месца.

Неўзабаве мы пад’ехалі да клуба. Сход ужо ішоў і мы не марудзячы накіраваліся ў клуб. Зайшоўшы[с] ў залу Пятрэнка асцярожна пачаў прабірацца паміж людзей да стала прэзідыума *(У. Краўчанка)*.

● Зрабіце сінтаксічны разбор простых сказаў.

**159.** Утварыце з двух простых сказаў пад лічбамі 1, 2, 3, 4 складаназлучаныя сказы. Бяззлучнікавыя складаныя сказы (пад лічбамі 5, 6) перабудуйце ў складаназлучаныя.

Сказы запішыце, афармляючы іх у адпаведнасці з пунктуацыйнымі нормамі.

Вызначце сэнсавыя адносіны паміж часткамі складаназлучаных сказаў.

1. Выпаў першы снег. У гэты дзень дзяўчаты вырашылі набыць канькі. 2. Прыгожая і незабыўная маладосць. З гадамі прыходзіць да чалавека мудрасць. 3. Пабудавалі новы дом. У хуткім часе мы збіраемся пераехаць на новую кватэру. 4. Рыхтуючыся да заняткаў, Наталля наведала бібліятэку. Дзяўчына атрымала выдатную адзнаку. 5. Раскашавала «бабіна лета» — ва ўсіх людзей быў добры настрой. 6. Дзмітрый папрасіў брата дапамагчы рашыць складаную задачу па фізіцы — брат згадзіўся.

**160.** Дапішыце складаназлучаныя сказы. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў іх.

1. Па заканчэнні школы кожны выбірае свой шлях...
2. Дождж ліў некалькі дзён...
3. Славіку падарылі цікавую кнігу...
4. Загучала прыемная мелодыя...
5. Гадзіннік паказваў недакладны час...
6. Пакойчык быў утульны...

**161.** Складзіце і запішыце складаназлучаныя сказы пра свае планы пасля заканчэння школы па наступных схемах:

1. [ ], *і* [ ].
2. [ ], *ды* *(‘але’)* [ ].
3. [ ] *і* [ ].
4. [ ], *ці* [ ].
5. [ ]; *а* [ ].
6. [ ] — *і* [ ].

Сфармулюйце пунктуацыйныя правілы, карыстаючыся якімі афармлялі ўтвораныя складаназлучаныя сказы.

● Паразважайце над праблемай выбару прафесіі. Свае думкі запішыце, выкарыстаўшы складаназлучаныя сказы.

## § 17. Сінтаксічныя прыметы складаназалежных сказаў, ужыванне, знакі прыпынку

**Складаназалежны сказ** — складаны сказ, у якім галоўная і дадана (даданыя) часткі звязаны падпарадкавальнымі злучнікамі і злучальнымі словамі *(падпарадкавальнай сувяззю)*. Ад галоўнай часткі да дадана ставіцца пытанне, прычым у адных выпадках дадана частка паясняе ўсю галоўную, у іншых — слова або словазлучэнне ў галоўнай: *Каласы* (я к і я?), *што хіліліся над дарогай, пахлі свежым боханам хлеба.*

Граматычным сродкам сувязі частак у складаназалежным сказе выступаюць **падпарадкавальныя злучнікі** і **злучальныя словы.**



**162.** Прачытайце тэкст. На яго аснове падрыхтуйце пісьмовы адказ на пытанне «Як адрозніваць падпарадкавальныя злучнікі і злучальныя словы ў складаназалежным сказе?». Сваё паведамленне пабудуйце як тэкст-разважанне, выдзеліўшы тэзіс, доказы (падчас іх пераліку выкарыстоўвайце пабочныя словы *па-першае, па-другое, перш за ўсё, аднак, напрыклад, такім чынам* і інш.) і вывад.

## ЗЛУЧНІКІ І ЗЛУЧАЛЬНЫЯ СЛОВЫ Ў СКЛАДАНАЗАЛЕЖНЫМ СКАЗЕ

Адрозніць злучнікі і злучальныя словы можна наступнымі спосабамі:

- **злучальныя словы** выконваюць ролю пэўных членаў сказа, а **злучнікі** членамі сказа не з'яўляюцца;
- **злучальныя словы** нельга выключыць са сказа, **злучнікі** часта можна апусціць, перабудаваўшы складаназалежны сказ у бяззлучнікавы;
- на **злучальныя словы** можа падаць лагічны націск, на **злучнікі** — не;
- **злучальныя словы** ў многіх выпадках можна замяніць іншымі словамі з галоўнай часткі, а **злучнікі** — іншымі злучнікамі.

У канкрэтным сказе можна выкарыстаць адзін з пералічаных спосабаў або іх камбінацыю. Так, у сказе *Раптам да кармушкі, **што** вісіць на адным з дрэў, падлятаюць чатыры сініцы* (У. Ягоўдзік) злучальнае слова ***што*** выконвае функцыю дзейніка, яго можна замяніць словам *кармушка* з галоўнай часткі або сінанімічным займеннікам *якая*, выключыць жа са сказа нельга. У сказе *Лазар Богша зразумеў, **што** нябачныя повязі вяжуць кожнага чалавека з мінулым* (А. Асіпенка) даданая частка далучаецца да галоўнай пры дапамозе злучніка ***што***: яго можна апусціць і перабудаваць сказ у бяззлучнікавы.

*Н. Даўбешка.*

● Складзіце і запішыце па два складаназалежныя сказы, у якіх ***што, як, калі*** ў адным выпадку з'яўляюцца злучнікамі, у другім — злучальнымі словамі.

**163.** Прачытайце Коласавы афарыстычныя выслоўі, сабраныя ў кнізе А. Міхневіча «Якуб Колас разважае, радзіць, смяецца».

Ёсць важныя дзве часціны, з якіх складаецца жыццё, глыбокі сэнс і хараство, — чалавек і прырода.

Многа цікавага пачуе той, хто ўмее чытаць кнігу Божай прыроды, Божага свету, хто цяміць і разбірае іх мову.

Прырода мае нейкае сваё свядомае жыццё.

Які дасканалы мастак — далеч!

Прырода — найцікавейшая кніга, якая разгорнута перад вачамі кожнага з нас. Чытаць гэту кнігу, умець адгадаць яе мнагалучныя напісы — хіба ж гэта не ёсць шчасце?

● Выпішыце афарыстычныя выслоўі, пабудаваныя як складаназалежныя сказы. Вызначце граматычныя сродкі сувязі частак.

**164.** Прааналізуйце паслядоўнасць сінтаксічнага разбору складаназалежнага сказа.

У з о р. *Сябрам пра ўсё, чым жыў салдат, пісьмо яго раскажа* (М. Калачынскі).

Складаназалежны сказ з дадзенай дапаўняльнай часткай.

Галоўная частка *Сябрам пра ўсё пісьмо яго раскажа* пабудавана па схеме простага, апавядальнага, сцвярджальнага, двухсастаўнага, развітага, няўскладненага сказа. Дзейнік выражаны назоўнікам ніякага роду ў форме назоўнага склону адзіночнага ліку. Выказнік просты дзеяслоўны, выражаны дзеясловам у форме будучага часу адзіночнага ліку.

Дададаная дапаўняльная частка *чым жыў салдат* пабудавана па схеме простага, апавядальнага, сцвярджальнага, двухсастаўнага, развітага, няўскладненага сказа. Дзейнік просты, выражаны назоўнікам мужчынскага роду ў форме назоўнага склону адзіночнага ліку. Выказнік просты дзеяслоўны, выражаны дзеясловам у форме прошлага часу адзіночнага ліку.



**165.** Прачытайце. Вызначце сродкі сінтаксічнай сувязі паміж часткамі. Выпішыце складаназалежны сказ з даданай азначальнай часткай, зрабіце яго поўны сінтаксічны разбор.

Краса слова — той абраз, на які павінен маліцца кожны з нас. Маліцца, бо ў красе слова хаваецца паратунак чалавечай душы, глыбокая повязь з неўвядальным і Боскім на зямлі. На пуцявінах жыцця і часу нам іншага не дадзена, як зноў і зноў пачынаць са слова, роднага слова, самаахвярна ісці з ім, гукаць Святло, несці Праўду і Чалавечнасць *(А. Бельскі)*.

- У сказах назавіце словы, напісанне якіх адпавядае фанетычнаму прынцыпу правапісу.
- Выпішыце словы, напісанне якіх адпавядае правілу «Правапіс ***е, ё, я***».
- Растлумачце правапіс вялікай літары ў тэксце.

**166.** Разгледзьце табліцу. Падрыхтуйце паведамленне пра тыпы даданых частак у складаназалежным сказе.

**Тыпы даданых частак у складаназалежным сказе**

| Тып даданай часткі | Адказвае на пытанне | Сродкі сінтаксічнай сувязі | |
|---|---|---|---|
| | | **Злучнікі** | **Злучальныя словы** |
| **Азначальная** | я к і?<br>я к а я?<br>я к о е?<br>я к і я? | ***што, каб, як, нібы, быццам*** | ***які, каторы, чый, што, дзе, куды, адкуль, калі*** |
| | Напрыклад: *У дзень,* ***калі*** *было прызначана новае спатканне, паліў дождж як з вядра* (П. Броўка). | | |
| **Дапаўняльная** | адказвае на пытанні ўскосных склонаў | ***што, як, каб, быццам, ці, нібы*** | ***хто, што, які, чый, колькі, калі, як*** |
| | Напрыклад: *Я знаю,* ***што*** *цяжка і горка свой дом пакідаць і сяло* (А. Астрэйка). | | |
| **Акалічнасная частка** | гл. асобную табліцу на с. 147—148 | | |

**167.** Разгледзьце табліцу. Падрыхтуйцеся і раскажыце пра дадзеныя акалічнасныя часткі паводле наступнага плана.

План

1. Тып дадзенай часткі.
2. Сродкі, з дапамогай якіх частка звязваецца з галоўнай.
3. Пытанні, на якія адказвае дадзеная частка адпаведнага тыпу.
4. Прыклады.

| Тып дадзенай акалічнаснай часткі | Сродкі сувязі з галоўнай часткай | Пытанні |
|---|---|---|
| **месца** | ***дзе, куды, адкуль*** | д з е? к у д ы? а д к у л ь? |
| | Напрыклад: ***Дзе*** *лозы ніцыя ў тумане журбу выплаквалі да дна, там адзінока на кургане стаяла стромкая сасна* (П. Трус). | |
| **часу** | ***калі, пакуль, пасля таго як, як толькі*** | к а л і? з я к о г а ч а с у? д а я к о г а ч а с у? я к д о ў г а? |
| | Напрыклад: *Вярнуліся дамоў позна,* ***калі*** *сонца схавалася за небакрай.* | |
| **умовы** | ***калі, каб, як, раз*** | п р ы я к о й у м о в е? |
| | Напрыклад: ***Як*** *будзе здаровіцца, работа паробіцца* (Прыказка). | |
| **прычыны** | ***таму што, бо, па прычыне таго што, што*** | ч а м у? п а я к о й п р ы ч ы н е? |
| | Напрыклад: *Прыемна глядзець на такую ўсмешку,* ***бо*** *ўсе мы заўсёды чакаем і хочам радасці* (Я. Брыль). | |
| **мэты** | ***каб, для таго каб*** | д л я ч а г о? з я к о й м э т а й? |
| | Напрыклад: *Сып снегу больш, зіма,* ***каб*** *поле небывала ўскаласіла* (П. Панчанка). | |

| Тып даданай акалічнаснай часткі | Сродкі сувязі з галоўнай часткай | Пытанні |
|---|---|---|
| **параўнальная** | ***як, нібы, бы, быццам*** і інш. | як? |
| | Напрыклад: *Ліпень ліпу весела лістае,* ***як*** *цікаўны школьнік чытае свой буквар* (Х. Гурыновіч). | |
| **уступальныя** | ***хоць (хаця), нягледзячы на тое*** і інш. | нягледзячы на што? |
| | Напрыклад: *Трывожна,* ***хоць*** *скрозь цішыня* (П. Броўка). | |
| **спосабу дзеяння** | ***што, як, аж (ажно), каб, як бы*** | як? якім чынам? |
| | Напрыклад: *Мы не хочам жыць так далей,* ***як*** *жылі нашы дзяды* (Я. Колас). | |
| **меры і ступені** | ***што, нібы, быццам, як*** | як многа?<br>у якой меры?<br>у якой ступені? |
| | Напрыклад: *Дома было столькі дабрыні,* ***што*** *хацелася спяваць.* | |
| **адпаведнасці** | ***чым ..., тым*** | колькі? |
| | Напрыклад: ***Чым*** *больш пакут,* ***тым*** *болей сіл трываць* (Н. Мацяш). | |

У складаназалежных сказах паміж галоўнай і даданай часткамі ставіцца коска, калі даданая частка стаіць перад галоўнай або пасля яе: ***Хоць тысячы цудоўных небасхілаў я перасек і ўбачу шмат другіх,*** *пра небасхілы Бацькаўшчыны мілай не мог нідзе я думаць без тугі* (П. Панчанка).

нягледзячы на што?

(*Хоць* ...), [ ].

*Алешнік вельмі часта мяшаўся з лазняком,* ***што рос моцнымі дружнымі купамі, уздымаючы ў лясны прыцемак шызыя кучары пераплеценага галля*** (І. Мележ).




Калі даданая частка стаіць у сярэдзіне галоўнай, яна выдзяляецца коскамі з абодвух бакоў: *Калісьці на тых абшарах,* ***дзе сёння стаіць мястэчка Жыровічы,*** *рос векавечны лес* (У. Ягоўдзік).




*Чалавек,* ***які адарваў сябе ад прыроды****, мне чамусьці нагадвае палявую кветку, пастаўленую ў душны і цесны пакой* (З. Прыгодзіч).




Калі даданая частка стаіць перад галоўнай і звязваецца з ёй пры дапамозе састаўных падпарадкавальных злучнікаў (***перш чым***, ***затым што***, ***пасля таго як***, ***для таго каб***, ***па меры таго як***, ***да таго часу пакуль***, ***з прычыны таго што***, ***нягледзячы на тое што***, ***дзякуючы таму што***, ***у сувязі з тым што*** і інш.), то коска ставіцца паміж дададанай часткай і галоўнай (злучнік не разрываецца): ***Для таго каб*** *праца давала плённыя вынікі, трэба прывучыць да сталых і сур'ёзных адносін да яе з малых гадоў* (Я. Колас).



З а ў в а г а. Калі дадзеная частка сказа стаіць пасля галоўнай, коска ставіцца або перад другой часткай састаўнога падпарадкавальнага злучніка, або перад гэтым злучнікам у поўным яго складзе ў залежнасці ад сэнсу. Параўн.: *Трэба прывучыць да сталых і сур'ёзных адносін да працы з малых гадоў, **для таго каб** яна давала плённыя вынікі.*

з якой мэтай?

[ ], (*для таго каб* ...).

*Трэба прывучыць да сталых і сур'ёзных адносін да працы з малых гадоў для таго, **каб** яна давала плённыя вынікі.*

для чаго?

[ ], (*каб* ...).

Дадзеная частка, выражаная адным злучальным словам або спалучэннем слоў, у пазіцыі пасля галоўнай к о с к а й н е а д д з я л я е ц ц а: *Сяргей пайшоў і не сказаў **куды**.*

чаго?

[ ] (*куды*).

*Як казаў адзін з сяброў-настаўнікаў, такім голасам можна выпрасіць **што** хочаш* (А. Козел).

што?

[ ] (*што* ...).

П р а ц я ж н і к у складаназалежным сказе ставіцца пры сэнсава-інтанацыйным выдзяленні дадзенай часткі, якая знаходзіцца перад галоўнай або пасля яе: ***Як злуешся** — спрэчкі-звады не высмечвай з хаты* (В. Аколава).

калі?

(*Як* ...) — [ ];

***Калі па-сапраўднаму сумленна адносіцца да любой працы*** — *яна можа стаць захапленнем на ўсё жыццё*.

п р ы я к о й у м о в е?

(Калі …) — [ ].

*Марыць кожная маці* — ***каб шчасліва жылося дзіцяці***.

а б ч ы м?

[ ] — (каб …).

**168.** Разгледзьце табліцу 2 у дадатку. Зрабіце вывад аб інтанаванні складаназалежных сказаў, звярнуўшы ўвагу на месца даданай часткі ў адносінах да галоўнай і ўзгадаўшы злучнікі і злучальныя словы, якімі выражаюцца адпаведныя сэнсавыя адносіны паміж часткамі.

**169.** Прачытайце складаназалежныя сказы. Спішыце, расстаўляючы прапушчаныя знакі прыпынку і раскрываючы дужкі. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку і напісанне слоў.

1. Каб сэрцу твайму хоць крыху паля*(г/х)*чэла апошнюю кроплю крыві я а*(д/дд)*ам *(І. Карэнда)*. 2. Н*(е/і)* любіць старая калі ся*(д/дз)*яць без справы *(Г. Марчук)*. 3. Тут куды н*(е/і)* зірні паўсюль узгоркі ды нізіны *(М. Бусько)*. 4. Небасхіл[сл] ра*(с/ш)*чысціўся быццам яго падмялі *(М. Даніленка)*. 5. Чароўныя вочкі-зорачкі ад погляду якіх на душы рабілася спакойна і *(т/ц)*ёпла зіха*(т/ц)*елі нейкім мя*(г/к)*кім с*(?)*вятлом *(Г. Атрошчанка)*. 6. Нягледзячы на *(т/ц)*ёплае летняе надвор*(ь/’)*е лю*(д/дз)*і ведалі што н*(е/і)* за гарамі восен*(?)*скія халодныя дажджы і с*(?)*пяшаліся атрымаць асалоду ад кожнага жнівен*(?)*скага дня *(Д. Пятровіч)*. 7. На небе з*(ь/’)*явіліся чорныя хмары з якіх раптоўна пасыпаўся па*(т/ц)*еркамі град *(С. Наркевіч)*.

**170.** Спішыце сказы, афармляючы іх у адпаведнасці з пунктуацыйнымі нормамі. Устаўце прапушчаныя літары, растлумачце іх правапіс.

1. Максім зняў пінжак і выціраючы з твар.. пот зірнуў на стромкую таполю якая расла каля будынк.. станцыі

*(Я. Галубовіч).* 2. Гонар нашай краіны нацыянальныя паркі і запаведнікі кожны з якіх унікальны *(Д. Гуштын).* 3. На асфальце як на шкле танчаць кроплі *(М. Кандратаў).* 4. Пра важную падзею ў культурным жы..і горад.. да якой заставалася меней як месяц напісала мясцовая газета... *(І. Карэнда).* 5. Пасля абед.. калі ў навако..і ўсё жывое заціхала прыходзіла адчува..е вечнага спако.. *(Л. Валасюк).* 6. У ла..чыне пад шатамі альхоўніку нібы ў ка..цы струменіць гаманкая рачулка *(М. Бусько).* 7. Лета са свайго куфр.. выкідала дзіўныя дзянёчкі ўперамешку з цёплымі дажджамі кроплі якіх дзіравілі тоўсты слой пыл.. альбо танчылі перад лю..мі *(С. Наркевіч).*

Складаназалежныя сказы з некалькімі даданымі часткамі маюць дзве разнавіднасці: сказы з сузалежным і паслядоўным падпарадкаваннем.

**Складаназалежныя сказы з сузалежным падпарадкаваннем** даданых частак — складаныя сказы, у якіх кожная даданая частка залежыць ад агульнай галоўнай часткі. Даданыя часткі могуць быць аднародныя і неаднародныя.

**Сузалежныя аднародныя** даданыя часткі паясняюць у галоўнай адзін член сказа або ўсю частку і адказваюць на аднолькавае пытанне: *Мы хочам, каб на нашай планеце заўсёды дружылі шчаслівыя дзеці, каб змоўклі сірэны, зеніткі і танкі, каб дзецям спявалі ўначы калыханкі, каб добрыя людзі на вольнай зямлі ў міры жылі і дзяцей бераглі* (С. Грахоўскі).

Складаназалежны сказ з сузалежным аднародным падпарадкаваннем даданых частак, пры якім кожная даданая частка залежыць ад агульнай галоўнай часткі і адказвае на пытанне чаго? У сказе чатыры даданыя дапаўняльныя часткі залежаць ад галоўнай *(Мы хочам).*

**Сузалежныя неаднародны**я даданыя часткі паясняюць у галоўнай розныя члены сказа або адзін, але ў розных адносінах, г. зн. адносяцца да розных тыпаў даданых

частак: *Калі парою лістападу ў вырай птушкі адлятаюць, яны ў дубровах пакідаюць свае вясновыя напевы, каб не згубіць іх недзе часам у хмурым небе на чужыне* (М. Танк).




Даданая акалічнасная часу

Даданая акалічнасная мэты

**Сузалежнымі неаднароднымі** з'яўляюцца таксама даданыя часткі, якія паясняюць розныя словы ў галоўнай частцы, хаця і адносяцца да аднаго тыпу. Напрыклад: *Вітаю бярозы, якія ў зіму чарадою брыдуць, і тыя вятры штармавыя, што мне несціхана гудуць* (М. Танк).




Даданая азначальная

Даданая азначальная

**Складаназалежныя сказы з паслядоўным падпарадкаваннем** даданых частак — складаныя сказы, у якіх кожная наступная даданая частка залежыць ад папярэдняй і паясняе яе: *Аляксей любіў лес, як можа любіць яго толькі чалавек, які, можна сказаць, вырас у лесе і адчувае сябе ў ім як дома* (І. Мележ).




Даданая акалічнасная

Даданая азначальная

Пры паслядоўным падпарадкаванні адна дадзеная частка можа стаяць у сярэдзіне другой дадзенай: 1) *Народная мудрасць гаворыць,* 2) *што чалавек,* 3) ***які дзе-небудзь пасадзіў дрэўца,*** 2) *ніколі не пакіне думкамі той мясціны* (К. Кірэенка).

Пры збегу двух падпарадкавальных злучнікаў (або злучніка і злучальнага слова) к о с к а паміж імі с т а в і ц ц а, калі пропуск дадзенай часткі з другім злучнікам не парушае структуры сказа: ***Дык*** *выходзіць,* ***што,*** *пакуль вы будзеце даказваць, я павінна стаяць убаку* (К. Крапіва).

Калі пропуск дадзенай часткі (са злучнікамі ***калі ... то, калі ... дык***) парушае структуру сказа, к о с к а перад другім злучнікам н е с т а в і ц ц а: *Салдаты адпачывалі спакойна, бо* ***калі*** *не лічыць рэдкіх перастрэлак з таго і другога боку,* ***дык*** *на тутэйшым участку фронту панавала цішыня.*

Пры **змешаным падпарадкаванні** дадзеныя часткі звязваюцца адначасова і паслядоўнай, і сузалежнай сувяззю: *Калі дзверы адчыняцца, ён найперш запытае, ці тут жыве той чалавек, хто яму трэба* (В. Быкаў).



**171.** Выпішыце асобна складаназалежныя сказы з сузалежным і паслядоўным падпарадкаваннем. Пабудуйце схемы сказаў.

1. На тое і было ў прыродзе лета, каб назбіраць цяпла на ўсё расстанне, каб назапасіць музыку сусвету для новага пачуццяў прарастання *(В. Русілка)*. 2. Я ўдзячна ўсім, хто слухае мяне, хто прачытае знойдзенае[с] слова *(В. Русілка)*. 3. На станцыі ён [Лабановіч] даведаўся дакладна, калі прыходзіць пасажырскі поезд на Мінск і калі адчыніцца білетная каса *(Я. Колас)*. 4. Нам трэба вельмі асцярожна абыходзіцца з мовай, каб не абразіць волю і вопыт тых беларусаў, што адышлі[с] ў гісторыю чалавецтва[с] *(Г. Бураўкін)*. 5. Зямны паклон, падзяка і пашана ўсім, хто свежым хлебам корміць нас, хто кожны колас пестуе[с] старанна, хто і арэ, і сее ў добры час *(С. Грахоўскі)*. 6. Кожны пісьменнік, якія б ён ні ствараў эпапеі, паэмы, драмы, апавяданні, вершы, усё жыццё піша адну-адзіную кнігу, у якой гаворыць чытачу сваё запаветнае слова *(Я. Брыль)*. 7. Шкада, што да нас так позна прыходзіць суровай позвай сумленне, якое завецца словам кароткім — мама *(Р. Барадулін)*. 8. Каб ярка свяцілася перлінка-слова, каб людзям зіхцела[с], на ўсе бакі яго шліфавалі як след, адмыслова, найлепшыя ў свеце тачылы-вякі *(К. Цвірка)*. 9. Хто ўмее шкадаваць, той варты шкадавання, бо ведаў у сваім жыцці пакуты *(В. Русілка)*.

К о с к а й р а з д з я л я ю ц ц а даданыя часткі ў складаназалежных сказах з сузалежным, паслядоўным і змешаным падпарадкаваннем: *Глядзелі, **як** асядае, чарнее, вадзяніцца снег, **як** цурчаць, пераліваюцца сонечнымі зайчыкамі ручаіны, **як** паруе, сохне пахучая красавіцкая зямля* (І. Мележ).




*Станавілася радасна ад таго, **што** ўжо настае цяпло, **бо** прыйшла вясна — свята цеплыні і святла...* (Л. Валасюк).




*Хочацца мне, **каб** ты пачуў шэпт таго клёна, **што** стаіць залаты ўвосень каля старога дома, **каб** ведаў, **што** чалавек не можа існаваць без чалавека...* (Н. Маеўская).




Калі аднародныя даданыя часткі звязваюцца пры дапамозе адзіночных злучнікаў ***і, ды*** (у значэнні ***‘і’***), ***або, ці***, то паміж імі к о с к а н е с т а в і ц ц а: *Праз пяць гадоў я зноў наведаў Вусце, прытулак дум, абраны мой куток, **дзе** высіцца Вусцянскі мой грудок **і** вецер лёгенька гайдаецца на кусце* (Я. Колас).




*Люблю зямлю, **дзе** ёсць дзіцячая казка, **дзе** ёсць дзяцінства **і** ёсць маладосць* (А. Вярцінскі).




*Заўсёды трэба помніць, **што** жыццё — доўгі шлях з чаргаваннем радасцей і расчараванняў **і што** ў цябе хопіць сіл для пераадолення любых перашкод на гэтым шляху.*




**К о с к а й р а з д з я л я ю ц ц а** аднародныя даданыя часткі складаназалежнага сказа, калі яны звязаны супраціўным злучнікам або паўторным злучнікам ***і***: *Па словах майго сябра, вучыцца трэба ўсяму,* ***каб*** *стаць адукаваным чалавекам,* ***і каб*** *свабодна арыентавацца ў сучасным свеце,* ***і каб*** *больш ведаць самога сябе.*




Калі ў складаназалежным сказе з некалькімі даданымі часткамі побач стаяць два падпарадкавальныя злучнікі (ці злучнік і злучальнае слова), а другая частка падпарадкавальнага злучніка ***(то, дык)*** адсутнічае, то паміж імі ставіцца коска: *Вучням паведамілі,* ***што, калі*** *яны прымуць удзел у канцэрце, могуць атрымаць дыплом першай ступені.*




З а ў в а г а.

**К о с к а й н е р а з д з я л я ю ц ц а** падпарадкавальныя злучнікі, калі ёсць другая частка падпарадкавальнага злучніка ***(дык, то)***. Параўн.: *Вучням паведамілі,* ***што калі*** *яны прымуць удзел у канцэрце,* ***то*** *могуць атрымаць дыплом першай ступені.*



Кропкай з коскай могуць раздзяляцца разгорнутыя даданыя часткі складаназалежнага сказа пры адсутнасці паміж імі злучальнага злучніка, асабліва калі ў сярэдзіне даданых ёсць свае даданыя часткі: *Быў гэткі вечар веснавы,* ***што*** *чуць было здалёк,* ***як*** *люстра возера ў цішы разбіў мой паплавок;* ***як****, зачапіўшыся ў бары за верхавіны дрэў, зары нягаснучай промень над Нараччу звінеў;* ***як*** *ападалі кроплі рос на травы, на лісты;* ***як*** *сцежкай па імхах лясных падкрадвалася ты,* ***каб*** *нечакана вочы мне далонямі закрыць...* (М. Танк).

што?
што?
што?
які? што? з якой мэтай?

[ ], (*што*... ), (*як*...); (*як*... ); (*як*... ); (*як*... ), (*каб*... )...

**172.** Прачытайце тэкст. Да якога стылю ён належыць? Чым вызначаецца народны каляндар беларусаў? Назавіце складаназалежныя сказы, сэнсавыя адносіны паміж іх часткамі. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку паміж часткамі складаназалежных сказаў.

У беларусаў спрадвеку вёўся свой каляндар. У ім з пакалення ў пакаленне занатоўваўся, перадаваўся светапогляд[с] нашага народа, яго невычэрпная фантазія, глыбокае веданне прыроды і любоў да яе. **Нашы продкі заўсёды імкнуліся зразумець хаос*, каб упарадкаваць яго.** Таму беларускі народны каляндар — гэта міфапаэтычнае ўяўленне пра час, ён упарадкоўвае, выбудоўвае ў пэўную паслядоўнасць функцыі нацыянальнага космасу. Ён сакральны, як і паасобныя беларускія каляндарныя святы, што фіксуюць пэўны час.

**У сваю чаргу, кожнае каляндарнае свята мае сваіх дзейных асоб, і яны ў народных уяўленнях таксама набываюць рысы святасці.** Гэтымі дзейнымі асобамі раней маглі быць пэўныя боствы або легендарныя продкі, якія, паводле старадаўніх вераванняў, уплывалі на жыццё людзей. Таму да іх звярталіся па дапамогу, ім прыносілі ахвяраванні. Так па-

ступова развіваўся культ святых, што ляжыць у аснове народнага календара *(З часопіса «Маладосць»)*.

Складзіце схемы выдзеленых сказаў.

**173.** Прачытайце выказванні пісьменнікаў пра мову, пра адносіны да слова. Выпішыце спачатку складаназалежныя сказы з паслядоўным падпарадкаваннем, потым — з сузалежным, нарэшце — сказ са змешаным падпарадкаваннем частак. Расстаўце знакі прыпынку і ўстаўце прапушчаныя літары.

1. Родна.. слова! Ты нам тлумач..ш усе дзівы свету якія дз..цяча.. вока бачыць[с] навокал[м] сябе першы раз *(Цётка)*. 2. Ужо .. самых першых вершаў мова паэзіі Купалы загучала як мова вялікага народа які мае сваё законнае нацы..нальнае жыццё *(К. Чорны)*. 3. Узорам таго як трэба працаваць над народнай мовай каб яна заззяла ўсімі колерамі з'яўляюцца нашы народныя паэты Янка Купала і Якуб Колас. У іх[ф] трэба вучыцца як выкарыстаць слова ў сапраўдным яго значэнні[сл] як будаваць фразу каб яна гучала па-беларуск.. была простай зразумелай *(К. Крапіва)*. 4. Піс..меннік[с] які не працуе над мовай не клапоці..а аб папаўненні[сл] сваіх[м] моўных запасаў можа стаць перад н..б..спекай апынуцца за дз..в..рыма літаратуры *(Я. Колас)*. 5. Той[м] хто не чуў народнай гаворкі з усім яе багаццем хто абыякава ставіцца да гэтай найбагацейшай крыніцы той не зможа ствараць яркіх п..ўнакроўных твораў *(К. Крапіва)*. 6. Думкі мае зводз..цца да таго што літаратарам трэба быць чулымі[м] да слова што трэба любіць паважаць і вывучаць народн..ю мову *(Я. Скрыган)*. 7. Гэ..акі вялікі ру..кі мастак як Леў Талстой усё сваё жыццё вывучаў ру..к..ю мову якая была для яго роднаю і на якой ён пісаў *(К. Чорны)*. 8. На..гул ніводная мова ізалявана[сл] не жыве бо не жыве ізалявана народ які ёю карыстаецца *(К. Крапіва)*.

● Выпішыце прыклады на фанетычнае падаўжэнне і марфалагічнае падваенне зычных. Растлумачце сутнасць гэтых моўных з'яў.

● Выпішыце прыклад, які ілюструе правіла «Правапіс галосных у складаных словах». Запішыце словы, якія раскрываюць правапіс галосных ***э, о, а, е, ё, я*** ў першай аснове складанага слова.

**174.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тэму і стыль. Якую назву можна даць тэксту? Чаму святы Мікалай лічыцца ў беларусаў найбольш паважаным? Выпішыце, расстаўляючы патрэбныя знакі прыпынку, спачатку складаназлучаныя, потым складаназалежныя сказы. Пракаменціруйце пунктуацыйнае афармленне выпісаных сказаў.

Мы ўжо прызвычаіліся да сучаснай казкі пра тое што святы Мікалай жыве ў снежнай Лапландыі якая знаходзіцца на поўначы Еўропы. Прыгожая казка. Але мала хто ведае з нас што парэшткі* святога Мікалая захоўваюцца ў паўднёвым горадзе на беразе Адрыятыкі дзе растуць пальмы і дзе снег выпадае зрэдку. А за святочным навагоднім персанажам хаваецца жыццё рэальнага чалавека Мікалая Мірлікійскага які жыў у IV ст. н. э. у старажытным горадзе Міры Лікійскія. Культ святога Мікалая якога яшчэ клічуць Мікалаем Цудатворцам або Мікалаем Угоднікам шырока распаўсюдзіўся на тэрыторыі Усходняй Рымскай Імперыі пазней Візантыі дзе гэты святы лічыўся абаронцам вернікаў ад няверуючых. Адсюль культ святога перайшоў на старажытнарускія землі і святы Мікалай зрабіўся ўлюбёным святым праваслаўнай царквы.

Хрысціянскія паданні сведчаць пра тое што святы Мікалай зрабіў шмат добрых спраў. Аднак у гісторыю сусветнай культуры ён увайшоў перш за ўсё сваім знакамітым учынкам. Святы Мікалай непрыкметна падкінуў грошы ў хату дзе жыла бедная сям'я каб уратаваць яе ад галоднай смерці.

Святы Мікалай адзін з найбольш паважаных хрысціянскіх святых таксама і ў нашай краіне. Як жа ён патрапіў да нас? Пасля прыняцця хрысціянства адным з заменнікаў боства падземнага свету жывёлагадоўлі і багацця апекуна аграрнымі справамі Вялеса на нашых землях зрабіўся Мікалай Мірлікійскі празваны ў народзе святым Міколам. Лічылася што ён спрыяе земляробам звязаны з зямнымі водамі апякуецца жывёламі пчалярствам. Згодна з беларускім культам ушанавання святога Мікалая ён па сваёй значнасці набліжаецца да ўшанавання самога Бога.

Свята ў гонар Міколы праваслаўныя адзначаюць 22 мая і 19 снежня а католікі — 6 снежня.

У паданнях пра цуды святога Мікалая распаўсюджаных па ўсім свеце цвёрда гучыць вельмі важная для ўсіх нас думка: дабро павінна здзяйсняцца не за ўзнагароды не для задавальнення асабістага самалюбства а з сапраўднай любові да блізкіх і лепш за ўсё здзяйсняць яго самому застаючыся непрыкметным і невядомым *(З часопіса «Маладосць»)*.

● На аснове даведачнай літаратуры (энцыклапедыя «Этнаграфія Беларусі», даследаванні І. Крука і інш.) напішыце сачыненне-мініяцюру аб народных святах на тэму «Маё любімае народнае свята» («Свята беларускага народнага календара», «Святы вясновага (летняга, зімовага, восеньскага) цыкла», «Сямейная абраднасць беларусаў»), ужываючы складаназлучаныя і складаназалежныя сказы.

**175.** Прачытайце сказы. Спішыце, расстаўляючы знакі прыпынку і ўстаўляючы прапушчаныя літары. Пракаменціруйце пунктуацыйнае афармленне запісаных сказаў і напісанне ўстаўленых літар.

1. Не дай сабе права забыць той куток дзе зведаў пя..чоту матулі дзе першы зрабіў у жы..і сваім крок і голас твой людзі пачулі *(М. Болсун)*. 2. А малочна-белыя аблокі нагадвалі вялікія шматкі ваты прышпіле..ыя так блі..ка да зямлі што калі забрацца на дах высокага будынка то абавя..кова схопіш п..ц..рнёй нябесны кавалак *(А. Камісарава)*. 3. Над ім кружыўся цэлы рой разгнева..ых вос якіх ён незнарок патрывожыў і ад якіх адбіваўся цяпер як толькі мог *(В. Макарэвіч)*. 4. Спрэчку якая вось-вось зноў магла ўспыхнуць як полымя на леташнім сушняку перапыніла Наталачка[сн] *(М. Даніленка)*. 5. Мужчыны прымоўклі ўздыхнулі. Відаць кожны прыгадаў тую веснюю і ..часлівую пару калі ты малады і сонца свеціць табе найярчэй чым каму і зоркі ўночы зіхацяць як брыл..нты і ўсё ў цябе яшчэ наперадзе... *(Ю. Зарэцкая)*. 6. Паставіўшы на мурава..ую прыступку сумку ён пайшоў аглядаць сваю сядзібу якая хоць і парасла травою і зе..ем але ўсё роўна мела прыстойны выгляд *(Л. Валасюк)*. 7. У Нацыянальнай бібл..тэцы Беларусі як і ва ўсіх бібл..тэках свету найбольш

старыя каштоўныя і рэ..кія выда..і і рукапісы вылучаны з агульнага фонду ў асобны збор бо вымагаюць адмысловых умоў захава..я і бяспекі *(Т. Рошчына)*. 8. У жы..і відаць заўсёды існуе нейкая залежнасць паміж тым што было і што ёсць *(У. Федасеенка)*.

**176.** Утварыце з двух простых сказаў пад лічбамі 1, 2, 3, 4 складаназалежныя сказы. Бяззлучнікавыя складаныя сказы (пад лічбамі 5, 6) перабудуйце ў складаназалежныя. Сказы запішыце ў адпаведнасці з пунктуацыйнымі нормамі. Вызначце сэнсавыя адносіны паміж часткамі складаназалежных сказаў. Патлумачце знакі прыпынку ў складаназалежных сказах.

1. З захапленнем перачытваю твор Я. Коласа «На ростанях». У трылогіі паказаны яркія характары і маляўнічыя палескія мясціны. 2. Брат вельмі добра валодае камп'ютарам. Праца брата звязана са сферай інфармацыйных тэхналогій. 3. Даўно хачу набыць тлумачальны слоўнік. У тлумачальным слоўніку можна знайсці значэнне любога слова. 4. Маша адводзіць многа часу на вывучэнне біялогіі і хіміі. Дзяўчына з дзяцінства марыць аб прафесіі ўрача. 5. Прыйдзе лета — наступіць гарачая пара для працаўнікоў сельскай гаспадаркі. 6. Сяргей быў удзячны сястры: яна дапамагла выбраць цудоўны падарунак для маці.

**177.** Дапішыце складаназалежныя сказы. Пракаменціруйце іх пунктуацыйнае афармленне.

1. Гэты дзень мне запомніцца на ўсё жыццё...

2. На школьнае свята ў гонар Дня Перамогі былі запрошаны ветэраны...

3. Заўсёды трэба думаць не толькі пра сябе, але і пра іншых...

4. Каб паспяхова здаць экзамены...

5. Ведаць правілы пунктуацыі неабходна...

6. Калі Надзея заўважыла знаёмых...

**178.** Складзіце складаназалежныя сказы па наступных схемах:

**1. [ ], ( ). 2. ( ), [ ]. 3. [ ..., ( ), ... ].**

**4. ( ) — [ ]. 5. [ ..., ( ), ( ), ... ], ( ).**

Сфармулюйце правілы пастаноўкі знакаў прыпынку ў складаназалежных сказах, выкарыстоўваючы для прыкладаў запісаныя сказы.

**179.** Прачытайце аналіз тыповых памылак пры пастаноўцы знакаў прыпынку ў складаназалежных сказах з некалькімі даданымі часткамі на ЦТ мінулых гадоў.

У заданні былі прапанаваны складаназалежныя сказы з дзвюма аднароднымі даданымі часткамі: *Ціхім ружовым світаннем чую, як шэпчацца ясень з рабінаю **і** яблыкі ў садзе сокам наліваюцца.* Ад 40 % абітурыентаў з нізкім узроўнем падрыхтоўкі да 15 % абітурыентаў з дастатковым узроўнем, як і ў мінулыя гады, памылкова паставілі ў такіх сказах коскі.

У складаназалежных сказах з дзвюма даданымі часткамі, адна з якіх уключана ў папярэднюю даданую *Памятаю, **што, калі** прыходзіла часіна прыняць сур'ёзнае рашэнне, бацька ішоў да рэчкі і, распаліўшы вогнішча, сядзеў каля яго гадзіну-другую,* памыліліся пры пастаноўцы знакаў прыпынку 70 % абітурыентаў з нізкім і здавальняючым узроўнем ведаў. Адны з іх не аднеслі сказ да складаназалежных з некалькімі даданымі часткамі, другія не ведалі, што паміж падпарадкавальнымі злучнікамі, адзін з якіх з'яўляецца складаным, у складаназалежным сказе ставіцца коска, калі яны стаяць побач, але другая частка складанага злучніка ***то***, ***дык*** у другой даданай частцы адсутнічае.

● Складзіце і запішыце сказы, аднатыпныя прыведзеным у тэксце паводле будовы і пастаноўкі знакаў прыпынку.

● Выпішыце з тэксту колькасна-іменнае спалучэнне і праскланяйце яго.

## § 18. Сінтаксічныя прыметы бяззлучнікавых складаных сказаў, знакі прыпынку

**Бяззлучнікавы складаны сказ** — сказ, у якім часткі аб'яднаны ў адно цэлае сэнсава і інтанацыйна. Сродкамі сувязі ў бяззлучнікавым сказе выступаюць змест, парадак размяшчэння частак, інтанацыя: *Яшчэ ў антычнасці сцвярджалі: Радзіма — вечная* (А. Бельскі).

Пастаноўка знакаў прыпынку ў бяззлучнікавых складаных сказах залежыць ад сэнсавых адносін паміж часткамі, іх структуры.

Паміж часткамі бяззлучнікавага складанага сказа ставяцца коска, кропка з коскай, двукроп'е, працяжнік.

Коскай раздзяляюцца часткі бяззлучнікавага складанага сказа, якія па сэнсе цесна звязаны паміж сабой: *Жыццё — самы адказны экзамен, яго ніяк не абмінеш* (Ю. Свірка). [ ], [ ]. *Спеліць жыта васілёк, звонка ціНькае сініца, зоры зораць вугалёк* (В. Аколава). [ ], [ ], [ ].

Кропкай з коскай раздзяляюцца:

- адносна незалежныя часткі бяззлучнікавага складанага сказа, калі яны разгорнутыя і (або) маюць свае знакі прыпынку: *Духмянасцю лета дыхне і жоўтаю поўняй начною; маланкі гарачы свой гнеў астудзяць вадой дажджавою* (В. Ярац). [ ]; [ ]. *Іх [рукі маці] цалавала зямля сваімі пясчанымі вуснамі і каласамі; неба спякотай, вятрамі, дажджамі іх цалавала* (М. Танк). [ ]; [ ];
- групы адносна незалежных састаўных частак бяззлучнікавага складанага сказа: *Рака кірунак здольна павярнуць, вярнуцца можа, круг зрабіўшы, вецер; сады, вясной адцвіўшы, зацвітуць, на ноч зайшоўшы, сонца зноў засвеціць* (А. Бачыла). [ ], [ ]; [ ], [ ]. *Ёсць на свеце роднае мястэчка, там штогод бываюць кірмашы; міма школы меленькая рэчка без мяне адна плыве ў цішы* (А. Куляшоў). [ ], [ ]; [ ].

Паміж часткамі бяззлучнікавага складанага сказа с т а в і ц ц а д в у к р о п' е, калі:

● у другой частцы (ці ў некалькіх наступных) раскрываецца змест, даецца паясненне таго, пра што гаворыцца ў першай частцы: *І неспадзявана адбылося незвычайнае: ціхая, нявідная, у жнівеньскім росквіце рабіна заружавела, зазырчэла яркім, кідкім харастом, гарачым полымем агністых гронак* (І. Мележ). [ ]: [ ]. *Стаяла прадвесне на дварэ: быў сакавік* (М. Стральцоў). [ ]: [ ]. *Раніца была цудоўная: неба без аблачынкі, зіхацелі мокрыя газоны, успыхвалі блікамі вокны* (І. Клімянкоў). [ ]: [ ], [ ], [ ];

● у другой частцы (ці ў некалькіх наступных) указваецца прычына таго, пра што гаворыцца ў першай частцы: *Магчыма, не ўбачымся болей: выпадак — наш гаспадар* (А. Вярцінскі). [ ]: [ ]. *Чаканне было доўгім: Алена затрымлівалася на дзве гадзіны.* [ ]: [ ];

● першая частка заканчваецца дзеясловамі *бачыць*, *глядзець*, *разглядзецца*, *чуць*, *адчуць*, *адчуваць*, *заўважыць*, *зразумець*, *разумець*, *ведаць*, *верыць*, *казаць* і іншымі (або іх можна ўставіць): *Я думаў: гэта сон прысніўся мне* (М. Танк). [ ]: [ ]. *Неўзабаве, расплюшчыўшы вочы, Міхась павярнуў галаву налева: доўгі хвост цягніка, як вусень, цягнецца ўперадзе...* (Д. Пятровіч). [ ]: [ ]...;

● першая частка з'яўляецца абагульняльнай у адносінах да наступных: *Звыклыя гукі напоўнілі лясныя гушчары: у галлі заварушылася сонная птаха, піскнуў заяц, бязгучна мільгануў кажан* (М. Лынькоў). [ ]: [ ], [ ], [ ].

П р а ц я ж н і к с т а в і ц ц а паміж часткамі бяззлучнікавага складанага сказа, калі:

● у першай з іх указваецца на ўмову або час дзеяння, пра якое паведамляецца ў другой: *Ветразь ёсць — плыві!* (А. Вярцінскі). [ ] — [ ]! *Хай пойдзе суткі цёплы дождж — папараць зазелянее, пусціцца ў рост і дагоніць маладыя сасняк* (І. Пташнікаў). [ ] — [ ];

● у другой частцы паказваецца вынік або робіцца вывад з таго, пра што паведамляецца ў першай: *Зайграла музыка — дзяўчаты павесялелі.* [ ] — [ ];

● змест частак супрацьпастаўляецца ці супастаўляецца: *Пойдзе рэха направа — не прабіцца праз травы* (К. Кірэенка). **[ ] — [ ].** *Удачы не было — была ўзнагарода за цярплівасць* (М. Стральцоў). **[ ] — [ ];**

● у сказе гаворыцца пра хуткую змену падзей або ў другой частцы паказваецца неадпаведнасць, нечаканы вынік таго, пра што паведамляецца ў першай: *Бусел узмахнуў крыламі — праз хвіліну ў небе была толькі белая кропка.* **[ ] — [ ];**

● апошняя частка ў адносінах да папярэдніх з'яўляецца абагульняльнай: *Дол засланы шышкамі, цвіце сунічнік, бруснічнік, перагукваюцца птушкі, звіняць камары — усё тут знаёмае...* (І. Навуменка). **[ ], [ ], [ ], [ ] — [ ]...;**

● другая частка з'яўляецца параўнаннем у адносінах да першай: *Дзяўчына ідзе — лебедзь плыве.* **[ ] — [ ].**

**180.** Разгледзьце табліцу 3 у дадатку. Раскажыце аб інтанацыйным афармленні бяззлучнікавых сладаных сказаў, паміж часткамі якіх ставіцца коска, кропка з коскай, двукроп'е, працяжнік. Звярніце ўвагу на сэнсавыя адносіны паміж часткамі.

**181.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго стыль. Чаму, на вашу думку, у тэкстах такога стылю выкарыстоўваецца вялікая колькасць бяззлучнікавых складаных сказаў? Назавіце іх. Якія сэнсавыя адносіны выражаюцца паміж часткамі складаназалежных і бяззлучнікавых складаных сказаў з тэксту? З якой інтанацыяй яны вымаўляюцца? Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку паміж часткамі названых сказаў.

ТАКСАФОННАЯ СУВЯЗЬ ТАКСАМА
МОЖА БЫЦЬ МАБІЛЬНАЙ

Пасля набыцця сотавага тэлефона я зусім забылася на існаванне такога апарата, як таксафон. **Я ведала, дзе знайсці ў Мінску той або іншы таксафон на выпадак, калі трэба будзе тэрмінова пазваніць.** І вось нядаўна, нечакана апынуўшыся без сотавай сувязі, я зноў звярнулася да старога «знаёмага».

Зайшла ў будку і адразу звярнула ўвагу на новую мадэль апарата. Здымаеш трубку — на вадкакрышталічным экране з'яўляецца надпіс «Устаўце, калі ласка, тэлефонную картку».

Убачыўшы надпіс, я апамяталася: карткі ж у мяне няма.

Выйшаўшы з будкі, на хвіліну спынілася: пачуўся званок таксафона. **Паварочваюся і бачу: малады чалавек спакойна здымае трубку.** Заўсёды думала, што іду ў нагу з часам. Але зараз мне здалося, што я безнадзейна адстала...

Упершыню таксафоны з уваходнай сувяззю з'явіліся ў Брэсцкай вобласці. Аказаўшыся запатрабаванай, гэта паслуга стала даступнай ва ўсіх рэгіёнах Беларусі. **Нумары, на якія можна званіць, размешчаны на саміх апаратах.** Акрамя таго, іх можна ўдакладніць у даведачнай службе, злучэнне з якой бясплатнае. Тарыфы на размовы такія ж, як унутры гарадской сеткі. У параўнанні з расцэнкамі сотавых апаратаў яны значна ніжэйшыя. І галоўнае, зручна: проста папрасі перазваніць табе на таксафон у вызначаны час *(Паводле В. Карней)*.

● Складзіце схемы выдзеленых сказаў.

**182.** Прачытайце народныя прыкметы аб надвор'і. Выпішыце складаныя бяззлучнікавыя сказы, расстаўце і патлумачце знакі прыпынку.

1. Калі вясёлка ў небе высокая і крутая то будзе вецер калі пахілая і нізкая то будзе дождж. 2. Буслы кружацца высока доўга будзе стаяць добрае надвор'е. 3. На дрэвах з'явіліся жоўтыя лісты ў пачатку жніўня наступіць ранняя восень. 4. Калі птушкі цвыркаюць то будзе цёпла. 5. Пчолы ў красавіку не вылецелі чакай халадоў.

● Перабудуйце складаназалежныя сказы ў складаныя бяззлучнікавыя.

**183.** Выпішыце складаныя бяззлучнікавыя сказы, пастаўце, дзе трэба, знакі прыпынку. Зрабіце сінтаксічны разбор выпісаных сказаў.

1. Хоць раз задумайцеся[с] людзі на што мы трацім лепшыя гады? *(А. Бачыла)*. 2. Ходзіць вецер па даліне хо-

дзіць-павявае ды пра радасць мне дзяўчыне песні напявае *(Я. Колас)*. 3. Сёння мне зранку працуецца весела стукнула звонка ў шыбу пчала ластаўка смутак крылом перакрэсліла ліпа цвісці на двары пачала *(П. Панчанка)*. 4. Усе бачылі[с] яна і прыгожая і працавітая. 5. Праз вокны відаць на ўсходзе разгараецца[м] раніца *(М. Лупсякоў)*. 6. Буяе[ф] над абшарамі сцюдзёны асенні вецер змятае пад прызбы пажоўклае[м] лісце гойдае мокрае галлё[ф] ў садку *(В. Быкаў)*. 7. Дзень вяселля назначылі[с] ды вяселля не бачылі *(Я. Колас)*. 8. Ні славы ні скарбаў я не хачу мне б толькі прайсці непрыкметна зямлю сваю пад нагамі адчуць, надыхацца родным паветрам *(П. Панчанка)*. 9. Сонечнае паўднёвае акно асвятляла пафарбаваную[сл] падлогу шафу ля дзвярэй снежна-белыя пасцелі з вышываннем[сл] на падушках фотакарткі на сценах *(І. Грамовіч)*. 10. Кватэра прасторная і ўтульная з усімі выгодамі суседзі таксама слаўныя няма падстаў крыўдзіцца на іх *(Т. Хадкевіч)*.

**184.** Асобна выпішыце складаныя бяззлучнікавыя сказы, у якіх на мяжы частак трэба паставіць: а) коску; б) двукроп'е; в) працяжнік. Падкрэсліце граматычныя асновы, расстаўце знакі прыпынку.

1. Стары бабёр яшчэ раз азірнуўся на хатку, сышоў з астраўка і паплыў хутка толькі лёгка разыходзіліся на вадзе хвалі *(А. Жук)*. 2. І на гэту нядзелю Павел не трапіў дадому мяцеліца мяла цэлыя суткі *(А. Жук)*. 3. Чалавек асцярожна расхінуў галінкі, прыслухаўся ўсё гэтак жа, як і раніцаю, на галіне суседняга куста пагойдвалася[с] і пасвіствала шэранькая птушачка *(А. Жук)*. 4. Слова спявае і весяліцца слова смуткуе марыць смяецца роднае слова ірвецца ў сэрца *(А. Мазур)*. 5. Апейка адчуў цішыня зрабілася насцярожанаю *(І. Мележ)*. 6. Спакой, упэўненасць не прыходзілі вельмі ж многае было незвычайнае, незразумелае *(І. Мележ)*. 7. У грудзях зашчымела ад нядобрага прадчування з Васілём нешта здарылася *(І. Мележ)*. 8. Вясна мінецца прыйдзе лета *(Я. Колас)*. 9. Вецер загуляе хвойнік лозы гнуцца *(Я. Колас)*. 10. Я зазірнуў у маміны вочы яны былі спакой-

ныя. 11. Бабуля расхвалявалася дзе ўзяць столькі грошай? 12. Крыкнуць хацелася голас замёр *(П. Броўка)*.

● Выпішыце словы, адпаведныя правілу «Правапіс суфіксаў дзеясловаў». Растлумачце іх правапіс.

**185.** Падрыхтуйце паведамленне «Працяжнік у бяззлучнікавым складаным сказе» на аснове схемы. Выберыце і запішыце адпаведныя прыклады з прапанаваных ніжэй сказаў.

| | | |
|---|---|---|
| 1 | [ ] — [ ]. | Супрацьпастаўленне |
| 2 | [ ] — [ ]. | Хуткая змена падзей |
| 3 | [ ] — [ ]. | Вынік |
| 4 | [ час ] — [ ]. | |
| 5 | [ умова ] — [ ]. | |
| 6 | [ ] — [ ]. | Параўнанне |

1. Бліснула маланка — стала відно як удзень. 2. Пастукалі ў акно — з хаты ніхто не абазваўся *(К. Чорны)*. 3. Прыйдзе лета — паедзем адпачываць. 4. Засмяялася — званочак зазвінеў. 5. Угару зірнеш — шапка валіцца. 6. Прыйдзе вясна — голасна заспяваюць птахі. 7. Прыйшоў Пятрок — апаў лісток, прыйшоў Ілля — апала два, прыйшла Прачыстая — увесь лес ачысціла *(Прыказка)*.

**186.** Складзіце і запішыце складаныя бяззлучнікавыя сказы, пачынаючы іх сэнсава-граматычныя часткі антонімамі.

Добры ..., дрэнны ... . Святло ... , цемра ... . Свой ..., чужы ... . Радзіма ..., чужына ... . Сумны ..., вясёлы ... .

**187.** Прапанаваныя простыя, складаназлучаныя і складаназалежныя сказы перабудуйце ў бяззлучнікавыя складаныя сказы. Запішыце.

1. Праляцеў месяц. Скончыўся адпачынак. 2. Не давалі спакою нейкія турботы. Юрасю не сядзелася на месцы. 3. Цэ-

лыя суткі ішоў снег — і дрэвы апрануліся ў прыгожае белае футра. 4. Закончыўся рабочы дзень — і ўсе заспяшаліся дадому. 5. Калі паглядзіш на некаторыя палотны Н. Шчаснай з розных ракурсаў, то ўбачыш некалькі розных карцін у адной. 6. Сцяпан Антонавіч адмяніў сустрэчу з сябрам, бо ён чакаў важнага званка ад калег.

Зачытайце перабудаваныя сказы з адпаведнай інтанацыяй. Сфармулюйце правілы, якімі карысталіся пры пунктуацыйным афармленні сказаў.

**188.** Прачытайце бяззлучнікавыя складаныя сказы. На што паказваюць знакі прыпынку ў іх? Перабудуйце бяззлучнікавыя складаныя сказы ў складаназлучаныя і складаназалежныя. Што дапамагло вызначыць сэнсавыя адносіны для ўтварэння складаназлучаных і складаназалежных сказаў?

1. Сонца падымалася вышэй — пад яго цёплымі праменямі выпаралася раса. 2. Возера вызвалілася ад ільду — вада зазіхацела серабрыстым люстэркам. 3. Заплюшчыш вочы — адразу паўстаюць родныя мясціны. 4. Рашаць пытанне падвозу прадуктаў у вёску трэба было тэрмінова: магазін знаходзіўся ад яе за пяць кіламетраў. 5. Выніковы канцэрт перанеслі на месяц пазней: яго ўдзельнікі збіраліся як мага лепш падрыхтавацца да святкавання юбілею школы. 6. З суседзямі трэба жыць у згодзе: часам толькі яны могуць дапамагчы ў бядзе.

**189.** Складзіце бяззлучнікавыя складаныя сказы на тэму «Свет маіх захапленняў» па наступных схемах:

1. [ ], [ ].
2. [ ]: [ ].
3. [ ] — [ ].
4. [ ], [ ] — [ ].

Сфармулюйце пунктуацыйныя правілы, па якіх афармлены сказы.

**190.** Афарміце адзін і той жа бяззлучнікавы складаны сказ рознымі знакамі прыпынку паводле схем.

Прыходзіць вясна разліваюцца рэкі *(А. Вярцінскі)*.

1. [ ], [ ].
2. [ ] — [ ].

Я нічога не адказаў мой настрой сапсаваўся *(А. Карпюк)*.

1. [ ], [ ].
2. [ ]: [ ].
3. [ ] — [ ].

Параўнайце сказы з варыянтнымі знакамі прыпынку. Якія сэнсавыя і інтанацыйныя адрозненні вы заўважылі?

**191.** Напішыце эсэ на тэму «Праблема вольнага часу ў нашы дні», ужываючы бяззлучнікавыя складаныя сказы.

## § 19. Сінтаксічныя прыметы складаных сказаў з рознымі відамі сувязі частак, знакі прыпынку

**Складаныя сказы з рознымі відамі сувязі частак** — сказы, у якіх часткі адначасова аб'ядноўваюцца рознымі відамі сувязі, уласцівай складаным сказам: злучнікавай і бяззлучнікавай; злучальнай і падпарадкавальнай; бяззлучнікавай, злучальнай і падпарадкавальнай.

У структуру складанага сказа з рознымі відамі сувязі ўваходзіць не менш за тры часткі, аб'яднаныя пры дапамозе злучнікавай і бяззлучнікавай сувязі: 1) *Я гэту мову ўзяў сабе таму,* 2) *што зашмат у ёй было гаротных песень, і* 3) *мне хацелася прынесці болей ёй чалавечай радасці і сонца* (М. Танк). **I [ 1 ], (2** *што***), і II [ 3 ].**

Часткі складаных сказаў з рознымі відамі сувязі адзяляюцца тымі ж знакамі прыпынку, што і часткі ў саставе складаназлучаных, складаназалежных, складаных бяззлучнікавых сказаў: 1) *Мяняюцца праграмы і падручнікі,* 2) *адно нязменна — Колас і Купала:* 3) *яны ніколі не былі прыручаны,* 4) *бо песня птушкай вольнаю лунала* (В. Русілка). **I [ 1 ], [ 2 ]: II [ 3 ], (4** *бо***).**

К о с к а  н е  с т а в і ц ц а паміж часткамі, звязанымі спалучальнымі злучнікамі, калі яны маюць:

● агульную галоўную частку: ***А сам ён ніколі нікога не судзіў:*** *будзь сам добрым другім і другія будуць добрымі табе* (В. Казько).

● агульную даданую частку: *Ліхтары пагасілі* ***і*** *снег стаў ліловы*, ***калі ўрэшце з'явіўся бацька*** (У. Караткевіч);

У сказах з рознымі відамі сувязі частак можа адбывацца збег злучнікаў (злучальнага і падпарадкавальнага).

К о с к а  н е  с т а в і ц ц а:

● паміж злучальным і падпарадкавальным злучнікамі, калі пасля даданай часткі ёсць другая частка падпарадкавальнага злучніка ***(то, дык)***: *Палеткі акружалі вёску,* ***і калі*** *глядзець на вёску здалёку*, ***то*** *яна здавалася невялікім зялёным астраўком ў жоўтым разліве* (А. Жук);

● паміж злучальнымі злучнікамі ***і, а, ды, але, аднак*** і падпарадкавальным, калі яны стаяць у пачатку сказа і ўжываюцца з далучальным значэннем: ***І чым*** *больш ён плакаў, тым больш яму рабілася шкада самога сябе*, *і яму пачало нарэшце здавацца*, *што яго ўсе крыўдзяць і ён ад усіх нявінна церпіць* (К. Чорны).

**192.** Выпішыце складаназлучаны, складаназалежны, бяззлучнікавы, складаны сказ з рознымі відамі сувязі частак і пабудуйце схему кожнага сказа. Вызначце віды сувязі паміж часткамі. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў выпісаных сказах.

1. Цёмна-зялёны масіў поля паволі святлеў, потым па ім пайшлі жаўтлявыя хвалі, што даходзілі аж да далёкага лесу, і, нарэшце, залаты разліў запаланіў усё жытнёвае бязмежжа, быццам само сонца падарыла яму сваю афарбоўку *(Т. Хадкевіч)*. 2. Аселі шэрыя сумёты, ляціць да долу мяккі снег, а я стаю на раздарожжы: у сэрцы цень трывожны лёг *(У. Хадыка)*. 3. Няспынна, магутна ідзе наперад жыццё, і няспынна, чароўна мяняецца воблік роднага краю *(К. Кірэенка)*. 4. То віўся ўгору густым вянком спелы, пажоўклы хмель, то абвісалі цяжкімі гронкамі спелыя, чырвоныя вішні,

а то раптам шырока раскідваў сваё вецце пышны ружовы куст *(П. Панчанка)*. 5. Колькі б мы ні шукалі сяброў у жыцці — нельга лепшага друга за песню знайсці *(М. Танк)*. 6. Лабановіч садзіцца на пень, які яшчэ не нагрэўся ад ранішняга сонца, і слухае, як спяваюць дразды, як дзесьці на ўзлессі кукуе зязюля, як ціха-ціха гамоняць сваімі верхавінамі меднастволыя сосны *(Я. Колас)*. 7. Хоць даўно развіднелася і ўзышло сонца, на полі нікога не відаць: усе некуды разышліся *(А. Стаховіч)*. 8. Рыгорка сядзіць ля агародчыка, над ім цвіце пахучы бэз, а вышэй, на страсе хаты, чырыкаюць, скачуць, увесь час пазіраючы на малога, канаплянкі *(М. Лупсякоў)*. 9. Дае прырода зноў урокі нам: не верце цішыні, салодкім снам, бяда і радасць ходзяць побач вечна, людзей ратуе толькі чалавечнасць *(П. Панчанка)*. 10. Дабрыня асвятляе душу, дабрыня — гэта стрыжань спрадвечны, на якім трымаецца чалавецтва, і яна з'ядnae[ф] людзей, нягледзячы[м] ні на што *(А. Астрэйка)*.

**193.** Прачытайце ўспаміны пісьменнікаў пра І. Мележа. Назавіце складаныя сказы з рознымі відамі сувязі частак. У тэксце І растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку паміж часткамі складаназалежнага сказа і складаных сказаў з рознымі відамі сувязі частак. Складзіце схемы двух апошніх сказаў. З тэксту ІІ выпішыце выдзеленыя сказы, афармляючы іх у адпаведнасці з пунктуацыйнымі нормамі. Пракаменціруйце пунктуацыйнае афармленне выпісаных сказаў.

**І.** Ён [Мележ] якраз многа і ахвотна гаварыў пра ненапісанае, пра тое, што думае пісаць, расказваў і сюжэт, і схему развіцця характараў...

Калі я чытаў няскончаныя раздзелы і рабочыя запісы — «з творчай лабараторыі» — да рамана «Завеі, снежань», да другой яго часткі, якія засталіся пасля смерці пісьменніка, то прыгадваў: шмат што з таго, што занатавана Мележам на палях — куды павярнуць сюжэт, як раскрыць сітуацыю, якім чынам развіваць характар героя, — я чуў з яго вусных расказаў. І што асабліва здзіўляе: многія задумкі трэцяй кнігі, якая засталася недапісанай, чуў я даўно, можа, дзясятак гадоў назад, калі Іван Паўлавіч працаваў яшчэ над «Подыхам навальніцы» *(І. Шамякін)*.

**II.** Затое мне знаёмы быў клопат з назвамі твораў. І ўдзень і ўночы; і ў сне і наяве. Бесперастанку яны варушацца і кіпяць у галаве. То паяўляюцца і знікаюць, то перайначваюцца, кожны раз набываючы іншую акрасу.

У Мележа іх было некалькі[м] спіскаў. «Палеская хроніка» яшчэ была толькі задумана, а назвы ўжо прыдумляліся. **Адна з першых была «Людзі на балоце» прызнаюся яна мне не вельмі падабалася не хацелася каб эмацыянальна людзей заценьвала балота якое ў маёй біяграфіі[ф] вельмі ж далося ў знакі.** Потым ішлі назвы з характарыстыкаю Палесся: «Туманы над багнаю», «Навальніца над полем». У розным спалучэнні вар'іраваліся словы з такімі сімваламі, як «бераг», «асака», «раска», «завеі». Напрыклад, «За асакою бераг». Безліч розных прымернікаў. Як відаць, назвы рабіліся з запасам на ўвесь цыкл «Хронікі», бо «Подыхам навальніцы» назваўся потым другі том, «Завеі» дасталіся трэцяму[м], праўда, з дадаткам адзнакі часу: «Завеі, снежань».

Першы том аставаўся без канчатковай назвы да самай апошняй хвіліны. Толькі перад здачаю рамана ў набор, пасля пакутлівых ваганняў, Мележ напісаў на тытульнай старонцы: «Людзі на балоце». **І раптам лёгка ўздыхнуў супакоіўшы сябе філасофскаю пігулкаю што калі будзе добрая кніга то да назвы адразу прывыкнецца** *(Я. Скрыган)*.

**194.** Прачытайце. Выпішыце складаныя сказы з рознымі відамі сувязі частак. Расстаўце патрэбныя знакі прыпынку. Падкрэсліце граматычныя асновы ў выпісаных сказах. Вызначце тып выказнікаў.

1. Неба было яснае чыстае сонца свяціла ярка але ў лесе не адчувалася той гарачыні якая стаяла[с] днём. 2. Юля азірнулася ад горада яна адышлася[с] не так і далёка. 3. Усё і маўклівыя прыбраныя ўзгоркі[сл] і пыл[м] што за цэлы дзень назбіраўся ў паветры і сырасць што нацягнула ад прырэчнага алешніку было ўжо вераснёвым асеннім. 4. У лесе ўжо змяркалася ў твары коннікаў[сл] ударыў вільготны вецер і яны спыніліся. 5. Паветра стала цёплым і лагодным над далеччу[м] балот і палёў звісала смуга — адзнака цяпла і адлігі. 6. Праходзіў час мінала ліхалецце[сл] і вёска зноў

адбудоўвалася паўставала на папялішчах. 7. Раптам бліснула маланка стала відно як удзень[м]. 8. Паводка шумела не так сабе яна змывала з лугоў леташні бруд каб на іх[ф] чыстых і пасвяжэлых[сл] зацвіла лотаць прабілася новая зялёная трава. 9. Часамі[м] крылы ветрака круціліся[с] і мне здавалася што ён махае рукамі нібы некага[м] кліча. 10. Потым прачынаецца трэцяя[м] чацвёртая птушка і не праходзіць паўгадзіны як увесь[м] лес звініць[с] і заліваецца птушыным спевам.

**195.** Прачытайце. Ці згодны вы з аўтарам у вызначэнні людской дабрыні? Прадоўжыце сказ *Быць добрым — гэта значыць...*

Дзяцінства, як і[м] вясна, мінаецца[с] вельмі хутка. Зусім незаўважна[м] аднойчы прыходзіць пара, калі нядаўні школьнік адчувае сябе[м] дарослым чалавекам. Тое, што выносім з дзяцінства, застаецца ў нашым сэрцы назаўсёды. У дзіцячыя гады фарміруецца[с] характар, прыходзіць першае разуменне[сл] дабра і зла, пачынаецца спасціжэнне свету. Каб гэты свет заставаўся прыгожым, трэба самому[м] несці прыгажосць у душы. Яе нараджае наша дабрыня — агеньчык, які грэе і свеціць. Быць добрым — гэта значыць дарыць людзям радасць, любіць[с] жыццё і ўзбагачаць яго сваёй чуласцю, спагадлівасцю і любоўю. Жыццёвая дарога пачынаецца з першага самастойнага кроку, а раскрываецца жыццёвая неабсяжнасць ва ўсёй прыгажосці тады, калі кожны дзень асветлены[сл] дабрынёю *(Р. Баравікова)*.

● Выпішыце з тэксту просты, бяззлучнікавы, складаназалежны і складаны сказ з рознымі відамі сувязі частак. Зрабіце іх сінтаксічны разбор.

**196.** Спішыце тэкст, расстаўце знакі прыпынку. Пранумаруйце складаныя сказы і пабудуйце іх схемы. Прааналізуйце будову састаўных частак.

Часам днём позняга лета пачынае хмурнець і гэта не збіраецца на дождж[ф] а незаўважна падплылі павевы восені. Лёгкая плынь ветру зноў заціхне і дзень зноў зіхаціць сонцам але ўжо застаецца пячаць летняга адцвітання[с]. У поўнай сіле сваёй цвітуць летнія кветкі і трава адрастае пасля

касы а сэрца чуе што не так ужо гудзе пчала над жоўтым малачайнікам і вада ў рэчцы[ф] плыве здаецца цішэй. Яшчэ ў пачатку ліпеня бывае[с] зжаўцее адзін-адзінюткі лісток на бярозе і так ён сярод пышнай зеляніны трымаецца доўга. А ў гэты дзень ён адарвецца і кружыцца[с] ў паветры пакуль ляжа ў траву. К вечару пакідае звінець неабдымная шырыня летняга дня і кладзецца цішыня на зямлю. Жоўты лісток з бярозы ляжыць у траве і бачны здалёку і без яго здаецца не пахнуў бы так чабор не такі прывабны здаваўся б верас і не было б такога вялікага шчасця ў душы бачыць траву і дрэвы сіратлівы куст шыпшыны і вершаліну высокай хвоі на якой ціха ляжыць праменне блізкага да захаду сонца *(Паводле К. Чорнага).*

**197.** Прачытайце выказванне Я. Сіпакова пра жыццё.

Жыццё — гэта ланцуг горных хрыбтоў. Ты, узбіраючыся на самую высокую гару, думаеш: хрыбет апошні; а на самай справе гэта ўсяго толькі адзін з многіх і многіх, што вырастуць перад табою неўзабаве.

Выкажыце сваю думку наконт сэнсу жыцця.

Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку. Пабудуйце сказы аб сэнсе жыцця па схемах:

1. [ ], ( ): [ ]. 2. ( ), [ ] — [ ]. 3. [ ], ( ); [ ], ( ), ( ).

**198.** Выберыце характарыстыкі, якія адпавядаюць наступнаму сказу.

Тады стала ціха і ў цішыні здалося што звіняць сцены і звон лезе ў вушы *(І. Пташнікаў).*

1. Сказ складаецца з чатырох частак.
2. Сувязь паміж часткамі — злучальная і падпарадкавальная.
3. Сродак сувязі паміж другой і трэцяй часткамі — злучальнае слова.
4. У сказе 3 коскі.
5. Складаны сказ з некалькімі даданымі часткамі.

**199.** Прачытайце. Перадайце змест кожнага абзаца па-беларуску, ужываючы сказы з рознымі відамі сувязі частак.

Торжественная церемония открытия площади Государственного флага состоялась 2 июля 2013 года при участии Президента Республики Беларусь Александра Лукашенко. Площадь Государственного флага расположена в Минске на проспекте Победителей. Она представляет собой круг радиусом 50 м и соединяется с главным фасадом выставочного павильона «БелЭкспо» лестницей шириной 24 м. Вдоль пешеходной дорожки размещены семь гранитных стел с гербами областей и Минска. Симметрично с двух сторон от лестницы возвышаются стелы с текстом Государственного гимна и географической картой Беларуси. Общая высота конструкции флагштока составляет 70 м. Полотнище флага имеет размер 14×7 м.

Рядом с площадью Государственного флага находится Дворец Независимости, строительство которого было завершено в 2013 году. Открытие Дворца приурочили к двум мероприятиям на высшем уровне, которые прошли в октябре: саммиту Высшего Евразийского экономического совета и заседанию Совета глав государств СНГ.

По мнению Президента Беларуси Александра Лукашенко, комплекс, состоящий из площади Государственного флага, Дворца Независимости и зала торжеств, призван стать главным центром суверенного белорусского государства, предметом гордости соотечественников, визитной карточкой Беларуси в мире *(Из газеты)*.

**200.** Прачытайце тэкст, вызначце яго асноўную думку. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

Робячы чалавеку зло, мы вінаватыя перад ім да таго часу, пакуль ён пра гэта памятае, але адчуваем сябе вінаватымі, пакуль памятаем пра гэты ўчынак самі. **Зло — грэх, але калі перад Богам мы замольваем свае грахі малітвамі, то на зямным судзе памяць — адзіны суддзя і адзіная мера віны.** Прычыніце чалавеку боль, а потым двойчы зрабі-

це яму дабро — ён дарує вам, але, пакуль будзе памятаць пра прычынены боль, вы будзеце перад ім вінаватыя *(А. Бадак)*.

● Пабудуйце схему выдзеленага сказа.

● Напішыце сачыненне-разважанне на тэму «Маё жыццё — маё сумленне», ужываючы складаныя сказы з рознымі відамі сувязі частак.

## § 20. Ужыванне складаных сінтаксічных канструкцый у тэкстах розных тыпаў, стыляў і жанраў



**201.** Прачытайце. Пісьмова перакажыце змест кожнага абзаца з дапамогай складаных сказаў.

Як вядома, простыя сказы больш характэрныя для гутарковага маўлення, складаныя часцей ужываюцца ў кніжнай мове. Гэта зразумела: кніжная мова адлюстроўвае складаныя, рознабаковыя сувязі прадметаў і з'яў у іх прычынна-выніковай залежнасці. Ва ўсіх стылях складаныя сказы выкарыстоўваюцца па-рознаму. Так, доказна-лагічны характар выкладу ў **навуковым тэксце** патрабуе складаназалежных сказаў з даданымі часткамі ўмовы і прычыны, а таксама з даданымі азначальнымі часткамі — для азначэння пэўных паняццяў і ілюстравання з'яў. У **мастацкім стылі** пераважаюць складаназалежныя сказы з даданымі часткамі часу і даданымі азначальнымі часткамі.

Выбар аўтарам таго ці іншага тыпу сказа — складанага ці простага, складаназалежнага ці складаназлучанага, злучнікавага ці бяззлучнікавага — вызначаецца ў першую чаргу сэнсавымі і стылістычнымі асаблівасцямі кантэксту.

У сувязі з тым, што складаныя сказы разнастайныя па сваёй сінтаксічнай структуры і стылістычных асаблівасцях, у іх пабудове сустракаюцца памылкі, якія перашкаджаюць дакладнаму разуменню думкі.

Напрыклад, у афіцыйным і часам у навуковым стылях ужываюцца надзвычай вялікія складаныя сказы, у якіх зацямняецца сувязь паміж асобнымі часткамі.

Памылкі ў пабудове складаных сказаў могуць быць звязаны з парушэннем парадку слоў у аднародных даданых

частках: у іх павінен захоўвацца прамы ці адваротны парадак. Няўдалым можна лічыць такі сказ: *Міхал падышоў да акна і ўбачыў казачнае відовішча: снегавая роўнядзь зіхацела пад промнямі зімовага сонца, дрэвы застылі пад цяжкім інеем і задуменна спыніла свой ход рака*. У трэцім аднародным сказе варта выкарыстаць прамы парадак слоў *рака задуменна спыніла свой ход*.

Распаўсюджаныя памылкі ў пабудове складаных сказаў звязаныя з тым, што ў якасці аднародных сінтаксічных элементаў спалучаюцца член сказа і даданая частка: *Міхась быў зачараваны тым, якія змены адбыліся ў прыродзе і зімовай прыгажосцю*. П р а в і л ь н а: *Міхась быў зачараваны зменамі, якія адбыліся ў прыродзе, і зімовай прыгажосцю*. А б о: *Міхась быў зачараваны тым, якія змены адбыліся ў прыродзе і як прыгожа стала навокал*.

Часта складаныя сказы неапраўдана ўжываюцца замест простых: *Міхась пачуў гук, які быў вельмі прыемны для слыху*. Т р э б а: *Міхась пачуў прыемны для слыху гук* (В. Кузьміч).

● Пісьмова адкажыце на пытанні:

1. Чаму складаныя сказы часцей ужываюцца ў кніжнай мове?
2. Ад чаго залежыць выбар аўтарам тыпу сказа?
3. Якія тыповыя памылкі сустракаюцца пры ўжыванні складаных сказаў?

**202.** Спішыце, устаўляючы літары і расстаўляючы знакі прыпынку. Паразважайце, чаму аўтар аддае перавагу складаным сказам.

Псіхолагі ліч..ць адна з найважнейшых умоў вырашэння канфлікт.. уменне кіраваць сабой. Ац..ніць абставіны ў цэлым усв..доміць свой інтарэс дакладна высв..тліць імкненне апанента вызначыць аб..ект канфлікт.. усё гэта трэба ўмець зрабіць каб разабрацца[с] ў канфліктнай сітуацыі. Але тут не ўсё так проста як напрыклад з рашэнн..м інт..лектуальнай задачы паколькі ў гэтым выпадку мы маем справу з нашымі[м] пачуцц..мі *(З падручніка)*.

● Падкрэсліце граматычныя асновы ў сказах (частках сказаў).

**203.** Спішыце складаныя сказы, расставіўшы знакі прыпынку. Вызначце тып дадзеных частак.

1. Цырк пачынаўся[с] з базарных плошчаў дзе ўзводзіліся часовыя балаганы ў якіх за невялікую плату можна было паглядзець эстрадна-цыркавую праграму *(З. Шыбека)*. 2. Якая ж сіла заложана ў гэтых прасторах неабдымных родных шляхоў і якую ўладу маюць яны над табою неспакойны вечна заклапочаны падарожны? Ці не гэта нікім не выказаная казка іх якая складалася доўгімі вякамі і запісвалася агнявымі літарамі людское крыўды ў сэрцах мільёнаў падарожных што ішлі і ехалі па гэтых шляхах і думалі свае думкі? *(Я. Колас)*. 3. Я люблю часіну навальніцы калі б'е пярун па ўсіх ладах і злуюцца ў хмарах бліскавіцы кроплі асыпаючы на дах *(П. Панчанка)*. 4. Напэўна гэтая вадзіца мабыць якая чараўніца калі наўперад многа знае і пра ўраджайнасць нешта бае *(Я. Колас)*. 5. Адкуль адкуль толькі тое старцу было вядома? Адкуль ён чэрпаў мудрасць сваю калі жыў адзін адгароджаны ад цывільнага свету? *(А. Бароўскі)*.

● Растлумачце правапіс ***не*** ў словах.

● Выпішыце словы, якія ўтрымліваюць арфаграму «Правапіс ***е, ё, я***».

● Выпішыце прыклады, якія ілюструюць арфаграму «Правапіс суфіксаў прыметнікаў».

**204.** Прачытайце, вызначце тып і стыль тэксту. Паразважайце, чым тлумачыцца багацце розных відаў сказаў, скарыстаных пісьменнікам.

Ледзь-ледзь пачынала днець, калі над лугамі ў нізінах стаў падымацца малочны туман. Цягнула прыемным вільготным халадком, а на ўзгорках сустрэчны паток паветра быў сухі і цёплы. Проста не верылася, што пачынаўся перадапошні летні дзень. А калі развіднела і позірку адкрыліся прасторы, што імчаліся насустрач матацыклу, паказалася сапраўдная восень. Палі ляжалі голыя і смутныя, толькі дзе-нідзе зелянела ранняя рунь. Маладыя прыдарожныя пасады прыветліва кланяліся[с] запыленымі[сл] кронамі. Усю-

ды: на дарозе, у абочынах, на прыгожай траве — ляжала лісце, якое час ад часу ўзлятала ўгору і кружылася ў пыльнай завірусе, што віхрылася за матацыклам.

Лемяшэвіча апанаваў нейкі смутак, хоць на свой ранішні настрой ён не мог паскардзіцца. Такое пачуццё не раз з'яўлялася ў яго на пачатку восені. У гэтым годзе яно з'явілася ўпершыню і, здаецца, раней, чым звычайна. У горадзе, якім ён яшчэ моцна жыў, прыкметы восені заўважаліся пазней *(Паводле І. Шамякіна)*.

● Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў тэксце.

● Выпішыце з тэксту розныя віды складаных сказаў (складаназлучаны, бяззлучнікавы, складаназалежны з адной і некалькімі даданымі часткамі), зрабіце іх поўны сінтаксічны разбор.

**205.** Спішыце сказы, выправіўшы парушэнні сінтаксічных норм.

1. Сёння ідзе не толькі дождж, але і, відаць, будзе навальніца. 2. Газіфікацыю аддаленых вёсак трэба завяршыць, якая пачалася яшчэ ў 70-я гады. 3. Гісторыя не толькі ўплывае на літаратуру, але і літаратура ўплывае на гісторыю. 4. Набягалі то невялікія хмаркі, то зноў з'яўлялася сонца. 5. На жаль, часам мы або забываем пра сяброў, або сябры забываюць пра нас. 6. Слова — вялікая сіла. Таму што слова можна аб'яднаць людзей і раз'яднаць. 7. Жыццё героя — гэта гісторыя чалавека, моцнага духам і які годна выступае ад імя свайго пакалення. 8. Аб гэтым вы можаце прачытаць у матэрыялах нашага карэспандэнта, які з'явіцца ў суботнім выпуску газеты. 9. Галоўнае, чаго чакалі ад маладога інжынера, — гэта рэканструкцыю прадпрыемства. 10. Вершы прасякнуты шчырай павагай да селяніна, у якіх расказваецца пра цяжкую, але такую неабходную вясковую працу. 11. Гутарковы стыль мае свае асаблівасці, куды адносяцца непаўната выказвання, ужыванне выклічнікаў, варыянтнасць у вымаўленні. 12. Мы спыніліся на Ушаччыне, дзе шмат азёр і вада ў якіх вельмі чыстая *(З вучнёўскіх работ)*.

● Выпішыце асабовыя назоўнікі, пастаўце іх у форме меснага склону. Растлумачце правапіс канчаткаў.

**206.** Прачытайце тэкст. Выпішыце складаназлучаныя сказы са спалучальнымі, супастаўляльнымі і размеркавальнымі злучнікамі, падкрэсліце граматычныя асновы. Расстаўце знакі прыпынку і растлумачце ўмовы іх пастаноўкі.

Над гаем над велізарным **абшарам** блакіту вісела даль і ў ёй была дзіўная **гармонія далікатных** тонаў і таемных мар.

Лес быццам маўчаў аднак сярод яго цішыні ўгадваліся таямнічыя цені.

Даль то прыцягвала да сябе сваёй недасягальнаю таемнасцю то далей адплывала назад хаваючыся за лесам. Яна жадала раніць душы **самотных** людзей а яны шукалі ў ёй развязкі балючага сэрца.

Даль гаварыла яе мовай была песня без слоў ды толькі чуткае вуха магло ўлавіць яе перарыўныя спевы.

Колькі **багата** жыцця ў гэтай далі ў часе сонечнага дня калі яна прасвечваецца чыстая нібы раса на чароце. Промні сонейка прасвечваюць даль і лес ажывае ў вясёлых **зыках** і ад растопленай сасновай смалы кружыцца галава *(З. Бядуля)*.

● Запішыце сінонімы да выдзеленых слоў.

● Назоўнікі з тэксту *цень, даль, гармонія, песня, жыццё* запішыце ў форме творнага склону.

**207.** Спішыце. Расстаўце знакі прыпынку і растлумачце ўмовы іх пастаноўкі. Вызначце тып дадзеных частак.

1. Усё пра што нам марыцца збываецца ў жыцці *(М. Хведаровіч)*. 2. Толькі ў сэрцы і можна адчуць колькі багацця даў табе край *(К. Кірэенка)*. 3. Елачцы зялёнай сёння сняцца сны быццам вее з бору водарам лясным *(Я. Пушча)*. 4. Раптам ірвануў вецер і перайшоў у такую буру што зямля закурылася пылам *(Я. Колас)*. 5. Калі яны выйшлі на вуліцу было цёмна хоць на небе і высыпалі буйныя белыя зоркі *(А. Кудравец)*. 6. Мы ні на хвіліну не былі пахіснуты ў сваёй вялікай веры хоць права жыць у шчасці на зямлі і здабываў народ нялёгкай мерай *(К. Кірэенка)*. 7. Там пад на́міткай* туманаў відзен гай сасновы што прабег паўзверх курганоў *(Я. Колас)*. 8. Памяць чалавечая падобна на скарбніцу ў якой можа захавацца толькі здольнае вытрымаць буры часу

і не страціць сваёй цікавасці *(Р. Сабаленка)*. 9. Тут і рэчка відаць лес і белыя хмаркі-гускі што плаваюць па бязмежнай прасторы сініх нябёс *(Я. Колас)*. 10. Яшчэ ў вялікім я даўгу ўсё разлічыцца не магу за сілы што народ мне даў *(Я. Пушча)*. 11. У жыцці заўсёды той шчаслівы дружбу хто ўсюды беражліва праз усе выпрабаванні нёс *(Я. Пушча)*. 12. Не ўсё тое мёд што салодка[сн] *(Прыказка)*. 13. У вачах адлюстравана тое што ў душы хаваецца[с] на дне *(Я. Непачаловіч)*. 14. Дзе той дуб-велікан што заглядаўся на прыгожую рэчку і смяяўся са злосці бур і вятроў? *(Я. Колас)*. 15. Я помню як пад сонцам цёплым мы Радзіме ад душы складалі гімны *(Я. Пушча)*.

● Выпішыце адзін дзеяслоў і ўтварыце ад яго ўсе магчымыя формы загаднага ладу.

**208.** Прачытайце. Наколькі блізкія вам гэтыя наказы-павучанні? Паразважайце, у чым сэнс Нагорнай пропаведзі. Прасачыце асаблівасці сінтаксічнай пабудовы ўрыўка. Чаму, на вашу думку, у тэксце задзейнічаны розныя віды складаных сказаў і адсутнічаюць простыя сказы?

Не судзіце, каб вас не судзілі, бо, якім судом судзіце, такім і вас судзіцьмуць, якою меркаю мерыце, такою і вам адмерыцца. Не давайце святыні сабакам і не кідайце жэмчугу перад свіннямі, каб яны не растапталі яго нагамі сваімі і, абярнуўшыся, вас не раздавілі.

Прасіце, і вам дасца, шукайце, і знойдзеце, стукайце, і адчыняць вам, бо кожны, хто просіць, атрымае, і хто шукае, знаходзіць, і хто стукае, таму адчыняюць. Ці ёсць паміж вамі такі чалавек, які, калі сын у яго папросіць хлеба, падаў бы яму камень?

І ва ўсім, як хочаце, каб людзі рабілі з вамі, так і вы рабіце з імі, бо ў гэтым закон і прарокі.

Уваходзьце праз цесную браму, бо шырокая брама і прасторная дарога вядуць у пагібель, і многія ходзяць імі, бо цесная брама і вузкая дарога вядуць у жыццё, і нямногія знаходзяць іх *(Евангелле ад Мацвея. З Нагорнай пропаведзі)*.

● Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў тэксце.

● Паразважайце, чаму Біблію часам называюць Кнігай кніг.



**209.** Прачытайце. Раскажыце пра асаблівасці сінтаксісу тэкстаў мастацкага стылю. Пісьмова перадайце змест тэксту, выкарыстоўваючы розныя віды складаных сказаў.

У мастацкім стылі выкарыстоўваецца ўсё багацце сінтаксісу беларускай мовы: простыя і складаныя сказы (усе тыпы) з апавядальнай, пытальнай, клічнай і пабуджальнай інтанацыяй; аднародныя члены сказа, зваротак, экспрэсіўнае вылучэнне членаў сказа і інш. Выбар таго ці іншага тыпу сказа — простага ці складанага, складаназлучанага ці складаназалежнага, злучнікавага ці бяззлучнікавага — вызначаецца кантэкстам, сітуацыяй, асаблівасцямі стылю пісьменніка. Так, дыялогам уласцівы **няпоўныя сказы**: *Там рака глыбокая, і ў ёй — шчупакі* (І. Пташнікаў) або **сказы з умоўчваннем** — спецыяльна незакончаныя канструкцыі для ўзмацнення экспрэсіі: *Бывала, у нас там, дома, у гэтую пару...* (К. Чорны). **Безасабовыя сказы**, як вядома, абазначаюць дзеянні і працэсы, якія адбываюцца нібы самі па сабе, таму яны ўжываюцца пры апісанні з'яў прыроды, псіхічнага або фізічнага стану чалавека ці жывой істоты: *У той год з вясны вельмі дажджыла* (Б. Сачанка). З дапамогай **назыўных сказаў** ствараюцца малюнкі прыроды, апісваюцца абстаноўка, прадметы, з'явы, якія ўспрымаюцца наглядна, рэальна: *Раніца. Шэрае, нізкае неба* (Я. Брыль). **Пытальныя, пабуджальныя і клічныя сказы** — экспрэсіўна-стылістычныя сродкі мовы, якія выражаюць эмоцыі чалавека: захапленне, радасць, шкадаванне, смутак, абурэнне, здзіўленне і інш.: *З чым жа, маці азёр беларускіх, мог я ў песні цябе параўнаць?* (П. Прыходзька). **Інверсія** надае выказванню дадатковыя сэнсавыя і экспрэсіўныя адценні: акцэнт прыпадае на той член сказа, які стаіць у пачатку ці ў канцы канструкцыі: *Над вадою слаўся туманок, рэдкі, празрысты, які знікае адразу, як толькі прагляне сонца* (А. Жук).

**Складаныя сказы** шырока ўжываюцца пры стварэнні пейзажных замалёвак, апісанні знешняга выгляду персанажаў, пры перадачы разважанняў аўтараў ці дзейных асоб і інш. *(Паводле А. Пісарэнкі).*

● Адкажыце на пытанні:

1. Якімі ўмовамі вызначаецца выбар пэўнага віду сказа ў мастацкім стылі?

2. Якія сказы характэрны для дыялогу? Чаму?

3. Якая роля безасабовых і назыўных сказаў у мастацкім стылі?

4. Якая сэнсава-стылістычная роля складаных сказаў у мастацкім стылі?

● Выпішыце з тэксту складаназалежны сказ з некалькімі даданымі часткамі. Пабудуйце яго схему.



**210.** Прачытайце. Пісьмова адкажыце на пытанне «У чым заключаецца сэнсава-стылістычная роля сказаў з рознымі відамі сувязі ў тэкстах навуковага стылю?».

Сказы з рознымі відамі сувязі, ужытыя ў навуковым стылі, з'яўляюцца класічнай формай увасаблення доказаў. Складаныя сказы ў навуковым стылі характарызуюцца стэрэатыпнасцю пабудовы і адсутнасцю экспрэсіўнай афарбоўкі. Аб'яднанне ў канструкцыі розных відаў сувязі з'яўляецца адэкватнай формай выражэння розных навуковых фактаў, доказаў і вывадаў. Абагульнена-асабовыя канструкцыі найчасцей выкарыстоўваюцца ў прыказках, у форме гэтых сказаў падаюцца парады, выдаюцца загады, што адрасуюцца абагульненай групе асоб.

Найбольш часта ў навуковай літаратуры ўжываюцца сказы са злучальнай і падпарадкавальнай сувяззю і сказы з падпарадкавальнай і бяззлучнікавай сувяззю. Дзякуючы падпарадкаванню яны дазваляюць дакладна перадаваць адносіны паміж з'явамі, падзеямі, фактамі, што важна для навуковага стылю *(З падручніка)*.

● Выпішыце сказ з рознымі відамі сувязі, зрабіце яго поўны сінтаксічны разбор.

**211.** Прачытайце, захоўваючы патрэбную інтанацыю. Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары, расстаўляючы знакі прыпынку.

Каб весці ды..лог патрэбна не *(абы)*якая культура. Аксі..ма? Але. Варта яе паўтараць часцей! Многія канфлік-

ты ў жы..і тлумач..цца[с] нашым н..ўменнем гаварыць так каб слова дакладна перадавала нашу думку нашы пачу..і наш настрой наша разуме..е чалавека ці з’явы[сн] *(Паводле З. Азгура).*

● Падкрэсліце граматычную аснову сказаў (частак). Ахарактарызуйце простыя сказы паводле мэты выказвання і інтанацыйнага афармлення. Зрабіце поўны сінтаксічны разбор складаных сказаў з тэксту.

● Сфармулюйце сэнсава-стылістычную ролю простых і складаных сказаў у тэксце.

● Выкажыце сваю думку адносна прычыны канфліктаў.

**212.** Прачытайце. Выпішыце радкі, якія ілюструюць асноўную думку паэта. Наколькі блізкія вам адносіны У. Караткевіча да роднага краю? Якія пачуцці, думкі выклікае гэты верш у вас?

Дагарэў за брамай небакрай,
Месяц паміж воблачкаў плыве.
Выйду зноў, як у мінулы май,
Басанож прайдуся па траве.
Дымная, сцюдзёная раса,
Цёмныя ў траве ад ног сляды.
А такога рослага аўса
Я не бачыў доўгія гады.
Бач, хмызы спляліся, як павець,
Светлякі мігцяць, гараць святлей.
Перад тым, як звонка ў лозах пець,
Прачышчае горла салавей.
Лашчыцца трава да босых ног,
З дальніх паплавоў плыве ракой
Ледзь прыкметны сумны халадок —
Подых юні ўходзячай маёй.
Паімчаць за ёю наўздагон?
Хоць і схопіш — усё адно падман.
Дзе каханне тых мінулых дзён —
Весніх паркаў бэзавы туман?
Нават шкадаванне — дзе яно?

Зноў вясна, і жаль знікае зноў.
(Так губляюць пах перад вясной
Ссохлыя сцяблiны палыноў.)
Цiха цмокае ў сне рака.
О, як добра, як прыгожа жыць!
Раска, як русалчына луска,
На вадзе ад месяца гарыць.
А вакол травiцы росны рай
I бярозак белая сям'я.
Мой чароўны беларускi край,
Бацькаўшчына светлая мая!

*У. Караткевiч.*

- Выпiшыце складаныя сказы з тэксту, вызначце iх вiд, складзiце схемы. Якая роля складаных сказаў пры стварэннi пейзажнай замалёўкi, пры перадачы думак-разважанняў, пачуццяў паэта?
- Выпiшыце з тэксту просты сказ, зрабiце яго сiнтаксiчны разбор.

**213.** Прачытайце. Ахарактарызуйце сiнтаксiчныя асаблiвасцi верша. Якiя сiнтаксiчныя сродкi экспрэсii маўлення выкарыстала паэтка Е. Лось? Прапануйце свой варыянт загалоўка твора.

Радзiма пачынаецца з двароў,
Дзе журавель тырчыць, нiбыта дрэўка.
Радзiма пачынаецца з вятроў,
Што паказалi першую запеўку...
Радзiма пачынаецца з вайны,
Што чвэрць народа некалi скасiла....
Яна — з тае ўсвядомленай цаны,
Што сам дасi лiсточку дзiвасiла...
Хвалююся, — i ведаю чаго, —
Хачу, каб помнiў суайчыннiк кожны:
Радзiма пачынаецца з таго,
Што не набыць, а страцiць можна.

*Е. Лось.*

- Растлумачце знакi прыпынку ў тэксце.
- Прадоўжыце думку *Радзiма пачынаецца...*

Сучасная літаратурная мова карыстаецца сістэмай сінанімічных сродкаў выражэння. Разнастайнасць і багацце маўлення залежаць не толькі ад лексічных, але і сінтаксічных сінанімічных сродкаў, якія даюць магчымасць выбару і адбору моўных адзінак.

**Сінтаксічнымі сінонімамі** называюцца канструкцыі, аднародныя ў структурных, сэнсавых адносінах, але адметныя паводле семантычных адценняў і стылістычнай афарбоўкі.

Сінтаксічныя сінонімы, як і лексічныя, утвараюць **сінанімічны рад**, у якім адна з канструкцый выступае **дамінантнай**, вядучай. Яна ў параўнанні з іншымі формамі характарызуецца частотнасцю ўжывання, прадуктыўнасцю. Як правіла, сінтаксічныя сінонімы адрозніваюцца дадатковымі сэнсавымі адценнямі. Параўнаем: *жыць пры бацьках — жыць з бацькамі, думаць пра маці — думаць аб маці, штосьці невядомае — штосьці з невядомага*. Прыведзеныя прыназоўнікава-склонавыя формы, ужытыя з назоўнікам, выражаюць прасторавае значэнне і маюць адценне азначальных адносін.

Сінанімічныя таксама адзінкі *(спыніцца) каля стала, пры стале, блізка ад стала, поруч са сталом*. Яны адрозніваюцца сэнсавымі адценнямі, што дадаюць у канструкцыю прыназоўнікі.

**214.** Прачытайце. Пісьмова адкажыце на пытанні да тэксту па-беларуску:

1. У чым заключаецца сутнасць граматычнай сінаніміі?
2. Якімі паказчыкамі, на думку даследчыкаў, характарызуецца ступень маўленчай культуры?
3. Якія сінонімы называюцца граматычнымі?
4. Якія віды складаных сказаў могуць выступаць як сінонімы?

Грамматическая синонимия представляет выбор разнообразных средств выражения общего значения. Для хорошего владения языком знание синонимов (в данном случае синонимичных сложных предложений) необходимо. По мнению исследователя Г. Золотовой, подлинная высота речевой куль-

туры определяется разнообразием способов выражения одного и того же смысла, находящихся в распоряжении говорящего, точностью и целесообразностью их выбора соответственно коммуникативной задаче.

Грамматическими синонимами, как известно, могут быть единицы одного уровня (в данном случае — сложные предложения), обладающие общим грамматическим значением. Синонимичными оказываются предложения, различные по типу связи, например союзные и бессоюзные: *Скажешь правду — потеряешь дружбу. — Если скажешь правду, потеряешь дружбу*; сочинённые и подчинённые: *Пошёл дождь, и гулять не захотелось. — Пошёл дождь, так что гулять не захотелось*. Синонимичными оказываются и предложения одного структурно-семантического вида, оформленные разными союзами: *Очерк не приняли в редакции, так как он плохо написан. — Очерк не приняли в редакции, потому что он плохо написан* (Н. Формановская).

**215.** Прачытайце. Запішыце ўласныя прыклады сінанімічных сінтаксічных канструкцый, аналагічных выкарыстаным у тэксце.

У якасці сінтаксічных сінонімаў (паралельных сінтаксічных канструкцый) выступаюць асобныя члены сказа і даданыя сказы. Сярод членаў сказа сінанімічнымі часцей за ўсё могуць быць дзеепрыслоўныя словазлучэнні і канструкцыі з аддзеяслоўнымі назоўнікамі: *Закончыўшы работу, ён вырашыў прайсціся па скверы. — Пасля заканчэння работы ён вырашыў прайсціся па скверы*. Такі ж агульны сэнс мае і даданы сказ часу: *Пасля таго як работа была закончана, ён вырашыў прайсціся па скверы*. Даданыя азначальныя сказы могуць быць заменены адасобленымі дзеепрыметнікавымі словазлучэннямі: *Кніга, якую парэкамендавала настаўніца, усім спадабалася. — Кніга, парэкамендаваная настаўніцай, усім спадабалася*.

Кожная з сінанімічных канструкцый пры блізкім агульным сэнсе мае свае семантычныя і стылістычныя асаблівасці. Пэўныя ўласцівасці сінтаксічнай канструкцыі нельга лічыць яе перавагай над іншымі канструкцыямі або, наад-

варот, недахопам.[сн] Усё залежыць ад мэты выказвання і павінна падпарадкоўвацца агульнай задачы дакладнага і сінтаксічна правільнага выражэння думкі *(Л. Антанюк)*.

● Выпішыце з тэксту сінтаксічныя тэрміны, сфармулюйце іх азначэнні.

## § 21. Канструкцыі з чужой мовай, ужыванне, знакі прыпынку

У вусным і пісьмовым маўленні часта даводзіцца спасылацца на чужыя выказванні, якія могуць перадавацца па-рознаму. Чужая мова часцей за ўсё перадаецца як простая мова і ўскосная.

**Простая мова** — гэта дакладна ўзноўленае чужое выказванне. У сказ простая мова ўводзіцца пры дапамозе слоў аўтара, якія паказваюць, каму яна належыць, як, дзе і пры якіх абставінах была сказана: *«Няхай бы вы паспалі гадзінкі дзве», — сказала гаспадыня, трымаючы перад сабою кашулю* (Ф. Янкоўскі). *Пётр цвёрда стаяў на сваім: «Тата, я буду лятаць...»* (М. Гіль).

На пісьме простая мова бярэцца ў двукоссе. Пры гэтым пунктуацыйнае афармленне сказаў з простай мовай залежыць ад месца простай мовы ў адносінах да слоў аўтара.

**216.** Прачытайце. Пабудуйце схемы канструкцый з простай мовай, выкарыстоўваючы літары **П (п)** для абазначэння простай мовы, **А (а)** — для абазначэння слоў аўтара.

**I. 1.** Сястра глянула на Галіну Адамаўну. Той хацелася крыкнуць: «Не трэба! Не выходзь!» *(І. Шамякін)*. 2. «Чаму і завошта?» — пыталася яна [Сцепаніда] у сябе, не знаходзячы, аднак, адказу, і думкі яе ішлі далей, у глыб перажытага *(В. Быкаў)*. 3. «Мама, купі мне гэтую кніжку!» — амаль патрабуе малая *(В. Шніп)*. 4. «Дарога, вандроўка — самае лепшае лякарства ад усякіх напасцей», — зазначае сам сабе Лабановіч і сам сабе ціха ўсміхаецца *(Я. Колас)*. 5. «Стой, брат! — прыпыніў я самога сябе. — Аглух ты

сёння, ці што?» *(Я. Брыль)*. 6. «Я рад, пан Савіч, што вы разумееце, — узрадаваўся Грот. — Не, мы не жорсткія. Мы мяккія і добрыя» *(І. Шамякін)*. 7. «Бывай жа, родная засень і родная хата, — думае ён, — і ты, маці, не глядзі так трывожна ўслед» *(М. Стральцоў)*.

**II.**

1. Аляксандр падаў руку:

— Добры дзень!

2. — Мама, дзе наш тата?— запытала Слава *(К. Чорны)*.

3. — Вярніся, неслух! — пачуў ён дзедаў загад, але і не падумаў спыніцца *(І. Мележ)*.

4. — Так, так... — смяецца Валя і радасна махае рукою *(В. Супрунчук)*.

5. — Гэта забабоны, — махнуў рукой Косця *(У. Гніламёдаў)*.

6. — Куды ж вы так спяшаецеся? — сказала Вольга Сцяпанаўна. — Жонкі вас чакаюць або дзеці плачуць? *(Я. Колас)*.

7. — Бачыце, які прыгожы сёння дзень! — ухваляючы ранішняе сонейка, добры настрой і добрую дзяўчыну, гаварыў хлопец. — І білет вы купілі, пэўна, шчаслівы! *(І. Тулупава)*.

8. — І цяпер, дзядуля, там, за Нёманам, у пушчы, — зазначыў хлопец, — лясы напоўнены птушыным і звярыным жыццём... *(М. Бусько)*.

Чым адрозніваецца афармленне канструкцый з простай мовай пад лічбай I і пад лічбай II?

Сфармулюйце правілы пунктуацыйнага афармлення канструкцый з простай мовай.

**Простая мова** на пісьме перадаецца л і н е й н ы м (у радок) або н е л і н е й н ы м (каскадным) спосабам.

У канструкцыях з простай мовай знакі прыпынку ставяцца ў залежнасці ад спосабу перадачы і месца слоў аўтара, якія ўводзяць простую мову.

● Калі простая мова запісваецца ў радок, то яна бярэцца ў двукоссе: *Званы Хатыні, мемарыял у Брэсцкай*

*крэпасці-героі нагадваюць жывым людзям: «Людзі! Помніце! Не дапусціце новай бойні!»* (У. Ліпскі).

У двукоссе бярэцца нявыказаная простая мова, пры якой у складзе слоў аўтара ёсць дзеяслоў ***думаць (падумаць)*** або іншыя словы, спалучэнні слоў і сказы са значэннем думкі, разважання і да т. п.: *Нерухомы чалавек усё глядзеў на Алеся і* ***ацэньваў****: «Да чаго падобны на прадзеда, на Акіма...»* (У. Караткевіч).

● Перад простай мовай, якая пачынаецца з абзаца, ставіцца працяжнік:

*Матулін ганак рыпка скажа:*

*— Дома!* (М. Мятліцкі).

● Калі словы аўтара стаяць перад простай мовай, то пасля іх ставіцца двукроп'е: *І гавару я: «Слова, ты гучы! І хай маўчаць гарматы і мячы!»* (А. Вярцінскі).

*Ганна памарудзіла трохі, потым спытала:*

*— Ну, а як вы, цётка Матруна?* (І. Чыгрынаў).

● Калі словы аўтара ідуць за простай мовай, то ў адпаведнасці з інтанацыяй у канцы простай мовы ставіцца пытальнік, клічнік, шматкроп'е або коска (на месцы кропкі), а пасля іх — працяжнік. Словы аўтара пішуцца з малой літары:

*«Ці не было тут калі возера?» — думаў Сцёпка* (Я. Колас).

*«Няхай дзед Талаш будзе атаман наш!» — сказаў хтось у рыфму* (Я. Колас).

*«Самота мая незямная...» — не першы так раз я кажу...* (В. Шніп).

*«На гэты раз, камандзір, інтуіцыя цябе не падвяла», — думае Іван Васільевіч* (І. Шамякін).

● Калі словы аўтара перарываюць простую мову, падзяляючы яе на дзве часткі, то перад словамі аўтара ў залежнасці ад інтанацыі першай часткі простай мовы ставяцца пытальнік, клічнік, шматкроп'е ці коска, затым — працяжнік, а пасля слоў аўтара — кропка і працяжнік (калі першая частка простай мовы з'яўляецца закончаным сказам) або коска і працяжнік (калі першая

частка простай мовы не з'яўляецца закончаным сказам): *«Што мы стаім? — схамянулася Каця. — Ехаць трэба»* (В. Хомчанка).

*— Ну то заходзьце, — сказала бабуля, сустракаючы нас у двары ля парога, — заходзьце ў хату, разам і павячэраем* (Л. Валасюк).

● Калі ў словах аўтара ўжываюцца два дзеясловы са значэннем маўлення, адзін з якіх адносіцца да першай часткі простай мовы, а другі — да другой, то пасля слоў аўтара ставіцца двукроп'е і працяжнік: *«Ведаеш, мама, каго я прывяла? — весела сказала дачка і таемна прашаптала: — Гэта той самы госць, якога мы ўсе калісьці ратавалі ад немцаў»* (Я. Маўр).

*— Тут усе свае, заводскія, — заспакоіў ён [Ваня] мяне і амаль загадаў: — Расказвай, што здарылася!* (М. Горцаў).

● Калі ў складзе слоў аўтара, што стаяць перад простай мовай, адсутнічаюць дзеясловы са значэннем маўлення, думкі ці блізкія да іх па значэнні, то ў канцы слоў аўтара ставіцца кропка:

*Маці дазволіла яму паехаць у горад, у госці да цёткі Алены. «Няхай сын сходзіць у музей, у цырк, паглядзіць, што новага ў сталіцы»* (П. Кавалёў).

*Бабуля павесіла кош на плот, вымыла рукі ў вядры, што стаяла каля калодзежа, паглядзела на неба.*

*— Моцная, відаць, будзе навальніца, з грымотамі і градам* (М. Дубоўскі).

● З абзацнага водступу ставіцца працяжнік перад кожнай рэплікай пры афармленні простай мовы ў форме дыялогу:

*— Як там Алесь? — спытаў дзед.*

*— Падняўся ўжо ад грушы на сцежку. Ідзе сюды,— змрочна сказаў Павал* (У. Караткевіч).

● Калі некалькі рэплік запісваюцца ў радок без указання, каму яны належаць, то паміж імі ставіцца працяжнік і кожная з іх бярэцца ў двукоссе: *«Што ты гаворыш, сынок? Хто нам яе [хату] пабудуе?» — «Я пабудую»* (Л. Екель).

**217.** Прачытайце вершы, вызначце іх асноўную думку. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў канструкцыях з простай мовай. Складзіце схемы канструкцый з простай мовай.

Я помню, як ты юны, закаханы
Мне прызначаў над Прыпяццю спатканне.
Казаў: «Што будзе з намі — невядома,
Я ад’язджаю[ф] з бацькавага дому,
Давай пасадзім дрэўцы для ўспаміну,
Я пасаджу дубок, а ты — рабіну».
Паехаў ты, і пасля бур-навалаў
Рабінка маладзенькая завяла.[сн]
Дубок трывожна пахіліў галінкі,
Нібы пытаўся: «Што з табой, дзяўчынка?»
Рабіначку на досвітку крамяным
Дубок паіў расой, а я — слязамі.
Гарнуў дубочак лю́бую да сэрца,
І на світанні акрыяла дрэўца.
Рабіначка закрасавала ўранні,
Каб век не гасла, каб жыло каханне...
Ты — мужны дуб, а я — твая рабіна,
Шумім лісцём у згодзе лебядзінай.

*Г. Дашкевіч.*

Паглядамі сустрэліся на хвілю:
«Ну як жыццё?» — «Змагаемся паціху...»
Зноў — хто куды. Нат не пагаварылі.
Адно руку паціснулі на ўздыху.

«Бывай, бывай!..» — «Мо ўсё ж — да пабачэння?..»
Дасць Бог, яшчэ звядуць нас пуцявіны
І мы з табой папросім прабачэння
За несустрэч балючыя хвіліны.

*М. Шабовіч.*

**218.** Прачытайце тэкст, вызначце яго асноўную думку. Чаму ручнік называюць дарогай у неба? Што вы ведаеце пра сімволіку ўзораў ручніка? У якіх абрадах беларусаў і з якой мэтай выкарыстоўваецца ручнік? Спішыце тэкст, устаўляючы прапушчаныя знакі прыпынку. Растлумачце іх пастаноўку.

ДАРОГА Ў НЕБА

«Неглюбскія ручнікі» ўсё роўна што «слуцкія паясы». З адной толькі розніцай: апошнія захаваліся фрагментарна*, першыя — ва ўсёй красе наіўнай даўніны.

Еду ў Ветку з надзеяй на знакаміты музей. На шырокай лесвіцы музея мяне сустракае Ларыса Раманава, вядучы навуковы супрацоўнік[сл], і зазначае

У Неглюбцы гавораць што ручнік — гэта дарога ў неба. Варта толькі паглядзець на арнамент. Знатакі сцвярджаюць што ў ім зашыфравана мова зносін з вышэйшымі сіламі.

На «музейным» аўтамабілі слізгочам па ўезджанай снежнай дарозе ў аграгарадок Неглюбку.

Ручнікі мясцовых традыцый напоўнены арнаментальнымі знакамі самым старажытным з якіх некалькі тысяч гадоў. Мая спадарожніца Ларыса Раманава дастае з сумкі старажытнае палатно якое вязе «расшыфроўваць» у Неглюбку Як бярвенне было асноўным будаўнічым матэрыялам хаты так і ручнікі з'яўляліся своеасаблівым будаўнічым матэрыялам унутранай прасторы хаты і духоўнай прасторы сям'і.

Сапраўдных майстрых захавальніц вясковага рамяства ў Неглюбцы яшчэ можна адшукаць. Соф'я Астапенка сустракае нас ля варот.

Праходзьце. Кросны яшчэ не ставіла. Але сяду з дня на дзень. Душа просіць шчыра прызнаецца яна.

А ў пакоі погляд адразу гіпнатызуе сапраўднае чырвоны кут з іконай прыбранай ручнікамі. І сярод іх неглюбскі бела-чырвоны з тысячы адрозніш.

З маці яго ткалі, калі мне гадоў 12 было. Выцвіў трошкі берагу.

Ахвотна нам чужым людзям выкладвае сваё багацце дзецям і ўнукам наткала.

Я ўжо мала чаго памятаю з матчыных слоў якія знакі ды аб чым хавае пад хустку сівыя пасмы гэтая ўжо пажылая жанчына Але без абраза і ручнікоў дом для мяне безабаронны атрымліваецца пусты. А ручнік дзетка жывы гэта ж дарога да неба і вяртанне з яго *(Паводле В. Дралюк)*.

**219.** Спішыце сказы, афармляючы канструкцыі з простай мовай у адпаведнасці з пунктуацыйнымі нормамі лінейным спосабам.

1. Сынаў адказ быў заўсёдным і лаканічным / Неяк пражыву! *(Ю. Зарэцкая)*. 2. Дзік! / міжволі падумалася хлопцу / Хутчэй за ўсё, дзік! *(Г. Аўласенка)*. 3. Не пашчасціла сёння. Так бывае. Але надзея ёсць, а без яе не варта на раку выбірацца / разважаў рыбак *(М. Бусько)*. 4. Ну нашто табе / скажуць мне гэтак / у чужое жытло заглядаць? *(М. Кулеш)*. 5. Прапалі двое! / першае, што падумала дзяўчына *(Л. Валасюк)*. 6. А цяпер я думаю / Як жа добра і правільна, нават бездакорна ўсё склалася. Якое яно мудрае, жыццё... *(Т. Шымко)*. 7. Старажытны мудрэц павучае / Што заўсёды ў руху, тое вечнае *(У. Ліпскі)*. 8. Напэўна, нядаўна маланка пацэліла, падпаліла / падумаў Базыль *(А. Якімовіч)*.

**220.** Спішыце сказы, афармляючы канструкцыі з простай мовай паводле пунктуацыйных норм нелінейным спосабам.

1. Больш нічога не гавары, хопіць... / папрасіла я *(Г. Васілеўская)*. 2. Ведаю я Маню Праневіч, але вучуся на іншым факультэце / прамовіла дзяўчына і дадала / Гэта толькі на кафедры могуць сказаць, у якой аўдыторыі яна цяпер *(Р. Баравікова)*. 3. Надыходзіць зіма... / прамовіў юнак, звяртаючыся немаведама да каго / Чарговы год падыходзіць да лагічнага завяршэння *(С. Мацін)*. 4. Аліна павярнулася да Тані / Таня, ты запомніла адрас, па якім адвозіла чамадан *(А. Беланожка)*. 5. Лаўрэн Ігнатавіч / спытала незнаёмка / Я са школы мастацтваў. Мы паўгадзіны назад размаўлялі па тэлефоне *(І. Карэнда)*. 6. Я таксама рады / запэўніў Забаронак / Надзвычай рады. І за сябе, і за вас *(І. Клімянкоў)*. 7. Што за віна / папытаўся Сярожа *(В. Гардзей)*. 8. Заплакала маці. Ён абняў яе за плечы / Мама, не плач... Я ўсё зразумеў... *(Д. Пятровіч)*. 9. Ах, якое сёння неба зорнае / усклікнуў Валодзя *(Л. Левановіч)*. 10. Ах, час, час / задумённа вымавіла я, калі разглядала свае дзіцячыя рэчы / Як павольна ты цягнешся ў дзяцінстве і хутка ляціш у да-

рослым жыцці *(Т. Дземідовіч)*. 11. Ноччу будзе мароз! запэўніў Сяргей Сталетнік, выйшаўшы разам з усімі *(У. Гніламёдаў)*. 12. Яшчэ пяць хвілін — і паварочваем назад / умольна зірнула на брата Юля і крыкнула / Бачу наперадзе лес. Плывем туды *(Я. Конеў)*.

**Ускосная мова** — гэта чужая мова, перададзеная аўтарам. Канструкцыі з ускоснай мовай маюць форму складаназалежнага сказа, у якім словы аўтара з'яўляюцца галоўнай часткай, а ускосная мова — даданай, якая звычайна размяшчаецца пасля галоўнай і аддзяляецца ад яе коскай. Ускосная мова, як правіла, не перадае ніякіх эмоцый. У ёй не ўжываюцца звароткі, выклічнікі, некаторыя часціцы і іншыя эмацыянальна-экспрэсіўныя сродкі.

● Калі простая мова з'яўляецца апавядальным сказам, то ў складаназалежным сказе выконвае ролю даданай дапаўняльнай часткі і звязваецца з галоўнай пры дапамозе злучніка ***што*** (асабовыя і прыналежныя займеннікі пры гэтым замяняюцца або апускаюцца): *«Гэта мой стары прыяцель, дзед Талаш, у якога я жыў на кватэры», — сказаў ён [Шалёхін] да вайскоўцаў* (Я. Колас). — *Шалёхін сказаў да вайскоўцаў, што **гэта яго** стары прыяцель, дзед Талаш, у якога **ён** жыў на кватэры.*

● Калі простая мова — пабуджальны сказ, то яна становіцца дапаўняльнай часткай са злучнікам ***каб***: *«Раскажы, Саша, што-небудзь», — папрасіла Жэня, калі яны адышліся ад дарогі* (І. Шамякін). — *Калі яны адышліся ад дарогі, Жэня папрасіла, **каб** Саша расказаў штонебудзь.*

● Калі простая мова — пытальны сказ, то ўскосная мова таксама выражае пытанне, але ўскосна. Пытальнік у такіх сказах не ставіцца: *«Уладзімір, наблізіўшыся да настаўніка, ціха спытаў: «А ці праўда, што хутка чалавек у комас паляціць?»* (С. Панасюк). — *Уладзімір, наблізіўшыся да настаўніка, ціха спытаў, ці праўда, што хутка чалавек у космас паляціць.*

**221.** Прачытайце тэкст. Прозвішчы якіх беларускіх спартсменаў занесены ў «Кнігу рэкордаў Гінэса»?

Аднойчы беларускі фехтавальшчык, алімпійскі чэмпіён і прызёр, дзесяціразовы чэмпіён свету Аляксандр Раманькоў папрасіў прадаўшчыцу кнігарні даць яму паглядзець «Кнігу рэкордаў Гінэса».[сн] Але атрымаў адмову

Кнігу трэба распячатваць яна ж упакавана ў плёнку

Там напісана пра мяне

Так я і паверыла

Сапраўды

Добра. Але калі вас там не акажацца вы купіце кнігу

На тым і вырашылі. Упакоўку дарагога выдання распячаталі. І якое ж было здзіўленне прадаўшчыцы калі са старонкі кнігі на яе глядзеў гэты самы дзіўны пакупнік... *(А. Ванковіч)*.

Спішыце, дапісваючы словы аўтара і расстаўляючы знакі прыпынку.

Перабудуйце сказы з простай мовай ва ўскосную, запішыце іх.

**222.** Пабудуйце паводле прапанаваных схем канструкцыі з простай мовай на тэму «Нечаканая сустрэча».

1. «П?» — а.
2. «П, — а, — п».
3. А: «П!»
4. «П! — а: — П».

● Выкарыстоўваючы канструкцыі з простай мовай, напішыце сачыненне-апавяданне на тэму «Экскурсія ў Нацыянальную бібліятэку Беларусі» або «Экскурсія ў Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь» і да т. п.

**Няўласна-простая мова** — форма перадачы чужой мовы, у якой перадаюцца думкі, пачуцці, перажыванні таго, пра каго гавораць: *Яшчэ задоўга да спынення поезда пачуцці і думкі Лабановіча мімаволі скіраваліся да гэтай станцыі.* ***Як жа яно будзе? Збяруцца ці не збяруцца хлопцы?..*** (Я. Колас).

Асноўныя лексічныя, сінтаксічныя, стылістычныя асаблівасці чужой мовы захоўваюцца, а афармляецца яна як самастойны сказ (або некалькі сказаў) без слоў аўтара. Аднак формы асабовых займеннікаў і дзеясловаў ужываюцца, як ва ўскоснай. Асаблівасцю няўласна-простай мовы з'яўляецца і тое, што яна не мае спецыяльных паказчыкаў. Гэтую ролю выконвае змест і структура самога чужога маўлення.

Няўласна-простая мова можа быць часткай сказа, сказам, некалькімі сказамі: *Лідзе прыходзілася глядзець супраць сонца, і яна зрабіла сабе шчыток рукою, каб засланіць вочы. Гэта вельмі ўзрушыла Лабановіча:* ***ці не яго выглядае Ліда?*** *Але Лабановіча не было на дарозе: ён стаяў тут, непадалёку, і ўсё гэта бачыў, сам застаючыся незаўважаным* (Я. Колас). *Трохі раздумаўшыся, дзяк матае гэты адказ сабе на вус і галавою трасе.* ***Ох, гэтыя ціхія маладыя людзі! Іх сапраўдную існасць даўно вызначыла народная мудрасць: у ціхім балоце чэрці водзяцца.*** *Гэтае меркаванне да некаторай ступені задавальняе дзяка, але поўнага заспакаення не дае, і ён не адводзіць вока ад свайго суседа* (Я. Колас).

**223.** Прачытайце ўрыўкі з трылогіі Я. Коласа «На ростанях». Дайце характарыстыку няўласна-простай мове.

**І.** Першы страх, як спадарожнік крушэння пэўнага ладу ўнутранага жыцця, яшчэ не зусім аформленага, у сваю чаргу выклікаў другі страх: *а што, калі б гэтую кніжачку знайшлі ў яго і данеслі начальству?.. Чаму яе падкінулі яму? Хто падкінуў? Якая мысль кіравала тым, хто падкідаў яму гэтую небяспечную кніжачку?*

**ІІ.** Яна зноў пазірае на вокны. *А каб пайсці туды? Сесці за сталом, як сядзеў калісь ён і праводзіў рукою па маладых сваіх цёмных вусіках? Там страшна, бо там пуста. Там прытаіўся нехта другі, няласкавы і варожы. І, напэўна, яна спаткала б нешта там, каб пайшла цяпер туды. Ну, пачула б голас, а можа, смех, пусты і жудасны смех. Яна ўпэў-*

*нена ў тым, што пачула б той страшны і таемны смех, і гэта забіла б радасць і шчасце, што знайшлі месца ў яе сэрцы.* Яна зноў пазірае туды.

**224.** Прачытайце ўрывак з трылогіі Я. Коласа «На ростанях». Вызначце няўласна-простую мову.

Лабановіч маўчаў і думаў свае думкі. Шмат сплыло часу з тых веснавых дзён, калі ён з Садовічам заходзіў у Панямонь. Не так даўно было ад яго пісьмо...

Мала што змянілася ў Панямоні за гэты час. Той жа шумны і яшчэ болей тоўсты Тарас Іванавіч, тыя ж вечары местачковай так званай інтэлігенцыі з карцёжнаю гульнёй, той жа Ёсель з яго ранейшымі абавязкамі. Чым жа тут жывуць людзі? Аб чым марацъ?

Пазіраючы на ледзь прыкметныя палоскі святла, што прабіваліся праз шыбіны аканіц, Лабановіч думаў, як цьмяна і скупа прабіваюцца на свет з зацятага змроку мыслі тутэйшых людзей. У чым жа іх радасць і шчасце? У затхлай цішыні, у нерухомым спакоі... Якія ж патрэбны навальніцы і громы, каб ускалыхнуць гэтую цішыню і збудзіць чалавечыя думкі, пачуцці, імкненні!..

## КАНТРОЛЬНЫЯ ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

1. Дайце характарыстыку сінтаксічным адзінкам беларускай мовы.
2. Дайце паняцце пунктуацыйнай нормы. Прывядзіце прыклады ўжывання пунктуацыйных варыянтаў.
3. Раскажыце пра нарматыўнае ўжыванне знакаў прыпынку пры аднародных членах сказа. Падбярыце прыклады.
4. Як пунктуацыйна афармляюцца сказы з адасобленымі членамі?
5. Успомніце правілы пастаноўкі знакаў прыпынку ў сказах з параўнальнымі зваротамі. Прыклады запішыце.
6. Як афармляюцца пабочныя і ўстаўныя канструкцыі згодна з пунктуацыйнымі нормамі?
7. Раскажыце пра нарматыўнае пунктуацыйнае афармленне сказаў са зваროткамі. Прывядзіце адпаведныя прыклады.

8. У якіх выпадках паміж часткамі складаназлучаных і бяззлучнікавых складаных сказаў ставяцца коска, кропка з коскай, працяжнік? Назавіце выпадкі пастаноўкі двукроп'я паміж часткамі бяззлучнікавага складанага сказа.
9. Чым абумоўлена пунктуацыйнае афармленне складаназалежных сказаў з адной даданай часткай і з некалькімі даданымі часткамі?
10. Як пунктуацыйна афармляюцца складаныя сказы з рознымі відамі сувязі частак?
11. Запішыце прыклады, якія б ілюстравалі правілы пастаноўкі знакаў прыпынку ў канструкцыях з простай мовай.
12. Падрыхтуйце лінгвістычныя паведамленні «Чаму неабходна захоўваць пунктуацыйныя нормы», «Знакі прыпынку ў тэкстах рознай функцыянальна-стылёвай прыналежнасці» (пры неабходнасці карыстайцеся матэрыялам練 практ. 112).
13. Раскажыце пра ўжыванне складаных сінтаксічных канструкцый у тэкстах розных тыпаў, стыляў і жанраў.
14. Раскажыце пра сінтаксічныя сінонімы, праілюструйце прыкладамі.

## ЗАДАННІ НА ПАДАГУЛЬНЕННЕ

### З а д а н н е 1

**225.** З прапанаванага тэксту выпішыце і пунктуацыйна афарміце:
а) просты сказ з аднароднымі дзейнікамі;
б) просты сказ з пабочнай канструкцыяй;
в) усе складаназалежныя сказы;
г) усе бяззлучнікавыя складаныя сказы.

Хлеб — усяму галава. І сціплы сняданак і святочнае застолле не абыходзяцца без хлеба. Ён займае пачэснае месца ў рацыёне кожнага чалавека. І гэта невыпадкова звычайны хлеб змяшчае ў сабе практычна ўсе пажыўныя рэчывы неабходныя для здароўя.

Здаўна хлеб — адзін з самых значных самых надзейных відаў ежы на зямлі. Для многіх народаў ён сімвалізуе жыццё. Пра хлеб складалі гімны песні і легенды.[сн] Хлеб бераглі. Непавагу да хлеба лічылі грахом абразай. З маленства дзяцей вучылі цаніць і берагчы кавалак хлеба як самае вялікае

багацце. І ў наш час хлебам сустракаюць самых дарагіх гасцей.

Як лічаць многія вучоныя паходжаннем слова «хлеб» мы абавязаны хлебапёкам Старажытнай Грэцыі. Грэчаскія майстры выкарыстоўвалі для вырабу гэтага прадукту гаршкі спецыяльнай формы што называліся «клінобас». Ад гэтага слова па меркаванні спецыялістаў у старажытных готаў утварылася слова «хлайфс» якое затым перайшло ў мову старажытных германцаў славян і многіх іншых народаў. У старанямецкай мове існуе слова «хлайб» падобнае да рускага і беларускага «хлеб» украінскага «хліб» і эстонскага «лейб».

З хлебам звязваўся дабрабыт селяніна. Менавіта таму з такім шанаваннем ставіўся працоўны чалавек да хлеба апяваў яго ў песнях. Хлеб у народных павер'ях надзяляўся звышнатуральнай сілай якая праяўлялася ў разнастайных жыццёвых сітуацыях. Напрыклад верылі што хлеб здольны спыніць пажар.

Хлеб — найважнейшы атрыбут вясельных абрадаў.[сн] Яму надавалася магічная роля. Нават хрысціянства не пераадолела абагаўленне хлеба бласлаўленне звычайна адбывалася не толькі іконай але і хлебам з соллю.

Святочны хлеб на ручніку і сёння выконвае важную ролю ва ўрачыстыя моманты нашага жыцця *(Паводле І. Казаковай)*.

### З а д а н н е 2

**226.** З прапанаванага тэксту выпішыце і пунктуацыйна аформіце:

а) просты сказ з адасобленым прыдаткам;

б) просты сказ з адасобленай акалічнасцю;

в) усе простыя сказы з аднароднымі членамі і адасобленай акалічнасцю;

г) усе складаназалежныя сказы;

д) бяззлучнікавы складаны сказ;

е) усе складаныя сказы з рознымі відамі сувязі частак.

Каравай — вясельнае абрадавае печыва якое сімвалізуе багацце дабрабыт будучай сям'і атаясамліваецца з маладымі іх доляй і шчасцем.

Каравай пяклі спецыяльна запрошаныя бацькамі маладых жанчыны каравайніцы.

Кожны этап прыгатавання каравая суправаджаўся мноствам адпаведных рытуальных дзеянняў цырымоній песень заклінанняў зваротаў да звышнатуральных сіл і з'яў прыроды.

Спяваць у час выпякання каравая і яго ўпрыгожвання запрашалі маладых дзяўчат.[сн] Рыхтаваць дровы печ і неабходныя прылады для прыгатавання абрадавага хлеба даручалі жанатым мужчынам. Саджаць каравай у печ запрашаўся нежанаты хлопец.

Цеста для каравая брала з дзяжы старшая каравайніца за адзін прыём і клала на лапату. Каравай меў форму круглай булкі якую ў маладой апаясвалі абручом сплеценым з цеста ў выглядзе касы а ў маладога на каравай клалі проста абручык.

Калі каравай астыне пачыналася яго аздабленне.

Аздоблены каравай бацька маладой або маладога пачастункам выкупляў у каравайніц і ставіў яго ў клеці на жыта. Едучы па маладую малады забіраў свой каравай з клеці і вёз яго з сабой. На яго караваі гарэлі свечкі і вісеў вяночак для маладой. Па прыездзе вясельнага поезда сват маладога ўваходзіў у сенцы высока падняўшы над галавой каравай маладога і прасіў вынесці каравай маладой. Такім жа чынам яго сустракаў сват маладой імкнучыся падняць свой каравай вышэй. Караваі маладых ставілі побач на века дзяжы і сваты падняўшы яго ўтваралі своеасаблівую браму пад якой цалаваліся блізкія сваякі маладых а дружына маладога праз яе праходзіла ў хату. Гэты рытуал азначаў злучэнне маладых і парадненне іх родаў.

Падзел каравая адбываўся згодна з выпрацаваным стагоддзямі рытуалам. Дзелячы каравай старшы сват сярэдзіну аддаваў маладым «падэшву» (ніз каравая) прапаноўваў музыкам астатнюю частку дзяліў паміж роднымі ў залежнасці ад ступені сваяцтва першымі каравай атрымлівалі бацькі за імі — хросныя бацькі цёткі дзядзькі і г. д. Звычайна падзелам каравая вяселле заканчвалася *(З энцыклапедыі «Этнаграфія Беларусі»)*.

З а д а н н е  3

**227.** З прапанаванага тэксту выпішыце і пунктуацыйна аформіце:

а) просты сказ з адасобленым азначэннем;

б) просты сказ з адасобленай акалічнасцю;

в) усе простыя сказы з аднароднымі членамі і адасобленай акалічнасцю;

г) усе складаназалежныя сказы;

д) складаны сказ з рознымі відамі сувязі частак.

Выпякалі каравай паасобна ў хаце жаніха і нявесты ноччу напярэдадні вяселля.

Адначасова з распальваннем печы каравайніцы пачыналі рашчыняць каравай.[сн] На якую-небудзь падстаўку засцілалі кажух або клалі крыж-накрыж дзве дошкі і ставілі наверх дзяжу.[сн]

Каля дзяжы працавала толькі старшая каравайніца астатнія жанчыны падносілі ёй муку ваду соль цукар масла малако дрожджы і іншыя прадукты з якіх тая замешвала каравайнае цеста.

Песні гучалі ў хаце на працягу ўсяго каравайнага абраду суправаджаючы амаль кожнае дзеянне каравайніц.

Рашчыніўшы каравайнае цеста дзяжу ставілі на верхнюю чарэнь* печы каб яно хутчэй падыходзіла.

Пакуль каравай падыходзіў каравайніцы пільна сачылі за дзяжою каб цеста «не выбегла» за яе краі.

Хросная маці запальвала грамнічную свечку тройчы абыходзіла з ёю вакол дзяжы і толькі пасля таго пасыпала стол мукою і выкладала на яго з дзяжы цеста. Яна вымешвала каравай і выкачвала яго надаючы цесту круглую форму ў выглядзе шара.

Іншыя каравайніцы аддзяліўшы частку каравайнага цеста ляпілі з яго шышкі паўмесяцы зорачкі фігуркі жывёл расліны розныя культавыя прадметы. Такімі фігуркамі аздаблялі верх каравая.

Вымешаны каравай пераносілі на вялікую шырокую драўляную лапату якую як і печ засцілалі дубовымі або кляновымі лістамі.

Выпечаны каравай ставілі на века ад дзяжы засланае ручніком *(Паводле У. Сысова)*.

## Падагульненне і сістэматызацыя вывучанага за год

**228.** Спішыце тэкст, устаўляючы прапушчаныя літары і раскрываючы дужкі. У апошні сказ замест шматкроп'я ўпішыце імя першага беларускага касманаўта ў вінавальным склоне.

НАШ ПЕРШЫ КАСМАНАЎТ

Яго мален..тва басаножыла пад шатамі пракаветнае пушчы. Прысмак-прыпамін гаркавага, *(пасля)*ваеннага *(да)*сюль на вуснах. Тады, у мален..тве, калі за сц..ну сосен *(з/с)*кочвалася з неба вялізна.. *(агніста)*барвяна.. со*(?)*нца і ў змрочн..м суцішшы зырка ўспых*(?)*валі драбнюткі.. зоркі, вочы яго, дз*(?)*ве блакітны.. зямны.. зорачкі, спакусна краталі іх захоплен..м позіркам.

У такі.. імгненні знаны зямны свет *(з/с)*ліваўся з ц..лым Сусветам і бац..коўскі двор станавіўся для зачараванага П..трука адзіным зямным астраўком у зыркат..м *(не)*абсяжн..м міжзор..і. Рукі самі ц..гнуліся *(на)*сустрач зоркам, і ён, слухаючы чароўную мову агністага неба, *(не)*пачуў: яго ў хату гукае матулін голас. Прамінуцца гады, і на вітку касмічнай арбіты ён пачуе матулін голас, які будзе клікаць яго *(да)*дому з*(?)*пад зорак.

Шлях да зорак — высока.. ўз..ходжанне чалавечага Дух.. і Розум.. . *(На)*сустрач ім узнялі ... мазольны.., працавіты.. далоні маёй Беларусі *(М. Мятліцкі)*.

- Растлумачце сэнс першых двух сказаў.
- Чаму словы *Сусвет, Дух, Розум* напісаны ў тэксце з вялікай літары?

**229.** Прачытайце тэкст.

ШТО МЫ ЯДЗІМ

Беларусы — спрадвечныя земляробы. Раслінная ежа для нас асноўная здавён. Таму елі мы ўсё, што расце на нашай зямлі.

А чаго мы не елі? Жаб, змей, малюскаў, саранчы, чарвякоў, мяса сабак. А гэта ж такія далікатэсы! У іншых краінах.

Не елі дзьмухаўцоў, бо яны для нас пустазелле. А ў Японіі гэта пустазелле разводзяць на агародах. Мы смяяліся з немцаў, якія сельдэрэй, пастарнак, салату елі. А цяпер ядзім і самі.

Беларусы ніколі не елі салаўіных язычкоў. А ў Францыі ў XVIII стагоддзі перабілі ледзь не ўсіх салаўёў: была вялікая мода на паштэты з іх язычкоў. Мы ж салаўёў слухаем.

У Інданезіі ды Кітаі доўгі час не ўжывалі ў ежу малочных прадуктаў, а мы не ўяўлялі сабе жыцця без кароўкі. Яна, як і ў Індыі, была для беларуса свяшчэннаю.

...У Сярэднявеччы японскія воіны-самураі не хварэлі на грып і не прастуджваліся. Бо елі нейкую «сакрэтную ежу», якую называлі «гармоніяй страўніка і крыві». А мы елі тую «сакрэтную ежу» штодзень. І была яна зусім простаю: цёртыя рэпа і рэдзька, палітыя бурачным сокам!

...Наш далікатэс — бульба. Дзякуй вам, Чылі ды Перу, што падаравалі нам бульбу! Вы і не ведаеце, як мы ласкава яе завём — «Агеньчык», «Скарб», «Журавінка», «Сінявочка», «Архідэя», «Жывіца»... *(Паводле Я. Сіпакова).*

● Выпішыце з тэксту ў пачатковай форме:

а) уласныя назоўнікі;

б) абстрактныя назоўнікі;

в) рэчыўныя назоўнікі.

● Род якіх назоўнікаў, ужытых у тэксце, у беларускай і рускай мовах не супадае?

● Прывядзіце з тэксту прыклады сказаў, розных па інтанацыі, па будове.

● Прывядзіце з тэксту прыклады складаназлучанага, складаназалежнага, бяззлучнікавага сказаў. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў іх.

● З прыведзеных ніжэй слоў выпішыце назвы традыцыйных беларускіх страў: *бульбоўнік, вантрабянка, верашчака, жвір, жур, запечак, зацірка, крупеня, круп, кубел, кулеш, паліва, поліўка, смажонка, смаката.* З чаго гатуюць гэтыя стравы?

● У якіх выпадках кажуць: «Абедаў, а жывот не ведаў», «Крупіна за крупінай ганяецца з дубінай», «Сёрбай юшку, на дне гушча», «Смачная кашка, ды малая чашка», «Хай кішка лепш кішку прыцісне, чым страва скісне»?

**230.** Прачытайце тэксты, вызначце іх стыль і жанр. Абгрунтуйце сваю думку.

XXIX Алімпійскія гульні: спецыяльны карэспандэнт перадае з Пекіна.

**I.** *18 жніўня 2008 г.*

Выступленне беларускага цяжкаатлета Андрэя Арамнава (105 кг) стала сапраўдным фурорам на фоне ўсіх папярэдніх спаборніцтваў у гэтай дысцыпліне. 20-гадовы асілак з Барысава змог устанавіць адразу тры сусветныя рэкорды і выйграць з фенаменальнай вагой у суме — 436 кг! Андрэй развязаў на скарбонцы беларускай каманды «гордзіеў вузел» і кінуў туды першае золата.

**II.** *20 жніўня 2008 г.*

Выступленне магіляўчанкі Аксаны Мяньковай у сектары для кідання молата мела небывалы поспех на перапоўненым Нацыянальным стадыёне «Птушынае гняздо». Перад заключнай, шостай спробай дыктар арэны аб'явіў, што ў сектар уваходзіць новая чэмпіёнка Алімпійскіх гульняў у Пекіне з вынікам 76,34 м і з новым алімпійскім рэкордам. Фантастыка!

**III.** *22 жніўня 2008 г.*

Залаты заезд весляроў на байдарцы Рамана Петрушэнкі, Вадзіма Махнёва, Аляксея Абалмасава і Артура Літвінчука заключаў апошні від пятнічнай алімпійскай праграмы на вяслярным канале. Апладысменты чацвёрцы беларусаў прагучалі адразу пасля таго, як браты Багдановічы — Аляксандр і Андрэй — толькі-толькі асвоіліся на беразе, дабіў-

шыся перамогі на дыстанцыі 1000 м на каноэ. Журналісты толькі паціралі рукі: залаты дубль — гэта здорава!

**IV.** *26 жніўня 2008 г.*

Упершыню за гады самастойнага выступлення на Алімпіядах беларуская каманда змагла дабіцца фенаменальнага выніку, заваяваўшы 19 медалёў, з якіх 4 — залатыя, 5 — сярэбраных і 10 — бронзавых.

*Паводле газеты «Звязда».*

● Падрыхтуйце вуснае паведамленне на тэму «Беларусы пакараюць спартыўны Алімп». Можаце выкарыстаць «Спортивную энциклопедию Беларуси» (2005) або кнігу «Олимпийская страна Беларусь» (2004).

● З трэцяга тэксту выпішыце назоўнік, які мае форму толькі множнага ліку, зрабіце яго марфалагічны разбор.

● Праскланяйце назоўнік Барысаў, імёны і прозвішчы Андрэй Арамнаў, Раман Петрушэнка.

● Растлумачце сэнс і паходжанне фразеалагізма *гордзіеў вузел*. Прааналізуйце мэтазгоднасць яго ўжывання ў тэксце з пункта погляду правільнасці і дакладнасці маўлення.

● Спішыце апошні сказ, замяніўшы лічбы словамі. Выканайце разбор па членах сказа.

**231.** Абапіраючыся на прыведзеную ніжэй інфармацыю В. Леантовіч, падрыхтуйце вуснае паведамленне на тэму «Стэрэатыпы ва ўзаемаўспрыманні рускіх і амерыканцаў». Выкарыстайце словы розных часцін мовы. Ці згодныя вы з вынікамі эксперымента? Абгрунтуйце сваё меркаванне.

Вучоныя, якія даследуюць працэсы міжкультурнай камунікацыі, правялі цікавы псіхалінгвістычны эксперымент з мэтай выяўлення стэрэатыпаў ва ўзаемаўспрыманні рускіх і амерыканцаў. У эксперыменце ўдзельнічалі 100 рускіх і 100 амерыканцаў ва ўзросце ад 18 да 82 гадоў. Ім было прапанавана напісаць па дзесяць тыповых рыс рускіх і амерыканцаў, а таксама прывесці па пяць варыянтаў заканчэння фраз тыпу «Рускія заўсёды...», «Амерыканцы ніколі...». Найбольш частотныя адказы прыводзяцца ў табліцы (у парадку памяншэння частотнасці).

| Амерыканцы вачыма рускіх | Рускія вачыма амерыканцаў |
|---|---|
| **Амерыканцы**<br>дружалюбныя, гасцінныя, ашчадныя, аптымістычныя, дзелавыя, фанабэрыстыя, незалежныя, працавітыя, патрыятычныя | **Рускія**<br>адукаваныя, інтэлектуальныя, бедныя, эмацыянальныя, страсныя, рэлігійныя, прыгнечаныя, цярплівыя, гордыя, гасцінныя, працавітыя |
| **Амерыканцы выглядаюць**<br>тоўстымі, бадзёрымі, ахайнымі, паспяховымі, здаровымі, самаўпэўненымі, аднастайнымі | **Рускія выглядаюць**<br>сур'ёзнымі, пагрозлівымі, галоднымі, няшчаснымі, спалоханымі, замёрзлымі, падазронымі |
| **Амерыканцы любяць**<br>кока-колу, нездаровую ежу, сваю краіну, папкорн, жвачку, працу, хот-догі, грошы, сям'ю, спорт, забавы, свайго прэзідэнта, псіхааналітыкаў | **Рускія любяць**<br>гарэлку, тлустую ежу, кнігі, амерыканскую культуру, сяброў, музыку, балет, мастацтва, вайну, сям'ю, халоднае надвор'е |
| **Амерыканцы заўсёды**<br>усміхаюцца, кажуць «прывітанне», умешваюцца ў чужыя справы, плануюць будучыню, шмат працуюць, клапоцяцца пра свае правы | **Рускія заўсёды**<br>носяць сумкі, добра выступаюць на Алімпійскіх гульнях, цалуюцца ў абедзве шчакі, шмат працуюць, хочуць быць у цэнтры ўвагі |
| **Амерыканцы ніколі**<br>не падманваюць, не плачуць, не мараць, не прабачаюць, не скардзяцца, не марнуюць час, не ядуць суп, не выходзяць з аўтамабіля | **Рускія ніколі**<br>не весяляцца, не носяць абутак дома, не чакаюць сваёй чаргі, не будуюць планаў на будучыню, не ўсміхаюцца на вуліцы |

● Ці згодны вы з Я. Пасавым, які лічыць, што для таго, каб дыялог паміж прадстаўнікамі розных культур адбыўся, чалавек павінен умець бачыць у чужым не толькі тое, што нас адрознівае, але і тое, што аб'ядноўвае; быць гатовым адмаўляцца ад стэрэатыпаў? Якія яшчэ ўмовы неабходныя для таго, каб прадстаўнікі розных культур разумелі адзін аднаго?

**232.** Прачытайце тэкст. Растлумачце сэнс загалоўка. Пракаменціруйце напісанне ***не (ня), ні*** са словамі.

АРФЕЙ З БЕЛАЙ РУСІ

Вену, што даўно прывыкла да прыезду славутасцей ці н.. з усяго свету, у тысяча восемсот трыццаць пятым годзе было *(н..)*пазнаць. Мясцовыя тэатралы, прыхільнікі і знаўцы музыкі, якія *(н..)*прапускалі *(н..)*воднага спектакля, канцэрта, выступлення, здаецца, толькі тым і займаліся, што паўтаралі дагэтуль *(н..)*вядомае ім прозвішча — Гузікаў.

А яшчэ венцы прамаўлялі назву краіны, пра якую *(н..)*даўна зусім *(н..)*чулі. Праўда, найбольш дасведчаныя казалі, што гэта самая Белая Русь, адкуль родам Гузікаў, знаходзіцца *(н..)*дзе ў самой Расіі. Адным словам, правінцыя.

А пачалося ўсё з першага канцэрта Гузікава, што адбыўся ў вядомым венскім тэатры «Ёзэфштат». У зале, як кажуць, яблыку *(н..)*было дзе ўпасці. Але, прызнацца, усе вельмі расчараваліся, калі на сцэну выйшаў *(н..)*прыкметны чалавек.

Зала ў чаканні сцішылася. *(Н..)*ўзабаве на сцэне з'явіўся яшчэ адзін чалавек. Відаць, памочнік артыста. Ён прынёс *(н..)*калькі жмуткоў саломы і *(н..)*вялікія брусочкі рознай даўжыні.

Драўніна ў славутым «Ёзэфштаце»? Салома на сцэне венскага тэатра? Самыя *(н..)*цярплівыя з прысутных у зале збіраліся выказаць *(н..)*задавальненне.

Аднак перавагу над усім узяла звычайная цікаўнасць. І вось ужо *(н..)*адна сотня вачэй з інтарэсам чакала, як жа падзеі разгорнуцца далей. Другі чалавек знік гэтаксама *(н..)*чакана, як і з'явіўся. А Гузікаў пачаў замацоўваць жмуткі саломы і брусочкі на маленькім століку.

Літаральна на вачах гледачоў нараджаўся... музычны інструмент. Спрытнымі рухамі пальцаў выканаўца раскладваў на століку крыж-накрыж брускі, змацоўваў іх са жмуткамі саломы. Хутка ўтварылася *(н..)*шта накшталт трапецыі. У руках Гузікава з'явіліся дзве палачкі. Ён дакрануўся імі да гэтай трапецыі.

Пачуўся дзіўны, *(н..)*характэрны для звычайных інструментаў гук. Прыглушаны, ён *(н..)*звыкла кранаўся слыху

гледачоў. Кволыя, «*(н..)*металічныя» гукі, што чуліся з *(н..)*вядомага інструмента, раптоўна набраліся моцы. Быццам падштурхнуў іх *(н..)*хта ўвысь, і схаваная чароўнасць і *(н..)*паўторнасць народнай мелодыі, якая спала сярод саломы і брускоў, чакаючы сваёй часіны, таго самага моманту, калі стане ёй свабодна і лёгка, ажывіла залу.

Усе пазналі песню, адну з тых, якая спадарожнічае кожнаму ці н.. з маленства. *(Н..)*каторыя лічаць яе сялянскай, а таму *(н..)*вартай увагі. Але ж народнае мастацтва пры ўсёй яго прастаце н.. з чым *(н..)*параўнанае. І *(н..)*любіць яго *(н..)*льга. Як *(н..)*льга *(н..)*любіць зямлю, на якой нарадзіўся, узгадаваўся і рос.

...Але вось гукі, якія лунаці дзесьці ў вышыні, *(н..)*чакана сцішыліся, абарваліся як бы на паўтоне.

Раздаліся гучныя воплескі, якія паступова перараслі ў авацыю. Зала, здаецца, здрыганулася ад крыкаў: «Брава! Пашана маэстра!» Венцы ўмелі выказваць пачуцці, а тут жа сустрэча з сапраўдным віртуозам! З тэатра вярталіся, як са свята, на якое даводзіцца трапляць *(н..)*часта *(Паводле А. Марціновіча)*.

Перакажыце тэкст блізка да зместу.

● Карыстаючыся звесткамі з «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі» (том 2), адкажыце на пытанні:

У якім беларускім горадзе нарадзіўся Міхаіл Іосіф Гузікаў?

Які народны музычны інструмент удасканаліў Гузікаў?

У аснову якога сучаснага музычнага інструмента пакладзена распрацаваная Гузікавым канструкцыя?

# Тэставыя работы

## Тэставая работа па фанетыцы і арфаэпіі

А1. Адзначце словы, у якіх літара ***е*** абазначае два гукі.

1) дзеці
2) елка
3) несці
4) калье
5) заехаць

А2. Укажыце спалучэнні слоў, у якіх злучнік ***і*** вымаўляецца як [ы].

1) настаўнік і вучні
2) месяц і зоркі
3) футра і боты
4) раман і аповесць
5) смех і слёзы

А3. У якіх словах ёсць санорныя гукі?

1) ежа
2) загадка
3) актыў
4) снег
5) збоку

А4. Адзначце словы, у якіх ёсць шыпячыя зычныя гукі.

1) атмасфера
2) добрушскі
3) згадзіцца
4) цётчын
5) джынсы

А5. Укажыце словы, пры вымаўленні якіх адбываецца асіміляцыя па мяккасці.

1) знік
2) скінуць
3) здзекі
4) айсберг
5) рэдзька

А6. У якіх словах спалучэнне літар ***дж*** абазначае два гукі?

1) паджаць
2) гараджанін
3) аджыць
4) саджанец
5) агароджа

А7. Адзначце словы, у якіх колькасць гукаў і літар не супадае.

1) падземны
2) алея
3) хтосьці
4) чытаюць
5) дзядзька

А8. Колькі разоў у прыказцы *Не тое багацце, што цесць з цешчаю далі, а што маладыя самі нажывалі* сустракаюцца мяккія зычныя гукі?

1) 9
2) 10
3) 11
4) 12
5) 13

А9. Колькі разоў у прыказцы *Без сахі і бараны сам цар хлеба не есць* сустракаюцца санорныя зычныя гукі?

1) 9
2) 8
3) 7
4) 6
5) 5

А10. Напісанне якіх слоў адпавядае вымаўленню?

1) спеў
2) спаўзаць
3) бацька
4) бяссправна
5) адступіць

А11. Адзначце словы з фанетычным падаўжэннем зычных.

1) калоссе
2) мышшу
3) падаконнік
4) ссохнуць
5) пытанне

А12. Укажыце словы, у якіх пры перакладзе на беларускую мову адбываецца дзеканне.

1) дедерон
2) бандероль
3) индеец
4) дивизия
5) две

А13. У якіх выпадках пры ўтварэнні патрэбнай склонавай формы назоўніка адбываецца чаргаванне заднеязычных зычных гукаў са свісцячымі?

1) дзякаваць (сяброўка)
2) на нашай (страха)
3) ад правага (бераг)
4) загадчык (бібліятэка)
5) зварыў на (малако)

А14. Адзначце словы з прыстаўным зычным гукам.

1) вобла
2) вобласць
3) водсвет
4) вохра
5) войска

А15. Укажыце словы з другім націскным складам.

1) пасланец
2) адзінаццаць
3) фартух
4) цяжар
5) мезенец

---

В1. Выпішыце слова, у якім усе зычныя гукі глухія.

1) падкасіць
2) стаяць
3) шоўк
4) дождж
5) хвост

В2. Выпішыце слова, у якім ёсць свісцячы зычны гук.

1) шчыры
2) счапілі
3) сшытак
4) Брэстчына
5) адзенне

В3. Выпішыце слова з марфалагічным падваеннем зычных.

1) ураганны
2) ладдзя
3) снеданне
4) палоззе
5) пустазелле

В4. Запішыце па-беларуску слова, у якім пры перакладзе адбываецца цеканне.

1) в битве
2) партитура
3) Ватикан
4) вахтёр
5) мантия

В5. Выпішыце з тэксту:
1) словы, у якіх 4 літары, 5 гукаў;
2) слова, у якім пры вымаўленні адбываецца азванчэнне зычнага гука;
3) слова, у якім спалучэнне літар ***дз*** абазначае два гукі.

З нагоды нараджэння дзіцяці сям'я адзначала радзіны. Гэты абрад, які суправаджаўся рознымі песнямі, вядзе сваю

гісторыю з глыбокай старажытнасці. Царква звязала з ім абрад хрышчэння дзіцяці, таму радзіны атрымалі яшчэ адну назву — хрэсьбіны *(Паводле А. Лакоткі, С. Барыса)*.

## Тэставая работа па лексіцы і фразеалогіі

А1. Укажыце адназначныя словы.

1) аснова
2) прыстаўка
3) корань
4) суфікс
5) канчатак

А2. Адзначце нумары сказаў, у якіх выдзеленыя словы ўжыты ў пераносным значэнні.

1) Яго **знешні** выгляд быў бездакорны.
2) Святлана Сяргееўна ўсё жыццё працавала на **ніве** навукі.
3) Людзі пачалі **будаваць** новае жыццё.
4) Вокны хаты выходзяць на **поўдзень.**
5) На паліцы стаяла **нізкапробная** літаратура.

А3. У якіх сказах новыя значэнні выдзеленых слоў узніклі на аснове метаніміі?

1) Бабуля адклала ўбок **вязанне.**
2) Італія — **калыска** опернага мастацтва.
3) На спаборніцтвах Віталь заваяваў **бронзу.**
4) Трэба было падрыхтаваць **глебу** для перагавораў.
5) У юнацтве Вера зачытвалася **Караткевічам.**

А4. Якія словы адносяцца да лексікі абмежаванага ўжытку?

1) танга
2) таксін
3) тапонім
4) танаж
5) талака

А5. Сярод слоў абмежаванага ўжытку ўкажыце архаізмы.

1) рэкрут
2) келіх
3) шляхціц
4) тастамент
5) дзядзькаванне

А6. Якія словы з'яўляюцца запазычанымі?

1) эгаізм
2) сфера
3) сейбіт
4) піруэт
5) лазня

А7. Укажыце рады, у якіх усе словы з'яўляюцца сінонімамі.

1) настойлівы, напорысты, упарты, валявы
2) прамоўца, аратар, красамоўца, пустаслоў
3) даверлівы, прастадушны, кемлівы, наіўны
4) упасці, паваліцца, рухнуць, шлёпнуцца
5) раздарожжа, скрыжаванне, развілка, ростань

А8. Да якіх іншамоўных слоў правільна падабраны беларускія сінонімы?

1) індустрыяльны — прамысловы
2) папулярны — вядомы
3) арыгінальны — самабытны
4) гарманічны — правільны
5) камунікабельны — размоўны

А9. Адзначце пары слоў, якія не з'яўляюцца антонімамі.

1) прыліпнуць — адарвацца
2) родны — суседскі
3) спагада — жорсткасць
4) здабытак — страта
5) лаяцца — брахаць

А10. Укажыце пары спалучэнняў слоў, у якіх ужыты амонімы.

1) кіравацца асабістым матывам — песня з вясёлым матывам
2) пуховая падушка — падушка механізма
3) сухі клімат — сухі пералік фактаў
4) ліпавы мёд — ліпавы дакумент
5) загадаў выканаць заданне — загадаў загадку

А11. Адзначце словы, якія ў беларускай і рускай мовах маюць рознае лексічнае значэнне (з’яўляюцца міжмоўнымі амонімамі).

1) пуд
2) плот
3) краска
4) склон
5) воля

А12. У якіх сказах дапушчаны маўленчыя памылкі?

1) Перад слухачамі выступіў дыпламант Міжнароднага конкурсу піяністаў.

2) Качка выбралася на пясочную выспу.

3) Грыбы ў сасновым маладзіку яшчэ не раслі.

4) Мужчына скардзіўся на моцны боль у каленчатым суставе.

5) Гаспадыня пераліла квас у ёмісты гладыш.

А13. Якія фразеалагізмы маюць значэнне ‘вельмі многа’?

1) у кожнай кішэні па жмені
2) як старой бабе сесці
3) з жабіны прыгаршчы
4) як на дзяды
5) хоць гаць гаці

А14. Адзначце сінанімічныя пары фразеалагізмаў.

1) вомегам вылазіць — у момант вока
2) як горкая рэдзька — як агнём апякло
3) за адзін прысест — адным махам
4) як апошняе ў печ усыпаўшы — як мыла з’еўшы
5) лахі пад пахі — шапку ў ахапку

А15. Якія фразеалагізмы могуць ужывацца як свабодныя спалучэнні слоў?

1) даць лейцы ў рукі
2) мала кашы з’еў
3) выходзіць з сябе
4) есці вачыма
5) скінуць з плячэй

B1. Перакладзіце на беларускую мову словазлучэнне *резьба по дереву* адным словам.

B2. Якімі словамі-амонімамі называюць:

1) месяц каляндарнага года;
2) загусцелую ежу з мяснога або рыбнага навару з кавалачкамі мяса, рыбы?

B3. Знайдзіце ў сказе маўленчую памылку і запішыце слова, неабходнае па сэнсе (у пачатковай форме).

Віктар з маленства займаўся спартыўнай грэбляй.

B4. Устанавіце адпаведнасць паміж фразеалагізмамі і іх значэннямі.

| | |
|---|---|
| 1) ні семя ні емя | а) у стане вялікага страху |
| 2) ні ў кола ні ў мяла | б) зусім няма нічога есці |
| 3) ні жывы ні мёртвы | в) якраз столькі, колькі трэба |
| 4) ні села ні пала | г) пра няўмелага, няздатнага чалавека |
| 5) ні многа ні мала | д) неспадзявана, нечакана і без якіх-небудзь падстаў |

B5. Выпішыце з тэксту:

1) слова, якое мае значэнне ‘прыстасаванне, на якое падвешваецца кудзеля пры прадзенні’;
2) фразеалагізм;
3) сінонім да слова *спадцішка*.

Управіўшыся дома, перад полуднем збіраліся дзяўчаты: прыносілі абвязаныя хусткамі прасніцы з тоўстаю кудзеляю — іхнія калаўроткі стаялі ў Корсакавай хаце яшчэ з учарашняе раніцы... Але прадзіва не было — дзень перад Калядамі малы, як у зайца хвост, а на шарай гадзіне прыходзілі хлопцы, падсаджваліся да кудзельніц, неўпрыкметку скідалі з калаўроткаў шнуры, адбіралі лёгкія і голыя яшчэ верацёны *(В. Адамчык)*.

## Тэставая работа па словаўтварэнні і марфалогіі

А1. Якія словы ўтвораны складана-суфіксальным спосабам?

1) мілагучны
2) саматканы
3) цяжкапаранены
4) ільнопрадзільны
5) звышмагутны

А2. Пры ўтварэнні якіх слоў адбыліся чаргаванні зычных гукаў?

1) шаўковы
2) спадцішка
3) праўдзівы
4) выдзеўбаць
5) штуршок

А3. Адзначце словазлучэнні з назоўнікамі, якія маюць канчатак ***-у***.

1) не разабраў рукапіс..
2) абмяркоўваць пры дырэктар..
3) не з'еў бутэрброд..
4) кіраўнік камбінат..
5) шкатулка з малахіт..

А4. Укажыце словазлучэнні з граматычнымі памылкамі.

1) цяжкія каменні
2) дарожны насып
3) глыбокае Нарач
4) прыгожы какаду
5) залатая медаль

А5. У якіх сказах дапушчаны граматычныя памылкі?

1) З кожным крокам пясок пад нагамі здаваўся ўсё больш гарачым.

2) Неба сёння ясней, чым учора.

3) Мікола Гусоўскі — буйнейшы славянскі паэт-лацініст эпохі Адраджэння.

4) Задачу можна было рашыць прасцейшым спосабам.

5) Наталля Пятроўна маладзейшая свайго мужа.

А6. Адзначце словазлучэнні з правільна ўжытымі займеннікамі.

1) паважаць сябе
2) з самой раніцы
3) нічому не здзіўляўся
4) з'еў нішто салёнае
5) дзякую цябе

А7. Укажыце правільна запісаныя лічэбнікі ў форме творнага склону.

1) пяцярымі
2) сям'юдзесяццю
3) двумастамі
4) абедзвюмя
5) шасцідзесяццю пяццю

А8. Якія дзеясловы ў форме 1-й асобы множнага ліку цяперашняга ці будучага часу маюць канчатак ***-ем***?

1) адштурхнуць
2) сесці
3) наступаць
4) плысці
5) вымавіць

А9. Адзначце дзеясловы з суфіксам ***-ыва-***.

1) даказ..ваць
2) падыгр..ваць
3) запіс..ваць
4) праветр..ваць
5) каманд..ваць

А10. Укажыце словазлучэнні з формамі дзеепрыметнікаў, якія не адпавядаюць нормам беларускай літаратурнай мовы.

1) расколаты лёд
2) стомленная гаспадыня
3) збялелы твар
4) расхваляваўшаяся вучаніца
5) чырванеючыя шчокі

А11. Адзначце сказы з няправільным ужываннем дзеепрыслоўяў і дзеепрыслоўных словазлучэнняў.

1) Разглядаўшы фатаграфіі, Алена марыла пра новыя падарожжы.

2) Рыхтуючыся да экзаменаў, нельга забываць пра паўнацэнны сон.

3) Выступая перад вялікай аўдыторыяй, дакладчык вельмі хваляваўся.

4) Слухаючы мелодыю вальса, успамінаецца выпускны баль.

5) Трэнер аб'явіў перапынак, дазволіўшы спартсменам адпачыць.

A12. Адзначце словы, якія пішуцца разам.

1) гаварыць *(на)*распеў
2) вывучыць *(на)*памяць
3) памераць *(у)*абхват
4) выказаць *(у)*голас
5) ударыць *(з)*размаху

A13. Укажыце спалучэнні слоў з вытворнымі прыназоўнікамі.

1) напісаць праз злучок
2) перамагчы дзякуючы партнёру
3) сустрэцца пасля растання
4) адпачываць на працягу тыдня
5) ляцець над аблокамі

A14. Адзначце сказы, у якіх ужыты падпарадкавальныя злучнікі.

1) Конь спыніўся, бо пасярод сцежкі ляжаў вялізны камень.

2) Урач адзначыў, што хвораму неабходна ўжываць вітаміны.

3) Мы схаваліся пад дрэвамі, што стаялі паабапал дарогі.

4) Каб адказаць на тваё пытанне, мне трэба зазірнуць у энцыклапедыю.

5) Над полем не то пыл курэў, не то імгла ўзнялася.

A15. Адзначце сказы са словамі, якія з ***не*** пішуцца асобна.

1) *(Н..)*трэба шкадаваць пра мінулае.
2) Гаспадыня *(н..)*дагледзела куранят.
3) Стол быў прыкрыты *(н..)*выбеленым абрусам.
4) Рухавік працаваў *(н..)*спыняючыся.
5) Гэта кніга *(не)*надрукавана.

---

B1. Выпішыце адносны займеннік:

1) столькі
2) свой
3) чый
4) чыйсьці
5) нічый

B2. Выпішыце колькасна-іменнае спалучэнне з парадкавым лічэбнікам.

1) дзевяноста чатыры абітурыенты
2) з семярымі аднакласнікамі
3) тры чацвёртыя часткі
4) сорак другая старонка
5) трыццаціпяцігадовы юбілей

B3. Ад дзеяслова, запісанага ў дужках, утварыце дзеепрыметнік, запішыце яго ў пачатковай форме.

Міхась трымаўся за парэнчы *(пасінець)* ад холаду пальцамі.

B4. Ад прыслоўя ***добра*** ўтварыце простую форму вышэйшай ступені параўнання.

B5. Выпішыце з тэксту:
1) назоўнікі, якія ўжываюцца толькі ў адзіночным ліку (укажыце пачатковую форму);
2) якасныя прыметнікі (у пачатковай форме);
3) дзеепрыслоўе незакончанага трывання.

Зацірка — мучная страва. Елі яе гарачай, звычайна раніцаю, на сняданак. Бо, пастаяўшы і астыўшы, гэта рэдкая страва гусцела і траціла свой смак. Варылі яе хутка. Гаспадыня брала муку, жытнюю ці пшанічную. Сыпала яе ў гаршчок з кіпенем, памешваючы лыжкаю, і варыла. Іншы раз муку спачатку замочвалі або густа, з камячкамі, замешвалі ў місцы, а потым ужо варылі ў кіпені *(М. Маляўка)*.

## Тэставая работа па сінтаксісе і пунктуацыі

A1. Выберыце правільны адказ.

*Словазлучэнне — гэта...*

1) сэнсавае і граматычнае адзінства слоў, утворанае на аснове падпарадкавальнай сувязі;

2) спалучэнне дзейніка і выказніка;

3) спалучэнне службовага і самастойнага слова.

А2. Адзначце правільную фармулёўку.

*Дапасаванне — гэта...*

1) спосаб падпарадкавальнай сувязі, пры якім залежнае слова звязваецца з галоўным толькі паводле сэнсу;

2) спосаб падпарадкавальнай сувязі, пры якім залежнае слова ставіцца ў пэўнай склонавай форме, што дыктуецца значэннем галоўнага слова;

3) спосаб падпарадкавальнай сувязі, пры якім залежнае слова мае тыя ж граматычныя формы, што і галоўнае.

А3. Адзначце спалучэнні слоў, якія не з'яўляюцца словазлучэннямі.

1) прыходзіць снежань
2) даволі прыгожы
3) дарогі і вуліцы
4) няхай узыдзе
5) прыгожыя далі

А4. Адзначце словазлучэнні з галоўным словам назоўнікам.

1) падхапіць песню
2) вершы Купалавы
3) песня шчасця
4) цвярдзейшы за граніт
5) умелы з дзяцінства

А5. У якіх словазлучэннях рэалізуецца такі від сінтаксічнай сувязі, як кіраванне?

1) здольны да навукі
2) добра знаёмы
3) праспаць суткі
4) шырокі прастор
5) гаворка па-беларуску

А6. Да якіх словазлучэнняў правільна падабраны беларускія адпаведнікі?

1) более двухсот человек — больш двухсот чалавек
2) видели своими глазами — бачылі сваімі вачамі
3) сестра выше брата — сястра вышэйшая за брата
4) благодарю Вас за помощь — дзякую Вас за дапамогу
5) повезли на мельницу — павезлі ў млын

A7. У якіх сказах замест кропак трэба паставіць працяжнік?

1) Тры плюс тры ... шэсць.
2) Сёння дзень ... цёплы, сонечны, прыемны.
3) У дружбе жыць ... шчаслівым быць.
4) Цудоўная рэч ... жыццё.
5) Прырода ... жывая кніга.

A8. У якіх сказах на месцы пропуску неабходна паставіць коску?

1) Гледзячы на старога ... усім вядомага ў вёсцы дзеда Петрака, можна чытаць гісторыю стагоддзя.

2) Безліч азёр было рассыпана ў гэтай глухой ... лясной старане.

3) Тонкая ... кепска замацаваная абшыўка аўтобуса задрыжала.

4) Халодныя ... пеністыя ручаіны пранізвалі роўнядзь палёў.

5) Празрыстае паветра настоена на духмяным ... восеньскім водары.

A9. Якія пары слоў можна назваць словазлучэннямі?

1) дом пабудаваны
2) пабудаваны дом
3) паслаць па бацьку
4) дваццаць другі
5) няхай славіцца

A10. Выберыце правільны(я) адказ(ы).

*Сказ выконвае камунікатыўную функцыю — гэта значыць...*

1) у працэсе зносін перадае пэўную інфармацыю;

2) ужываецца ў зносінах паміж людзьмі ў працэсе абмену думкамі, выказваннямі;

3) выражае волевыяўленне, пачуцці, эмоцыі таго, хто гаворыць;

4) называе не асобны прадмет ці з’яву, а падзею, сітуацыю, факт;

5) уздельнічае ў арганізацыі тэксту, яго структурна-сэнсавых частак.

А11. Па якой прымеце сказы падзяляюцца на клічныя і няклічныя?

1) па колькасці граматычных асноў
2) па мэце выказвання
3) па інтанацыі
4) па наяўнасці дададзеных членаў сказа
5) па адносінах зместу да рэчаіснасці

А12. У якіх сказах правільна вызначана граматычная аснова?

1) Угары над хвойнікамі снавалі птушкі і пчолкі.

2) Прыйшлі глыбокія туманы, ды вось-вось сцюжы загудуць.

3) Абое маўчалі, абое чакалі пытання.

4) Кожны з нас памятае прачытаную ў юнацтве першую кнігу.

5) Хай пачуюць, як сэрца начамі аб радзімай старонцы баліць *(М. Багдановіч)*.

А13. У якіх сказах выдзеленыя словы не з'яўляюцца азначэннямі?

1) **Баброва** галава паказалася двойчы і знікла.
2) Свет **адкрыты** і **новы** на радзіме маёй.
3) Я шчаслівы, што ў **суджаны** час нарадзіўся на гэтай зямлі.
4) Як ты **дорага** мне, **мая родная** мова.
5) Дні стаялі **пагодлівыя, сухія**.

А14. Які з наступных сказаў мае характарыстыку: просты, апавядальны, няклічны, развіты?

1) Чуецца музыка дзіўная ў вясновы вечар.
2) Хто з каго смяецца, той таму і застанецца.
3) Гуляйце, вейце, снежныя вятры, ад ранняй да вячэрняе пары *(М. Танк)*.
4) На прастор, на шырокі разлог выхадзі, мой народ, грамадою! *(Я. Колас)*.
5) Як доўга вы жывяце ў Беларусі?

А15. У якіх сказах дзейнік выражаны дзеясловам?

1) Век зжыць — не мех сшыць.
2) Прага тварыць жыла ў ім з маленства.
3) На золку далі каманду збірацца.
4) Агонь, што расклалі пагрэцца, паціху дагараў.
5) Садок садзіць — жыццё харашыць.

А16. Адзначце сказы, у якіх дапушчана пунктуацыйная памылка пры аднародных членах.

1) У дзяўчыны голас быў невысокі ды прыгожы.
2) Не васількамі, а буйным калоссем, лета, нам сэрца крані.
3) Свет паэта і праца, і шчасце і радасць.
4) Лістападу радуйся, і снежню, вятрам асеннім, і снягам.
5) Буслы збіраліся ў чароды і доўга стаялі на грудах, або ляніва аглядалі лагчыны.

А17. Адзначце сказы з аднароднымі азначэннямі.

1) Паабапал дарогі пацягнуўся бор з высокімі старымі соснамі.
2) Некуды спяшаецца хуткая цягавітая мурашка.
3) Шчодра ліло цяпло яскравае красавіцкае сонца.
4) Крокамі цвёрдымі, мужнымі горда ідзе па планеце нашай зямлі маладосць.
5) Не ные толькі сэрца бессардэчнае, счарсцвелае ад зайздрасці і злосці.

А18. У якіх сказах выдзеленыя словы не трэба адасабляць коскамі?

1) **Як тая рабіна** цвіла ў тое лета Ганна.
2) Саўка **як ні ў чым не бывала** падышоў да Максіма.
3) Цікаўна **як чалавек** глядзела на мяне краска.
4) Словы сыпаліся з яго **як з дзіравага мяшка**.
5) Ён усім дапамагаў і **як старэйшы таварыш, і як выдатны майстар мастацкага слова**.

А19. У якіх сказах падкрэсленыя словы не з’яўляюцца прыдаткамі?

1) Смачныя цукеркі выпускае фабрыка «Камунарка».
2) Прыйшла чараўніца вясна.

3) Куды вядуць мяне шляхі-дарогі.

4) Часопіс «Беларусь» надрукаваў новую аповесць пісьменніка.

5) Дзед Максім сядзеў каля акна.

A20. Адзначце аднасастаўныя сказы.

1) Вагон — хата Міколкава.

2) Навокал цёмны час і хмызняк, ды злыя сабакі на вуліцы.

3) На полі не было відаць ні душы.

4) На трэці дзень работы пленума нечакана аб'явілі перапынак.

5) Вось апошні паварот.

A21. У якіх сказах перад злучнікам ***і*** трэба ставіць коску?

1) На беларускім Палессі цякуць поўныя рэкі___ і густа стаяць лясы.

2) Ёсць ворагі___ і ёсць сябры.

3) Туман яшчэ нізка вісеў над вадою___ і ўгары над ім сінела вячэрняе неба.

4) Узмах вясла___ і сонны бераг адразу пачынае жыць.

5) Здавалася, абоз пройдзе спакойна__ і нічога не здарыцца.

A22. Адзначце складаназалежныя сказы.

1) Дзед, як нам здалося, меў добры настрой і вельмі хацеў дапамагчы ў нашым нялёгкім становішчы.

2) У гэты час, як гавораць, пчаляра і на вяроўцы не выцягнеш з пасекі.

3) Міхал ідзе туды, на поле, дзе Нёман, выгнуўшыся дужкай, абводзіць лес прыгожай стужкай.

4) У гэтым сяле разам з настаўнікам працавала Падгайская, пані Ядзя, як мы яе звалі.

5) Агеньчык свечкі, кволы, няўпэўнены, вырываў з цемры толькі невялічкі кружок, у якім можна было бачыць пад нагамі сцёртыя ад часу каменныя пліты.

А23. Адзначце, у якіх сказах падкрэсленыя словы з'яўляюцца падпарадкавальнымі злучнікамі.

1) Васіль зразумеў, што іх спрэчка можа зацягнуцца да вечара.

2) Здавалася, што іх нехта падслухаў і запісаў на магнітафон.

3) А дзед Брыль мог расказаць шмат чаго цікавага, што здарылася за апошнія дні.

4) Ён ужо не памятаў, што крычаў.

5) Хлопцы прагна прыслухоўваўваліся да таго, што рабілася навокал.

А24. Адзначце сказы, у якіх на месцы пропуску патрэбна коска.

1) Там__ дзе дрыжала празрыстае неба, чарнелі хмары, гусцелі і сунуліся на вёску.

2) Там, дзе зайшло сонца___ і дзе былі відаць рэдкія сосны, пачынала цяпер бялець у цемнаце вёска.

3) Я рады, што нямала зведаў___ што ёсць пра што і ўспамінаць.

4) Часта даводзілася спыняцца, таму___ што дарога была кепская.

5) Пахадзіўшы па беразе, хлопцы прыйшлі да вываду, што___ каб усё гэта пераправіць праз раку, трэба зрабіць плот.

---

В1. Пастаўце прапушчаныя знакі прыпынку.

Шчодрая да навакольнага свету восень не шкадуе свайго багацця радуючы нас цяплом «бабінага лета» перад зімовымі халадамі. Найбольш песціць чараўніца восень нашы паркі і скверы адорваючы іх сваім хараством. Здаецца што мінскія зялёныя куткі спаборнічаюць адзін з адным у прыгажосці і харастве. Але ёсць сярод іх асаблівы і незвычайны многім яшчэ не знаёмы. Гэта сквер які носіць імя Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна.

Маляўнічыя фарбы кветнікаў альтанка дэкаратыўныя кампазіцыі ўсё гэта стварае вобраз сквера непаўторны і ра-

мантычны. Дапаўняюць яго маладыя бярозкі шчодра пасыпаныя золатам восені задумлівыя вербы каштаны сур'ёзныя і спакойныя ціхая водная гладзь Свіслачы.

Па сцяжынках сквера заўжды чыстых і прыбраных часта бегаюць дзеці адпачываюць на лаўках маладыя мамы і таты затрымліваюцца закаханыя. Сярод шэрай аднастайнасці вуліц сквер прыцягвае да сябе абліччам яркім і выразным і ў той жа час сціпласцю арыгінальнасцю планіроўкі *(Паводле І. Матусевіч)*.

# Дадатак

*Табліца 1*

**Інтанаванне складаназлучаных сказаў**

| Адносіны паміж часткамі складаназлучанага сказа | | Знак прыпынку | Інтанацыя, з якой чытаюцца складаназлучаныя сказы |
|---|---|---|---|
| спалучальныя | адначасовасці, паслядоўнасці, прычынна-выніковыя | **коска** | Часткі складаназлучанага сказа чытаюцца без пералічальнай інтанацыі, калі іх толькі дзве і яны звязаны адзіночнымі злучнікамі ***і, ды (‘і’)***: першая частка чытаецца з павышэннем голасу, другая — з паніжэннем. Паміж часткамі робіцца невялікая паўза.<br>*Стаяла ноч,* \| *і ляцелі ноччу над горадам жураві* (М. Стральцоў). |
| | | | Калі ў складаназлучаным сказе ёсць агульны дададны член сказа, які адносіцца і да першай, і да другой часткі, то ён выдзяляецца лагічным націскам. Першая частка сказа чытаецца з павышэннем голасу, другая — з паніжэннем. Паміж часткамі робіцца невялікая паўза, але коска не ставіцца.<br>***Зноў*** *ад нас жураўлі адлятаюць* \| *і лісцё ападае ў траву…* (В. Шніп). |

| | | | |
|---|---|---|---|
| | | | Часткі складаназлучанага сказа чытаюцца з пералічальнай інтанацыяй, калі іх дзве і яны звязаны паўторнымі злучнікамі ***і — і, ды — ды ('і — і')***: к канцу першай часткі голас злёгку павышаецца, другая частка чытаецца з паступовым павышэннем голасу і заканчваецца яго паніжэннем пасля слова з лагічным націскам. Паміж часткамі робіцца невялікая паўза. *І дарослыя радаваліся хуткаму адпачынку,* \| *і* ***дзеці*** *чакалі летніх канікул.* |
| | | | Часткі складаназлучанага сказа чытаюцца з пералічальнай інтанацыяй, калі іх больш за дзве і яны звязаны паўторнымі злучнікамі ***і — і, ды — ды ('і — і')***: к канцу кожнай часткі, акрамя апошняй, голас злёгку павышаецца. Апошняя частка чытаецца з паніжэннем голасу пасля слова з лагічным націскам. Паміж часткамі робяцца невялікія паўзы. *Зязюлі варожаць,* \| *і кнігаўкі жаляцца,* \| *і* ***глушаць*** *усіх салаўі...* (П. Панчанка). |

| **Адносіны паміж часткамі складаназлучанага сказа** | | **Знак прыпынку** | **Інтанацыя, з якой чытаюцца складаназлучаныя сказы** |
|---|---|---|---|
| | | **кропка з коскай** | Калі ў складаназлучаным сказе толькі дзве часткі, якія звязаны адзіночнымі злучнікамі ***і, ды (‘і’)***, то першая частка чытаецца з нязначным паніжэннем голасу пасля слова з лагічным націскам, другая — з рэзкім паніжэннем. Паміж часткамі робіцца больш працяглая паўза, чым пры чытанні складаназлучанага сказа, часткі якога раздзелены коскай.<br>*Праз некаторы час мяне* ***зноў*** *пачала клікаць дарога;* \|\| *і ўзнікала* ***жаданне*** *ісці наперад,* \| *да новых вышынь.*<br>Калі ў складаназлучаным сказе больш за дзве часткі, якія звязаны паўторнымі злучнікамі ***і — і, ды — ды (‘і — і’)***, то часткі сказа чытаюцца з нязначным паніжэннем голасу пасля слова з лагічным націскам, акрамя апошняй, якая заканчваецца рэзкім паніжэннем голасу. Паміж часткамі робяцца больш працяглыя паўзы, чым пры чытанні складаназлучанага сказа, часткі якога раздзелены коскай.<br>*Працаваў Ігар ужо* ***месяц*** *на будоўлі дома;* \|\| *і* ***маці*** *была рада;* \|\| *і ён* ***сам*** *атрымліваў ад працы задавальненне.* |

<table>
<tr><td></td><td>прычынна-выніковыя, умоўна-выніковыя</td><td>працяжнік</td><td>Першая частка складаназлучанага сказа чытаецца з рэзкім нарастаннем павышэння голасу, другая — з паніжэннем голасу. Паміж часткамі робіцца працяглая паўза. Інтанацыя на мяжы частак напружаная.<br>Скраніся — || і важкай хадой наступнае ў паход кранецца (А. Куляшоў).</td></tr>
<tr><td rowspan="2">супраціўныя</td><td rowspan="2">супастаўляльныя, супрацьпастаўляльныя</td><td>коска</td><td>Першая частка складаназлучанага сказа чытаецца з нязначным паніжэннем голасу пасля слова з лагічным націскам, другая — з рэзкім паніжэннем. Паміж часткамі робіцца невялікая паўза.<br>Стаю на ростанях былых, | а з паднябесся самотным жаўранкам звініць і плача май (А. Куляшоў).</td></tr>
<tr><td>кропка з коскай</td><td>Першая частка складаназлучанага сказа чытаецца з нязначным паніжэннем голасу пасля слова з лагічным націскам, другая — з рэзкім паніжэннем. Паміж часткамі робіцца больш працяглая паўза, чым пры чытанні складаназлучанага сказа, часткі якога раздзелены коскай.<br>Лета не радавала цёплым надвор'ем; || але людзі працавалі старанна, рупліва і сабралі багаты ўраджай.</td></tr>
</table>

| Адносіны паміж часткамі складаназлучанага сказа | | Знак прыпынку | Інтанацыя, з якой чытаюцца складаназлучаныя сказы |
|---|---|---|---|
| | | **працяжнік** | Першая частка складаназлучанага сказа чытаецца з павышэннем голасу, другая — з паніжэннем. Паміж часткамі робіцца працяглая паўза.<br>*Дзяўчына адчыніла дзверы ў кабінет — \|\| і Галіны Іванаўны сярод прысутных не было.* |
| размеркавальныя | пералічэння, чаргавання, узаемавыключэння з'яў, падзей | **коска** | Часткі складаназлучанага сказа чытаюцца без пералічальнай інтанацыі, калі іх толькі дзве і яны звязаны адзіночнымі злучнікамі ***ці, або***: першая частка чытаецца з павышэннем голасу, другая — з паніжэннем. Паміж часткамі робіцца невялікая паўза.<br>*Будзе адліга, \| або зноў удараць маразы.* |
| | | | Часткі складаназлучанага сказа чытаюцца з пералічальнай інтанацыяй, калі іх дзве і яны звязаны паўторнымі злучнікамі ***ці — ці, або — або, то — то, ці то — ці то, не то — не то***: к канцу першай часткі голас злёгку павышаецца, другая частка чытаецца з паступовым па- |

| | | | |
|---|---|---|---|
| | | | вышэннем голасу і заканчваецца яго паніжэннем пасля слова з лагічным націскам. Паміж часткамі робіцца невялікая паўза.<br>*То свяціла ясным сонцам вера,* \| *то **няверʼе** кідала ў адчай* (П. Панчанка). |
| | | | Часткі складаназлучанага сказа чытаюцца з пералічальнай інтанацыяй, калі іх больш за дзве і яны звязаны паўторнымі злучнікамі ***ці — ці, або — або, то — то, ці то — ці то***: к канцу кожнай часткі, акрамя апошняй, інтанацыя злёгку павышаецца. Апошняя частка чытаецца з паніжэннем голасу пасля слова з лагічным націскам. Паміж часткамі робяцца невялікія паўзы.<br>*То горача,* \| *то холадна,* \| *то сонца выгляне,* \| *то **пойдзе** дождж.* |

*Табліца 2*

**Інтанаванне складаназалежных сказаў**

| Адносіны паміж часткамі складаназалежнага сказа | Знак прыпынку | Інтанацыя, з якой чытаюцца складаназалежныя сказы |
|---|---|---|
| азначальныя;<br>дапаўняльныя;<br>акалічнасныя<br>(месца, часавыя, умоўныя, прычынныя, мэтавыя, уступальныя, параўнальныя, спосабу дзеяння, меры і ступені) | **коска** | Першая частка складаназалежнага сказа (галоўная або даданая) чытаецца з павышэннем голасу, другая — з паніжэннем. На мяжы галоўнай і даданай частак робіцца невялікая паўза.<br>*Прыходзіла вясна,* \| *каб абудзіць прыроду да новага жыцця* (С. Сапоненка).<br>*Калі рана ўстанеш,* \| *то і многа зробіш* (Прыказка).<br><br>Калі даданая частка складаназалежнага сказа стаіць у сярэдзіне галоўнай, то яна выдзяляецца паўзамі з абодвух бакоў. Галоўная частка чытаецца з павышэннем голасу да пачатку даданай, даданая частка — з павышэннем голасу ў канцы. Галоўная частка пасля даданай чытаецца з паніжэннем голасу.<br>*Над ускрайкам лесу,* \| *дзе пачыналіся жоўтыя пяскі,* \|<br>*зазвінела песня ляснога жаваранка* (Я. Колас). |

| | | |
|---|---|---|
| | | Калі даданая частка складаназалежнага сказа стаіць пасля першага слова галоўнай часткі, якое паясняе, то яна не аддзяляецца паўзай і чытаецца з павышэннем голасу. Галоўная частка пасля даданай чытаецца з паніжэннем голасу.<br>*Вечарам, калі ён заставаўся адзін,* \| *апаноўвалі розныя думкі* (Я. Колас). |
| | | Калі даданая частка складаназалежнага сказа стаіць пасля члена сказа галоўнай часткі, выражанага дзеепрыметнікам або дзеепрыслоўем, то яна не аддзяляецца паўзай.<br>*Марыя Сяргееўна расчулілася,* \| *пачуўшы, як былыя выпускнікі віншавалі яе з Днём настаўніка.* |
| | **працяжнік** | Складаназалежны сказ чытаецца з павышэннем голасу на першай частцы і паніжэннем на другой. Паміж часткамі робіцца працяглая паўза.<br>*Хто працуе —* \|\| *не баіцца голаду* (У. Ліпскі). |

*Табліца 3*

## Інтанаванне бяззлучнікавых складаных сказаў

| Адносіны паміж часткамі бяззлучнікавага сказа | | Знак прыпынку | Інтанацыя, з якой чытаюцца бяззлучнікавыя сказы |
|---|---|---|---|
| аднатыпныя часткі | часавыя (адначасовасці, паслядоўнасці); супастаўляльныя | **коска** | Часткі бяззлучнікавага складанага сказа чытаюцца з пералічальнай інтанацыяй.<br>Калі ў бяззлучнікавым складаным сказе толькі дзве часткі, то першая з іх чытаецца з павышэннем голасу, другая — з паніжэннем пасля слова з лагічным націскам. Паміж часткамі робіцца невялікая паўза.<br>*Майскі дзень,* \| ***паветра*** *пахне бэзам* (Л. Галубовіч). |
| | | | Калі ў бяззлучнікавым складаным сказе больш за дзве часткі, то голас злёгку павышаецца ў канцы кожнай часткі, акрамя апошняй, якая заканчваецца паніжэннем голасу пасля слова з лагічным націскам. Паміж часткамі робяцца невялікія паўзы.<br>*Адступала ноч,* \| *пачыналася раніца,* \| *не сціхаў салаўіны пошчак,* \| *ад зямлі ішлі цёплыя хвалі,* \| ***пахла*** *чаромхай...* (А. Федарэнка). |

| | | | |
|---|---|---|---|
| | | **кропка з коскай** | Бяззлучнікавы складаны сказ, часткі якога раздзелены кропкай з коскай, чытаецца спакойным тонам і ў запаволеным тэмпе.<br>Першая частка сказа чытаецца з нязначным паніжэннем голасу пасля слова з лагічным націскам, другая — з рэзкім паніжэннем. Паміж часткамі робіцца больш працяглая паўза, чым пры чытанні бяззлучнікавага складанага сказа, часткі якога раздзелены коскай.<br>*Паміж* ***яблынямі*** *тырчалі пачарнелыя кусты бульбоўніку;* \|\| *у* ***барознах*** *трапляліся яблыкі* (М. Стральцоў).<br><br>Калі ў бяззлучнікавым складаным сказе больш за дзве часткі, то яны чытаюцца з нязначным паніжэннем голасу пасля слова з лагічным націскам, акрамя апошняй, якая заканчваецца рэзкім паніжэннем голасу.<br>***Ноччу*** *мароз скоўваў падталіны з лужамі;* \|\| ***з усходу*** *дзьмуў калючы вецер;* \|\| ***днём*** *высокае ўжо сонца заганяла холад у руіны дамоў* (А. Асіпенка). |

*Працяг табліцы*

| Адносіны паміж часткамі бяззлучнікавага сказа | | Знак прыпынку | Інтанацыя, з якой чытаюцца бяззлучнікавыя сказы |
|---|---|---|---|
| | супрацьпастаўляльныя | **працяжнік** | Першая частка бяззлучнікавага складанага сказа чытаецца з моцным павышэннем голасу ў канцы, другая — з моцным паніжэннем. Паміж часткамі робіцца доўгая паўза.<br>*Продкі газет не чыталі* — ‖ *продкі чыталі па зорках* (А. Пісьмянкоў). |
| разнатыпныя часткі | прычынна-выніковыя | **двукроп'е** | Першая частка бяззлучнікавага складанага сказа чытаецца з лёгкім паніжэннем голасу пасля слова з лагічным націскам, другая частка чытаецца з паніжэннем голасу пасля слова з лагічным націскам. Паміж часткамі робіцца працяглая паўза.<br>***Вясне*** *так хочацца прысесці на сакавітую траву:* ‖ ***каштанаў*** *факельнае шэсце ёй закружыла галаву* (П. Панчанка). |
| | | **працяжнік** | Абедзве часткі бяззлучнікавага складанага сказа чытаюцца з паніжэннем голасу пасля слова з лагічным націскам. Паміж часткамі робіцца працяглая паўза.<br>***Ужо*** *дзесяць гадзін вечара* — ‖ ***пара*** *класціся спаць.* |

| | | | |
|---|---|---|---|
| | умоўна-выніковыя, часавыя | **працяжнік** | Першая частка бяззлучнікавага складанага сказа чытаецца з моцным павышэннем голасу ў канцы, другая — з моцным паніжэннем. Паміж часткамі робіцца працяглая паўза.<br>*І толькі скрані валуны* — ǀǀ *калоссе зашэпча пра дзіва...* (П. Панчанка). |
| | паясняльныя | **двукроп'е** | Першая частка бяззлучнікавага складанага сказа чытаецца з паніжэннем голасу і доўгай паўзай у канцы, што папярэджвае аб наяўнасці другой часткі, у якой знаходзіцца паясненне. Другая частка чытаецца з паніжэннем голасу.<br>***Адчулі*** *вербы:* ǀǀ ***сохне*** *лісце* (Ю. Свірка). |

## Спецыфіка сінтаксічных канструкцый у беларускай мове ў параўнанні з рускай

| **Беларускамоўныя канструкцыі** | **Рускамоўныя канструкцыі** |
|---|---|
| **а дзявятай гадзіне** | в девять часов |
| **аднесці ў млын** | отнести на мельницу |
| **ажаніцца з кім** | жениться на ком |
| **ажаніцца другім разам** | жениться во второй раз |
| **багаты на што** | богат чем |
| **баліць каму** | больно кому |
| **вартаваць па начах** | охранять по ночам |
| **вызначыць на смак** | определить по вкусу |
| **выбраць на свой густ** | выбрать по своему вкусу |
| **вышэй ад локця** | выше локтя |
| **вялікі памерам** | большой по размеру |
| **дзеля каго, чаго** | ради кого, чего |
| **дзякаваць (дараваць) каму** | благодарить (простить) кого |
| **догляд хворага** | уход за больным |
| **дом на пяць паверхаў** | дом в пять этажей |
| **дым ідзе з ветрам** | дым идет по ветру |
| **дыхаць на поўныя грудзі** | дышать полной грудью |
| **жартаваць з каго, чаго** | шутить над кем, чем |
| **жыць каля мора** | жить у моря |
| **жыць у суседстве** | жить по соседству |
| **загадчык чаго** | заведующий чем |
| **заданне дадому** | задание на дом |
| **за два крокі ад** | в двух шагах от |
| **заляцацца да дзяўчыны** | ухаживать за девушкой |
| **збегаць у што (ягады, грыбы, арэхі...)** | сбегать за (ягодами, грибами, орехами...) |
| **змяніцца на лепшае** | измениться к лучшему |
| **з нагоды свята** | по случаю праздника |
| **з прычыны адсутнасці** | по причине отсутствия |
| **з цягам часу** | со временем |
| **ісці полем** | идти по полю |
| **іншым разам** | в другой раз |

| | |
|---|---|
| **кіраўнік спраў** | управляющий делами |
| **летась** | прошлым летом |
| **мець грошы** | быть при деньгах |
| **мець рацыю** | быть правым |
| **набыць без чаргі** | приобрести вне очереди |
| **на маю думку** | по моему мнению |
| **на працягу тыдня** | в течение недели |
| **на свой густ** | по своему вкусу |
| **на святочны стол** | к праздничному столу |
| **на ўсіх кірунках** | по всем направлениям |
| **паводле паведамлення** | по сообщению |
| **пад сакрэтам** | по секрету |
| **падобны да каго, на што** | похож на кого, на что |
| **падысці да каго, чаго** | подойти к кому, чему |
| **пазбавіцца чаго** | избавиться от чего |
| **паехаць у рыбу** | поехать на рыбалку |
| **пакінуць па сабе** | оставить после себя |
| **паляваць на ваўка** | охотиться за волком |
| **параўнальна з чым** | в сравнении с чем |
| **пісаць на адрас** | писать по адресу |
| **праз ляноту** | из-за лени |
| **праз тры гады** | три года спустя |
| **прачытаць пра сябе** | прочитать о себе |
| **прыехаць да каго** | приехать к кому |
| **раніцамі** | по утрам |
| **раз на тыдзень** | раз в неделю |
| **разысціся па адным** | разойтись по одному |
| **спатыкнуцца на што** | споткнуться о что |
| **стаяць пры мікрафоне** | стоять у микрофона |
| **створаны на ўзор** | создан по образцу |
| **страляць у мішэнь** | стрелять по мишени |
| **схадзіць па каго, што (доктара, рэчы)** | сходить за кем-, чем-либо (доктором, вещами) |
| **сядзець ля ракі** | сидеть у реки |
| **у адпаведнасці з законам** | согласно (по) закону |
| **убачыць на свае вочы** | увидеть своими глазами |
| **увосень** | по осени |
| **у выхадныя дні** | по выходным дням |
| **у святы** | по праздникам |
| **хварэць на што** | болеть чем |
| **цьмяны за часам (ад часу)** | тусклый из-за времени |

| | |
|---|---|
| **чытаць самому сабе** | читать про себя |
| **чатыры доўгія гады** | четыре долгих года |
| **чалавек працуе (падчас працы)** | человек за работой |
| **штодзень, з дня ў дзень** | каждый день, день ото дня |
| **шчыры да людзей (з; перад людзьмі)** | искренний с людьми |

# Тлумачальны слоўнік

**Амальга́ма**, -ы, *ж.* 1. Вадкі, напаўвадкі або цвёрды сплаў якога-н. металу з ртуццю *(спец.)*. 2. *перан.* Разнародная сумесь, спалучэнне чаго-н. *(кніжн.)* || *прым.* **амальга́мны**, -ая, -ае.

**Дуда́**, -ы, *ДМ* дудзе, *мн.* дуды. Духавы народны музычны інструмент з дзвюх і больш трубак, устаўленых у скураны мяшок, які надзімаецца праз трубку; валынка || *прым.* **ду́дачны**.

**Ды́лер**, -а, *мн.* -ы, *м. (спец.)*. Асоба, фірма, банк, што займаюцца перапродажам тавару, купляй-продажам каштоўных папер, валюты і пад. і дзейнічаюць за свой кошт і ад свайго імя.

**Дыяпазо́н**, -у, *м.* 1. Інтэрвал паміж самым нізкім і самым высокім гукамі пеўчага голасу, мелодыі або музычнага інструмента *(спец.)*. 2. Вобласць, у межах якой ажыццяўляюцца якія-н. вымярэнні *(спец.)*. 3. *перан.* Аб'ём ведаў, інтарэсаў *(кніжн.)*. *Вучоны шырокага дыяпазону*. || *прым.* **дыяпазо́нны**, -ая, -ае (да 1 і 2 знач.).

**Дэклара́цыя**, -і, *мн.* -і, -цый, *ж.* 1. Афіцыйная або ўрачыстая праграмная заява *(кніжн.)*. 2. Назва некаторых афіцыйных дакументаў з паведамленнем якіх-н. патрэбных звестак.

**Ідэнтыфіка́цыя**, -і, *ж.* Устанаўленне супадзення, ідэнтычнасці. || *прым.* **ідэнтыфікацы́йны**, -ая, -ае.

**Кантэ́кст**, -у, *М.* -сце, *мн.* -ы, *м.* Закончаны ўрывак тэксту, які дазваляе вызначыць сэнс кожнага ўжытага слова або выразу. || *прым.* **кантэ́ксны** і **кантэ́кставы**.

**Ку́дзерка**, -і, *ДМ* -рцы, *мн.* -і, -рак, *ж.* Невялікі вузкі ўчастак лесу сярод поля.

**На́мітка**, -і, *ДМ* -тцы, *мн.* -і, -так, *ж.* 1. Доўгі вузкі кусок кужэльнага палатна, звычайна з каймой або вышыўкай. *Льняная намітка. Намітка смугі (перан.)*. 2. *Даўней*: галаўны ўбор замужніх жанчын.

**Марке́тынг**, -у, *м. (спец.)*. Сістэма арганізацыі гаспадарчай дзейнасці, заснаваная на вывучэнні рыначнага попыту, магчымасцей збыту прадукцыі, рэалізацыі паслуг.

**Менеджме́нт**, -у, *М.* -нце, *м. (спец.)*. Мастацтва кіравання інтэлектуальнымі, фінансавымі, матэрыяльнымі рэсурсамі.

**Парэ́шткі**, -аў. Цела нябожчыка або тое, што засталося ад яго цела; прах.

**Пры́мхі**, -аў, *адз.* **пры́мха**, -і, *ДМ* -мсе, *ж.* Забабоны, забабонныя прыметы.

**Рарытэ́т**, -а, *М* -тэце, *мн.* -ы, -аў, *м. (кніжн.)*. Выключна рэдкая, каштоўная рэч, цуд. || *прым.* **рарытэ́тны**, -ая, -ае.

**Рэлі́квія**, -і, ж. 1. Прадмет рэлігійнага пакланення, які, паводле ўяўленняў вернікаў, мае цудадзейную сілу. 2. Прадмет, які беражліва захоўваецца як памяць аб мінулым.

**Стажа́р**, -а, *м.* 1. Уваткнуты ў зямлю шост, вакол якога кідаецца стог. 2. *Звычайна мн.* **(стажа́ры)**. Народная назва групы з блізка размешчаных зорак у сузор'і Цяльца.

**Ста́тус**, -у, *м. (афіц.)*. Прававое становішча, а таксама наогул становішча, стан.

**Суверэнітэ́т**, -у, *М* -тэце, *м.* Поўная незалежнасць дзяржавы ад іншых дзяржаў, у яе ўнутраных справах і міжнароднай палітыцы.

**Фрагмента́рна**. Няпоўна, урывачна.

**Хао́с**, -у, *м.* 1. У старажытнагрэчаскай міфалогіі: стыхія, што існавала да ўзнікнення свету, зямлі і жыцця на ёй. 2. *перан.* Беспарадак, неразбярыха; блытаніна. *У пакоі хаос.*

**Хрэ́сьбіны**, -бін. Хрысціянскі абрад хрышчэння, а таксама пачастунак пасля гэтага абраду. || *прым.* **хрэ́сьбінны**.

**Чарэ́нь**, -і, *мн.* -і, -ей, *ж.* 1. Верхняя знешняя частка рускай печы, ляжанка. 2. Гарызантальная паверхня ўнутры рускай печы, под.

**Юрысды́кцыя**, -і, *ж. (спец.)*. Правамоцнасць праводзіць суд, рашаць прававыя пытанні.

# Адказы да тэстаў

## Фанетыка і арфаэпія

А1 — 2, 4, 5.
А2 — 2, 4.
А3 — 1, 3, 4.
А4 — 4, 5.
А5 — 1, 3, 4.
А6 — 1, 3.
А7 — 2, 3, 5.
А8 — 5.
А9 — 2.
А10 — 2, 3, 4.
А11 — 1, 2, 5.
А12 — 3, 5.
А13 — 1, 2, 5.
А14 — 2, 3, 4.
А15 — 3, 4.
В1 — падкасіць.
В2 — адзенне.
В3 — ураганны.
В4 — вахцёр.
В5 — 1) сям'я, сваю, яшчэ; 2) хрэсьбіны; 3) адзначала.

## Лексіка. Фразеалогія

А1 — 4, 5.
А2 — 2, 3, 5.
А3 — 1, 3, 5.
А4 — 2, 3, 4.
А5 — 2, 4.
А6 — 1, 2, 4.
А7 — 1, 4, 5.
А8 — 1, 2, 3.
А9 — 2, 5.
А10 — 1, 4, 5.

A11 — 2, 3, 4.
A12 — 2, 3, 4.
A13 — 1, 4, 5.
A14 — 3, 4, 5.
A15 — 1, 2, 5.
B1 — разьбярства.
B2 — студзень.
B3 — веславанне.
B4 — 1-б, 2-г, 3-а, 4-д, 5-в.
B5 — 1) прасніца; 2) шарая гадзіна; 3) неўпрыкметку.

## Словаўтварэнне і марфалогія

A1 — 1, 2, 4.
A2 — 2, 3, 5.
A3 — 1, 2, 5.
A4 — 1, 3, 5.
A5 — 2, 3, 5.
A6 — 1, 3.
A7 — 1, 3.
A8 — 2, 3.
A9 — 2, 4.
A10 — 2, 4, 5.
A11 — 1, 3, 4.
A12 — 1, 4.
A13 — 2, 3, 4.
A14 — 1, 2, 4.
A15 — 1, 4, 5.
B1 — чый.
B2 — сорак другая старонка.
B3 — пасінелы.
B4 — лепш.
B5 — 1) зацірка, смак, мука, кіпень; 2) гарачы, рэдкі; 3) памешваючы.

## Сінтаксіс і пунктуацыя

A1 — 1.
A2 — 3.
A3 — 1, 3, 4.
A4 — 2, 3.
A5 — 1, 3.

A6 — 3, 5.
A7 — 1, 3, 5.
A8 — 1, 3.
A9 — 2, 3.
A10 — 2.
A11 — 3.
A12 — 1, 3.
A13 — 2, 4, 5.
A14 — 1.
A15 — 1, 5.
A16 — 3, 5.
A17 — 4, 5.
A18 — 2, 4, 5.
A19 — 2, 3.
A20 — 3, 4, 5.
A21 — 3.
A22 — 3, 5.
A23 — 1, 2.
A24 — 1, 3, 5.

B1. Шчодрая да навакольнага свету восень не шкадуе свайго багацця, радуючы нас цяплом «бабінага лета» перад зімовымі халадамі. Найбольш песціць чараўніца восень нашы паркі і скверы, адорваючы іх сваім хараством. Здаецца, што мінскія зялёныя куткі спаборнічаюць адзін з адным у прыгажосці і хараստве. Але ёсць сярод іх асаблівы і незвычайны, многім яшчэ не знаёмы. Гэта сквер, які носіць імя Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна.

Маляўнічыя фарбы кветнікаў, альтанка, дэкаратыўныя кампазіцыі — усё гэта стварае вобраз сквера, непаўторны і рамантычны. Дапаўняюць яго маладыя бярозкі, шчодра пасыпаныя золатам восені, задумлівыя вербы, каштаны, сур’ёзныя і спакойныя, ціхая водная гладзь Свіслачы.

Па сцяжынках сквера, заўжды чыстых і прыбраных, часта бегаюць дзеці, адпачываюць на лаўках маладыя мамы і таты, затрымліваюцца закаханыя. Сярод шэрай аднастайнасці вуліц сквер прыцягвае да сябе абліччам яркім і выразным і ў той жа час сціпласцю, арыгінальнасцю планіроўкі *(Паводле І. Матусевіч)*.

# Літаратура


Адсюль выток, адсюль натхненне... : Шклоўшчына літаратурная : паэзія, проза, публіцыстыка / уклад. А. Марціновіча. — Мінск : Мастацкая літаратура, 2007. — 358 с.

*Аўласенка, Г.* Вясковая школа : думкі ўголас / Г. Аўласенка // Маладосць. — 2007. — № 6. — С. 124—133.

Беларуская мова : Энцыклапедыя / пад рэд. А. Я. Міхневіча. — Мінск : БелЭн, 1994.

*Блинов, Г. И.* Методика изучения пунктуации в школе / Г. И. Блинов. — 2-е изд. — М. : Просвещение, 1990. — 208 с.

*Быкаў, В.* Збор твораў : у 4 т. / В. Быкаў. — Мінск : Мастацкая літаратура, 1980—1982.

*Важнік, С. А.* Эпісталярны этыкет беларусаў // Роднае слова. — 2009. — № 2. — С. 54—56.

*Валгина, Н. С.* Актуальные проблемы современной русской пунктуации / Н. С. Валгина. — М. : Высш. шк., 2004. — 259 с.

*Ванковіч, А.* Мінулае і будучыня / А. Ванковіч // Беларусь. — 2008. — № 7. — С. 46—47.

*Васілевіч, А.* Выбраныя творы : у 3 т. / А. Васілевіч. — Мінск : Мастацкая літаратура, 1982—1983.

*Вітка, В.* Урокі роднага слова / В. Вітка. — Мінск : Мастацкая літаратура, 2008. — 262 с.

*Выгонная, Л. Ц.* Фанетыка беларускай мовы ў школе / Л. Ц. Выгонная. — Мінск : Народная асвета, 1995. — 239 с.

*Гілевіч, Н.* Таямніцы роднага слова / Н. Гілевіч. — Мінск : Про Хрысто, 2006. — 126 с.

*Даўбешка, Н. П.* Сінтаксічны аналіз словазлучэння і сказа / Н. П. Даўбешка. — Віцебск : ВДУ імя П. М. Машэрава, 2007. — 42 с.

*Дашкевіч, Г.* Верасніца / Г. Дашкевіч. — Мінск : Мастацкая літаратура, 1997. — 140 с.

*Дралюк, В.* Дарога ў неба / В. Дралюк // Беларусь. — 2009. — № 2. — С. 42—43.

*Дучыц, Л.* Міфалагічныя штудыі / Л. Дучыц, І. Клімковіч // Маладосць. — 2009. — № 1. — С. 139—144.

*Жук, А.* Выбраныя творы : у 2 т. / А. Жук. — Мінск : Мастацкая літаратура, 1993—1994.

*Казакова, І.* Роля хлеба ў славянскай і сусветнай культуры / І. Казакова // Роднае слова. — 2009. — № 4. — С. 101—104.

*Карней, В.* Таксафонная сувязь таксама можа быць мабільнай / В. Карней // Беларусь. — 2007. — № 12. — С. 30.

*Клышка, А.* Цвяток радзімы васілька // Маладосць. — 2010. — № 4. — С. 119—127.

*Колас, Я.* Новая зямля. Сымон-музыка : паэмы / Я. Колас. Мінск : Мастацкая літаратура, 1986.

*Кузнецова, Н. В.* Русский язык и культура речи / Н. В. Кузнецова. — М. : Форум, 2010. — 367 с.

*Курыла, М.* Белы птах : Вершы / М. Курыла. — Мінск : Майсееў, 1996. — 110 с.

*Лазарук, М. А.* Слоўнік літаратуразнаўчых тэрмінаў / М. А. Лазарук, А. Я. Ленсу. — Мінск, 1983.

*Леонтович, О. А.* Русские и американцы : парадоксы межкультурного общения : моногр. / О. А. Леонтович. — М. : Гнозис, 2005. — 352 с.

*Лепешаў, І. Я.* Культура маўлення / І. Я. Лепешаў. — Гродна : ГрДУ, 2007. — 203 с.

*Лукашанец, А.* Беларуская мова : асаблівасці сучаснага стану і функцыянавання / А. Лукашанец // Роднае слова. — 2009. — № 2. — С. 11—14.

*Мазго, У.* «Мільгае кола дзён...» / У. Мазго // Полымя. — 2009. — № 2. — С. 97—103.

*Маляўка, М.* «Малітвай дзень праводзь і новы слаў...» / М. Маляўка // Полымя. — 2008. — № 9. — С. 3—12.

*Міхневіч, А. Я.* Слоўка за слоўкам : алфавітны даведнік па культуры беларускай мовы для ўсіх / А. Я. Міхневіч. — Мінск : БДУ, 2006. — 165 с.

Мы — беларусы / уклад. Т. М. Бондар. — Мінск : Літаратура і Мастацтва, 2003. — 232 с.

*Навасельцава, І.* Беларуская мова і культура маўлення / І. Навасельцава. — Мінск : БДЭУ, 2005. — 95 с.

*Навуменка, І. Я.* Выбраныя творы : у 2 т. / І. Я. Навуменка. — Т. 1 : Апавяданні, аповесці. — Мінск : Мастацкая літаратура, 1995. — 478 с.

*Протчанка, В. У.* Актуальныя праблемы тэорыі і практыкі навучання беларускай мове / В. У. Протчанка. — Мінск : НІА, 2001. — 211 с.

*Рагаўцоў, В. І.* Дыскусійныя пытанні сінтаксісу / В. І. Рагаўцоў. — Магілёў : МДУ, 2000. — 163 с.

*Савко, И. Э.* Русский язык. От фонетики до текста / И. Э. Савко. — Минск : Харвест, 2005. — 509 с.

*Саматыя, І. М.* Гэты няпросты просты сказ / І. М. Саматыя, В. С. Палтаржыцкая. — Мінск : НІА, 2010. — 200 с.

*Сіпакоў, Я.* Зялёны лісток на планеце Зямля / Я. Сіпакоў. — Мінск : Харвест, 2006. — 287 с.

*Скрыган, Я.* Выбраныя творы / Я. Скрыган. — Мінск : Беларускі кнігазбор, 2005. — 544 с.

*Цікоцкі, М. Я.* Стылістыка тэксту / М. Я. Цікоцкі. — Мінск : Беларуская навука, 2002. — 222 с.

*Чырскі, М.* Гасцінцам Купалы / М. Чырскі. — Мінск : Універсітэцкае, 2002. — 33 с.

Этнаграфія Беларусі : Энцыклапедыя. — Мінск : БелСЭ, 1989. — 575 с.

*Ягоўдзік, У.* Жывая вада крыніц (з зялёнага нататніка) / У. Ягоўдзік // Маладосць. — 2007. — № 9. — С. 44—61.

# ЗМЕСТ



## МАЎЛЕННЕ



## СТЫЛІСТЫКА



## СІНТАКСІС І ПУНКТУАЦЫЯ. КУЛЬТУРА МАЎЛЕННЯ

Б43 **Беларуская мова** : вучэб. дапам. для 11-га кл. устаноў агул. сярэд. адукацыі з беларус. і рус. мовамі навучання / Г. М. Валочка [і інш.]. — 2-е выд., перапрац. і дап. — Мінск : Нац. ін-т адукацыі, 2016. — 256 с.
ISBN 978-985-559-635-7.

**УДК 811.161.3(075.3=161.3=161.1)**
**ББК 81.2Беи-922**

